Святлана Марозава

# «СВАЁЙ ВЕРЫ ЛАМАЦЬ НЕ БУДЗЕМ…»:
## *СУПРАЦІЎ ДЭЎНІЗАЦЫІ Ў БЕЛАРУСІ*
## *(1780 – 1839 ГАДЫ)*

Гродна
ЮрСаПрынт
2014

УДК 94(476)«1780-1839»
ББК 63.3(4Беи)
М25

**Рэцэнзенты:**

*Лыч Л. М.,* доктар гістарычных навук, прафесар, галоўны навуковы супрацоўнік (Дзяржаўная навуковая ўстанова «Інстытут гісторыі» Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі);
*Яноўская В. В.,* кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык аддзела (Дзяржаўная навуковая ўстанова «Інстытут гісторыі» Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі);
*Трацяк І. І.,* кандыдат культуралогіі, дацэнт (Установа адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы»).

М25 Марозава, С. В.

**«Сваёй** веры ламаць не будзем…»: Супраціў дэўнізацыі ў Беларусі (1780 – 1839 гады) : манаграфія / С. В. Марозава. – Гродна : «ЮрСаПрынт», 2014. – 218 с.

ISBN 978 -985-6743-56-14.

На аснове комплекса новых гістарычных крыніц з архіваў і рукапісных аддзелаў бібліятэк Беларусі, Расіі, Літвы, Польшчы і Украіны прадпрыняты канцэптуальны перагляд праблемы рэакцыі беларускага народа на дэмантаж у 1780 – 1839 г. уніяцкай царквы. Раскрываецца малавядомая «тэхналогія» «ўз'яднання» ўніятаў. Устаноўлены імёны барацьбітоў і пакутнікаў за веру і іх ганіцеляў. Прызначаецца для спецыялістаў па гісторыі Беларусі, студэнтаў, аматараў гісторыі.

УДК 94(476)«1780-1839»
ББК 63.3

**ISBN 978 -985-6743-56-14**

Па меры таго, як паступова
праліваецца святло на тайны нашай
гісторыі, у нас усё больш цямнее ў вачах.

*Эдуард Сеўрус*

## *Спіс скарачэнняў*

БАНЛ – Бібліятэка Акадэміі навук Літвы (Вільнюс). Аддзел рукапісаў
ГАСА – Галоўны архіў старажытных актаў (Варшава)
ДАРФ – Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі (Масква)
ДГАЛ – Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы (Вільнюс)
НГАБ – Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (Мінск)
НГАБГ – Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна
РДАСА –Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў (Масква)
РДГА – Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў (Санкт-Пецярбург)
РНБ – Расійская нацыянальная бібліятэка (Санкт-Пецярбург). Аддзел рукапісаў
ЦДГАУ – Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны (Львоў)
ЯгБ – Ягелонская бібліятэка (Кракаў). Аддзел рукапісаў

## *«Исполинское предприятие, ... которое займет блестящую страницу в летописях империи» (замест уводзін)*

Імкненне да сінтэзу каштоўнасцяў усходняга і заходняга хрысціянства – прадвызначаная геаграфічна і гістарычна асаблівасць Беларусі. Экуменічны і геапалітычны фактары вызначылі жывучасць тут з XV ст. уніяцкай ідэі[1]. Пошукі свайго месца ў еўрапейскіх рэлігійна-палітычных працэсах другой паловы XVI ст. прывялі нашых продкаў да заключэння ў 1596 г. Брэсцкай царкоўнай уніі і стварэння рэлігійнай альтэрнатывы праваслаўю і каталіцызму. Гэта была спроба пераадолець на рэгіянальным узроўні раскол хрысціянства. Спроба рэальнага аб'яднання хрысціянскай царквы, прадпрынятая нашымі продкамі, з'яўляецца найважнейшым укладам беларускага народа ў скарбніцу сусветнай цывілізацыі[2].

Берасцейская ўнія стала пераломнай падзеяй усходнеславянскай канфесійнай гісторыі і аказала істотны ўплыў на цывілізацыйную сітуацыю ва Усходняй Еўропе. За час свайго існавання ўніяцкае веравызнанне істотна пацясніла пазіцыі традыцыйных рэлігій і к канцу XVIII ст. стала канфесійнай дамінантай, ахапіўшы ад 2/3 да ¾ насельніцтва Беларусі. Уніяцкая царква сама пераўтварылася ў традыцыйны культавы інстытут. Яе дзейнасць склала цэлую эпоху ў царкоўным і нацыянальным

[1] Падокшын С. А. Унія. Дзяржаўнасць. Культура (Філасофска-гістарычны аналіз). 2-ое выд. – Мн.: Беларуская навука, 2000. – С. 21–22, 25–30.

[2] Chadyka J. Kulturotwórcza rola Unii Brzeskiej na Białorusi // Unia Brzeska z perspektywy czterech stuleci: Materiały międzynarodowego sympozium naukowego, Lublin, 20–21/IX 1995 r. – Lublin: Redakcja wydawnictw KUL, 1998. – S. 168.

жыцці Беларусі, сфарміравала значны пласт айчыннай культуры. Шэраг гісторыкаў лічыць, што ўніяцкае веравызнанне найбольш адпавядала этнакультурным запытам беларусаў, а ў канкрэтна-гістарычных абставінах канца XVIII ст. – першай паловы XIX ст. адыгрывала важную ролю як дзейсны фактар самасцвярджэння беларускага народа і яго абароны ад іншых этнасаў.

Напярэдадні падзелаў Рэчы Паспалітай уніяты мелі тут 8 епархій з 9300 прыходамі, 10300 святарамі, 4,5 мільёнамі вернікаў і 172 манастыры з 1478 манахамі[3]. Уніяцкая царква Вялікага княства Літоўскага ўваходзіла ў склад мітрапаліцкай Кіеўска-Віленскай, Пінскай і Полацкай епархій. У 1772 г. у Кіеўска-Віленскай епархіі было 1 804 388 прыхаджан і 2490 парафій; у Полацкай – адпаведна 765 154 і 598, у Пінскай – 83 103 і 238[4]. Такім чынам, Віленская епархія была самай шматлікай па колькасці носьбітаў уніяцкага веравызнання. У склад яе ўваходзілі беларускія дэканаты Ашмяны, Блонь, Бобр, Брагін, Ваўкавыск, Вільна, Глуск, Гомель, Гродна, Далгінаў, Ігумен, Клецк, Лагойск, Ліда, Мінск, Мядзель, Навагрудак, Нясвіж, Падляскі, Пухавічы, Рагачоў, Слонім, Цырын[5]. Віленская епархія толькі намінальна называлася Кіеўскай, бо была месцам рэзідэнцыі кіеўскага ўніяцкага мітрапаліта. Называючыся кіеўскім, ён фактычна ў Кіеве ніколі не жыў. Мітрапалічая рэзідэнцыя знаходзілася ў Вільні.

У канцы XVIII ст. на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага пражывала прыблізна 39 % уніятаў (ад агульнай колькасці насельніцтва), 38 % католікаў, 6,5 % праваслаўных, 4 % стараввераў, 1,6 % пратэстантаў (лютэран і кальвіністаў) і інш. Асноўная маса насельніцтва Літвы з’яўлялася каталіцкай. Больш канфесійна стракатымі былі беларусы. Багатая і сярэдняя частка шляхты была каталіцкай. Асноўная ж маса (бедная засцянковая шляхта, мяшчане, сяляне) належала да ўніяцкай веры, якая

[3] Марозава С., Філатава А. Уніяцкая царква // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 6. – Кн. 1. – Мн.: БелЭн, 2001. – С. 584.

[4] Канфесіі на Беларусі (канец XVIII – XX ст.) / В. В. Грыгор’ева, У. М. Завальнюк, У. І. Навіцкі, А. М. Філатава. – Мн., 1998. – С. 5.

[5] Nabywaniec S. Unicka archidiecezja kijowska w okresie rządów arcybiskupa metropolity Felicjana Filipa Wołodkowicza. 1762–1778. – Rzeszów: Polygrafia Wyższego Seminarium Duchownego w Rzeszówie, 1998. – S. 222–223.

пусціла больш глыбокія карані на захадзе Беларусі, прылеглай да Літвы ды Польшчы[6].

У другой палове XVIII ст. уніяцкая царква займала ў Беларусі першае месца па колькасці храмаў і вернікаў. Колькасць уніяцкіх прыходаў складала больш за 70 % агульнай колькасці прыходаў усіх хрысціянскіх канфесій. Напярэдадні падзелаў сярод сельскага насельніцтва ўніятаў было каля 80 %[7]. Гэта была вельмі ўплывовая сіла, з якой не магла не лічыцца расійская ўлада пасля таго, як Беларусь апынулася ў складзе Расійскай імперыі.

Для расійскіх палітыкаў уніяцкая царква, якая злучала мільёны душ з Рымам і заходняй культурай, была ад самага пачатку справай нямілай і нават ненавіснай. З часоў вайны 1654 – 1667 г. царскі ўрад дэманстраваў адносна яе свае варожыя намеры[8]. Асаблівую сваю нянавісць даў адчуць уніятам Пётр I[9]. Афіцыйная Расія бачыла ў іх адшчапенцаў ад адзіна праўдзівай веры, якой лічылася праваслаўе і да якой яны павінны быць прыведзены, хоць бы сабе і пры дапамозе сілы. Зразумела, з уключэннем у канцы XVIII ст. Беларусі ў склад Расійскай імперыі лёс уніяцтва быў прадвырашаны. Рэлігійная канверсія ў дачыненні да новых суб'ектаў імперыі – традыцыйны напрамак яе палітыкі[10]. Ды й Георгій Каніскі настойваў на ўключэнні ў трактаты аб падзелах Рэчы Паспалітай артыкула аб ліквідацыі ўніяцкай царквы. Уніяцкія манахі-базыльяне адразу настроілі су-

[6] Канфесіі на Беларусі (канец XVIII – XX ст.) / В. В. Грыгор'ева, У. М. Завальнюк, У. І. Навіцкі, А. М. Філатава. – Мн., 1998. – С. 5.

[7] Грыцкевіч А. П. Рэлігійнае пытанне і знешняя палітыка царызму перад падзеламі Рэчы Паспалітай // Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамадскіх навук. – 1973. – № 6. – С. 62, 63.

[8] Марозава С. «Унеятом не быть» // Палессе. – 1997. – № 1 (2). – С. 89–103.

[9] Deruga A. Piotr Wielki a unici i unja kościelna 1700–1711. – Wilno: Instytut Naukowo-Badawczy Europy Wschodniej, 1936. – 296 s.; Марозава С.В. Пётр I на абароне сваіх адзінаверцаў на Беларусі // Приграничное и региональное сотрудничество: новые задачи и пути их решения: Тез. докл. междунар. научно-практ. конф., Витебск, 3–4 дек. 1998. – Витебск: Изд–во Витебского госуниверситета, 1998. – С. 16–19; Полацкія пакутнікі: Зборнік дакументаў / Уклад. і апрац. М. Баўтовіча. – Полацк: Сафія, 2000. – 85 с.; Марозава С. В., Марозаў С.П. Полацкая трагедыя 1705–1710 гадоў // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: IV міжнародная канферэнцыя. – Полацк, 2002. – С. 174–181.

[10] Сословия и государственная власть в России. XV – середина XIX вв.: Международная конференция. – Чтения памяти академика Л. В. Черепнина: Тезисы докладов, Москва, 13–16 июня 1994 г. – Ч. II. – М., 1994. – С. 346.

праць сябе новы ўрад тым, што некаторыя з іх адмовіліся прысягаць на вернасць Расіі.

На беларускіх землях, якія адышлі да Расіі па першаму падзелу Рэчы Паспалітай, пражывала 100 тысяч каталікаў, 300 тысяч праваслаўных і 800 тысяч уніятаў[11].

Першыя гады пасля інкарпарацыі царскі ўрад асцерагаўся адкрытага гвалту адносна ўніятаў. Хацеў выклікаць лаяльнасць у новых падданых імперыі і прыхільнасць насельніцтва на захад ад сваёй новай мяжы. Ён, які ўжо другое стагоддзе – з часоў вайны 1654 – 1667 г. – дэманстраваў адносна ўніі свае варожыя намеры і вынішчаў яе ў Рэчы Паспалітай, гарантаваў свабоду ўніяцкага веравызнання ў сябе. Гэта свабода была замацавана пятым артыкулам трактата, заключанага паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай 18 верасня 1773 г. Праўда, па Белай Русі адразу пайшлі чуткі, што Кацярына II не намерана цярпець уніятаў у сваёй дзяржаве. Яна лічыла іх сынамі праваслаўнай царквы і рускай народнасці, «зведзенымі польскай сілай і інтрыгай».

Чым далей, тым больш яўнымі станавіліся сапраўдныя намеры Кацярыны адносна ўніяцкай царквы і тым меней яна яе ашчаджала. Уніяцкая царква аказалася ў імперыі адной з тых сіл, што перашкаджала самадзяржаўна-сінодаваму рэжыму ў ажыццяўленні яго ўніфікацыйна-нівеляцыйнай палітыкі ў так званым Заходнім краі. Захаванне царквы, якая не гарнулася да прастолу, улады звязвалі з небяспекай сепаратызму. Духоўнае падпарадкаванне Беларусі разглядалася як сродак і неабходная ўмова расійскага панавання тут. Акрамя таго, значная незалежнасць уніяцкай царквы ад дзяржавы магла стаць крыніцай невыгоднай рэакцыі ў лоне Рускай праваслаўнай царквы, здаўна падпарадкаванай Сіноду, які быў часткай дзяржаўнага апарату, узначальваемага імператарам.

Таму дэўнізацыя стала канфесійнай стратэгіяй самадзяржаўя на наступныя дзесяцігоддзі. У гэтай стратэгічнай праграме абмежавання ўплыву ўніяцкай царквы, сумясціўшай элементы ўсходняга і заходняга хрысціянства, з мэтай ліквідацыі яе ў перспектыве была ўзята тактыка «барацьбы з лацінствам і паланізмам». Беларусь стала

[11] Ільяшэвіч М. Расейская палітыка на землях былага Беларуска-Літоўскага гаспадарства за панаваньня Кацярыны II і Паўлы I (1772–1801). – Вільня: Друкарня Я. Левіна, 1933. – С. 11.

аб'ектам вялікага эксперымента па перакройванню яе канфесійнай карты ў імя «будаўніцтва Расіі» і ўмацавання яе пазіцый ў Еўропе, у імя палітычных і нацыянальных традыцый царызма.

Да дэўнізацыі вялі два шляхі: зверху – праз пераход у пануючую веру духавенства, якое павядзе за сабой народ, і знізу – праз аправаслаўліванне сялянства. У 1780 г. Кацярына II выдала ўказ, якім уніятаў запрашалі да пераходу ў праваслаўе. На падставе гэтага ўказу на працягу чатырох гадоў (1780 – 1783 г.) уніяцкая царква страціла 112,5 тысяч жыхароў Магілёўскай губерні і 95 храмаў [12]. Сярод іх былі і тыя, што перайшлі на лацінскі абрад[13]. Тое, што ўнію тады кінулі ад 100 да 120 тысяч яе нястойкіх паслядоўнікаў ва ўсходняй Беларусі, гісторыкі лічаць натуральнай з'явай на тэрыторыі значнага традыцыйнага ўплыву праваслаўя[14]. Але ўсеагульнай рэлігійнай канверсіі ўніятаў праз іх добраахвотнае жаданне тады не атрымалася, хоць гэта «жаданне» нярэдка інспіравалася мясцовымі ўладамі.

Калі Рэч Паспалітая перастала існаваць як дзяржава, Кацярына II ужо без усялякага сумнення ўзялася за знішчэнне ўніяцкай царквы на забраных беларускіх і ўкраінскіх землях. У 1793 г. яна даручыла херсонскаму архіепіскапу Яўгенію Булгарысу даць прапановы, «как лучше и приличнее можно польских униатов обратить» у праваслаўе. Адказам стала яго 70-старонкавая запіска «О наилучшем способе воссоединения униатов с православной церковью»[15]. Ажыццявіць гэты план павінен быў Віктар Садкоўскі, першы архіерэй Мінскай праваслаўнай епархіі.

Паколькі паўстанцы Т. Касцюшкі апелявалі да беларускага сялянства, уніяцкага ў асноўнай сваёй масе, то з уніяй тады ўжо цвёрда было вырашана пакончыць. Указамі 22 красавіка 1794 г. і 1795 г. Кацярына II заявіла аб сваім намеры «выкараніць унію» у Беларусі і Украіне. Навуковым падмуркам урадавага курса стала падрыхта-

[12] Горючко П. С. Материалы для истории воссоединения униатов в Белоруссии 1780–1795 годов: Списки воссоединенных церквей. – Могилев, 1903. – С. 1–5; Коялович М. О. История воссоединения западнорусских униатов старых времен (до 1800 года). – Мн.: Лучи Софии, 1999. – С. 208.

[13] Likowski E. Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku uważane głównie ze względu na przyczyny jego upadku. – Warszawa: Druk.P.Laskauer, 1906. – Cz. 1–2. – S. 185.

[14] Сосна У. «... С благочестивым свирепством всекал униат в православие» // Беларуская мінуўшчына. – 1996. – № 4. – С. 9.

[15] Записка архиепископа Евгения Булгариса о лучшем способе воссоединения униатов с православною церковию. – СПб.: Тип. Елеонского и К, 1887. – С. 3.

ваная ў 1794 г. па яе заказу праца стацкага саветніка М. Бантыш-Каменскага «Историческое известие о возникшей в Польше унии»[16]. Аўтар атрымаў за яе, спачатку прызначаную толькі для службовага карыстання, брыльянтавы пярсцёнак ад Паўла І.

Над уніяцкай царквой навісла сур'ёзная небяспека. На працягу 1794 – 1796 г. яна страціла 1,5 мільёна вернікаў у Беларусі і Украіне[17] і амаль перастала існаваць на Украіне – там засталося толькі 200 храмаў. Здавалася, унія дажывала апошнія дні. Беларускія ўніяты аказаліся тады больш адданымі сваёй веры, хоць і тут царква страціла яшчэ 200 тысяч чалавек у Магілёўскай і Мінскай губернях[18]. Стрымліваў дэўнізацыю адпор уніяцкай рэлігійнай традыцыі.

Неаднаразовыя ўрадавыя спробы канца XVIII ст. пахіснуць канфесійную структуру Беларусі на карысць праваслаўя, супярэчныя афіцыйным дэкларацыям аб талерантнасці, не прынеслі поспеху з-за супраціву спаведнікаў уніі[19]. Імперыя, якая без асаблівых высілкаў падпарадкавала сабе беларускія землі, сустрэлася з натуральным адпорам і пацярпела паражэнне пры спробе іх духоўна-рэлігійнага падпарадкавання ў XVIII ст. Пры Паўле І дзевяноста працэнтаў «уз'яднаных» уніятаў вярнулася ў сваю веру[20]. Па шэрагу прычын у канцы XVIII ст. «унія не была запісана ў … сферу мінулага і пратрымалася яшчэ, у значнай нават сіле, сорак з лішкам гадоў»[21]. 1,5 мільёна тых, што засталіся ва ўніяцтве, яшчэ больш у ім умацаваліся.

Як толькі антыўніяцкі курс пасля смерці Кацярыны II спыніўся, уніяцкая царква пачала хутка аднаўляцца і ўзмацняцца

16 Бантыш-Каменский Н. Н. Историческое известие о возникшей в Польше унии, с показанием начала и важнейших, в продолжение оной чрез два века, приключений, паче же о бывшем от римлян и униатов на благочестивых тамошних жителей гонении. – М.: Синодальная тип., 1805. – 454 с.

17 Likowski E. Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku uważane głównie ze względu na przyczyny jego upadku. – Warszawa: Druk.P.Laskauer, 1906. – Cz. 1–2. – S. 249.

18 Сосна У. Уніяцкае пытанне ў беларускай вёсцы ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400-годдзя Брэсцкай уніі) / С. Марозава, Т. Казакова, Ю. Бохан і інш.; Пад рэд. М. В. Біча і П. А. Лойкі. Мн.: НКФ «Экаперспектыва», 1996. – С. 96.

19 Анішчанка Я. К. Беларусь у часы Кацярыны II (1772–1796 гады) / Пад рэд. У. А. Сосна. – Мн.: ЗАО «Веды», 1998. – С. 162.

20 Никольский Н. М. История русской церкви. – Мн.: Беларусь, 1990. – С. 289.

21 Рункевич С. История Минской архиепископии (1793–1832 гг.) с подробным описанием хода воссоединения западнорусских униатов с православной церковью в 1794–1796 гг. – СПб.: Типогр. А.Катанского и К., 1893. – С. 290.

арганізацыйна. У першай чвэрці XIX ст. яна вылечылася ад нанесеных ёй ран. Наступае стабілізацыя ўніяцкай царквы, хоць ва ўрадавых сферах яе талеравалі як зло, якое толькі можна да часу цярпець. Царскай уладзе і сінадальнаму праваслаўю давялося прымяняць новую тактыку знішчэння ўніяцкай царквы, разлічаную на доўгі перыяд і вытанчаныя метады яе ўнутранай і знешняй трансфармацыі. На рэалізацыю гэтага плана адводзілася другая чвэрць XIX ст.[22]

Узмацняць адміністрацыйнае злучэнне падданых імперыі злучэннем у сферы мовы і рэлігіі зноў пачаў Мікалай I. У другой палове 1820-х г. у пецярбургскіх колах узнік намер «умацавання рускай народнасці і праваслаўнай веры» коштам уніятаў. Наступ на іх царкву, якая звязвала Беларусь з заходняй цывілізацыяй, узнаўляецца. Пачатак яму паклалі ўказы ад 9 кастрычніка 1827 г. і 22 красавіка 1828 г. Апошні называўся «палажэннем аб уладкаванні грэка-уніяцкай царквы».

Пасля таго, як спробы дэўнізацыі знізу закончыліся ганебным паражэннем яшчэ ў мінулым стагоддзі, а перацягванне на свой бок духавенства натрапіла на яшчэ большыя цяжкасці, стаўка была зроблена на зусім іншы спосаб. Царызму ўдалося схіліць да супрацоўніцтва нязначную частку духавенства. На чале епархій былі пастаўлены людзі, выключна лаяльныя да царскай палітыкі, здольныя да кампрамісаў, згодніцтва, супрацоўніцтва.

Знайшоўся Сямашка. Ён падарваў унію знутры. Разам з іншымі ўніяцкімі епіскапамі Лужынскім і Зубко яны свядома вялі сваю царкву пад лозунгам «ачышчэння старажытных звычаяў ад лацінскіх запазычанняў» да зліцця з Рускай праваслаўнай царквой. Мітрапаліт Булгак, хоць і быў прыхільнікам уніі, адвагі супрацьстаяць іх дзейнасці не меў. Аднак сваёй непахіснасцю ў веры, асабістым прыкладам ён аказаў вялікі ўплыў на пазіцыю ўніяцкага духавенства[23].

З 1833 г., выкарыстоўваючы свае права пераможцы, улады сталі на шлях адміністрацыйна-сілавога вырашэння праблемы, справакаванага актыўнай дапамогай уніяцкага духавенства паўстанцам 1830–1831 г. Царкву прызналі ворагам расійскіх

[22] Історія релігії в Україні: В 10 т. – Т. 4: Католицизм / За ред. П. Яроцького. – Київ: Видавніцтво «Світ знань», 2001. – С. 584.

[23] Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі. – Гродна: ГрДУ, 2013. – С. 57.

інтарэсаў у Беларусі і адзінае выйсце ўбачылі ў яе знішчэнні. Свае дзеянні прыкрывалі імперскімі сентэнцыямі пра «непадзельнасць расійскага народа», якой нібыта пагражае «злацінізаванае» і «апалячанае» ўніяцтва. Націскалі на агульнасць гістарычнага мінулага Беларусі і Расіі.

Першы і галоўны ўдар вырашылі нанесці па базыльянскаму ордэну. Лічылі, што калі ўзяць гэты «бастыён уніяцтва», то ўніяцкая царква распадзецца. Паўстанне дало повад абвінаваціць іх у палітычнай нядобранадзейнасці. Пачалі з закрыцця базыльянскіх манастыроў. Як пісаў расійскі дэмакрат А. Герцэн, наступіла тое «душеспасительное время, когда Николай с благочестивым свирепством всекал униат в православие»[24].

У ход былі пушчаны адразу дзве сістэмы дэўнізацыі. Першая, з улікам няўдалага досведу Кацярыны ІІ прамалінейнага, праз дэкрэтаванне зверху, аднаразовага раптоўнага пераварочвання ўніятаў, аддала перавагу «ціхім», увасобленым у кананічную форму грэка-усходняй царквы метадам «уз’яднання». Гэта сістэма прадугледжвала доўгапланавую, разлічаную на некалькі гадоў падрыхтоўку ўсёй масы ўніяцкага народа да перамены веры і прытым самім жа ўніяцкім духавенствам.

Другая сістэма заключалася ў пераварочванні ў пануючую веру асобных уніятаў праваслаўным духавенствам пры садзеянні грамадзянскіх чыноўнікаў і паліцыі. Адзін з найбольш зацятых прыхільнікаў і праваднікоў гэтай сістэмы полацкі праваслаўны епіскап Смарагд лічыў бескарысным чаканне агульнай гатоўнасці ўсёй масы ўніятаў да прыняцця праваслаўя і займаўся так званымі «частными обращениями» асоб, груп, вёсак, прыходаў без указу зверху[25]. Гэтым шляхам Смарагд з дапамогай беларускага генерал-губернатара Хаванскага і віцебскага губернатара Шрэдара на працягу 1833–1837 г. «воссоединили» 94 прыходы і больш за 120 тысяч уніятаў[26]. Шрэдар атрымліваў ад цара адзін рубель за кожнага перавернутага. Усяго ён атрымаў 33 тысячы рублёў[27].

[24] Герцен А. И. Секущее православие // А. И. Герцен об атеизме, религии и церкви / Под ред А. Ф. Смирнова. – М.: Мысль, 1976. – С. 176.

[25] Морошкин М. Воссоединение унии: Исторический очерк. – Б.м., б.г. // Оттиск из Вестника Западной России. – С. 524, 526.

[26] Глубоковский Н. Н. Архиепископ Смарагд в его деятельности по воссоединению униатов (1833–1837 гг.) // Христианское чтение. – 1914. – Апрель. – С. 486.

[27] Lencyk W. The Eastern Catholic Church and Czar Nicholas I. – Romae–New York: Ukrainian Catholic Uniwersity Press, 1966. – P. 72.

Схіленыя да адрачэння ад уніі ўгаворамі, падманам і прымусам, новаправаслаўныя нарабілі тады шмат клопатаў мясцовым і вярхоўным уладам. «Цішыні» не атрымалася ні з той, ні з другой сістэмай «уз'яднання, якія, абедзьве, падтрымліваў урад.

Падаўленне ўніяцкай традыцыі ўвергнула грамадства ў шокавы стан. Народ недаўмеваў, чаму тое, што яшчэ ўчора шанавалася, лічылася святым, дагодным богу, сёння руйнуецца, забараняецца. Але нават «просталюдзін» зразумеў, што «ламаюць веру»[28]. Шляхта ўспрымала мікалаеўскі курс на знішчэнне ўніі як помсту цара за нядаўні бунт[29].

Яшчэ не сціхлі страсці «частных обращений», як стаў набіраць сілу махавік першай сістэмы дэўнізацыі: замена ўніяцкіх служэбнікаў, змена дэкора храма і цырымоній, выдаленне арганаў. Усё гэта адбывалася на падставе пастановы ўніяцкіх епіскапаў ад 7 лютага 1834 г., выклікала шырокі супраціў, але было ажыццёўлена прыкладна за два гады. Перавыхаванне духавенства заняло значна больш часу.

У чэрвені 1835 г. загадам Мікалая І у Пецярбургу быў створаны Сакрэтны камітэт па ўніяцкіх справах з высокіх духоўных асоб і вядучых палітыкаў. У склад камітэта ўвайшлі прадстаўнікі Сінода, яго обер-пракурор С. Нячаеў, мітрапаліт маскоўскі, мітрапаліт ноўгарадскі, архіепіскап цвярскі, уніяцкі мітрапаліт Я. Булгак, літоўскі епіскап І. Сямашка, міністр унутраных спраў Д. Блудаў, генерал князь Галіцын і інш. Ужо па асабовым складзе Сакрэтнага камітэта можна меркаваць, якую вялікую ўвагу імператар надаваў уніяцкаму пытанню. У 1835 г. уніяцкая царква ў Расійскай імперыі мела 1339 прыходаў, 2009 святароў, 506 манахаў-базыльян, 42 манастыры, 1 504 000 вернікаў[30]. Сакрэтны камітэт фактычна падрыхтаваў скасаванне ўніі. Планы яе знішчэння распрацоўваліся ў тайне.

У 1837 г. уніяцкую царкву падпарадкавалі обер-пракурору Сінода і арганізавалі збор распісак ад духавенства аб згодзе прыняць праваслаўе, калі на тое «воспоследует монаршая воля». На іх выбіванне пайшоў і 1838 год.

---

[28] НБР. – Ф.52. – Спр. 25. – Арк. 16.

[29] Zywczyński M. Emigracja polska i Kuria rzymska wobec upadku unii w Rosji w r. 1839 // Ateneum. – 1939. – № 2. – S. 185.

[30] Історія релігії в Україні: В 10 т. – Т. 4: Католицизм / За ред. П. Яроцького. – Київ: Видавніцтво «Світ знань», 2001. – С. 300.

Супрацьстаяць катастрофе 1839 года ўніяцкая царква аказалася не ў стане. Адным росчыркам імператарскага пяра 1,5 мільёна вернікаў і каля 1470 прыходаў былі адабраны з-пад духоўнай улады папы рымскага[31]. Іх жаданне далучыцца да пануючай веры зусім не лічылася абавязковай умовай пераварочвання. Беларусь яшчэ не ведала такога маштабнага адначасовага і радыкальнага перакройвання яе канфесійнай карты. На хрысціянізацыю язычнікаў некалі не хапіла і цэлага стагоддзя…

Папа Грыгорый XVI у прамове 22 лістапада 1839 г. асудзіў адступнікаў ад уніі. Асуджаючы епіскапаў, папа не ўспомніў рускі ўрад, каб не папсаваць з ім адносіны і не выклікаць ганенні на католікаў.

На беларускім досведзе духоўна-рэлігійнай інтэграцыі хрысціянскага Усходу і Захаду царызм паставіў кропку. Гэта быў вялікі цывілізацыйны паварот Беларусі, змена на канфесійнай карце Усходняй Еўропы.

Справу «ўз'яднання» ўвянчалі медалём з надпісам «Отторгнутые насилием воссоединены любовию». На «ўз'яднаўцаў» пасыпаліся рублі і ўзнагароды.

«Исполинское предприятие, столь же важное в политическом, сколько и в религиозном смысле, которое займёт блестящую страницу в летописях империи,» – так назваў гэту падзею глава Сінода[32].

---

[31] Dylągowa H. Dzieje Unii Brzeskiej (1596–1918). – Warszawa–Olsztyn: Wydawnictwo Interlibro, Warmińskie wydawnictwo dyecezjalne, 1996. – S. 89.

[32] НБР. – Ф. 690. – Спр. 5. – Арк. 1.

# 1. Гістарыяграфія і крыніцы

## *Аддаць забыццю...*

Выкрэсліўшы ўніяцтва з расійскай статыстыкі, свецкія і духоўныя ўлады пачалі выкрэсліваць яго з сэрца і памяці тутэйшага люду.

Справу ліквідацыі ўніяцкай царквы абставілі тайнай. Рашэнне Полацкага сабора 12 лютага 1839 г. абнародавалі толькі пасля ўвядзення ў Беларусь дадатковай войсковай сілы, бо баяліся выбуху бунтаў. Французкі падарожнік і літаратар Астольф дэ Кюсцін, якія вандраваў па Расіі ў 1839 г., у сваіх мемуарах запісаў, што назаўтра пасля сабора людзі прачнуліся і ніхто з іх не ведаў, што ўніі ў Расіі ўжо няма.

Прапаганда мікалаеўскіх часоў, вымушаная даць свету першую вядомасць аб гэтай ўрадавай акцыі, прадставіла яе непараўнальным трыумфам, а манарха, галоўнага падпальшчыка гэтай катастрофы, аздобіла арэолам славы.

Афіцыйная Расія імкнулася прадставіць свету знішчэнне ўніі як акт добрай волі саміх беларусаў. Імперская прапаганда распаўсюджвала ідылію аб «неодолимой тяге» народа, «томившегося во мраке унии и бесправия», да ўзя’днання з праваслаўем. Адпор уніятаў старанна замоўчвалі. Тым больш не дапускалі, каб іх стогны выйшлі за межы дзяржавы. Расійскі ўрад скарыстаўся еўрапейскімі сродкамі масавай інфармацыі, каб навязаць свой пункт погляду на «ўз’яднанне». Ён сцвярджаў, што няма ўцісканых і пераследаваных уніятаў.

Але скрозь утойванне і фальш праўда пра гвалт над імі ўсё ж прасочвалася ў свет[33]. Англійскія, французскія, нямецкія газеты друкавалі ў 1839 г. інфармацыю аб гвалтах[34]. Таму Пецярбург час ад часу выступаў у друку з заявамі, што інфармацыя аб пераследзе ўніятаў – гэта казкі.

У сваёй прамове 22 лістапада 1839 г. папа рымскі асудзіў епіскапаў – адступнікаў ад уніі і выказаў сімпатыі тым, хто застаўся ёй верным. Рымская курыя пераклала папскую прамову на нямецкую, польскую, рускую мовы і пастаралася зрабіць яе шырока вядомай у Расіі. Але там схавалі ад народа гэту рэакцыю Ватыкана. Цар забараніў цэнзуры друкаваць яе у замежных газетах, што выдаваліся ў межах імперыі. Не з'явілася яна і ў расійскай прэсе. У адказ на папскую падтрымку экс-уніятаў урад паслаў у замежныя газеты новыя рэлізы, якімі імкнуўся замаскіраваць праўду[35]. Больш таго, распаўсюджваліся чуткі, што скасаванне ўніі папа ўхваліў. Гэта мела на мэце зламаць дух непахісных[36].

Шмат гадоў знішчалі сляды ўніяцтва ў Беларусі і ўсё тое, што нагадвала аб колішнім існаванні тут уніяцкай царквы: палілі ўніяцкія кнігі, перабудоўвалі храмы, перамалёўвалі абразы, знішчалі скульптуры, разбіралі арганы, вывезлі ў Пецярбург архіў уніяцкіх мітрапалітаў. І. Сямашка хацеў бы выкрасліць уніяцкую веру са старонак гісторыі Беларусі, за што яе прыхільнікі да сённяшняга дня не могуць яму за гэта дараваць.

Вялікая ўвага ўдзялялася фармаванню адпаведнага менталітэту «ўз'яднаных», выпрацоўцы ў іх пачуцця ўдзячнасці за скасаванне іх веры. Гэтай мэце служыла і новаўстаноўленае штогадовае свята ў гонар «уз'яднання».

Па-свойму адрэагавала на скасаванне ўніі афіцыйная гістарыяграфія імперыі. Усе свае сілы яна накіравала на тое, каб даказаць справядлівасць і законнасць гэтага кроку. Падводзячы «навуковы грунт» пад дэнансацыю акта 1596 г. з пункту погляду расійскага

33 Religious persecution in Poland // The Catholic Magazine. – 1839. – November. – Vol. VIII. – P. 707–711.

34 Likowski E. Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku uważane głównie ze względu na przyczyny jego upadku. – Warszawa: Druk.P.Laskauer, 1906. – Cz. 1–2. – S. 130.

35 Lencyk W. The Eastern Catholic Church and Czar Nicholas I. – Romae–New York: Ukrainian Catholic Uniwersity Press, 1966. – P. 137.

36 Likowski E. Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku uważane głównie ze względu na przyczyny jego upadku. – Warszawa: Druk.P.Laskauer, 1906. – Cz. 1–2. – S. 131.

праваслаўнага месіянства і нацыянальна-дзяржаўных інтарэсаў імперыі, яна ўсхваляла гэта мерапрыемства царызму і паралельна фарміравала адыёзны вобраз уніяцкай царквы. Змрочная карціна гісторыі Берасцейскай уніі, створаная тагачаснымі даследчыкамі, апраўдвала знішчэнне гэтай царквы.

Гістарыяграфія таксама навязвала грамадству думку аб паўсямесным безбалесным і добраахвотным адрачэнні ўніятамі ад сваёй веры. Трагедыя беларускага народа ў яе інтэрпрэтацыі набыла выгляд яго дабра.

Дэўнізацыя падавалася як гісторыя царскіх указаў і дзейнасці вышэйшай царкоўнай іерархіі. Пазіцыя вернікаў і духавенства з ніжэйшых прыступак іерархічнай лесвіцы, якія сталі ў апазіцыю дэўнізацыі, як правіла, замоўчвалася або згадвалася толькі мімаходзь. Праўда, нельга адмаўляць таго, што аўтары фундаментальных даследаванняў па гісторыі ліквідацыі ўніі М. Марошкін[37], М. Каяловіч[38], П. Баброўскі[39], Г. Кіпрыяновіч[40], С. Рункевіч[41], П. Гаручка[42], Г. Шавельскі[43], якія вывучалі гэту гісторыю па крыніцах, бачылі абодва бакі медаля «Отторнутые насилием воссоединены любовию».

Пра неадпаведнасць карціны ліквідацыі ўніі, створанай царскай прапагандай, і грамадскай думкай, сведчыць гісторык М. Каяловіч. У 1862 г. ён, «вядомы ўжо сваімі гістарычнымі даследаваннямі па гэтаму прадмету, чалавек ва ўсіх адносінах добранадзейны»[44], выконваў

---

[37] Морошкин М. Воссоединение унии: Исторический очерк // Вестник Европы. – 1872. – Кн. 4. – С. 606–643.

[38] Коялович М. О. История возсоединения западнорусских униатов старых времен. – СПб., 1873. – 400 с.

[39] Бобровский П. О. Русская греко-униатская церковь в царствование императора Александра I: Историческое исследование по архивным документам. – СПб.: Тип. В.С.Балашева, 1890. – 394 с.

[40] Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского и воссоединение западно-русских униатов с православною церковию в 1839 г. – Вильна: Тип. И. Блюмовича, 1893. – 448 с.

[41] Рункевич С. История Минской архиепископии (1793–1832 гг.) с подробным описанием хода воссоединения западнорусских униатов с православной церковью в 1794–1796 гг. – СПб.: Типогр. А. Катанского и К., 1893. – 572 с., XXXVII с.

[42] Горючко П. С. Из истории воссоединения униатов в Белоруссии 1795 –1805 годов. – Киев: Тип. И. И. Горбунова, 1902. – 76 с.

[43] Шавельский Г. Последнее возсоединение с православною церковию униатов Белорусской епархии (1833–1839 гг.). – СПб., 1910. – 26, 380, 84 с.

[44] РДГА. – Ф. 1282. – Воп. 2. – Спр. 2022. – Арк. 1, 8.

даручэнне імператара Мікалая I – скласці гістарычную запіску аб уз’яднанні ўніятаў.

У расійскім грамадстве, а тым больш у замежным, як пісаў тады М. Каяловіч у сваім плане гэтай гістарычнай запіскі, усе абставіны ўз’яднання ўніі вельмі скажоныя. Распаўсюджана ўяўленне, быццам бы яно было справай сваволля і гвалту. Выказваецца дакор рускаму ўраду і ўсім «рухавікам» уз’яднання[45].

Тым не менш, імперская прапаганда і гістарыяграфія ўстанавілі інтэнсіўны  кантроль над сацыяльнай памяццю. Незлічонай колькасцю вуснаў і друкаў яны пры дапамозе мясцовых «западноруссов» сфарміравалі адыёзны вобраз уніі і змаглі прышчапіць яго да гістарычнай свядомасці ўсходнеславянскіх народаў. Паўторанае ў дзесятках манаграфій, сотнях артыкулаў, у навуковых дакладах і царкоўных пропаведзях палажэнне аб дэнацыяналізатарскай і культурна-разбуральнай місіі ўніяцтва на землях Беларусі стала ўспрымацца на абыдзенным узроўні як аксіёма.

Традыцыю цкавання царкоўнай уніі пераняла савецкая навука. Пад выглядам марксісцкіх дагматаў яна ўваскрашала палажэнні дваранска-манархічнай гістарыяграфіі аб прагрэсіўнай місіі царызму і справядлівасці далучэння ўніятаў. У выніку савецкая навука была асуджана на схаластычную кампіляцыю дасягненняў папярэднікаў. А масквафільская арыентацыя многія дзесяцігоддзі перашкаджала беларускім даследчыкам унікаць у праблемы сваёй нацыянальнай царкоўнай гісторыі.

Фінальны этап гісторыі ўніяцкай царквы нам і сёння вядомы, галоўным чынам, у версіі тых, хто ўнію знішчаў або перамогу над ёй апалагетызаваў. У навуковых колах і гістарычнай свядомасці грамадства да гэтага часу пануе стэрэатып, што ўнія «рассыпалася сама сабой пры першым ветры з Усходу», што яе каштоўнасці былі чужымі беларускаму народу і таму ён лёгка адрокся ад уніяцкай веры. Праўду кажуць, што гісторыя – гэта кніга, якая пішацца пераможцамі.

## *Навуковая альтэрнатыва «ўз’яднаўчай» ідыліі*

У беларускай гістарыяграфіі аформіліся два канцэптуальныя падыходы да пытання дэўнізацыі: заходнерускі, ідэнтычны расійскаму; і нацыянальны, які разышоўся з заходнерускім асуджэннем ліквідацыі ўніі. Гэтыя падыходы то манапольна панавалі ў бела-

45 РДГА. – Ф. 1282. – Воп. 2. – Спр. 2022. – Арк. 31.

рускай гістарычнай навуцы (у 1920-я гады – другі; у 30 – 80-я г. XX ст. – першы), то суіснавалі (канец XX – пачатак XXI ст.).

Прадстаўнікі беларускай нацыянальнай гістарычнай школы першай трэці XX ст. зрабілі прынцыповы паварот у ацэнцы факта ліквідацыі ўніяцкай царквы. Навуковы плюралізм 1920-х г., дапушчальны для гісторыкаў сацыялістычнай арыентацыі, дазволіў беларускаму акадэміку-рэлігіяведу М. М. Нікольскаму даць адрозную ад імперскай трактоўку ліквідацыі ўніяцтва – як адзін з прыёмаў каланізацыі і русіфікацыі далучаных тэрыторый[46].

Заклікаючы даследчыкаў не баяцца «ламаць высноў старых аўтарытэтаў, калі навуковыя факты вас да гэтага падводзяць», Нікольскі робіць трапныя, бязлітасныя, часам іранічныя заўвагі наконт скасавання ўніі, якія з разыходзяцца з ацэнкамі тых аўтарытэтаў (Бантыш-Каменскага, Каяловіча, Шавельскага), па чыіх працах ён вывучаў гэта пытанне.

Даследчык адзначае, што абвешчанае ў 1794 г. пецярбургскім начальствам «паўсюднае жадане» ўніятаў вярнуцца да «благочестия» на самай справе было ім жа абагульненым натуральным фактам просьбаў з некалькіх вёсак Кіеўшчыны, незадоўга да таго гвалтам перавернутых ва ўніяцтва. Падкрэсліваецца сумніўнасць, «папяровы» характар поспеху палітыкі апраўслаўлівання ўніятаў у 1794 – 1795 г., пасля якой 90% з 1,5 мільёна «ўз’яднаных» вярнуліся назад у сваю веру.

Палітычная падаплёка скасавання ўніі мікалаеўскім урадам не выклікае ў М. М. Нікольскага ніякага сумневу. Хоць за ўрадавай зброяй, гатовай гасіць любое непадпрадкаванне, царкоўныя аднавіцелі адчувалі сябе спакойна, апазіцыя дэўнізацыі ў падачы даследчыка выглядае вельмі ўнушальнай. Акрэсліваецца яе сацыяльная база – беларускае сялянства, духавенства і шляхта. Згадваюцца хваляванні на гэтай глебе.

Так званае – менавіта паводле Нікольскага! – «воссоединение униатов» абвяшчалася галоўным поспехам афіцыйнага праваслаўя ў першай палове XIX ст. Але яго плады, як сцвярджае вучоны, сказалася пазней: калі стары ўніяцкі клір, які перавярнуўся ў праваслаўе не за сумленне, а за страх, зышоў са сцэны і замяніўся новым пакаленнем, выхаваным у праваслаўнай духоўнай школе[47].

Назіранні М. М. Нікольскага не згубілі сваёй актуальнасці і навуковай каштоўнасці да нашага часу, а насычанасць цікавым фак-

[46] Никольский Н. М. История русской церкви. – М.–Л.: Московский рабочий, 1931. – 400 с.

[47] Никольский Н. М. История русской церкви. – Мн.: Беларусь, 1990. – С. 287 – 295.

тычным матэрыялам і абгрунтаванасць высноў забяспечылі доўгае жыццё яго працы. Яна неаднойчы перавыдавалася, аднак у выданнях 1983 г. і 1988 г. раздзел, прысвечаны Берасцейскай уніі, адсутнічаў[48], бо гэтыя факты і назіранні не ўпісваліся ў агульную афіцыйную канцэпцыю ўніі, што запанавала з 1930-х гадоў. Шырокі вучоны свет і масавы чытач не павінны былі пра іх ведаць.

Услед за Нікольскім і мы асмелімся запярэчыць дарэвалюцыйным, савецкім і сучасным аўтарытэтам, якія сцвярджаюць аб безбалеснай і добраахвотнай ліквідацыі ўніяцкай царквы ў Беларусі.

Адзін з пачынальнікаў нацыянальнай гістарыяграфіі М. В. Доўнар-Запольскі, чыю «Гісторыю Беларусі» пільныя цэнзары палічылі ідэалагічна шкоднай, падкрэсліваў у ёй адданасць белага ўніяцкага духавенства сваёй народнасці, а ў яго змаганні з польска-каталіцкім уплывам бачыў абуджэнне пачуцця нацыянальнай незалежнасці. Гісторык паказаў, як з канца 1820-х г. ідзе ўзвышэнне Іосіфа Сямашкі і адначасовы заняпад кіруемай ім царквы; акцэнтуе ўвагу на тым, што «непаслухмяных устаранялі з дарогі ўз’яднання, тых, хто згаджаўся, высоўвалі на відныя месцы, а з тых, хто вагаўся, бралі спецыяльныя падпіскі»[49].

Буйнейшы беларускі гісторык 1920-х гадоў У. І. Пічэта прызнаваў уніяцкую царкву XIX ст. важным фактарам захавання нацыянальнай мовы. Ён сцвярджаў, што ўрадавая барацьба супраць уніі і прымусовае аправаслаўліванне нанеслі вялікую шкоду беларускай мове і нацыянальнай культуры, якія тайныя ўніяцкія прыходы аберагалі і пасля 1839 г.[50].

Паводле А. Цвікевіча, лікідацыя ўніяцкай царквы расчысціла шлях для «заходнерусізма»[51]. Дз. Даўгяла бачыў у царскай палітыцы падаўлення ўніяцтва сродак умацавання ім сваёй улады на беларускіх землях[52].

У 1930-я г. гісторыкі, якія асуджалі ліквідацыю царызмам уніяцкай царквы, былі рэпрэсіраваны, а іх працы трапілі пад забарону. У 40-я – 80-я г. трактоўка падзеі вярнулася ў рэчышча імперскай гістарыяграфіі XIX – пачатку XX ст., хоць савецкая навука праблему наогул праігнаравала. Тая папоўніла негалосны спіс табуіраваных

[48] Никольский Н. М. История русской церкви. – 3-е изд. – М.: Политиздат, 1983. – 448 с.

[49] Доўнар-Запольскі М. В. Гісторыя Беларусі. – Мн.: БелЭН, 1994. – С. 294–296.

[50] Пичета В. И. Белорусский язык как фактор национально-культурный. – Мн.: Навука і тэхніка, 1991. – С. 21.

[51] Цьвікевіч А. «Западно–руссизм»: Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. – 2–е выд. – Мн.: Навука і тэхніка, 1993. – С. 15.

[52] Даўгяла З. Урадавыя адносіны да уніятаў на Меншчыне ў часы Паўла I // Гістарычна-археолоґічны зборнік. – Менск, 1927. – № 1. – С. 131–151.

тэм, якія старанна абміналі гісторыкі. Унія стала падчаркай беларускай гістарычнай навукі.

Але ў 70-я – 80-я г. XX ст. цікавасць да царкоўнай уніі, у тым ліку яе апошняга этапа, зноў узмацняецца. У артыкуле «Рэлігійнае пытанне і знешняя палітыка царызму перад падзеламі Рэчы Паспалітай» (1973 г.) А. П. Грыцкевіч даказаў факт дамінацыі ўніятаў у канфесійнай структуры насельніцтва Беларусі ў канцы XVIII ст. і асудзіў кацярынінскую палітыку адносна іх[53]. За лозунгам вяртання ўніятаў у праваслаўе М. С. Корзун убачыў (1984 г.) прыкрыццё клопату царскага ўраду «аб асвячэнні няроўнапраўнага становішча нярускіх народаў і іх эксплуатацыі рускімі дваранамі і чыноўнікамі»[54]. Нават папулярна-прапагандысцкая брашура В. Ф. Гапановіча і Л. А. Царанкова «Учарашні і сёняшні дзень уніяцкай царквы» (1985 г.) – адзіная кніга пра ўнію, якая выйшла ў БССР, адзначала, што жаданне народа аб пераходзе ў праваслаўе ніхто не пытаў – ўлічвалі толькі пазіцыю вышэйшага ўніяцкага духавенства; што «ламалі апазіцыю» ўз'яднанню[55].

Разняволенне навуковай думкі на мяжы 1980-х – 1990-х г. прывяло да незвычайнага росту цікавасці айчынных даследчыкаў да гісторыі апальнай царквы. Першымі кінулі выклік устаялым стэрэатыпам яшчэ імперскага паходжання Ю. Драгун[56] і М. Хаустовіч[57]. Аказалася, што пры значнай навуковай прадукцыі другой паловы XIX – пачатку XX ст., прысвечанай агоніі ўніяцкай царквы ў Беларусі, гісторыя падаўлення ўніяцкай традыцыі і рэакцыі на яе беларускага грамадства яшчэ застаецца малавядомай старонкай нашай мінуўшчыны. У пэўнай меры гэта кампенсавалі перавыданнем прац «класікаў»: М. Каяловіча[58], М. Нікольскага[59], Л. Гарошкі[60].

[53] Грыцкевіч А. П. Рэлігійнае пытанне і знешняя палітыка царызму перад падзеламі Рэчы Паспалітай // Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамадскіх навук. – 1973. – № 6. – С. 62–71.

[54] Корзун М. С. Русская православная церковь на службе эксплуататорских классов. X век – 1917 год. – Мн.: Беларусь, 1984. – С. 152.

[55] Гапановіч В. Ф., Царанкоў Л. А. Учарашні і сёняшні дзень уніяцкай царквы. – Мн.: Беларусь, 1985. – С. 31.

[56] Драгун Ю. Пра уніяцтва і дзяржаўную палітыку // Літаратура і мастацтва. – 1990. – № 1. – С. 15.

[57] Хаўстовіч М. Скасаванне уніі // Літаратура і мастацтва. – 1990. – № 40. – С. 8–9.

[58] Коялович М. О. История воссоединения западнорусских униатов старых времен (до 1800 года). – Мн.: Лучи Софии, 1999. – 400 с.

[59] Никольский Н. М. История русской церкви. – Мн.: Беларусь, 1990. – 541 с.

[60] Гарошка Л. Пад знакам «рускае і польскае веры» // Спадчына. – 2000. – № 1. – С. 142–199.

Тэма ліквідацыі ўніі перажыла тады другое нараджэнне ў навуцы і публіцыстыцы Беларусі.

У канцы XX – пачатку XXI ст. Я. Анішчанка[61], У. Сосна[62], І. Мядзведзеў[63], А. Філатава[64], С. Токць[65], Л. Лыч[66], В. Сяховіч[67]

---

[61] Анішчанка Я. Пераvод беларускіх уніятаў у праваслаўе у 1781–1783 гг. // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400-годдзя Брэсцкай уніі) / С. Марозава, Т. Казакова, Ю. Бохан і інш.; Пад рэд. М. В. Біча і П. А. Лойкі. – Мн.: НКФ «Экаперспектыва», 1996. – С. 77–84.

[62] Сосна У. «... С благочестивым свирепством всекал униат в православие» // Беларуская мінуўшчына. – 1996. – № 4. – С. 8–11; Сосна У. Ліквідацыя царкоўнай уніі ў беларускай вёсцы (30-ыя гады XIX ст.) // Наш Радавод: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII – XX ст., Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г.) / Заходне-беларускі гуманітарны цэнтр даследаванняў Усходняй Еўропы / Пад рэд. Д. У. Карава. – Гродна, 1996. – Кн. 7. – С. 383–387; Сосна У. Уніяцкае пытанне ў беларускай вёсцы ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400–годдзя Брэсцкай уніі) / С. Марозава, Т. Казакова, Ю. Бохан і інш.; Пад рэд. М. В. Біча і П. А. Лойкі. – Мн.: НКФ «Экаперспектыва», 1996. – С. 90–103; Сосна У. Як спрабавалі «ўз'яднаць» сялян-уніятаў (з запісак Г. Дабрыніна) // Спадчына. – 1993. – № 2. – С. 78–81; Сосно В. Методи «возз'єднання» білоруських селян-уніатів // Берестейська унія (1596–1996): Статті й матеріали / Ред. кол. М. Гайковський та інш. – Львів: «Логос», 1996. – С. 111–115.

[63] Мядзведзеў І. Самая ганебная старонка // Літаратура і мастацтва. – 1994. – 26 жніўня. – С.13.

[64] Філатава А. І. Сямашка: «Каб памяць мая засталася» // Культура. – 1994. – № 13. – С. 6; Філатава А. Палітыка царскага ўраду ў адносінах да уніяцкай царквы (1772–1838) // Брэсцкай царкоўнай уніі – 400: Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі / Рэд. А. А. Акінчыц. – Брэст: Брэсцкі дзяржуніверсітэт, 1997. – С. 84–88; Fiłatawa A. Kościoł unicki a tożsamość białorusinów (koniec XVIII – pierwsza połowa XIX wieku) // Polska–Ukraina: 1000 lat sąsiedztwa. – T. 4: Katolickie unii kościelne w Europie Srodkowej i Wschodniej – idea a rzeczywistość. – Przemyśl, 1998. – S. 199–202; Філатава А. М. Уніяцкая царква і Полацкі Сабор 1839 г. // Канфесіі на Беларусі (канец XVIII – XX ст.) / В. В. Грыгор'ева, У. М. Завальнюк, У. І. Навіцкі, А. М. Філатава; Навук. рэд. У. І. Навіцкі. – Мн., 1998. – С. 5–20; Филатова Е. Н. Конфессиональная политика царского правительства в Беларуси. 1772 – 1860 гг. – Мн.: Белорусская наука, 2006. – 192 с.

[65] Токць С. Барацьба вернікаў-уніятаў Гродзенскай губерні супраць скасавання уніі (30-ыя гг. XIX ст.) // Брэсцкай царкоўнай уніі – 400: Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі / Рэд. А. А. Акінчыц. – Брэст: Брэсцкі дзяржуніверсітэт, 1997. – С. 55–59.

[66] Лыч Л. Уніяцтва ў лёсе беларускага народа // Голас Радзімы. – 1996. – 26 верасня, 10 кастрычніка, 17 кастрычніка, 28 лістапада; Лыч Л. Дэунізацыя // Голас Радзімы. – 1999. – 1–8 красавіка.

[67] Сяховіч В. Уніяцкая царква ў Беларусі пры імператары Паўле I // Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь: Стан і перспектывы развіцця: Матэрыялы II Усебеларускай канферэнцыі гісторыкаў, Мінск, 10–11 красавіка 1997 г. – Мн.: БДУ, 1996. – С. 89–91; Сяховіч В. А. Далучэнне уніятаў Мінскай губерні да праваслаўя ў 1794–1795 г. // Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Серыя 3. – 2000. – № 3. – С. 11–14.

і інш. працягнулі перарваную больш чым на паўстагоддзя спробу гісторыкаў 1920-х гадоў, адштурхнуўшыся ад пазіцый расійскай імперскай і заходнерускай гістарыяграфіі, разабрацца ў гэтай складанай, вострадыскусійнай і балючай старонцы нашай мінуўшчыны. Сёння гэту традыцыю працягваюць Л. Лыч[68], С. Марозава[69], Л. Лаўрэш[70] і інш. Сучасныя даследчыкі прызнаюць факт небезбалеснасці ліквідацыі ўніяцкай царквы для беларускага народа і яго культуры і звяртаюць ўвагу не толькі на ўрадавую палітыку, але і на адносіны вернікаў да дэмантажу іх царквы.

Такім чынам, у ХХ ст. трактоўка праблемы змянілася тройчы. Беларуская нацыянальная гістарыяграфія першай трэці ХХ ст., а таксама канца ХХ ст. – пачатку ХХІ ст. асудзіла ліквідацыю ўніяцкай царквы, фрагментарна паказала рух супраць дэўнізацыі, аднак грунтоўных спецыяльных прац па гэтай праблеме не стварыла. На нашу думку, значэнне такой эпахальнай змены ў гісторыі беларускага грамадства яшчэ недастаткова асэнсавана айчыннай навукай з нацыянальнага пункту гледжання.

---

[68] Лыч Л. Уніяцкая царква Беларусі: этнакультурны аспект. – 2-е выд. – Мн.: Кнігазбор, 2011. – 128 с.

[69] Морозова С. Викоренення уніатськоі традиціі на Білорусі в 30-ті роки ХІХ ст. та опір йому духовенства і народу // Берестейська унія (1596–1996): Статті й матеріали / Ред. М. Гайковський та інш. – Львів: Логос, 1996. – С. 115–118; Марозава С. В. Дэунізацыя: вілейскі эксцэс 1834–1835 г. (паводле крыніц) // Гістарыяграфія і крыніцы па гісторыі гарадоў і працэсаў урбанізацыі ў Беларусі: зб. навук. арт. / ГрДУ імя Я.Купалы; рэдкал.: В. В. Даніловіч, І. П. Крэнь, І. В. Соркіна, Г. А. Хацкевіч (адк. рэдактары) [і інш.]. – Гродна: ГрДУ, 2009. – С. 269–275; Марозава С. В. Беларусь, восень 1838 – вясна 1839 г.: апошні акт уніяцкай трагедыі (некаторыя малавядомыя старонкі) // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа: зб. навук. арт.: у 2 ч. Ч. 1 / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал.: С. В. Марозава [і інш.]. – Гродна: ГрДУ, 2009. – С. 305–322; Марозава С. В. Рэформа ўніяцкай царквы 1830-х г. у лёсе І. Андрушкевіча і І. Салтаноўскага // Актуальныя праблемы гістарычнай навукі і адукацыі: зборнік навуковых артыкулаў / Пад рэд. С. В. Марозавай. – Гродна: ЮрСаПрынт, 2014. – С. 60–64.

[70] Лаўрэш Л. Скасаванне уніі на Лідчыне. – Царква. – 2009. – № 1; Лаўрэш Л.Л. Ліквідацыя Грэка-каталіцкай царквы на Лідчыне // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа: зб. навук. арт.: у 2 ч. Ч. 1 / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал.: С. В. Марозава [і інш.]. – Гродна: ГрДУ, 2009. – С. 333–339; Лаўрэш Л. Грэка-каталіцкая (уніяцкая) Царква на Лідчыне / пад рэд. С. В. Марозавай. – Полацк: Грэка-каталіцкая парафія Святамучаніка Язафата ў Полацку, 2012. – 128 с.; Лаўрэш Л. Цэзары Каменскі // Наша слова. – 2012. – 14 лістапада, 21 лістапада; Лаўрэш Л. Віктар Басяцкі // Наша слова. – 2013. – 21 жніўня; Лаўрэш Л. Прафесар Баброўскі і скасаванне ўніяцкай царквы // Наша слова. – 2014. – 9 ліпеня; Лаўрэш, Л. Л. Жыццё святара Адама Плаўскага // Актуальныя праблемы гістарычнай навукі і адукацыі: зборнік навуковых артыкулаў / Пад рэд. С. В. Марозавай. – Гродна: ЮрСаПрынт, 2014. – С. 50–59.

Трагедыяй пераследаваных уніятаў хіба больш цікавіліся замежныя даследчыкі, асабліва польскія, якія ў розныя часы прысвяцілі ёй свае працы: Э. Лікоўскі[71], У. Хаткоўскі[72], В. Харкевіч[73], М. Ленцык[74], Л. Заштаўт[75], М. Радван[76] і інш.  Яны акцэнтавалі ўвагу на ўрадавых ганеннях супраць уніятаў. Аднак і ў замежнай гістарыяграфіі рух супраць дэўнізацыі, хоць асобныя яго аспекты знайшлі адлюстраванне ў перыёдыцы і навуковай літаратуры, не стаў прадметам манаграфічнага даследавання.

Падзеі XIX ст., звязаныя з ліквідацыяй царызмам уніяцкай царквы, выклікалі ў апошні час нечаканы рэзананс у сувязі з выстаўленай ініцыятывай кананізацыі галоўнага дзеяча «ўз’яднання» ўніятаў Іосіфа Сямашкі[77]. У прынцыпе гэтыя пытанні пастаянна дэбаціруюцца гісторыкамі  і негісторыкамі, праўда, часцей за ўсё, на жаль, без папярэдняга сістэматычнага вывучэння крыніц.

Дадзеная манаграфія прапаноўвае  перагляд «ідылічнай» канцэпцыі «ўз’яднання» ўніятаў, заснаваны на шырокай базе архіўных крыніц і сучасным стане ведаў па гэтай праблеме. Зробленае даследаванне адкрывае перспектыву больш адэкватнага – на новай факталагічнай аснове – бачання адной з найбольш значных падзей гісторыі Беларусі канца XVIII – першай паловы XIX ст., якой з’яўляецца масавая рэлігійная канверсія яе насельніцтва.

---

71 Likowski E. Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku. – Poznań, 1880. – 495 s.;  Likowski E. Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku uważane głównie ze względu na przyczyny jego upadku. – Warszawa: Druk.P.Laskauer, 1906. – Cz. 1–2.

72 Chotkowski W. Dzieje zniweczenia sw. Unii na Białorusi i Litwie w swietle pamiętników Siemaszki. – Kraków: Spół. Wydaw Pol., 1898. – 205 s.

73 Charkiewicz W. U grobu unji kościelnej. – Kraków: Druk Przeglądu Powszechnego, 1926. – 36 s.; Charkiewicz W. Zmierzch unii kościelnej na Litwie i Białorusi. – Słonim, 1929. – 158 s.

74 Lencyk W. The Eastern Catholic Church and Czar Nicholas I. – Romae–New York: Ukrainian Catholic Uniwersity Press, 1966. – 148 p.

75 Zasztowt L. Procesy karne na ziemiach litewsko-ruskich po likwidacji unii w 1839 roku // Przegląd Wshodni. – T. II. – Zeszyt 3 (7). – 1992/93. – S. 611–631.

76 Radwan M. Carat wobec Kościoła greckokatolickiego w zaborze rosyjskim. 1796–1839. – Roma–Lublin: Polski Instytut kultury chrześcijańskiej, 2001. – 504 s.

77 Крот А. Багаслоўскія і этычныя падставы кананізацыі Іосіфа Сямашкі // ARCHE. – 2014. – № 5. – С. 188–199.

## *Няма такога тайнага, якое б не стала яўным*

Пад час падрыхтоўкі на самым памежжы XX – XXI ст. доктарскай дысертацыі «Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596 – 1839 гады)» аўтару гэтых радкоў давялося шмат працаваць у буйнейшых архівах і рукапісных аддзелах буйнейшых бібліятэк Беларусі, Расіі, Літвы, Польшчы, Украіны. Як толькі ў сваіх архіўных пошуках я выходзіла на крыніцы 1790-х г. і асабліва 1830-х г., у рукі «самі ішлі» дакументы аб рознага роду інцыдэнтах на глебе пераварочвання ў пануючую веру ўніятаў, якія ўсяляк ухіляліся і супраціўляліся. Гэта не былі адзінкавыя крыніцы – іх было мноства, асабліва ў архівах Мінска і Санкт-Пецярбурга. Часам пра адны і тыя ж здарэнні расказвалі архіўныя дакументы розных гарадоў і краін.

Даследчыку, выхаванаму ў духу формулы «Отторгнутые насилием воссоединены любовию», такія крыніцы «падрывалі» ўстаялы светапогляд. А тут яшчэ І. Мядзведзеў са сваім тэзісам пра «Двухбакова фальшывую формулу»[78]…

«Уз’яднаўчыя» інцыдэнты самі па сабе мяне тады не цікавілі, а толькі з пункту погляду лёсу ў гэтым рэлігійным «дыялогу» ўніяцкіх сакральных рэліквій ды ў этнанацыянальным аспекце. Але вырашыла, што пасля абароны дысертацыі да гэтых крыніц трэба вярнуцца, каб самой ва ўсім разабрацца, бо надта ж яны не ўпісваліся ў тагачасную агульнапрынятую навуковую трактоўку ліквідацыі ўніі.

Такая магчымасць не прымусіла сябе доўга чакаць. Падтрымка Амерыканскага савета навуковых таварыстваў (ЗША), Фонда Каралевы Ядзвігі (Польшча, Кракаў), Міністэрства адукацыі і навукі Літвы (Вільнюс), а таксама Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы далі выдатную магчымасць за два – тры гады яшчэ раз аб’ехаць буйнейшыя архівы Беларусі і суседніх краін, адкрыць новыя фонды і сабраць багацейшы крыніцавы матэрыял, галоўным чынам, па праблеме канфесійнай трансфармацыі Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. Навуковыя вынікі ўвасобіліся

[78] Мядзведзеў І. Самая ганебная старонка // Літаратура і мастацтва. – 1994. – 26 жніўня. – С.13.

ў некалькіх артыкулах, апублікаваных у розных краінах[79]. Але архіўныя знаходкі яўна «прасіліся» ў кнігу. І вось яна перад вамі.

У сучаснай беларускай гістарыяграфіі няма фундаментальных прац пра дэўнізацыю 1833 – 1839 г. і рэакцыю на яе мясцовага грамадства. Але ў навуковых артыкулах двух апошніх дзесяцігоддзяў, хоць і прысвечаных, як правіла, прыватным пытанням дадзенай праблемы і створаных на аснове фрагментарных фактаў з крыніц Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (г. Мінск) і Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў г. Гродна, відавочная тэндэнцыя пераацэнкі тых падзей у бок паказу апазіцыі пераводу ўніятаў у праваслаўе.

Рэканструяваць цэласную, маштабную (а не фрагментарную), а таксама ўражальную карціну супраціву рэфармаванню і ліквідацыі ўніяцкай царквы ў Беларусі ў канцы XVIII ст. – 30-я г. XIX ст. дазваляе комплекс крыніц, выяўленых аўтарам у 2000-я г. у архівах і рукапісных аддзелах бібліятэк Беларусі і суседніх краін, з якімі Беларусь у мінулым звязвалі агульныя дзяржаўныя межы. Многія з гэтых крыніц ўпершыню ўводзяцца ў навуковы абарот.

Апошні перыяд гісторыі ўніяцкай царквы пакінуў пасля сябе багатую дакументальную спадчыну. Частка яе ствралася ў Беларусі і сёння захоўваецца ў яе архівах. Але паколькі лёс царквы вырашаўся ў сталіцы імперыі – там выпрацоўвалася рэлігійная палітыка,

---

[79] Марозава С. В. Супраціў дэмантажу уніяцкай царквы на Гродзеншчыне ў 30–60-я г. XIX ст. // 60-летие образования Гродненской области: Материалы международной научной конференции, Гродно, 3–4 марта 2004. – Гродно, 2004. – С. 53–59; Морозова С. В. Сопротивление деунизации в Беларуси в 1834–1838 г. // Lietuvių Katalikų Mokslo Akademijos Metraštis. – T. XVI. – Vilnius, 2005. – P. 271–287; Морозова С. Місія камергера Скрыпіцына // Історія релігій в Україні: Науковий щорічник. – 2005 рік. – Кніга 1. – Львів: «Логос», 2005. – С. 365–371; Марозава С. За кулісамі Полацкага царкоўнага сабора (восень 1838 – зіма 1839 г.) // Історія релігій в Україні. Науковий щорічник. – 2006 рік. – Книга І. – Львів: «Логос», 2006. – С. 373–381; Morozowa S. Białoruś, jesień 1838 – wiosna 1839: ostatni akt unickiej tragedii // Rocznik Instytutu Europy Środkowo-Wschodniej. – 2006. – № 4. – S. 53–69; Марозава С. В. Ліквідацыя ўніяцкай царквы як культурна-цывілізацыйны паварот Беларусі // Проблемы цивилизационного развития Беларуси, Польши, России и Украины в конце XVIII – начале XXI в. / под ред. П. Франашка, А. Н. Нечухрина. – Krakow: Wydawnictwo Uniwersytetu Jagiellonskiego, 2007. – С. 131–136; Марозава С. Дэунізацыя: вілейскі эксцэс 1834–1835 г. (паводле крыніц) // Гістарыяграфія і крыніцы па гісторыі гарадоў і працэсаў урбанізацыі ў Беларусі. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Гродна, 25–26 верасня 2009 г.) / ГрДУ імя Я.Купалы; рэдкал.: І. Крэнь, І. Соркіна (адк. рэдактары) [і інш.]. – Гродна: ГрДУ, 2009. – С. 269–276; і інш.

разглядаліся ўсе перыпетыі дэўнізацыі, абдумваліся санкцыі супраць іншадумных, – таму значны комплекс дакументаў створаны ў і да гэтага дня захоўваецца ў Санкт-Пецярбургу.

Гістарычныя помнікі той эпохі шматлікія. Адладжаная сістэма справаводства дзяржаўных устаноў, а таксама духоўнага ведамства разам з добрай захаванасцю дакументацыі органаў свецкай і царкоўнай улады вышэйшага і сярэдняга звяна забяспечылі даследчыкаў аўтэнтычным крыніцавым матэрыялам высокай навуковай каштоўнасці. Зразумела, што такога роду матэрыял не быў запатрабаваны афіцыйнай гістарыяграфіяй Расійскай імперыі. Сем дзесяцігоддзяў атэізацыі ён заставаўся па-за сферай увагі савецкіх гісторыкаў – тады не было прынята падымаць тэму барацьбы за веру; канфесійная праблематыка іх цікавіла хіба што ў аспекце барацьбы супраць рэлігіі. Так што пасля гісторыкаў і архівістаў XIX ст., якія трымалі ў руках, сістэматызавалі, апісвалі, вывучалі ўніяцкія архівы і дакументы, ці не першымі мы да іх звяртаемся з мэтай рэканструкцыі гісторыі абароны ўніі.

Найбольш поўнае сістэматызаванае ўяўленне аб характары, маштабах, сацыяльнай базе антыўз’яднаўчага руху ў Беларусі ў, а таксама формах і метадах яго падаўлення дае шэраг дакументальных комплексаў, якія захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Мінску (фонд 1297), Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродна (фонд 1), Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу (фонды 796, 797, 823, 824), Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі ў Маскве (фонд 109) і Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы ў Вільнюсе (фонды 605, 634).

Для даследавання гісторыі ўніяцкай царквы ў цэлым найбольш кампактным, аб’ёмным і навукова значным з’яўляецца фонд 823 «Канцылярыя мітрапаліта грэка-уніяцкіх цэркваў» у Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве, больш вядомы пад назвай «Архіў уніяцкіх мітрапалітаў». Гэты фонд складаюць 5850 спраў, якія адкладаліся ў 1470 – 1839 г. у выніку дзейнасці мітрапаліцкай канцылярыі. Дастаткова запатрабаваны даследчыкамі канфесійнай гісторыі Усходняй Еўропы XVI – XIX ст., гэты фонд з’яўляецца далёка не вычарпанай крыніцай інфармацыі аб перыпетыях апошніх

гадоў існавання ў Беларусі царкоўнай ўніі і змене суадносін тут асноўных адгалінаванняў хрысціянства.

Дакументы Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва, сканцэнтраваныя ў фондах 796 «Канцылярыя Сінода», 797 «Канцылярыя обер-пракурора Сінода» (вопісы 6, 7) і фондзе 824 «Беларуска-літоўская духоўная калегія Сінода», адлюстроўваюць скрозь прызму бачання расійскіх духоўных і свецкіх уладаў дзейнасць уніяцкай царквы напярэдадні яе фіналу, «брожение умов» і хваляванні ў Беларусі ў сувязі з яе рэфармаваннем і звужэннем сферы ўплыву, меры афіцыйнага Пецярбурга супраць уніятаў, якія «упорствовали в своей вере».

У фондзе 109 «Сакрэтны архіў» Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі адклалася дакументацыя IV корпуса акругі жандараў, які адсочваў настроі ў Беларусі, у тым ліку ў сувязі з рыхтуемым наступам на царкоўную ўнію.

Багаты комплекс дакументаў першай паловы XIX ст., якія распавядаюць аб дзяржаўна-царкоўных і міжканфесійных адносінах, рэформах 1830-х гадоў ва ўніяцкай царкве, супраціве дэўнізацыі, «падпісной» і антыарганнай кампаніях, замене служэбнікаў і інш., выяўлены намі ў фондзе 1297 «Канцылярыя генерал-губернатара віцебскага, магілёўскага і смаленскага» Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Мінску і ў фондзе 1 «Канцылярыя гродзенскага губернатара» Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродне.

Карціну падаўлення ўніяцкай рэлігійнай традыцыі і антыўз'яднаўчага руху ў Беларусі істотна дапаўняюць дакументы фонда 634 «Літоўская грэка-уніяцкая кансісторыя» (знаходзілася ў Жыровіцах Гродзенскай губерні) у Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы ў Вільнюсе.

Разрозненыя, але ад гэтага не менш цікавыя дакументы па тэме выяўлены намі ў рукапісных аддзелах бібліятэк Вільнюса, Санкт-Пецярбурга, Кракава.

У распараджэнні даследчыка гісторыі падаўлення ўніяцкай традыцыі – значны комплекс разнастайных крыніц. Гэта, галоўным чынам, дакументальныя крыніцы, царкоўныя і свецкія. Адны маюць ўніяцкае паходжанне, іншыя зыходзяць з лагера праціўнікаў царкоўнай уніі. Нямала дакументаў пры іх стварэнні прызначаліся для службовага карыстання. Многія з іх насілі ў свой час канфідэнцыйны

характар. У першую чаргу, гэта датычыць дакументаў, якія адкладаліся ў канцылярыях обер-пракурора Сінода і штаба корпуса жандараў. Такой, у прыватнасці, была перапіска па пытаннях, звязаных з выцясненнем уніі, полацкага праваслаўнага епіскапа Смарагдам з мінскім, смаленскім, магілёўскім і віцебскім генерал-губернатарам Хаванскім у 1834 – 1835 г.; літоўскага епіскапа Іосіфа Сямашкі, галоўнага з дзеяча «ўз'яднання» уніятаў, з обер-пракурорам Сінода.

Людзі рознага сацыяльна-прафесійнага складу і канфесійнай прыналежнасці (прадстаўнікі вышэйшых і мясцовых уладаў, царкоўныя саноўнікі, шараговыя святары і манахі, шляхціцы, гараджане і, радзей, сяляне) распавядаюць нам са старонак гэтых дакументаў мноства мінігісторый пра выкараненне ўніяцкай царкоўнай традыцыі, пра спробы гэтую традыцыю ўратаваць і санкцыі супраць тых, хто стаў на яе абарону. Словамі гістарычных дакументаў з намі размаўляюць людзі, якія ў 1833 – 1839 г. сталі ў апазіцыю да царскай палітыкі ліквідацыі ўніяцкай царквы, і тыя, хто іх супраціў ламаў. Найкаштоўнейшымі знаходкамі лічым тыя старонкі і нават тыя радкі крыніц, якія гавораць вуснамі простага народа і шараговага кліру.

Сярод выяўленых крыніц пераважаюць матэрыялы царкоўнага і свецкага справаводства, якія адкладаліся ў выніку дзейнасці розных органаў вышэйшага і мясцовага кіравання ўніяцкай царквой: мітрапаліцкай і епіскапскіх канцылярый, духоўных кансісторый у Полацку і Жыровіцах, грэка-уніяцкай калегіі ў Пецярбургу, Сінода, Сената, міністэрства ўнутраных спраў, губернскіх праўленняў, паліцыі і інш. Да іх прымыкаюць матэрыялы дзейнасці Сакрэтнага камітэта па ўніяцкіх справах, створанага ў 1835 г.

У гэтую групу крыніц ўваходзяць пратаколы пасяджэнняў, справаздачы, даклады, дзелавая перапіска, прадпісанні, распараджэнні, цыркуляры, запыты, рапарты, данясенні і інш. У рапартах вышэйшаму начальству карціна падзей, як правіла, прыхарошваецца ва ўгоду «ліквідатарам» уніі, іх дзеянні апраўдваюцца. І, наадварот, абаронцы ўніі падаюцца на старонках гэтых дакументаў у нявыгадным святле, іх дзейнасць ўсяляк ачарняецца.

Добрае ўяўленне аб сітуацыі ў Літоўскай епархіі напярэдадні ўсеагульнай рэлігійнай канверсіі дае амаль пяцісотстаронкавая Кніга (журнал) пастаноў Літоўскай духоўнай грэка-уніяцкай кансісторыі

за верасень 1838 г.[80] З яе бачна, што за адзін толькі месяц кансісторыя 24 разы прымала рашэнні, накіраваныя на падаўленне іншадумства, і вызначыла розныя формы пакарання 20 святарам і манахам. Усе яны падвергліся пакаранню: высылцы ў манастыр, аддаленню ад прыходу, выкліку «для тлумачэння і экзамену» у Жыровіцкі манастыр, які стаў цэнтрам «перавыхавання» для апазіцыйнага духавенства. Тых, хто ад паездкі туды ўхіляўся, дастаўляла паліцыя.

Унікальнымі крыніцамі з'яўляюцца калектыўныя прашэнні, звароты, скаргі, петыцыі 1830-х г. прыхаджан, парафіяльных святароў у абарону сваіх сакральных рэліквій і абраднасці, супраць пераабсталявання храмаў, уніфікацыі богаслужбовых кніг, знішчэння органаў. У такіх дакументах гісторыя выцяснення ўніяцкай веры паўстае праломленай ў індывідуальных людскіх лёсах.

Шмат якія пытанні аб супраціве дэўнізацыі і «адпадзенні» экс-уніятаў ад пануючай веры разглядаліся ў судовым парадку. Судова-следчыя матэрыялы першай паловы XIX ст. (даносы і скаргі з іх непазбежнымі перабольшаннямі, заявы, пратаколы допытаў, паказанні сведак, даведкі, судовыя прысуды) узнаўляюць карціну людскіх пакут, якімі суправаджалася праграма ачышчэння абраду, народнага супраціву дэнансацыі ўніі і абароны сваіх сакральных рэліквій.

Даследчыку трэба мець на ўвазе, што карціна супраціву дэўнізацыі рэканструіруецца на падставе крыніц, творцамі якіх былі, галоўным чынам, людзі і ўстановы, што гэты рух душылі. Зразумела, што архіўныя справы, якія адкладаліся ў фондах імператарскай канцылярыі, штаба корпуса жандараў, Сінода, апраўдваюць дзеянні мясцовых уладаў па прывядзенню да пакоры «незгаворлівых» уніятаў. На жаль, архіўныя справы гэтых ведамстваў далёка не заўсёды даюць магчымасць прасачыць эфектыўнасць прынятых рашэнняў і вынік – чым завяршылася справа. Хоць мы ведаем, што ў 1839 г. усе яны мелі адзін фінал.

Апошні этап гісторыі ўніяцкай царквы знайшоў адлюстраванне ў помніках мемуарыстыкі. Некаторыя з іх былі апублікаваны яшчэ ў XIX – пачатку XX ст. Чыноўнікі Гаўрыіл Дабрынін[81] і Іван

[80] ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47.

[81] Истинное повествование, или Жизнь Гавриила Добрынина, им самим писанная в Могилеве и в Витебске. 1752–1823. – СПб.: Печатня В. И. Головина, 1872. – 380 с

Жыркевіч[82], якія па родзе сваёй службы займаліся пераварочваннем уніятаў, пакінулі пра гэта ўражлівыя старонкі успамінаў. Запіскі Я. Чабодзькі[83] адлюстроўваюць пазіцыю духавенства з больш нізкіх прыступак іерархічнай лесвіцы, якое, прыціснутае польска-каталіцкім уплывам, пабачыла выхад у далучэнні ўніятаў да праваслаўя.

Найбольш вядомыя даследчыкам мемуары галоўных дзеячаў «ўз'яднання» ўніятаў: літоўскага епіскапа Іосіфа Сямашкі[84] і беларускага епіскапа Васіля Лужынскага[85]. Бясконца ўпэўненыя ў слушнасці сваёй справы, яны досыць падрабязна распавялі аб апошніх гадах уніі ў Беларусі, прывялі шматлікія факты, дапоўнілі аповяд канфідэнцыйнымі ў свой час дакументамі. Але гэтыя факты і дакументы часам кажуць зусім не тое, што хацелі распавесці іх аўтары.

Постуніяцкая рэакцыя знайшла адлюстраванне ў запісках паплечнікаў І. Сямашкі Мікалая Сушкова[86] і Антонія Зубко[87].

Карціну ліквідацыі ўніяцкай царквы ў Беларусі, створаную ў запісках яе галоўных «ліквідатараў», істотна дапаўняюць і робяць больш аб'ёмнай і шматколернай ніколі не публікаваныя запіскі і дзённікі прадстаўнікоў уніяцкага духавенства, якія сталі на абарону сваёй царквы і за гэта падвергліся рэпрэсіям: прыходскага святара з Камянца Рыгора Міцэвіча[88], настаяцеля базыльянскага манастыра з-пад Віцебска Іллі Андрушкевіча, прапаведніка Ляшчынскага манастыра (у Мінскай губерні) Ігната Салтаноўскага.

Выяўленыя намі ў рукапісным аддзеле Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве запіскі і дзённікі гэтых змагароў за ўнію, працятыя крыўдай і рэлігійным патрыятызмам, лічым сваёй найбольш удалай

[82] Записки Ивана Степановича Жиркевича. 1789 – 1848 // Русская старина. – 1874. – Т. 9, 11.

[83] Чебодько Я. А. Из воспоминаний об унии в Белоруссии в начале XIX века // Русский архив. – 1903. – Вып. 12. – С. 537–544.

[84] Записки Иосифа, митрополита Литовского. – Т. 1–3. – СПб.: Тип. Императ. Акад. наук, 1883. – 746 с., 786 с., 607 с.

[85] Записки Василия Лужинского, архиепископа полоцкого. – Казань: Издание Казанской духовной академии, 1885. – 312 с.

[86] Сушков Н. В. Воспоминания о митрополите Литовском и Виленском Иосифе и об уничтожении унии в России. – М., 1869.

[87] Зубко А. О греко-униатской церкви в западном крае // Русский вестник. – 1863. – Т. 53.

[88] Успаміны Рыгора Міцэвіча, пароха з Камянца, аб перасследзе ўнітаў // ЯгБ. – Спр. 4294. – 52 арк.

даследчай знаходкай. Гэтыя мемуары данеслі да нас дух і атмасферу таго часу, калі ішоў наступ на ўнію, настроі сучаснікаў і калегаў па духоўнаму званню, ўражанні саміх аўтараў. Шмат з таго, што зафіксавана ў гэтых мемуарах, не знайшло адлюстравання ні ў якіх іншых крыніцах.

Скарочаная выданне ў 1867 г. успамінаў Р. Міцэвіча[89] адкрыла магчымасць параўнаць запіскі І. Сямашкі з прызнаннямі адной з ахвяраў «ўз'яднання».

Нязгоду з палітыкай скасавання царкоўнай уніі і асуджэнне яе арганізатараў і выканаўцаў праймаюць ўспаміны – рукапіс у шасці сшытках – настаяцеля базыльянскага Ануфрэйскага манастыра пад Віцебскам Іллі Андрушкевіча. Іераманах-базыльянін апісвае свае шматгадовыя «хаджэнні па пакутах», якія пачаліся з 1836 г., пасля адмовы прыняць новыя абрады і даць «падпіску на праваслаўе»[90].

Гісторыю трагічных перажыванняў і цярпенняў ахвяр дэўнізацыі даносяць да нас таксама кароткія запіскі базыльяніна Ігната Ёны Салтаноўского – прапаведніка Ляшчынскага манастыра, што ў Пінскім павеце Мінскай губерні[91].

Барацьба вакол уніі і за ўнію ў Беларусі ў 1833 – 1839 г. знайшла адлюстраванне ў эпісталярыі. Карэспандэнцыя – афіцыйная і прыватная, адкрытая і канфідэнцыйная – разам з мемуарамі часта раскрывае новыя нюансы, якія адсутнічаюць у крыніцах іншых відаў.

Апублікаваныя цэлыя комплексы перапіскі І. Сямашкі, В. Лужынскага і полацкага архіепіскапа Смарагда з літоўскім і беларускім генерал-губернатарамі, з Сінодам. Аб хваравітым стаўленні сялян да ломкі культурна-рэлігійнай традыцыі сведчыць ліст да сваіх бацькоў праваслаўнага святара, дасланага са Смаленска на ўніяцкі прыход[92]. Надзвычай цікавай крыніцай з'яўляецца перахоплены жандармерыяй прыватны ліст з Полацка ў Пецярбург ад 5 сакавіка 1839 г., які адлюстроўвае грамадскія сімпатыі ў Беларусі і спачуванне «адмаўленцам» (даць распіску аб сваёй згодзе кінуць унію) [93].

---

[89] Ks. Micewicz i jego towarzysze // Rocznik Towarzystwa Historyczno-Literackiego w Paryżu. – Rok 1866. – Paryż, 1867. – S. 120–129.

[90] ЯгБ. – Спр. 5916.

[91] ЯгБ. – Спр. 5915. – Арк. 3–8 адв.

[92] На униатском приходе // Чтения в императорском обществе истории и древностей российских при Московском университете. – М., 1910. – Кн. 1. 1909. – Ч. 2. – С. 4–6.

[93] ДАРФ. – Ф. 109. – IV экспедыцыя. 1839 год. – Воп. 179. – Спр. 96. – Арк. 4–4 адв.

Абмеркаванне фактаў хваляванняў і пратэстаў, якія мелі месца ў Беларусі, і прыняцце рашэнняў па некаторых з іх нам удалося прасачыць на двух узроўнях: мясцовым – у канцылярыі генерал-губернатара, у Літоўскай духоўнай кансісторыі, а таксама на ўзроўні вышэйшага духоўнага ведамства імперыі – Сінода, а асобныя – яшчэ і па дакументах Трэцяга аддзялення імператарскай канцылярыі. У гэтым выпадку адны крыніцы ўдакладняюць, дапаўняюць інфармацыю іншых, адрозніваючыся часам непрынцыповымі дэталямі ў апісанні і трактоўцы падзей. Дакументы фонду 797 Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва не пакідаюць сумневу ў тым, што любы больш-менш значны факт непакоры беларускіх уніятаў быў вядомы ў Пецярбургу і з'яўляўся прадметам разгляду ў Сінодзе. «О подсудимых жителях деревни Озарич, в непослушании принять православие, из которого они соблазнились в унию. 7 декабря 1836 г.» [94] – адна з тыповых спраў, што адклалася ў канцылярыі Сінода. Найбольш значныя хваляванні на глебе рэлігійнай канверсіі разглядаліся ў міністэрстве ўнутраных спраў, штабе корпуса жандараў і нават самім імператарам.

Характэрным для таго часу быў эксцэс, які ў канцы 1834 – пачатку 1835 г. адбыўся пры пераварочванні ў пануючую веру ўніятаў павятовага горада Вілейкі Мінскай губерні. Гісторыю іх пераварочвання, якая на месяцы і гады стала «галаўным болем» афіцыйных Мінска, Вільні і Пецярбурга, нам удалося прасачыць па дакументах двух архіваў. У фондзе Сінода – гэта справа «О произшествии в греко-униатской церкви г. Вилейки Минской губернии и о возвращении жителей онаго из унии в православие. 1835 г. – 1839 г.»[95]. У Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы захоўваецца 286-старонкавая справа «Об обращении жителей Вилейки из унии в православие. 23 ноября 1834 г. – 15 июля 1838 г.»[96]. Наступствы і аддаленыя водгукі прымянення адміністрацыйна-сілавых мер адносна ўніятаў Вілейкі знайшлі таксама адлюстраванне ў шэрагу іншых архіўных спраў[97].

Названыя справы ўключаюць матэрыялы справаводства: перапіску, справаздачы, данясенні, рапарты, просьбы, заявы, распіскі і інш. Аўтарамі гэтых крыніц з'яўляюцца прадстаўнікі царкоўнай

[94] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22287.
[95] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22974.
[96] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2972.
[97] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2315, 2516.

іерархіі (літоўскі епіскап Іосіф Сямашка, мінскі праваслаўны епіскап Нікано р) і шараговага духавенства (уніяцкія, праваслаўныя святары), вышэйшай улады імперыі (обер-пракурор Сінода С. Д. Нячаеў), прадстаўнікі мясцовых уладаў (мінскі і віленскі губернатары, вілейскі гараднічы Дзяконскі) і інш. Са старонак, што выйшлі з-пад іх пяра, прасочваюцца і настроі саміх вілейцаў.

З дакументамі і матэрыяламі Літоўскай духоўнай кансісторыі ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы працаваў у свой час даследчык Валяр'ян Харкевіч. Вынікі гэтай працы ўвасобіліся ў яго кнізе «Zmierzch unii kościelnej na Litwie i Białorusi», у раздзеле «Як гэта было ў Вілейцы»[98].

Выяўленыя намі архіўныя крыніцы, разам з даследаваннем В. Харкевіча, на матэрыяле Вілейкі сведчаць, што створаная папярэдняй гістарыяграфіяй карціна «ўз'яднання» ўніятаў далёкая ад рэчаіснасці, а супраціў яму застаецца малавядомай старонкай нашага мінулага.

Названыя комплексы дакументаў і разрозненыя матэрыялы дазваляюць выявіць рэгіянальныя асаблівасці антыўз'яднаўчага руху: яго асаблівую інтэнсіўнасць на паўночным усходзе Беларусі – у Віцебскай губерні і ў паўночнай частцы Мінскай губерні, некалькі меншую на захадзе Беларусі – у цэнтральнай і паўднёвай частцы Гродзенскай губерні. Найбольш моцны супраціў назіраўся ў Беларускай епархіі.

Сацыяльная база руху супраціву, як гэта вынікае з крыніц, – шляхта, духавенства, сяляне, гараджане. Кіруючай сілай і ідэолагамі руху выступаюць прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі, свецкай і духоўнай. З уніяцкага духавенства найбольш паслядоўнымі змагарамі за сваю веру былі манахі-базыльяне.

Формы супраціву ў адпаведнасці з інфармацыяй крыніц вызначаюцца наступныя: адмова ад выдачы распіскі аб згодзе кінуць унію; хадайніцтвы, у тым ліку на пісьме, перад рознымі інстанцыямі ў абарону сваёй царквы; абарона сваіх храмаў ад пераасвячэння; байкот новай абраднасці, літургічных кніг сінадальнай друкарні, новапрысланых святароў, сваіх храмаў, звернутых ў пануючую

98 Charkiewicz W. Zmierzch unii kościelnej na Litwie i Białorusi. – Słonim, 1929. – S. 95–106.

веру; адмова ад пераабсталявання храмаў; захаванне, утойванне ад знішчэння ўніяцкіх сакральных рэліквій і іх шанаванне; дзейнасць тайных ўніяцкіх прыходаў; і інш.

Архіўныя дакументы і матэрыялы таксама даюць паняцце аб характары і маштабах рэпрэсій адносна тых, хто стаў у апазіцыю ліквідацыі ўніі. Махавік рэпрэсій набіраў абароты з 1833 – 1834 г., усе больш моцныя па меры набліжэння да Полацкага царкоўнага сабора 12 лютага 1839 г. На злом уніяцкай рэлігійнай традыцыі была накіравана ўся сістэма імператарскай улады: суд, мясцовая адміністрацыя, Сінод, паліцыя, часам у ход ішло войска. У адносінах да апазыцыйнага духавенства практыкавалася паніжэнне на пасадзе, перавод у горшыя прыходы, «перавыхаванне» у кансісторыі (у Жыровіцах або Полацку), заключэнне ў манастыр, высылка ў іншую епархію. Найбольш зацятых базыльянаў высылалі ў Расію. Да сялян ужываліся «павучанне», у тым ліку ў губернскай канцылярыі; пакаранне розгамі; «перавыхаванне» у манастыры; турэмнае зняволенне; і г.д.

У справах Сінода захоўваюцца лісты і сакрэтныя рапарты, якія падчас сваёй камандзіроўкі з розных гарадоў Беларусі і Украіны накіроўваў у сталіцу імперыі дарадчык обер-пракурора Сінода Валерый Скрыпіцын[99]. Яго данясенні з’яўляюцца для нас найкаштоўнейшай гістарычнай крыніцай. Высокі чыноўнік з Пецярбурга ўбачыў, што ліквідацыя ўніі ўжо не з’яўляецца ў Беларусі таямніцай; даў ацэнку настрояў сярод духавенства, паказаўшы, што ў Беларускай і Літоўскай епархіях яны моцна адрозніваюцца; устанавіў імёны тых, хто найбольш небяспечны для справы «ўз’яднання»; прааналізаваў прычыны цяжкасцяў са зваротам уніятаў; даў заснаваныя на мясцовых рэаліях рэкамендацыі па нейтралізацыі іншадумцаў і давяршэнню справы дэўнізацыі.

На працягу 1837 – 1839 г. у Беларусі былі нейтралізаваныя ўсе актыўныя сілы, якія маглі перашкодзіць паспяховаму вырашэнню «ўніяцкага пытання» на яго апошнім этапе. Тым не менш, афіцыйны Пецярбург усур’ёз чакаў выбуху незадаволенасці пры абнародаванні факта, што «ўніі ўжо няма». Таму абнародаванню папярэднічала ўвядзенне ў паўночна-ўсходнія раёны Беларусі дадатковай ваеннай сілы. 500-старонкавая архіўная справа 11116 аб скасаванні уніі з фон-

[99] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446; Воп. 87. – Спр. 18.

да 1297 «Канцылярыя генерал-губернатара віцебскага, магілёўскага і смаленскага», што знаходзіцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Мінску, прысвечана выкліку ў Беларусь казацкага войска і яго размяшчэнню ў «гарачых кропках», дзе дапускалася магчымасць хваляванняў[100].

Крыніцы сведчаць, што пушчаная ў ход сістэма ўз'яднання ўніятаў ўсё ж давала збоі. Схіленыя да адрачэння ад уніі ўгаворамі, падманам, а то і прымусам, «новоправославные» даставілі тады шмат клопатаў уладам. І ў 1860-я г. тыя шукалі спосабы ўтрымаць іх у пануючай веры, масавая абыякавасць і холад у дачыненні да якой былі відавочныя. Нават віленскі генерал-губернатар М. Мураўёў не мог справіцца. На яго пытанне да царкоўных іерархаў, як гэта зрабіць, віленскі архімандрыт Макарый (Булгакаў) адказаў: «Чыноўнікі іх звярталі ў праваслаўе, так няхай яны знойдуць спосаб іх утрымаць»[101] .

Вывучэнне масіва даступных аўтару і заслугоўваючых даверу архіўных крыніц у сукупнасці з ужо вядомымі апублікаванымі крыніцамі, пры адмове ад іх падзелу на зручныя і нязручныя, па-першае, дазваляе ўбачыць уражальную супярэчнасць паміж сведчаннямі гістарычных помнікаў і створаным дарэвалюцыйнай расійскай і савецкай гістарыяграфіяй вобразам уніі; а, па-другое, паказвае, што аб'ектыўна ўзнавіць сапраўдную карціну падзей і працэсаў выкарыстаннем крыніц толькі аднаго лагера немагчыма.

Такім чынам, супраціў дэўнізацыі ў Беларусі як навуковая праблема чакае свайго даследчыка і забяспечвае яго самавітай крыніцавай базай. Выяўленне і ўвядзенне ў навуковы абарот новых крыніц, якіх шмат захавалася ў буйнейшых архівах і рукапісных аддзелах бібліятэк Беларусі, Расіі, Літвы, Польшчы і Украіны, адкрывае магчымасць новага прачытання гісторыі рэлігійнай канверсіі беларускіх уніятаў.

---

[100] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 11116.

[101] Гарошка Л. Пад знакам «рускае і польскае веры» // Спадчына. – 2000. – № 1. – С. 174.

# 2. Рэлігійная канверсія беларускіх уніятаў у 1780 – 1802 г.

## *Першая хваля дэўнізацыі (1780 – 1783 г.)*

Па першаму падзелу Рэчы Паспалітай падданымі Расійскай імперыі сталі 800 тысяч уніятаў, 300 тысяч праваслаўных і 100 тысяч католікаў[102]. Сацыяльную базу ўніяцкай царквы складалі, галоўным чынам, сяляне. Яе духавенства не мела такой адукацыі, як каталіцкі клір. Але, як пісаў даследчык П. С. Гаручка, «унія была моцная ў Беларусі сваёй колькаснай перавагай, шматлюднасць спаведнікаў давала ёй і матэрыяльныя сродкі»[103].

Лёс уніяцкай царквы ў Расіі быў прадвызначаны. Пераварочванне іншаверных падданых у праваслаўе, па словах Кацярыны II, «найболей зблізіць іх з расіянамі, і яны ніколькі не павінны ўжо баяцца, што калі-небудзь будуць адарваныя ад нашай дзяржавы». У выкараненні ўніі яна ўбачыла «самы надзейны сродак да зацвярджэння народа тамашняга ў аднадумстве»[104]. Кацярына II пачала вырашаць уніяцкае пытанне у межах традыцыйнай расійскай палітыкі, важнейшай зброяй якой была рэлігійная канверсія праваслаўнай царквы і ўрада ў дачыненні да новых суб’ектаў імперыі[105]. Базылья-

[102] Loret M. Kościoł katolicki a Katarzyna II. 1772–1784. – Kraków–Warszawa, 1910. – S. V.

[103] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов в Белоруссии 1795–1805 годов.– Киев: Типогр. И. И. Горбунова, 1902. – С. 37.

[104] Полное собрание постановлений и распоряжений по ведомству православного исповедания в Российской империи. Царствование Екатерины II. – Т. 3: 1785–1796 гг. – Пг., 1915. – С. 425.

[105] Сословия и государственная власть в России. XV – середина XIX вв.: Международная конференция. Чтения памяти академика Л. В. Черепнина: Тезисы докладов, Москва, 13–16 июня 1994 г. – Ч. II. – М., 1994. – С. 346.

не, якія не прысягнулі на вернасць імператрыцы, былі дэпартаваны ў Рэч Паспалітую[106].

Першыя гады царскі ўрад асцерагаўся адкрытага гвалту адносна беларускіх уніятаў – каб не адпужаць будучых падданых імперыі. Але чым далей, тым меней ён іх ашчаджаў.

Змена канфесійнай сітуацыі на карысць праваслаўя пачалася на ўсходзе Беларусі ў 1774 г. Магілёўскі праваслаўны епіскап Г. Каніскі ініцыіраваў тады падачу прыходамі заяў губернатару аб жаданні далучыцца да праваслаўя і распрацаваў інструкцыю, як пісаць заявы. На падставе васьмі дзесяткаў такіх заяў да канца 1774 г. у Полацкім, Віцебскім, Дзвінскім, Аршанскім, Мсціслаўскім і Рагачоўскім паветах было адарвана ад уніі 433 царквы[107]. Нізкі культурны ўзровень уніяцкага духавенства і невялікае знешняе адрозненне ўніяцкага і праваслаўнага абрадаў аблягчалі дзейнасць Г. Каніскага па пераводу ўніятаў у пануючую веру.

Кацярынінскі рэскрыпт ад 2 ліпеня 1780 г. на імя (намесніка) правіцеля Беларускай губерні графа З. Чарнышова запрашаў уніятаў да пераходу ў праваслаўе. У ім упершыню гаварылася пра знішчэнне ўніі. Забаранялася асаджаць вакантныя прыходы новымі ўніяцкімі святарамі без уліку жадання прыхаджан. Калі большасць прыхода выказвала жаданне мець праваслаўнага бацюшку, царкву пераасвячалі і перадавалі ў праваслаўнае ведамства.

Але надзеі на тое, што ўніяты самі масава пацягнуцца да пануючай веры не спраўдзіліся. Калі што і было дасягнута ў гэтай справе, то коштам вялікіх угавораў, розных абяцанняў, падману, а дзе-нідзе і гвалту, хоць мелі месца і добраахвотныя далучэнні. Ужываныя тады метады «запрашэнняў» у праваслаўе выклікалі шмат нараканняў[108].

---

[106] Likowski E. Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku uważane głównie ze względu na przyczyny jego upadku. – Warszawa: Druk.P.Laskauer, 1906. – Cz. 1–2. – S. 184.

[107] Likowski E. Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku uważane głównie ze względu na przyczyny jego upadku. Warszawa: Druk.P.Laskauer, 1906. Cz. 1–2. S. 174.

[108] Анішчанка Я. Перавод беларускіх уніятаў у праваслаўе у 1781–1783 гг. // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400–годдзя Брэсцкай уніі) / С. Марозава, Т. Казакова, Ю. Бохан і інш.; Пад рэд. М. В. Біча і П. А. Лойкі. – Мн.: НКФ «Экаперспектыва», 1996. – С. 87.

На сходзе 8 кастрычніка 1780 г. віцебскі мяшчанін Лук’ян Струй ад імя прыхаджан Троіцкай царквы на намер перавесці іх у праваслаўе заявіў, «что де им хотя головы отрежут, но они к благочестивому священнику не пойдут», а аканом С. Дзядзерка заклікаў прысутных не аддаваць сваю царкву. У сакавіку 1783 г. адмовіліся мяняць веру жыхары мястэчка Калышкі, сяляне Забежскай царквы Савінскага староства і Прудзенскай царквы Дрысенскага павета[109].

Між тым колькасныя вынікі першай хвалі дэўнізацыі былі даволі ўнушальнымі. На працягу чатырох гадоў (1780–1783 г.) у Магілёўскай губерні было «ўз’яднана» 95 уніяцкіх цэркваў (усяго ў 1775 г. іх налічвалася 500) з 112,5 тысячамі жыхароў[110]. Гэта складала 37 % уніятаў Магілёўскай губерні па стану на 1782 г. або 17 % усіх беларускіх уніятаў[111].

У 1784 г. уніятаў пакінулі ў спакоі. Іх веравызнанне паранейшаму засталося дамінуючым у канфесійнай структуры далучаных зямель Беларусі. Свецкім і духоўным уладам імперыі прыйшлося шукаць новых сродкаў і чакаць новых зручных абставінаў для нанясення рашаючага ўдару па ўніі.

Такі зручны момант настаў з пачаткам паўстання пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі.

## *Другая хваля (1794 – 1796 г.)*

Вясной 1794 г. расійскі ўрад убачыў у праваслаўным яднанні афіцыйных ўладаў і сялянства, уніяцкага ў сваёй аснове, спосаб усталявання палітычнай стабільнасці ў рэгіёне, ізаляцыі паўстанцаў-католікаў. Кацярынінскі ўказы ад 22 красавіка 1794 г. і 10 студзеня

---

109 Анішчанка Я. Пераход беларускіх уніятаў у праваслаўе у 1781–1783 гг. // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400–годдзя Брэсцкай уніі) / С. Марозава, Т. Казакова, Ю. Бохан і інш.; Пад рэд. М. В. Біча і П. А. Лойкі. – Мн.: НКФ «Экаперспектыва», 1996. – С. 87–88.

110 Горючко П. С. Материалы для истории воссоединения униатов в Белоруссии 1780–1795 годов: Списки воссоединенных церквей. – Могилев, 1903. – С. 1–5; Коялович М. О. История воссоединения западнорусских униатов старых времен (до 1800 года). – Мн.: Лучи Софии, 1999. – С. 208.

111 Анішчанка Я. Пераход беларускіх уніятаў у праваслаўе у 1781–1783 гг. // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400–годдзя Брэсцкай уніі) / С. Марозава, Т. Казакова, Ю. Бохан і інш.; Пад рэд. М. В. Біча і П. А. Лойкі. – Мн.: НКФ «Экаперспектыва», 1996. – С. 88.

1795 г. здымалі ўсялякія абмежаванні для пераварочвання ўніятаў у праваслаўе. Даследчык гісторыі дэўнізацыі ў Мінскай епархіі С. Рункевіч адзначыў у першым указе схаваны «палітычны інтарэс», выкліканы распачатым мяцежом[112].

Вялікую ролю на гэтым этапе знішчэння ўніі адыграў мінскі, ізяслаўскі і брацлаўскі архіепіскап Віктар Садкоўскі. У сваёй епархіі ён абнародаваў пастырскую грамату ўніятам аб свабодным іх вяртанні ў нетры праваслаўя. Як на гэта адрэагавалі ўніяты Міншчыны, С. Рункевіч піша наступнае.

Калі з уніяцкай царквой на Украіне было пакончана, узяліся за Мінскую губерню. Але ўз'яднанне тут не мела такіх спрыяльных вынікаў, як на Украіне, – з першых крокаў узніклі сур'ёзныя замяшальніцтвы. Пасля першага абнародавання пастырскай граматы летам 1794 г. далучылася ўсяго адна царква з 849 прыхаджанамі.

З самага пачатку абнародавання пастырскай граматы ўніяцкія святары ўзбуджалі супраць яе народ. Яшчэ да выезда благачынных «на справу» ўніяцкае начальства паспяшала сабраць сваё духавенства і па-свойму падрыхтаваць яго да блізкай падзеі. Некаторыя святары пры набліжэнні благачынных да прыхода ад'язжалі і забіралі з сабой ключы ад царквы. Ламаць царкоўныя дзверы, каб потым асвяціць яе па праваслаўнаму абраду, было, канешне, нязручна. Там, дзе ключы заставаліся ў руках прыхаджан, святар прыхопліваў з сабой царкоўнае начынне, грошы, богаслужбовыя кнігі. Памешчыкі, асабліва дробныя, аканомы, управіцелі з'яўляліся яшчэ больш сур'ёзнымі ворагамі справы ўз'яднання, чым духавенства.

Былі пушчаны чуткі, што благачынныя – гэта «антыхрыставы апосталы», разасланыя па ўсяму свету, што хутка наступіць скон стагоддзя, а цяпер настаў цяжкі час выпрабаванняў для вернікаў.

Далучэнне ўніяцкіх святароў у Мінскай губерні было рэдкім выпадкам. Віктар спадзяваўся на далучэнне безумоўна ўсіх святароў, чые прыходы былі павернуты ў праваслаўе. Ён не чакаў, што лік «упорствующих» будзе такім вялікім: «Страшна было пакідаць за сабой непазбежнымі ворагамі цэлыя сотні старых, вопытных,

[112] Рункевич С. История Минской архиепископии (1793–1832 гг.) с подробным описанием хода воссоединения западнорусских униатов с православной церковью в 1794–1796 гг. – СПб.: Типогр. А. Катанского и К., 1893. – С. 271.

зжыўшыхся са сваімі прыхажанамі святароў». Таму выклікалі 60 святароў са Смаленскай епархіі. Яны прыбылі ў сярэдзіне лістапада. Віктар размеркаваў іх па вакантных прыходах[113].

Ва ўказе Сіноду ад 10 студзеня 1795 г. Кацярына II загадала такія пастырскія граматы апублікаваць у Магілёўскай і Полацкай губернях. Адказнасць за гэта яна ўсклала на магілёўскага архіепіскапа Г. Каніскага[114]. Ад беларускага генерал-губернатара П. Пассека Сінод запатрабаваў рупліва назіраць, каб пры гэтым вяртанні «ўсялякі непарадак і неспакой былі адхілены» і каб ніхто з мясцовых памешчыкаў, чыноўнікаў і духоўных асоб «не адважыўся рабіць найменшай у тым перашкоды»[115].

Пасля смерці Г. Каніскага ўгаворная грамата да ўніятаў была выдадзена Сінодам ад імя яго пераемніка Афанасія. 18 мая Сінод загадаў Афанасію чытаць гэту грамату ва ўсіх гарадах і вёсках у праваслаўных цэрквах Магілёўскай і Полацкай губерняў, дзе ёсць уніяты, а таксама, па ўзгадненню з генерал-губернатарамі абедзвюх губерняў, там, дзе праваслаўных цэркваў няма[116]. У Полацкую губерню быў накіраваны падрыхтоўваць глебу для далучэння ўніятаў ігумен Куцеінскага манастыра Давыд, які прадстаўляў тут магілёўскага архіепіскапа Афанасія.

Паводле сінадальнага ўказа ад 18 мая 1795 г., уніяцкія цэрквы, большасць прыхаджан якіх згаджаліся кінуць унію, падлягалі перадачы ў праваслаўнае ведамства. Уніяцкага святара, які разам з народам пераварочваўся ў праваслаўе, на тым жа прыходзе і пакідалі. Той, хто перайсці адмаўляўся, падлягаў выдаленню з гэтага прыхода. На яго месца прызначалі «годнага з … праваслаўнага духавенства». Да такога прыхода ўніяцкае духавенства і начальства ніякага дачынення ўжо не магло мець[117].

Дзеля беспярэчнага выканання ўказа 18 мая беларускі генерал-губернатар П. Пассек 25 мая 1795 г. загадаў даручыць назіранне

---

113 Рункевич С. История Минской архиепископии (1793–1832 гг.) с подробным описанием хода воссоединения западнорусских униатов с православной церковью в 1794–1796 гг. – СПб.: Типогр. А. Катанского и К., 1893. – С. 213–214, 216–217, 243–244, 250, 253–254.

114 Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов в Белоруссии 1795–1805 годов. – Киев: Типогр. И.И.Горбунова, 1902. – С. 1–2.

115 Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 2–3.

116 Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 2.

117 Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 3–4.

за яго рэалізацыяй па гарадах гараднічым, а ў паветах і вёсках – страпчым[118].

Першымі выканаўцамі ўказа ад 18 мая 1795 г. былі магілёўскі губернатар Г. І. Чарамісінаў і полацкі губернатар М. П. Лапацін.

Лапацін заўзята ўзяўся за справу «ўз'яднання» ўніятаў. 8 чэрвеня 1795 г. ён раіў ігумену Давыду камандзіраваць у гарады і вёскі групу з духоўных і свецкіх асоб, якая б перамяшчалася з месца на месца, зачытвала ўсюды грамату і ўказ і складала паіменныя ведамасці тых, хто перавярнуўся ў праваслаўе, і ведамасці аб колькасці тых, хто перавярнуцца не пажадаў. Камандзіраваным на месцы чыноўнікам было загадана неадкладна паведамляць у Полацкае намесніцкае праўленне пра ўсіх тых, хто будзе перашкаджаць уз'яднанню, «для аддачы пад суд і секвестра іх маёнтка»[119].

Полацкі губернатар выклікаў да сябе ўніяцкіх святароў і пераконваў змяніць веру. Але яны «адмовіліся кінуць унію: ніводзін не згадзіўся быць праваслаўным». «Ад гэтага мы і разумеем, – паведамляў магілёўскаму епіскапу ў канцы чэрвеня 1795 г. ігумен Давыд, – што поспехі нашы будуць безнадзейныя». Старац Давыд асуджаў неабачлівасць полацкага губернатара, які падкрэсліў уніяцкім папам, што Кацярына II не прымушае, але дае волю далучыцца да праваслаўя. Справа ўз'яднання ўніятаў Полацкай губерні, як лічыў Давыд, была яшчэ да яе пачатку сапсавана Лапаціным, які замест належнага ўгаворвання ўніяцкага духавенства даў яму повад умацавацца ў сваёй упартасці, і пачалася тут няўдала[120].

Полацкі ўніяцкі архіепіскап Іраклій Лісоўскі ў гэты час склікаў падначаленае духавенства і пераконваў, «каб моцна стаялі і ніхто не надумаў ад уніі адстаць». Калектыўная адмова духавенства адбілася на настроях народа. Цяжкасці сустрэліся ўжо ў самім Полацку: «ніякі прапанаваны ім (уніятам – С. М.) выратавальны сродак, ні прымусовы на ўнію перавод змякчыць іх не можа». Палачане спасылаліся на духавенства: «Калі тыя правадыры і пастыры нашы спачатку згодзяцца, то і мы ўслед за імі пойдзем»[121].

Як ні намагаліся высланыя на месцы камісіянеры схіліць вернікаў да пануючай веры, «але яны, папярэджаныя настаўленнямі

[118] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 6.
[119] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 8.
[120] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 9–11, 17.
[121] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 11, 17.

сваіх святароў, ніяк да таго не схіляюцца, але зацвярджаюцца ва ўніі». Ды й каталіцкае духавенства актывізавалася: перашкаджала пераварочванню ўніятаў у праваслаўе, схіляла іх у сваю «рымскую рэлігію». Місія ігумена Давыда праваліліся. Сам ён пісаў Афанасію: «…Наша тут прабыванне…, калі не будуць адкрыты … больш надзейныя да пераварочвання ўнітаў сродкі, … з’яўляецца зусім дарэмным»[122].

Магілёўскі епіскап Анастасій (з 1798 г.), пераемнік Афанасія, так ацаніў сітуацыю ў рэгіёне, якая склалася ў 1794 – 1795 г., і ў сувязі з ёй свае шансы адносна пераварочвання ўніятаў: «Як ні прыхільна распасцёр расійскі прастол запрашэнне ўніятаў да праваслаўя», аднак свецкія ўлады ўсё сапсавалі[123]. На думку Анастасія, непаслядоўна павёў сябе пасля кацярынінскага маніфеста аб вяртанні ўніятаў полацкі губернатар М. П. Лапацін. Ён склікаў у Полацк уніяцкіх святароў для пераканання іх прыняць праваслаўе, а сам даў ім знаць, што яны могуць заставацца ў сваёй веры. Полацкаму архіепіскапу Іраклію Лісоўскаму ён нават дазволіў благаславіць падпарадкаваны таму клір трымацца ва ўніі. Таму ў Полацкай губерні – гэтым «сядалішчы ўніяцтва» – імператарскі маніфест не падзейнічаў. І хоць беларускі генерал-губернатар Пасек у сваім рэскрыпце полацкаму губернатару адзначыў гэткую яго неасцярожнасць, а фактычна – парушэнне найвышэйшай волі, справа пераварочвання ўніятаў «з самага пачатку была сапсаваная». Гэтакай яна засталася і надалей[124]. У Беларускай губерні, зрабіў на гэтай падставе выснову епіскап Анастасій, унія мае «моцную падпору» ў асобе свецкай улады.

Чыноўнік Г. Дабрынін, які ўзначаліў групу людзей, камандзіраваных магілёўскім губернатарам Г. Чарамісінавым у Сенненскі павет для пераварочвання ўніятаў, пра выкананне гэтага задання напісаў у сваіх «Запісках» наступнае: «Усіх цэркваў уніяцкіх у Сенненскім павеце трыццаць тры, якіх усе мы наведалі. Да кожнай царквы збіралі прыхаджан, … пры кожнай чыталі ім распараджэнні, прадпісанні, пыталіся пра свабодную схільнасць іх да перамены веры, ці, лепей сказаць, да аднаго толькі перанайменавання веры. Угаворвалі іх праз духоўнага дэпутата і не займелі

[122] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 11–13.
[123] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 79. – Спр. 628. – Арк. 42.
[124] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 79. – Спр. 628. – Арк. 1, 35–35 адв.

ніводнай душы, якая б жадала адстаць ад уніі і прыстаць да грэка-расійскай царквы»[125].

Незгаворлівых уніятаў аднаго з казённых маёнткаў Быхаўскага павета далучаў да пануючай веры сам магілёўскі губернатар Чарамісінаў з атрадам кананіраў і гарматай. Калі атрад набліжаўся да вёскі, губернатар загадаў даць залп з гарматы. Напужаныя стрэлам нечуванай раней моцы, вяскоўцы схаваліся ў лесе. Калі іх сабралі, губернатар пачаў дакараць, навошта яны супраціўляюцца, – «вера ўсё ж адна, тая ж хрысціянская». На гэта адзін стары адказаў: «Калі б табе загадвалі прыняць нашу веру, а ці захацеў бы ты быць уніятам?» Губернатарская місія поспеху тады так і не мела[126].

Першых працаўнікоў-«уз’яднаўцаў» непакоіла тое, што «чэрнь, падгавораная ксяндзамі, можа захвалявацца і зняславіць нас прымусовым пераварочваннем»[127]. Калі пераварочвалі прыхаджан царквы св. Казьмы і Дзем’яна ў Рагачове, мясцовых базыльян, якія засталіся ва ўніі, з царквы выдалілі і папярэдзілі, што калі пачнуць контрагітацыю, з імі паступяць як з мяцежнікамі[128].

Справа пераварочвання ўніятаў натыкалася на ўсё большы супраціў. 10 ліпеня 1795 г. П. Пассек прадпісаў начальнікам губерняў тых духоўных асоб, якія перашкаджаюць пераварочванню ўніятаў, арыштоўваць і аддаваць крымінальнаму суду, а ў памешчыкаў – яшчэ і секвестроўваць маёнткі. Тым не менш, «народныя бунты» сталі «сумнай з’явай» таго «ўз’ядання» ўніятаў[129].

Місіянеры ўгаварылі сялян мястэчка Мікулін Бабінавецкага павета, 2118 чалавек, далучыцца да праваслаўя. Афанасій паслаў туды сваіх святароў. Але калі тыя збіраліся перавярнуць царкву, пачаўся бунт. На званіцы забілі ў набат. Уніяцкі паповіч Томаш не даў ключы ад царквы, каб сарваць пераварочванне. Калі камандзіраваныя яе апячаталі, пячатку ўзламалі і сталі слухаць вячэрню ўніяцкага свя-

---

[125] Истинное повествование, или Жизнь Гавриила Добрынина, им самим писанная в Могилеве и в Витебске. 1752–1823. – СПб.: Печатня В. И. Головина, 1872. – С. 298.

[126] Истинное повествование, или Жизнь Гавриила Добрынина, им самим писанная в Могилеве и в Витебске. 1752–1823. – СПб.: Печатня В.И.Головина, 1872. – С. 301–302.

[127] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 11.

[128] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 13.

[129] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 18, 21.

тара. Хваляваліся нават тыя, хто выказаў жаданне далучыцца[130]. Пасланцы Афанасія так «ні з чым адтуль з’ехалі, і ў іншыя месцы, з-за стварэння яўных перашкод і бунтаў, ехаць … для схілення ўнітаў … не адважваюцца»[131].

Паводле існуючага заканадаўства, для пераварочвання была патрэбна згода большасці прыхаджан. Каб не даць гэтай большасці, памешчыкі-«іншаверцы» зацвярджалі сялян ва ўніі, вучылі ўпарціцца пераварочванню – тады, маўляў, і царква за вамі застанецца. Тых паноў, якія перашкаджалі пераварочванню ўніятаў, аддавалі пад суд. Але суддзі-аднаверцы іх апраўдвалі і адпускалі дахаты.

Тады Афанасій стаў хадайнічаць перад Сінодам аб дазволе асвячаць храм, калі нават меншая частка прыхода выкажа жаданне далучацца. 13 верасня той выдаў указ, які дазваляў пераасвячаць царкву, калі колькасць далучаных уніятаў будзе дастатковай для ўтварэння прыхода. На падставе гэтага ўказа 26 верасня 1795 г. была паравернута Мікулінская царква[132].

Узбунтаваліся таксама жыхары мястэчка Любавічы Аршанскага павета, якія належалі князю К. С. Любамірскаму. Афанасій дакладваў Сіноду, што гэтыя «бунты» выклікаюць сярод уніятаў «celoзнымі злохітрымі спосабамі» каталіцкае духавенства, шляхта і адміністрацыя маёнткаў. Па іх падбухторванню вяртаюцца ва ўнію нават тыя, хто ўжо перайшоў у праваслаўе[133].

У 1795 г. былі паравернуты абедзве цэрквы мястэчка Любавічы Аршанскага павета, але, як вынікае з дакументаў Сінода, мяшчане «да такой ступені распасцерлі дзёрзкасць», што назаўтра раніцай «са страшнымі пагрозамі» прагналі са сваёй царквы новага святара, які вёў богаслужэнне, і «ўніяцкі святар Каліноўскі справіў сваё богаслужэнне»[134].

Нібыта выказалі «добраахвотнае жаданне» далучыцца да пануючай веры і нават пісьмова «прасілі» асвяціць іх царкву прыхаджане Куляшоўскай царквы Клімавіцкага павета. Але калі туды прыбыў святар, яго да асвячэння не дапусцілі[135].

[130] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 21–23.
[131] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 23.
[132] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 23–24.
[133] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 24–25.
[134] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 79. – Спр. 628. – Арк. 46 адв.–47.
[135] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 79. – Спр. 628. – Арк. 46.

У вёсцы Хатавіжы Крычаўскага павета святарамі былі бацька і сын Пяскоўскія. У 1795 г. сын з прыхаджанамі прыняў праваслаўе, стары ж застаўся ва ўніі. Паміж імі пачаўся разлад. Бацька спакушаў прыхаджан назад ва ўнію. Сын данёс. На Пяскоўскага-старэйшага завялі судовую справу[136].

Сяляне вёсак Саламарэчча і Мацкі Мінскага павета заявілі праваслаўным агітатарам: «У якой веры нарадзіліся, у той і памрэм, якую веру дзяды мелі, не ведаем, але сваёй веры ламаць не будзем, хаця б нам зламалі й галовы». На настойлівую прапанову «ўз'яднацца» жыхары вёскі Бранчыцы Слуцкага павета адказалі: «Бі нас, катуй, куй, а мы застанемся ва ўніяцкай веры»[137]. Прыхаджане «занятых» у 1795 г. на пануючую рэлігію Целеханскай, Обраўскай, Добравіцкай, Выганаўскай, Глінянскай і шэрагу іншых цэркваў Пінскага павета выказалі цвёрды намер застацца «ва ўніяцкай рэлігіі, у якой іх бацькі, дзяды, прадзеды» былі «і без аніякай перашкоды яе вызнавалі, якую з персяў сваіх маці высcалі»[138]. Сяляне вёскі Макрыдна Чавускага павета, нягледзячы на пагрозы, адмовіліся мяняць веру.

Магілёўскі епіскап заклікаў Сінод прыняць рашучыя меры супраць «уніяцкіх «дзёрзкіх бунтаў», бо яны ставяць справу ўз'яднання на мяжу зрыву[139]. Обер-пракурор Сінода Мусін-Пушкін папярэджваў яго пра асцярожнасць і разважнасць, з якімі трэба паступаць у гэтай справе, паколькі яна сустрэла супрацьдзеянне[140].

Паміж другім і трэцім падзеламі Рэчы Паспалітай на яе былых абшарах ад уніі адышло да праваслаўя 1.572.067 чалавек ў Літве, Беларусі, Украіне, Валыні, Падоллі[141]. Пасля пагрому 1794–1795 г. на Украіне засталося толькі 200 уніяцкіх цэркваў[142]. Беларускія ўніяты аказаліся больш адданымі сваёй веры. За другую хвалю дэўнізацыі, якая прыйшлася на жнівень 1794 – сакавік 1795 г., у Беларусі

[136] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 52–53.

[137] Рункевич С. История Минской архиепископии (1793–1832 гг.) с подробным описанием хода воссоединения западнорусских униатов с православной церковью в 1794–1796 гг. – СПб.: Типогр. А.Катанского и К., 1893. – С. 255.

[138] РДГА. – Ф. 823. – Воп. 2. – Спр. 1301. – Арк.1.

[139] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 24–25.

[140] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 26.

[141] Likowski E. Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku uważane głównie ze względu na przyczyny jego upadku. – Warszawa: Druk.P.Laskauer, 1906. – Cz. 1–2. – S. 249.

[142] Paszkiewicz P. W służbie Imperium Rosyjskiego. 1721–1917: Funkcje i trześci ideowe rosyjskiej architektury sakralnej na zachodnich rubieżach cezarstwa i poza jego granicami. – Warszawa: Instytut sztuki Polskiej Akademii nauk, 1999. – S. 79.

ўніяцкая царква асірацела яшчэ на 80 тысяч чалавек у Магілёўскай губерні і на 120 тысяч у Мінскай[143]. Вядома, што для правядзення місійнай працы сярод уніятаў Віктару Садкоўскаму было дазволена выкарыстоўваць вайсковыя атрады[144].

Наступ набыў тады такія застрашальныя формы, што, здавалася, уніі пагражаў канец. Уніяцкаму мітрапаліту Феадосію Растоцкаму ўказам Кацярыны II ад 1795 г. была вызначана пенсія ў памеры 6 тысяч рублёў з правам жыхарства ў Рыме або ў Пецярбургу. Заставацца ў месцах пражывання ўніятаў яму забаранялася[145]. Уніяцкім святарам, якія адмовіліся прыняць праваслаўе разам з прыходамі, дазвалялася выехаць за мяжу. Тым, хто эміграваць не жадаў, вызначалася пенсія ад 50 да 100 рублёў штогод[146].

Але наступ на ўніяцкую царкву выклікаў узмоцнены адпор народа і духавенства, які сарваў і гэту ўрадавую акцыю аправаслаўлівання Беларусі.

Пасля падаўлення паўстання Т. Касцюшкі імпэт ураду да аправаслаўлівання ўніятаў астыў. Калі гэта стала ім зразумела, супрацьдзеянне «ўз'яднанню» асабліва ўзмацнілася. Насельніцтва Полацкай і Магілёўскай губерняў, як паведамляў 22 сакавіка 1796 г. обер-пракурору Сінода епіскап Афанасій, «в вере развращаются» і гавораць, што «маўляў, яны быць у праваслаўнай веры не жадаюць, але жадаюць па-ранейшаму перавярнуцца ва ўніяцкую»[147]. Ад паноў, кліру, прыходаў пасыпаліся прашэнні аб вяртанні адабраных цэркваў. Мінскаму і беларускаму губернатарам ў сувязі з гэтым было прадпісана спыніць «спакушэнні» новаправаслаўных ва ўнію і пабудову ўніяцкіх цэркваў там, «дзе ў іх няма асаблівай патрэбы»[148].

13 мая 1796 г. Афанасій канстатаваў у лісце да обер-пракурора Сінод, што ў пераварочванні ўніятаў «належнага … поспеху не відаць», і прасіў «да выпраўлення таго карысныя прыняць меры»[149].

---

[143] Сосна У. Уніяцкае пытанне ў беларускай вёсцы ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400-годдзя Брэсцкай уніі) / С. Марозава, Т. Казакова, Ю. Бохан і інш.; Пад рэд. М. В. Біча і П. А. Лойкі. – Мн.: НКФ «Экаперспектыва», 1996. – С. 96.

[144] Історія релігії в Україні: В 10 т. – Т. 4: Католицизм / За ред. П. Яроцького. – Київ: Видавніцтво «Світ знань», 2001. – С. 297.

[145] ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 3. – Спр. 98. – Арк. 1–1 адв.

[146] ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 3. – Спр. 98. – Арк. 2.

[147] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 30, 59.

[148] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 79. – Спр. 628. – Арк. 89.

[149] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 33.

Дрэнна заахвочаная зверху, не зусім умела ведзеная на месцах, справа ўз'яднання ўніятаў, як пісаў П. С. Гаручка, «урэшце толькі абурыла і без таго неспакойны край»[150]. Унія ў XIX ст., на яго думку, – не больш чым памылка расійскага ўраду. Гісторык кінуў абвінавачванне Кацярыне II за тое, што абавязак ураду – «падтрымку нацыянальных памкненняў праваслаўных» – яна, хоць і выконвала, але «даволі легкадумна», распачаўшы «ўз'яднанне» ўніятаў без належнай падрыхтоўкі[151]. Няўменне, адсутнасць вопыту, паспешнасць, часам даходзіўшая да фанатызму рэўнасць, моцнае супрацьдзеянне не дазволілі ў канцы XVIII ст. карэнным чынам пахіснуць канфесійную структуру насельніцтва Беларусі на карысць праваслаўя. А змена курса дзяржаўнай палітыкі прывяла да рэўнізацыі наступных гадоў. Ліберальная нацыянальна-рэлігійная палітыка Паўла I прыпыніла пачаты Кацярынай II перавод уніятаў у праваслаўе. Да 90% «уз'яднаных» уніятаў вярнуліся тады ў сваю веру[152]. Сяляне казалі: «Государыня матушка умерла, то и все указы ее пропали»[153].

## *Мяцежныя бадзягі*

Адной з прычын масавага адпадзення назад ва ўнію стала дзейнасць святароў, адлучаных ад сваіх прыходаў за нязгоду разам з імі перайсці ў праваслаўе. Пазбаўленыя прыходаў, яны заставаліся жыць у перавёрнутай вёсцы. Падтрыманыя памешчыкамі і адміністрацыяй маёнткаў, яны, па словах тагачаснага дакумента, самавольна праводзілі богаслужэнні, нават для новаправаслаўных, і тым «спакушаюць іх у свой закон і ў прыходах чыняць немалыя хваляванні».

У пагосце Гультаева Невельскага павета два святары з прыхаджанамі ў жніўні 1795 г. добраахвотна далучыліся да праваслаўя. Праз паўгода яны сталі прасіць дазволу вярнуцца ва ўніяцкую веру і шматлікіх прыхаджан разам з сабой «спакусілі». Тлумачылі тым, што прывыклі да ўніяцкіх абрадаў, і ім цяжка весці праваслаўнае богаслужэнне[154].

[150] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 36.

[151] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 61.

[152] Коялович М. О. История воссоединения западнорусских униатов старых времен (до 1800 года). – Мн.: Лучи Софии, 1999. – С. 362–363; Никольский Н. М. История русской церкви. – Мн.: Беларусь, 1990. – С. 289.

[153] Коялович М. О. История воссоединения западнорусских униатов старых времен (до 1800 года). – Мн.: Лучи Софии, 1999. – С. 368.

[154] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 29.

Пазбаўлены пасады, але не выдалены з перавернутага прыхода святар Забелышынскай царквы Магілёўскай губерні К. Стратановіч «хваляваў» сялян, рабіў «ілжывыя … на ўказы тлумачэнні», не пускаў сялян на богаслужэнне да свайго праваслаўнага пераемніка, цягаў яго за валасы і піхаў, праганяў з царквы, на што той скардзіўся начальству[155].

Вясной 1796 г. праблема бязмесных святароў паўстала асабліва востра[156]. Яны раптам сталі істотнай перашкодай на шляху перакройвання канфесійнай карты ўсходу і цэнтра Беларусі. Обер-пракурор Сінода Мусін-Пушкін 3 красавіка 1796 г. загадаў тэрмінова выдаляць уніяцкіх святароў ад цэркваў, далучаных да праваслаўя, забараніць ім жыць у тых вёсках і адпраўляць да ўніяцкага архіепіскапа І. Лісоўскага для размяшчэння па іншых прыходах[157].

Выдаленне з прыхода было суровым пакараннем, бо несла, побач з рэлігійнымі, значныя маральныя і матэрыяльныя выдаткі. Прыход, па большай частцы, замяшчаўся па спадчыне. Святар быў звязаны з ім родавымі паданнямі, маёмасцю. Каб не пазбавіцца наседжанага месца, шмат хто з духавенства згаджаўся ўз'яднацца. Адданыя ж уніі адстойвалі сябе ўсімі спосабамі.

Са смерцю Кацярыны ІІ гэтыя бязмесныя святары (толькі ў Мінскай губерні ў 1801 г. такіх было 103 чалавекі[158]) пераўтварыліся ў небяспечны каталізатар народнага незадавальнення. Яны хадзілі па вёсках, несучы людзям сваю крыйду і абурэнне, заклікалі іх моцна трымацца сваёй веры. Іх дзейнасць набыла пагрозлівыя маштабы для дзяржаўнай рэлігійнай палітыкі ў заходніх губернях.

За «ўніяцкую ўпартасць» у 1796 г. былі накіраваны на разборку да мітрапаліта чатыры святары з Барысава[159]. Папом Я. Касперскім, які ў сакавіку 1796 г. пасылаў па свайму прыходу дзяка з указамі-заклікамі трымацца веры бацькоў і вярнуў у яе сялян вёскі Пукова, займаўся Слуцкі суд. Мяцежнага святара ў гэты час трымалі пад вартай у калодках[160]. Новаправаслаўныя вёскі Падгацце (Пінская акруга) у 1797 г. прынялі да сябе папа-выгнанца Чарнякоўскага, а ў праваслаўнага сілай адабралі ключы ад царквы. Таму сельскай

[155] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 29–30.
[156] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 26.
[157] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 31.
[158] НГАБ. – Ф. 3245. – Воп. 2. – Спр. 3. – Арк. 7, 10, 25 адв.
[159] РДГА. – Ф. 823. – Воп. 2. – Спр. 2880. – Арк. 1–2.
[160] РДГА. – Ф. 823. – Воп. 2. – Спр. 2925. – Арк. 1.

паліцыі Мінскай губерні было загадана неаслабна сачыць, каб уніяцкіх папоў у новаправаслаўных вёсках не толькі на суткі, але нават на гадзіну не прымаць і не цярпець, бо ім, маўляў, болей няма там аніякай справы, як толькі «совращать простолюдинов с правого пути», а калі з'явяцца, арыштоўваць[161].

Пасля пераварочвання прыхода і царквы сяла Краснага Чэрыкаўскага павета яе былы святар пабудаваў непадалёку ад вёскі капліцу і перацягнуў да сябе жыхароў 180-ці дамоў, пакінуўшы свайму праваслаўнаму пераемніку Савінічу толькі 30; абнадзейваў прыхаджан вяртаннем іх царквы ва ўнію. На што Савініч і скардзіўся 24 лютага 1798 г. беларускаму епіскапу Анастасію[162].

Трэцяга жніўня 1798 г. Анастасій хадайнічаў перад Сінодам не дазваляць адлучаным уніяцкім папам жыць «у перавернутых прыходах, знявечаных то рознагалоссем, то markнымі ўхіламі, то ўніяцкай моцай», а таксама забараніць будаваць новыя ўніяцкія цэрквы[163].

Аднаўленне пасады ўніяцкага епіскапа, скасаванй Кацярынай II, разам з масавым адпадзеннем ад праваслаўя, натхніла і новадалучаных святароў падчас прыезду епіскапа вярнуцца ў сваю веру. Свой намер яны тлумачылі наступным чынам: далучыліся да праваслаўя, маўляў, думаючы, што і іншыя далучацца. Няма ніякай надзеі, як пісаў 2 красавіка 1799 г. са Слуцка ў Пецярбург мінскі і валынскі архіепіскап Іоў, што такія святары адкінуць свае дрэнныя думкі. Яны і прыхаджан схілялі да вяртання ва ўнію[164]. Дарэмна намагаліся епіскап Іоў і мінскі губернатар «спыніць разбэшчванне далучанага народа недалучанымі ўніяцкімі святарамі»[165].

## *«Государыня матушка умерла, то и все указы ее пропали»: рэўнізацыя*

Пасля падаўлення паўстання Т. Касцюшкі і смерці Кацярыны II «яшчэ не зацверджаныя ў праваслаўнай веры ўніяты» сталі масава «ўхіляцца (назад – С. М.) ва ўнію».

З паездкі па Мінскай губерні ў маі 1797 г. Павел I вынес меркаванне, што «абывацелі не жадаюць хадзіць» у свае перавернутыя

[161] РДГА. – Ф. 823. – Воп. 2. – Спр. 2934. – Арк. 1–5.

[162] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 36.

Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 49–51.

[163] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 79. – Спр. 628. – Арк. 2 адв.–3.

[164] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 79. – Спр. 628. – Арк. 37–37 адв.

[165] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 79. – Спр. 628. – Арк. 36.

цэрквы[166]. Цэлыя вёскі пераставалі наведваць іх[167]. Па словах больш позняга дакумента, абсалютная большасць прыходаў перавернутых у 1794–1803 г. 48-мі цэркваў Мінскай губерні поўнасцю або часткова «нязменна застаюцца ва ўніі»[168].

Сяляне вёскі Нача Бабруйскага павета, якія ў прысутнасці паліцэйскіх і салдат у 1795 г. «аднагалосна» пажадалі змяніць веру, на каленях прасілі новага імператара, калі ён наведваў Начу, пакінуць іх уніятамі, бо «больш за 200 гадоў бацькі нашы былі ва ўніяцкай веры». Для запалохвання астатніх трох чалавек ўзялі пад варту і аддалі пад суд. У вёску накіравалі роту грэнадзёраў «для спынення непакою, які паходзіць ад былых уніятаў». Сялянам нічога не заставалася, як прысягнуць ад новай веры ніколі не адступацца[169].

Але спыніць працэс рэўнізацыі ўладам не ўдавалася. У Сінодзе, Сенаце ламалі галаву над тым, як утрымаць уніятаў у праваслаўі. 13 мая 1797 г. Павел I загадаў мінскаму губернатару Карнееву асабіста разабрацца ў прычынах «ухілення новаправаслаўных» і прыняць меры «па аднаўленню спакою ў тамашнім краі».

Правёўшы расследаванне, губернатар рапартаваў Паўлу I аб знойдзеных ім сродках аднаўлення паміж уніятамі спакою. Сялян, зрабіў назіранне Карнееў, пабуджалі да пераварочвання надзеямі на змяншэнне падаткаў і павіннасцяў, якія не спраўдзіліся. Уніяцкіх папоў не выдалілі з прыходаў, таму яны ўсялякімі сродкамі спакушаюць новаправаслаўных ва ўніяцтва, знеслаўляюць праваслаўе і хваляць унію. Адсюль і адбыліся тыя «ўяўныя бунты», якія падаўлялі нават агнястрэльнай зброяй.

Так 28 ліпеня 1797 г. з’явіўся імператарскі загад пакінуць свабоду веравызнання тым жыхарам, якія, будучы далучаны з уніі, «цяпер ад хаджэння ў праваслаўныя цэрквы … ўхіляюцца». Хросныя хады, каб не даваць падстаў для хваляванню, дазвалялася мець «па ранейшаму тамашняму звычаю»[170].

---

166 Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. – Т. 2: 1701–1839. – СПб., 1907. – С. 567.

167 Коялович М. О. История воссоединения западнорусских униатов старых времен (до 1800 года). – Мн.: Лучи Софии, 1999. – С. 359.

168 РДГА. – Ф. 823. – Воп. 2. – Спр. 3085.

169 Даўгяла З. Урадавыя адносіны да уніятаў на Меншчыне ў часы Паўла I // Гістарычна-археологічны зборнік. – Менск, 1927. – № 1. – С. 131–151.

170 РДГА. – Ф. 468. – Воп. 43. – Спр. 626. – Арк. 18.

11 верасня 1797 г. данясенне Карнеева разглядаў Сінод. Галоўнай прычынай «гэтага народнага ўхілення» духоўнае ведамства імперыі, на падставе данясення мінскага губернатара, убачыла ў новых святарах, прысланых са Смаленскай губерні. Многія з іх «не былі ўмелымі не толькі ў сваіх ведах, але і ў лагодным абыходжанні з народам» – дзейнічалі грубымі метадамі, вымагалі грошы за рэлігійныя паслугі – «і тым зрабіліся агіднымі народу».

Воля імператара беларускаму епіскапу была наступнай: тэрмінова адаслаць назад у Смаленскую епархію тых святароў, якія сваімі дзеяннямі дыскрэдытуюць кацярынінскую справу ўз’яднання ўніятаў. На іх месца прызначыць іншых, лагодных святароў. Праваслаўнае духавенства абавязаць абыходзіцца з перавернутымі ласкава, не прымяняць да іх ніякага прымусу, грошы за трэбы з іх не браць, каб тыя ўбачылі выгоды быць у праваслаўі ў параўнанні з уніяй[171].

Малы даход, цяжкасці працы з новаправаслаўнымі, тэндэнцыя іх вяртання ў сваю веру мелі сваім вынікам тое, што праваслаўнае духавенства закідвала вышэйшыя інстанцыі скаргамі і даносамі. Па патрабаванню губернскага праўлення магілёўскі епіскап Анастасій 28 жніўня 1798 г. распарадзіўся, «каб яны пустых даносаў і скаргаў аб спакушэнні прыхаджан рабіць не адважваліся, прычыняючы тым адзіна памнажэнне спраў і абцяжэнне духоўнаму і грамадзянскаму начальству». Са свайго боку, начальства стала абвінавачваць беларускае праваслаўнае духавенства, што сваімі нядобрасумленнымі паводзінамі яно спрычынілася да адпадзення ўніятаў[172].

Аправіўшыся ад першых удараў, уніяцкая царква спрабуе ўзяць рэванш. Нягледзячы на ўсе прадпісанні Сената і Сінода «аб утрыманні перавернутых уніятаў ад спакушэння назад ва ўнію і спыненні размнажэння ўніяцкіх цэркваў і папоў», уніяты Беларускай губерні, як паведамляў у Пецярбург беларускі епіскап, «узмацняюцца і паспяваюць зноў ствараць цэрквы», узбуджаюць народ, «а асабліва гэта ў мястэчку Мікуліне, у гарадах Неўлі і Себежы, дзе гэтае духавенства ўсімі сіламі намагаецца ўкараніцца дзеля таго, каб перавернутых жыхароў вярнуць назад ва ўнію»[173].

[171] РДГА. – Ф. 468. – Воп. 43. – Спр. 626. – Арк. 18–19 адв.

[172] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов… – С. 51–52.

[173] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 79. – Спр. 628. – Арк. 83 адв.–84.

Весткі адна трывожней за другую паступалі ў Пецярбург:

- У Невелі «з яўна наўмыснай задумай былыя ўніяцкія папы Пацалуеўскі і Аляксандровіч будуюць новыя цэрквы для зусім малой колькасці прыхаджан».

- У вёсцы Мокрай Быхаўскага павета, нягледзячы на забарону кансісторыі, будуецца новая царква, а пры ёй – былы поп для «большего расстройства» знаёмых яму прыхаджан[174].

- У Мікуліне спакою быць не можа, бо ўніяцкі святар «усяляецца» у прыпісной царкве[175].

- «Уніяцкае духавенства ўсімі сіламі намагаецца ўкараніцца, каб перавернутых у праваслаўе жыхароў адцягнуць назад да ўніі»[176].

## *Себежскі і Люцынскі паветы Беларускай губерні, 1797 год: «Старательства здесь доселе были безуспешны и почти тщетны»*

Трывожныя весткі даходзілі ў 1797 г. у Сінод з Себежскага і Люцынскага паветаў Беларускай губерні. Нягледзячы на прадпісанні Полацкага намесніцкага праўлення, «іншаверцы не дапускаюць асвячаць належныя да таго цэрквы, уніяцкія святары ад гэтых цэркваў не выдалены, падбухторваюць да абурэння перавернутых прыхаджан, многіх з іх спакушаюць ва ўнію», а земскія суды ім у тым патакаюць. Магілёўскі епіскап прасіў Сінод прыняць меры «для спынення такіх шкодных дзеянняў, якія могуць пацягнуць за сабой нашмат горшыя наступствы»[177].

Як са зменай манархаў на расійскім троне адбывалася рэўнізацыя і як з ёй змагаліся мясцовыя і вышэйшыя духоўныя і свецкія ўлады імперыі, дае ўяўленне архіўная справа з фонда канцылярыі Сінода «о недопущении иноверцами (уніятамі – С. М.) к освящению … присоединенных из унии приходских церквей» у пагостах Лаўдэра, Буншыж і Брадайжскім прыходзе Люцынскага павета, а таксама ў пагосце Сойна Себежскага павета Беларускай

---

174 РДГА. – Ф. 796. – Воп. 82. – Спр. 23. – Арк. 1 адв.
175 РДГА. – Ф. 796. – Воп. 82. – Спр. 23. – Арк. 5 адв.
176 РДГА. – Ф. 796. – Воп. 82. – Спр. 23. – Арк. 29.
177 РДГА. – Ф. 796. – Воп. 78. – Спр. 614. – Арк. 1–10.

губерні[178]. Наўмысна захоўваем тыповую для той эпохі мову справаводства па ўніяцкіх справах.

Сялян названых населеных пунктаў кацярынінскі рэскрыпт ад 22 красавіка 1794 г. падзяліў – на тых, хто жадае прыняць пануючую веру, і тых, хто ўнію кідаць не хоча. Першых перавярнулі ў праваслаўе. Далей – справа за пераасвячэннем вясковых цэркваў. Вось тут і пачаліся збоі.

Полацкае намесніцкае праўленне прадпісала павятовым чыноўнікам, прадстаўніку суда і страпчаму з Люцына, ехаць у пагосты Лаўдэра і Буншыж «для отобрания и освящения церквей». Іх абавязалі забяспечыць у гэтай справе цішыню і спакой – «наблюсти, чтобы … не было ни малейшего ни от кого препятствия, а ежели бы таковый оказался, тот час взять под караул, представить в уездный суд для поступления по законам»[179].

Аднак мясцовыя чыноўнікі ў тым канфесійным раскладзе не спяшаліся пашыраць у сваім краі веру імперыі. Да пагостаў яны так і не даехалі, і гэтыя дзве цэрквы, як скардзіўся ў 1797 г. себежскі праваслаўны пратапоп Сцяпан Ліхіна магілёўскаму епіскапу, а той – у Полацкае намесніцкае праўленне, «и поднесь не отобрали» і ўніяцкіх святароў, што засталіся без прыхаджан, з вёсак не выдалілі[180].

Прайшоў 1796 год. У 1797 г. стала відавочнасць дарэмнасць затрачаных высілкаў на аправаслаўліванне сялян ў гэтым кутку этнаграфічнай Беларусі. 27 чэрвеня 1797 г. магілёўскі епіскап Афанасій пісаў у Сінод, што ранейшыя «старательства здесь доселе были безуспешны и почти тщетны»[181]. «Иноверцы» не даюць асвяціць уніяцкія цэрквы, прыхаджане якіх у 1795 – 1796 г. былі цалкам або часткова далучаны «из унии в благочестие»[182]. Уніяцкія святары «возмущают» «присоединившихся уже прихожан» і нават «совращают» «многих паки в унию». А мясцовае чынавенства «чинит» ім у тым «послабление» і не рвецца дапамагчы праваслаўным місіянерам[183].

---

178 РДГА. – Ф. 796. – Воп. 78. – Спр. 614. – 16 арк.
179 РДГА. – Ф. 796. – Воп. 78. – Спр. 614. – Арк. 2.
180 РДГА. – Ф. 796. – Воп. 78. – Спр. 614. – Арк. 2.
181 РДГА. – Ф. 796. – Воп. 78. – Спр. 614. – Арк. 1.
182 РДГА. – Ф. 796. – Воп. 78. – Спр. 614. – Арк. 11.
183 РДГА. – Ф. 796. – Воп. 78. – Спр. 614. – Арк. 11–12.

Святары Дзмітрый і Сямён Абухаў з Буншыжа і Васіль Тачыцкі з Лаўдэры, хоць іх справа і разглядаецца ў Люцынскім судзе «за чинимое препятствие против благочестия», бесперашкодна праводзяць у тых царквах уніяцкае багаслужэнне «и теми дерзкими своими и непозволительными поступками совершенный подали соблазн к отвращению от благочестия присоединенным тех церквей прихожанам».

Пад іх уплывам больш за 400 прыхаджан лавдеровской Петрапаўлаўскай царквы, якія ў 1795 г. далучыліся да праваслаўя, «первый год держались благочестия твердо», а ў 1797 г. «отвратились от благочестия», перасталі хадзіць у праваслаўную царкву, не маляцца і не пускаюць у свае хаты праваслаўных святароў з духоўнымі трэбамі. Гэтыя прыхаджане заявілі, «что ежели их приходская унитская лавдеровская церковь освящена не будет на благочестие, то и оне держаться благочестия не будут, а по-прежнему все останутся в унии»[184]. Святар Васіль Тачыцкі, «не удаленный по сие время от той лавдеровской церкви, уверяет их тайным образом, что та … церковь на благочестие отобрана быть не может, и оные прихожане как были его, так и будут, и таким средством удерживает их в унии»[185].

У сувязі з гэтым і новаправаслаўныя Буншыжскай царквы – 7 сялян – «много колеблются в содержании православия» і ходзяць на багаслужэнне да ўніяцкага святара, а ў праваслаўнай царкве, да якой прыпісаны, бываюць рэдка[186].

Аналагічныя падзеі адбываліся ў пагосце Сойна Себежскага павета. У 1796 г. соінскіх святароў і дзячка аддалі пад суд «за чинимое ими препятствие во становлении Православия и освящении той церкви на благочестие», за «совращение в унию», а некалькіх сялян прыхода – «за дерзость и преступление». Святароў прыводзілі да пакоры таксама высылкай з прыхода разам з сем'ямі. На сялян уздзейнічалі праз іх уладальніка пана Шадурскага. Ад яго запатрабавалі пісьмовае абавязацельства, што ён пераканае сялян, што соінская царква па колькасці прыхаджан павінна быць перавернута ў праваслаўе, і забароніць ім «чинить препятствия» ў яе пераварочванні. А ў выпадку іх непакоры «уже за них ответствовать будет сам помещик». «И таким образом, прекратя все неустройства, – прадугледжвала

184 РДГА. – Ф. 796. – Воп. 78. – Спр. 614. – Арк. 2 адв.–3.
185 РДГА. – Ф. 796. – Воп. 78. – Спр. 614. – Арк. 3 адв.
186 РДГА. – Ф. 796. – Воп. 78. – Спр. 614. – Арк. 2 адв.–3.

інструкцыя павятовым чыноўнікам, – отдать соинскую церковь в ведомство благочестивого священника»[187].

Вянчае архіўную справу копія імператарскага ўказа з Сінода беларускаму епіскапу Афанасію ад 16 сакавіка 1798 г. Ва ўказе гаварылася, «чтобы в принятии нужных мер к пресечению всяких злоупотреблений, происходящих от унитов к разврату жителей, обратившихся уже из Унии в благочестие, … а в рассуждении самых сих жителей ко удержанию их в благочестии» беларускі епіскап дзейнічаў у адпаведнасці з прадпісаннямі Сінода, дадзенымі яму раней[188].

Летам 1797 г. магілёўскі епіскап Афанасій прасіў у Паўла І урадавага распараджэння на далучэнне ўніятаў імперыі да грэка-расійскай царквы, што вырашыла бы ўсе праблемы. Імператар, хоць і выказаў упэўненасць, што «гэтым пастырам рухае адзіна рэўнасць да набожнасці, а не дух уладалюбства «, але яго прапанову адверг. «Пераконваць у справе веры сілай улады» – значыць, выдаць указ, які бы абавязаў, фактычна прымусіў усіх уніятаў перайсці ў праваслаўе, – такім быў імператарскі адказ. Маўляў, «схіляйце да сябе ўніятаў перакананнямі»[189]. У адрозненне ад праваслаўнага духавенства, вышэйшая свецкая ўлада тады яшчэ не была схільнай прымусова ўтрымліваць уніятаў у праваслаўі. Маніфестам ад 18 сакавіка 1797 г. Павел І забараніў прымусова ўтрымліваць у праваслаўі тых уніятаў, якія яго прынялі, але «не выходзяць з памылак» сваіх уніяцкіх[190].

Указам Сінода ад 24 верасня 1797 г. праваслаўнаму духавенству прадпісвалася быць далікатнымі з уніяцкімі святарамі, ухіляцца ад раздораў з імі ў веры, з уніятамі абыходзіцца ласкава, паблажліва[191]. Усе намаганні Афанасія пасля гэтага сталі дарэмнымі і беспаспяховымі. Ён не карыстаўся павагай паствы. Некаторыя яго распараджэнні выклікалі незадавальненне і нараканні. Таму 27 верасня 1797 г. Афанасій падаў у адстаўку. Яго змяніў 31 студзеня 1798 г. Анастасій, які прыбыў з Пецярбурга, з'яўляўся членам Сінода і па сваёй пасадзе прымаў удзел у вырашэнні ўніяцкага пытання[192].

---

187 РДГА. – Ф. 796. - Воп. 78. – Спр. 614. – Арк. 5–6 адв.
188 РДГА. – Ф. 796. – Воп. 78. – Спр. 614. – Арк. 11–13.
189 РДГА. – Ф. 468. – Воп. 43. – Спр. 626. – Арк. 17–17 адв.
190 РДГА. – Ф. 796. – Воп. 80. – Спр. 898. – Арк. 2.
191 Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов…– С. 37.
192 Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов…– С. 36.

Анастасій пачаў з вывучэння справы на месцы. Вынікам стала падрыхтаванае ім данясенне Сіноду «Унія ў Беларускай губерні» ад 3 жніўня 1798 г.[193] Уніяцкая справа, як ацэньваў яе Анастасій, будучы сапсаванай з самага пачатку (мелася на ўвазе заява полацкага губернатара Лапаціна, што ўніяты могуць застацца ў сваёй веры), гэткай жа засталася і надалей. Да праваслаўя далучыліся прыходы, размешчаныя на землях праваслаўных памешчыкаў; прыходы, чые вернікі не былі схільныя да сваіх уніяцкіх папоў, або дзе самі папы пажадалі кінуць унію; цэрквы, якія знаходзіліся бліжэй да праваслаўных духоўных улад і ў аддаленні ад кафедры ўніяцкага архіепіскапа І. Лісоўскага[194]. Сялян пабуджалі да пераварочвання надзеямі на змяншэнне падаткаў і павіннасцяў. Уніяцкіх папоў не выдалілі з прыходаў, таму яны ўсялякімі сродкамі спакушаюць новаправаслаўных ва ўніяцтва, знеслаўляюць праваслаўе і хваляць унію. Адсюль і адбыліся тыя «мнімыя бунты», якія падаўлялі нават агнястрэльнай зброяй. Таму, лічыў Анастасій, усе захады яго папярэдніка Афанасія не прынеслі карысці. Анастасій прапанаваў Сіноду абвясціць усіх уніятаў праваслаўнымі; зрабіць цалкам праваслаўнымі тыя прыходы, дзе частка насельніцтва ўжо перавернута ў праваслаўе; забараніць будаваць новыя ўніяцкія цэрквы; і інш.

Сінод разглядзеў прапановы Анастасія і з імі звярнуўся да Сената. 1 лютага 1800 г. Сенат выдаў указ аб невяртанні ва ўнію людзей, якія далучыліся да праваслаўнай веры, і аб забароне перашкаджаць уніятам да яе прыступаць.

## *Новы ўз'яднаўчы паход губернатара Чарамісінава. Расправа ў Любавічах (1797 г.)*

Згадаем «ваенна-рэлігійную» ідылію 1795 г. са страшным пачаткам і шчаслівым канцом, калі магілёўскі губернатар Чарамісінаў з атрадам кананіраў і гарматай далучаў да пануючай веры сялян Быхаўскага павета. Хай вас, шаноўны чытач, не ўводзіць у зман ліберальны імідж начальніка Магілёўскай губерні, які стварыў у

[193] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов…– С. 36.
Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов…– С. 40–48.
[194] Уніяцкі архіепіскап І. Лісоўскі жыў у Ануфрэйскім манастыры ў Мсціслаўскім павеце.

сваіх мемуарах адзін з яго падначаленых. У любавіцкай гісторыі 1797 г. Чарамісінаў выступіў у абліччы ката.

Шматгалосым рэхам адбіўся ў афіцыйна-дакументальных матэрыялах і ўвайшоў у гісторыю «ўз'яднаўчы» інцыдэнт, які здарыўся ў 1797 г. у Любавічах – мястэчку Бабінавецкай акругі, што ў Магілёўскай губерні.

З «уз'яднаўчай» місіяй, падмацаванай вайсковай камандай і зброяй, сюды з'віўся сам губернатар. Ён ужо кінуў ліберальнічанне з уніятамі, бо зразумеў, што з ім волю ўсемагутнага Пецярбурга не выканаеш. Па загаду Чарамісінава ўніяцкія цэрквы – Успенскую базыльянскую і Мікольскую прыходскую – адабралі на пануючую веру. Але прыхаджане, «з якіх … 28 чалавек ад пяты ног да самай галавы сукаватымі і тоўстымі палкамі так секлі, што ў іншых і вантробы былі відаць, амаль усе засталіся пры іхняй і продкаў веры – уніі».

Тады каманду пакінулі ў вёсцы на трохтыднёвы пастой. Ён абярнуўся збядненнем мяшчан, «але і тады ў далучэнні іх сэрцы былі непахісныя». Вырашылі, што на супраціў любівічцаў натхняе прысутнасць у мястэчку базыльянскіх манахаў і прыходскіх святароў. Іх адтуль выдалілі[195]. Тады мяшчане вырашылі звярнуцца да свайго пана, князя Любамірскага, або да іншага аўтарытэтнага і ўплывовага чалавека з просьбай хадайнічаць аб «вяртанні ўніі» ў Любавічы. Паводле існуючага парадку, падацель калектыўнай просьбы ў вышэйшую інстанцыю павінен быў атрымаць на тое пісьмовую згоду (даверанасць) кожнага з прасіцеляў. У мястэчку ішоў збор такіх подпісаў згоды[196].

Урэшце ў кастрычніку 1800 г. (па іншых звестках, у 1797 г. [197]) былі далучаны да праваслаўя ўніяты мястэчка Любавічы, якія доўга гэтаму ўпарціліся. Святар Тамашэўскі, які шмат папрацаваў над іх пераварочваннем, атрымаў ад Паўла І узнагароду – ордэн св. Іаана Іерусалімскага[198]. Але сціхаючы ў адным месцы, веравызнаўчы разлад успыхваў у другіх.

У вёсцы Мікуліна пасля таго, як частка сялян прыняла праваслаўе, пачаліся «крайнія абурэнні і непакой, нават з вяртаннем некаторых ва ўніяцтва». Сінод біў перад Сенатам трывогу: рымскае

[195] РДГА. – Ф. 1374. – Воп. 1. – Спр. 43. – Арк. 1.
[196] РДГА. – Ф. 1374. – Воп. 1. – Спр. 43. – Арк. 6.
[197] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов…– С. 55.
[198] Горючко П. С. Из истории возсоединения униатов…– С. 55.

і ўніяцкае духавенства, паны чыняць перашкоды ў пераварочванні ўніятаў. 3 лістапада 1800 г. беларускі і мінскі губернатары атрымалі ўказанне Сената: «Дзеля спынення такіх хваляванняў каб былі прыняты ўсе залежныя ад свецкага начальства меры». У Мікуліна накіраваліся духоўныя і грамадзянскія чыноўнікі. Пад іх уздзеяннем 30 лістапада 1801 г. «добраахвотна» перавярнулася 145 сялянскіх дамоў[199].

Канфліктная сітуацыя, калі беларускія ўніяты масава кідалі навязаную ім веру, а новае духавенства намагалася іх утрымаць, разрасталася. Гэта ўстрывожыла вышэйшыя духоўныя і свецкія ўлады: імператара, Сінод – і вымагала іх ісці на ўступкі.

Да ведама Паўла І дайшло, што жыхары «новадалучаных ад Польшчы абласцей», якія «добраахвотна» кінулі ўнію, цяпер ад грэчаскай царквы адступаюць «з-за непрыстойных паводзін расійскіх святароў». Прапановы імператара ў гэтай сувязі 8 кастрычніка 1798 г. на пасяджэнні Сінода агучыў ноўгарадскі епіскап. Яны былі наступныя: духавенству тых мясцін зрабіць настаўленне, «каб яны абывацеляў уніяцкага закона да прыняцця грэчаскай веры ніякімі сродкамі не прымушалі, але абуджалі ў іх добраахвотнае жаданне ў яе ўступіць сваім дабрадзейным жыццём, прыстойнымі іх сану паводзінамі і маральнасцю, якія з'яўляюцца самымі вернымі спосабамі да пераварочвання заблукаўшых на шлях ісціны, і да іх уласнай асобы павагі»[200].

Вынікам бесстароннага абмеркавання на тым пасяджэнні стаў імператарскі ўказ з Сінода епіскапам беларускаму і мінскаму, каб яны «ні ў якім разе не адважваліся пры пераварочванні ў праваслаўе жыхароў, што знаходзяцца ва ўніі, рабіць ніякага прымусу пад пагрозай асуджэння па строгасці законаў і пазбаўлення сваіх чыноў»[201]. Праваслаўнае духавенства належала абавязаць падпіскамі выкананне гэтага сакрэтнага ўказу, накіраванага епіскапам беларускаму, кіеўскаму і мінскаму[202]. Гэта была значная перамога руху супраціву дэўнізацыі.

Аднак сакрэтны імператарскі ўказ зрабіўся набыткам шырокай галоснасці, на што, дарэчы, беларускі епіскап скардзіўся Сіноду. Беларускае губернскае праўленне раздрукавала гэты ўказ у выгляд-

[199] РДГА. – Ф. 1374. – Воп. 3. – Спр. 2447. – Арк. 1–12.
[200] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 79. – Спр. 813. – Арк. 1–1 адв.
[201] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 79. – Спр. 813. – Арк. 3 адв.
[202] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 79. – Спр. 813. – Арк. 5.

зе ўласнай «прэмеморыі» ад 5 лістапада 1798 г. і разаслала па ўсёй губерні: «…Каб абывацеляў уніяцкага закону да прыняцця грэчаскай веры ніякімі сродкамі не прымушалі… Каб паступалі ў адпаведнасці з найвышэйшай яго імператарскай вялікасці воляй; а для належнага выканання … камендантам, гараднічым, павятовым і ніжнім земскім судам давесці да ведама»[203]. З гэтай нагоды ў журнале Сінода ад 15 снежня з'явіўся запіс, які канстатаваў, што Беларускае губернскае праўленне паступіла крайне неабачліва, размножыўшы сакрэтны ўказ друкаванымі паведамленнямі[204].

## *1799 год: дэўнізацыя ў Дзісне*

Хваляванні ў 1799 г. у маёнтку Дзісна Полацкага павета Беларускай губерні на глебе пераварочвання мясцовых уніятаў у пануючую веру – факт мікрагісторыі, які не з'яўляецца ўнікальным, але характэрным сюжэтам гісторыі кацярынінска-паўлаўскай дэўнізацыі Беларусі. З архіўнай справы, якая пра гэта расказвае,[205] – таксама тыповай для эпохі дэўнізацыі канца XVIII ст. – 30-х г. XIX ст. – паўстаюць дзве карціны развіцця падзей. У чэрвені-ліпені 1799 г. Дзісна прыцягнула да сябе ўвагу мясцовых і цэнтральных улад: беларускага губернатара, беларускага епіскапа, Сінода, Сената і нават імператара.

Годам раней Дзісненская царква Праабражэння папала ў поле зроку духоўных улад – і да яе дайшла дэўнізацыя. Сінадальны ўказ ад 14 ліпеня 1798 г. беларускаму епіскапу «предписал присоединить пожелавших благочестия крестьян» дісна-каменскага прыхода і асвяціць іх царкву[206]. Да яго выканання прыступілі праз год.

«Усиливаются священники греко-восточного исповедания, – пісалі 4 ліпеня 1799 г. яе прыхаджане ў сваім пратэсце-прашэнні на імя беларускага губернатара, – освятить (нашу церковь – С. М.) на обряд церкви греко-восточной незаконно», бо прыхаджан-уніятаў засталося пры ёй нашмат больш, чым праваслаўных. Апошніх «едва

203 РДГА. – Ф. 796. – Воп. 79. – Спр. 813. – Арк. 13.

204 РДГА. – Ф. 796. – Воп. 79. – Спр. 813. – Арк. 15.

205 РДГА. – Ф. 1374. – Воп. 2. – Спр. 1695 Правительственный сенат. Канцелярия генерал-губернатора. Переписка по поводу неповиновения крестьян поместья Дисна Полоцкого повета Белорусской губернии при освящении и обращении их униатской церкви в православную. 1799 г.

206 РДГА. – Ф. 1374. – Воп. 2. – Спр. 1695. – Арк. 1.

может быть 30-я доля, да и те по принуждению, как слух носится, приняли» пануючую веру. Але праваслаўныя святары «умозрительно заключили», што праваслаўных прыхаджан болей. Дзісненскія ўніяты прасілі даследаваць гэту статыстыку, каб «открыть в том истину»[207]. Яны ж прасілі прыпісаць праваслаўную меншасць да суседняй грэка-праваслаўнай царквы «и оставить греко-униатов в спокойном исповедании своей веры при … нашей дисно-каменской церкви», да таго ж на іх уласныя сродкі пабудаванай.

2 чэрвеня 1799 г. два чыноўнікі з Полацка, камісар з засядацелем, разам з протаіерэем Сабалеўскім і пры падтрымцы воінскай каманды ў 12 салдат – гэткая духоўна-вайсковая камісія – прыбылі ў Дзісну для пераварочвання мясцовых жыхароў у праваслаўе.

З першых жа яе крокаў ў Дзісне пачаліся збоі. Уладальніца маёнтка пані Сулістроўская аказалася ў ад'ездзе, яе дарослыя дзеці таксама некуды зніклі з мястэчка, як толькі ўтварылася канфліктная сітуацыя.

Полацкі земскі камісар так рапартаваў пра гэта 14 чэрвеня 1799 г. беларускаму губернатару: «Крестьяне…, кои были на дворе для работ, вдруг бросясь со двора, умножаясь толпою человек до ста с дубьем, и спрятав ксендза Цитовича, стерегли церковь. Назавтра, когда им при церкви прочитаны были указ Св. Синода и ордер мой, оне, не оказав малейшего повиновения и не допустя к церкви, дерзнули с пономарем Зеленкевичем и церковным старостою Максимом Вороновичем прийти на двор в виде разбойническом, требовали выдачи протоиерея, дабы умертвить, ломали в покоях двери, выбивали окны. Комисар с командою потерпели побои, а дети Сулистровской на тот случай как будто умышленно уехали со двора.

Наконец протоиерей спасся бегством, комиссар с командою принужден был отправиться обратно, не освятив церкви. Наконец комиссар доносит, что взять церковь, усмирить буйство крестьян без большой команды и без некоторой строгости нет возможности. Начинщиков буйственных поступков сих и возмущающего крестьян ксендза Цитовича приказал я взять под стражу и отправить для суждения в повятовый суд, но не могши сам собою приступить к умножению воинской команды, дабы в случае не могло произойти от чего каковаго либо важного произшествия и самаго смертоубий-

[207] РДГА. – Ф. 1374. – Воп. 2. – Спр. 1695. – Арк. 7–7 адв.

ства, осмеливаюсь предать обстоятельство сие купно послушность помещицы Сулистровской на высокое благоусмотрение вашей светлости»[208].

Але беларускі губернатар Севярын «нашел неосновательным» данясенне полацкага земскага камісара «об ослушании дисненских крестьян и сопротивлении помещицы их, что крестьяне хотели лишить жизни благочестивого священника, били воинскую команду и комиссара, но они только не соглашались допустить к освящению церковь». Губернатар прадставіў інфармацыю пра гэты інцыдэнт імператару. Але папярэдне сам з'ездзіў у Дзісну 2 ліпеня разабрацца ва ўсіх абставінах.

Што ўбачыў і даведаўся там Севярын, даведваемся з яго рапарта імператару ад 6 ліпеня 1799 г. На пытанне губернатара, «почему не допускают освятить церковь и не соглашаются присоединиться к греко-восточной православной церкви», уладальніца маёнтка і сяляне «все ответствовали единодушно со всякою кротостию, которая на лицах их изображалась, что они никогда не были ослушными и во всем повинуются священнейшей воле вашего императорского величества, если только приказано будет освятить церковь, то они с покорностию повинуются, зная, что указом вашего императорского величества повелено, когда количество православных прихожан будет менее униатов, в таком случае причислить оных к ближайшей церкви грекороссийской, напротив того, буде бы униатов, желающих обратиться в грекороссийское исповедание было более, то в таком случае униятскую церковь освятить православным обрядом, что подтвердили они поданным мне прошением, прося изследования. … Я, видя, что мирные внушения совершенно успешны и приемлются безропотно, и находя их послушными, не мог не уважить их прозбы, основанной на указе В. И. В., но не смея приступить к просимому ими следствию, запечатав церковь, дерзаю всеподданнейше о сем донести вашему императорскому величеству»[209].

Такім чынам, губернатару адкрылася іншая карціна. Чаму? Сяляне спужаліся прадстаўніка царскай улады? Усыпілі пільнасць губернатара спасылкай на закон імперыі? Севярын хацеў дзейнічаць у межах заканадаўства? Але царкву ён усё ж запячатаў.

[208] РДГА. – Ф. 1374. – Воп. 2. – Спр. 1695. – Арк. 2–2 адв.
[209] РДГА. – Ф. 1374. – Воп. 2. – Спр. 1695. – Арк. 6 – 6 адв.

Павел I азнаёміўся са справай сялян мястэчка Дзісна, якія «препятствуют в обращении в благочестие находящейся там унитской церкви». Манаршая воля беларускаму губернатару Севярыну была наступнай: «...дабы к приведению крестьян в повиновение, когда мирные внушения того зделать не могут, потребовал помощи от ближайшей воинской команды; виновных, здав под караул, предал бы суду по всей строгости законов, … а между тем церковь освятить»[210].

Выконваць імператарскі ўказ аб пераасвячэнні ўніяцкай царквы ў Дзісне і прыводзіць дзісненскіх сялян да пакоры ў канцы ліпеня накіравалі маёра Сяліверстава разам з губернскім чыноўнікам і «камандай» – ротай салдат. Але калі маёр «приступил к выполнению высочайшего повеления и объявил его крестьянам, то не только противостояли они освящению церкви, но явили они знаки действительного упорства и насилия»[211].

Вялікая колькасць сялян з дубінамі акружыла царкву. Паводле архіўнай справы, яны заявілі: «Мы не позволим сего сделать. А пускай все прочие униятские церкви освятят, тогда и мы согласимся». Пры спробе земскага камісара арыштаваць сялян, «более склонных к упорству», на яго накінуўся натоўп – у ім быў і чалавек з сякерай. Для ўціхамірвання сялян у ход была пушчана «каманда». 11 чалавек арыштавалі. «Прочие, – расказвае архіўная справа, – удалились на некоторое разстояние в поле. Собрались более с дубинами и до самого вечера от местечка не отступали. А разошлись по наступлению ночи и на другой день уже не показывались. Посему сего числа церковь и освящена»[212].

Тых, хто пабуджаў сялян да супраціву – уніяцкага святара Цытовіча, панамара Радкевіча, царкоўных старастаў Барэйшу і Варановіча, войта Коўшаля і сяляніна Мясніка, – арыштавалі і аддалі пад суд. Судовы вырак быў такі: Цытовічу – царкоўная эпітымія, утрыманне пад вартай, высылка ў Віцебск; іншым – пакаранне бізунамі «на месцы злачынства»: панамару – 10, астатнім – па 25 удараў. Уладальніца Дзісны Сулістроўская «найдена не замешанною». Сялян Дзісненскага прыхода папярэдзілі, «дабы впредь не

[210] РДГА. – Ф. 1374. – Воп. 2. – Спр. 1695. – Арк. 25.
[211] РДГА. – Ф. 1374. – Воп. 2. – Спр. 1695. – Арк. 25 адв.
[212] РДГА. – Ф. 1374. – Воп. 2. – Спр. 1695. – Арк. 14 адв.

посягалі собираться самовольно»[213]. «В местечке Дисна все смирно и благополучно,» – адрапартавалі ў Пецярбург[214].

## *Свяцілавіцкая справа*

Сінадальным указам ад 14 снежня 1795 г., выдадзеным на падставе імператарскай волі, уніяцкая царква вёскі Свяцілавічы Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні, большасць прыхаджан якой згадзілася змяніць веру, падлягала перадачы ў праваслаўнае ведамства[215]. Але сяляне адстойвалі сваю царкву цэлую чвэрць стагоддзя.

23 лютага 1800 г. праваслаўную камісію сяляне сустрэлі з дубінамі. Яны, як сведчаць афіцыйна-дакументальныя матэрыялы, злосна лаялі місіянераў, гналі іх прэч ад царквы, аднаго нават ударылі. Забілі ў званы. На іх кліч збеглася і захвалявалася ўся ваколіца. Камісія аказалася ў акружэнні «натоўпа раз'юшаных мужчын і жанчын са зброяй». Дарэмна намагаліся чыноўнікі ўгаварыць сялян. Пераконвалі, што яны выконваюць загад беларускага губернатара, пагражалі карай «за іх непаслушэнства і абурэнне». Але «тыя не толькі не хацелі слухаць…, але яшчэ ў большую лютасць прыйшоўшы, крычалі: «Мы не слухаем ніякага загаду, хоць бы тут быў і сам губернатар, ганіце іх усіх прэч». Місіянераў разам з земскім камісарам з ганьбай выштурхалі за ваколіцу[216]. Сялян у іх супраціве падтрымала ваколічная шляхта.

У 1806 г. па ўказу Магілёўскага губернскага праўлення сітуацыю ў Свяцілавічах на месцы вывучалі чыноўнікі. Высветлілася, што гэта прыходскі святар Шункевіч «спакусіў» назад ва ўнію тых свяцілавіцкіх сялян і нават шляхціча Язерскага, якія прынялі праваслаўе. Гэты поп, як рапартавала ў Сінод Магілёўскае губернскае праўленне, згадвае ў набажэнстве «раней імператарскай фаміліі папу Пія»[217].

У 1815 г., 22 верасня, і ў 1816 г., 28 красавіка, выйшлі новыя пастановы Сінода аб пераварочванні Свяцілавіцкай царквы[218]. На

---

[213] РДГА. – Ф. 1374. – Воп. 2. – Спр. 1695. – Арк. 22 адв., 26.
[214] РДГА. – Ф. 1374. – Воп. 2. – Спр. 695. – Арк. 26
[215] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 84. – Спр. 204. – Арк. 140.
[216] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 84. – Спр. 204. – Арк. 67–68.
[217] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 84. – Спр. 204. – Арк. 29, 31.
[218] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 84. – Спр. 204. – Арк. 108.

гэты раз місіянеры прыбылі ў вёску разам з паліцыяй. Але сяляне, як паведамляў у міністэрства ўнутраных спраў магілёўскі губернатар, «пры ўсіх з боку земскай паліцыі настойлівых і строгіх загадах не дапускаюць да выканання ўказу Свяцейшага Сінода»[219]. У 1822 г. свяцілавіцкія ўніяты зноў не дапусцілі місіянераў, якія і на гэты раз прыбылі з паліцыяй, да царквы. Сяляне заявілі, што самі фундавалі царкву, пабудавалі яе ў памяць продкаў і намераны пры ёй памерці, але ў іншую веру не аддадуць.

У 1825 г. са свяцілавіцкай справай знаёміўся новы імператар Мікалай І. Цяпер, па прашэсці 30 гадоў, ён палічыў немагчымым прымяніць да гэтага выпадку сінадальны ўказ ад 14 снежня 1795 г.

Хоць у Свяцілавічах жылі 271 праваслаўны і 195 – значыць, меншасць, –уніятаў, аднак яшчэ 547 уніятаў пражывала ў ваколіцах, якія таксама адносіліся да Свяцілавіцкага прыхода. Імператарскі указ ад 17 студзеня 1825 г. абвяшчаў: «Тую царкву пакінуць для ўніятаў, а для прыхаджан грэка-расійскага спавядання ў мястэчку Свяцілавічы пабудаваць новую драўляную царкву». Уніятаў часова пакінулі ў спакоі, прыпісаўшы тых, хто прыняў праваслаўе, да суседняга прыхода[220].

У 1800–1802 г. 67 сем'яў вёскі Сташанскай, а таксама святавольскія, азарыцкія, глінянскія, велясніцкія і парэцкія прыхаджане, ставецкая і чанчыцкая абшчыны, сяляне вёсак Паршэвічы, Паняцічы, Новы Двор, Лобанаў, Маркозы, Багушэва і Сутаў прасілі пакінуць іх ва ўніі, у якой яны з даўніх часоў прабываюць[221].

Шырокае і паўсямеснае незадавальненне ўніятаў, прымусова ўтрымліваемых у праваслаўі, вымусіла камянец-падольскага генерал-губернатара графа Гудовіча хадайнічаць за іх перад манархам. Так з’явіўся 6 снежня 1799 г. імянны ўказ Паўла І аб непрыцясненні праваслаўным духавенствам уніятаў. Імператар ухваліў дзеянні графа па пакаранню ўсіх «спакуснікаў», пад уплывам якіх шэраг паселішчаў Валынскай губерні адпалі ва ўнію. З другога боку, ён забараніў уціскаць саміх уніятаў, якія вярнуліся ў сваю веру[222]. Імператарскі ўказ, разам з патрабаваннем спыніць ганенні

[219] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 84. – Спр. 204. – Арк. 116.

[220] РДГА. – Ф. 796. –Воп. 84. – Спр. 204. – Арк. 140, 157; Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22589. – Арк. 1–3.

[221] РДГА. – Ф. 823. – Воп. 2. – Спр. 3009; 3015; 3021; 3029.

[222] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 80. – Спр. 898. – Арк. 2.

на ўніятаў, Гудовіч адправіў духавенству сваёй губерні, у тым ліку вікарыю Пінскай епархіі, жытомірскаму епіскапу Варлааму[223].

Па волі Паўла I у пачатку 1800 г. Сенат слухаў справу аб уціску і спакушэнні ва ўнію далучаных да праваслаўя жыхароў Беларускай і Магілёўскай епархій. Пры гэтым аднак Сенат не мог абыйсці ўвагай нараканні ўніяцкага духавенства на праваслаўных, што тыя робяць прымус у пераварочванні, патрабуюць пісьмовых пасведчанняў аб жаданні далучыцца. Гэтыя распіскі потым выкарыстоўваюцца як доказ, што тое зрабілі ўніяты па ўласнаму жаданню[224].

Масавае вяртанне ўніятаў у сваю веру ставіла пад пагрозу зрыву ўсю праваслаўную справу на ўсходзе Беларусі. Сваім указам ад 10 лютага 1800 г. аб «непамнажэнні ўніяцкіх цэркваў і папоў» Сінод намагаўся стрымаць гэты працэс[225]. Беларускі епіскап Анастасій запатрабаваў тады ад полацкага ўніяцкага архіепіскапа Іраклія Лісоўскага выканання гэтага рашэння вышэйшага духоўнага ведамства імперыі.

Сінод, сенат, імператар зноў ламалі галаву над тым, як утрымаць уніятаў у праваслаўі. Беларускаму у і мінскаму губернатарам 3 лістапада 1800 г. было наказана, каб яны для «спынення хваляванняў паміж жыхарамі… і для ўтрымання іх ад паўторнага спакушэння ва ўнію прынялі залежныя ад свецкага начальства меры»[226].

Спыніць працэс вяртання ўніятаў у сваю веру аказалася тады не пад сілу ні праваслаўнаму епіскапату, ні нават Сіноду і Сенату. «Уніяты па Беларускай губерні ўзмацняюцца, – білі яны трывогу, – і паспяваюць зноў ствараць цэрквы ў такіх месцах, дзе зусім не патрэбна (дзе ўніяты пераведзены ў праваслаўе – С. М.), а дзе-нідзе і зусім незаконна, прысвойваючы ў многіх перавернутых у праваслаўе прыходах капліцы і прыпісныя цэрквы для часткова засталых абураных уніятаў, са стварэннем новых прыходаў, каб такім чынам … наводзіць спакусу»[227]. Нагадаем, што да 90 % уніятаў вярнуліся тады ў сваю веру.

Такім чынам, смерць Кацярыны II, паўлаўскі адкат ад палітыкі дэўнізацыі, нацыянальна-рэлігійны лібералізм Аляксандра I разам з

[223] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 80. – Спр. 898. – Арк. 1.
[224] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 79. – Спр. 628. – Арк. 57–58.
[225] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 82. – Спр. 23. – Арк. 1.
[226] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 82. – Спр. 23. – Арк. 29 адв.
[227] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 82. – Спр. 23. – Арк. 29.

абаронай уніятамі сваёй веры забяспечылі ўніяцкай царкве яшчэ чатыры дзесяцігоддзі існавання.

Аднак мясцовае праваслаўнае духавенства не сунімалася. Праз тры месяцы пасля ўступлення на трон Аляксандра I, 21 чэрвеня 1801 г., магілёўскі епіскап звярнуўся да новага імператара з лістом. Ён пісаў, што Кацярына II заклікала ўніятаў да ўз'яднання, але «тое высокаманаршае закліканне не займела поспеху… І гэта дамінуючая на Беларусі вялікая рэшта ўніяцтва шмат рабіла і робіць пануючай веры цяжкасцяў. … Ваша Імператарская вялікасць, … падобна прамудра вялікай і бессмяротнай Кацярыне майце ласку прасцерці высокаманаршы голас да адарваных ад грэка-расійскай царквы дзяцей»[228].

Ліст беларускага епіскапа з просьбай аб дазволе на далучэнне ўніятаў не застаўся без увагі імператара. Той адказаў уладыку, што «намер пераконваць у справе веры загадамі ўлады не можа быць сумяшчальная ні з лагоднымі правіламі самой веры, … ні з пачаткамі ўраду… Рознага роду ўціск і злоўжыванні пад выглядам унушэння … ўніжалі веліч веры»[229].

Пры Паўле і Аляксандры I уніяцкая царква вылечылася ад многіх ран, нанесеных ёй Кацярынай II. Пры Аляксандры I наступае стабілізацыя ўніяцкай царквы, хоць ва ўрадавых сферах да яе захоўваліся непрыязныя адносіны, – яе талеравалі як зло, якое толькі можна да часу цярпець.

## *Супраць рыма-каталіцкіх «звадзіцеляў»: «Нядобра з чужога статка блудных у сваё прымаць»*

Становішча ўніяцкай царквы ўскладнялася тым, што абараняцца ёй давялося на двух «франтах» – не толькі ад наступу праваслаўя, але і ад захадаў рымска-каталіцкага касцёла інкарпараваць яе ў свой склад. Уніяцка-рымска-каталіцкія стасункі няпроста складваліся на ўсім працягу існавання ўніяцкай царквы. Каталіцкая дактрына «вышэйшасці» лацінскага абраду, недавер касцёла да ўніі ўскладнялі ўзаемаадносіны паміж хрысціянамі.

Сам факт саюзных адносін уніяцкай царквы з каталіцызмам вымагаў яе падтрымкі. Але, з другога боку, «руская» царква з асоб-

[228] РДГА. – Ф. 815. – Воп. 15. – Спр. 137. – Арк. 3–3 адв.
[229] РДГА. – Ф. 815. – Воп. 15. – Спр. 137. – Арк. 1–1 адв.

най іерархічнай структурай і адмысловым абрадам стала перашкодай на шляху асіміляцыі ўсходнеславянскага насельніцтва Рэчы Паспалітай, імкнулася абмежаваць польскую царкоўна-палітычную экспансію межамі этнічнай Польшчы і Літвы.

Рыма-католікі глядзелі на ўнію як на часовую з’яву. У Польшчы панавала перакананне, што ўнія ў лепшым разе – гэта толькі кампраміс у пераварочванні «русінаў» у лаціна-палякаў. А некаторыя дзяржаўныя мужы бачылі ў ёй зло, ад якога пакутуе каралеўства. «Старая Польшча грашыла супраць унітаў, прыгнятаючы гэты абрад», – пісаў у 1830 г. французскі консул у Варшаве. Адам Чартарыйскі ў 1836 г. асуджаў прызнанне палякамі ўніятаў «за зусім асобны клас, за іншы ў пэўнай ступені народ: непрыязную трактоўку іх духавенства і агіду да іх абраду»[230].

Уніяцкая царква імкнулася захаваць дыстанцыю, якая аддзяляла яе і ад праваслаўя, і ад рыма-каталіцтва. Гісторыя гэтай царкоўнай арганізацыі, пры ўсёй яе інтэграванасці з папствам, прасякнута імкненнем захаваць і ўмацаваць беларускую плынь і стараславянскі дух, уласную духоўную тоеснасць.

Унія, як гэта было відаць яшчэ з яе ўмоў, ахоўвала этнаканфесійную своеасаблівасць і адасоблены статус царквы. Паводле «Берасцейскіх артыкулаў» 1595 – 1596 г., захоўваліся царкоўнаславянская мова богаслужэння, ранейшыя святы, абрады і цырымоніі, забараняліся пераход духавенства і вернікаў на лацінскі абрад, пераварочванне храмаў на касцёлы і т.п.[231]. Хоць у далейшым на ўніяцтва распаўсюджваецца каталіцкая дагматыка, вонкавых формаў усходняга традыцыяналізму яно трымалася вельмі ўпарта. Лідэры ўніяцкай царквы дастаткова паслядоўна адстойвалі мясцовыя рэлігійна-палітычныя і этнакультурныя інтарэсы на фоне польска-ватыканскай палітыкі.

Сімпатыі Рыма і польска-каталіцкіх колаў да ўніяцтва з яго прэтэнзіяй на царкоўна-культурную індывідуальнасць і супрацьдзеяннем лацінізацыі не варта перабольшваць. Змена абраду з усходняга на лацінскі была пастаяннай крыніцай непаразуменняў паміж

---

[230] Skowronek E. Podstawowe aspekty unii w swiadectwach zachodnich (na podstawie relacji konsula francuskiego w Warszawie) // Unia Brzeska. Geneza, dzieje i konsekwencje w kulturze narodów słowiańskich / Pod red. R. Lużnego, F. Ziejki, A. Kępińskiego. – Kraków: «Universitas», 1994. – S. 103–104.

[231] Патріло І. Артикули Берестейськоі унії // Analecta Ordinis S. Basilii Magni. Sectio II. – Рим, 1996. – Т. XV. – С. 68–73.

уніяцкай і каталіцкай цэрквамі ў часы Рэчы Паспалітай. Паратунку ад дамаганняў польскага касцёла «загнаць чужых авечак у сваю агароджу і ў хуткім часе вынішчыць усіх русінаў»[232] уніяцкая іерархія ў XVII – XVIII ст. шукала ў Рыме.

Папства намагалася пагасіць разлад на глебе саперніцтва за першынства ў беларускім свеце паміж носьбітамі грэчаскага і лацінскага абрадаў. Але пастановы апостальскай сталіцы ў абарону правоў царквы парушаліся каталіцкім духавенствам Рэчы Паспалітай, якое грэбавала ўсходняй абраднасцю і «руска»-славянскай мовай богаслужэння. Пераварочванні ўніятаў на лацінскі абрад часцей за ўсё былі не ўласна пераходамі, але бяспраўнымі перацягваннямі, і яны натыкаліся на рашучы супраціў[233]. Інцыдэнты на гэтай глебе нярэдка заканчваліся ў царкоўных судах і апеляцыямі ў Рым[234].

У 40-я – 70-я г. XVIII ст. узмацняецца ціск касцёла Рэчы Паспалітай на беларускіх уніятаў. Скрупулёзнасць, з якой у дакументах Архіва ўніяцкіх мітрапалітаў зарэгістраваны прыходы, колькасць і прозвішчы «людзей рускай веры», «спакушаных» у гэты час у лацінскі абрад, не пакідаюць сумневу ў тым, што ніводзін гэтакі факт не заставаўся па-за ўвагай ўніяцкага духоўнага начальства[235]. На яго няспынныя пратэсты ў Рым супраць асімілятарскай палітыкі касцёла папа Бенедыкт XIV адказаў канстытуцыямі 2 мая 1744 і 26 ліпеня 1755 г., якія пацвердзілі забарону на перацягванне ўніятаў у лацінскі абрад[236]. Але і гэты фармальны акт застаўся толькі на паперы. Лацінскі епіскапат, са свайго боку, скардзіўся ў Рым, што ўніяцтва перашкаджае пашырэнню рыма-каталіцкага вызнання[237] – з праваслаўем можна было справіцца лягчэй[238].

---

232 ЦДГАУ. – Ф. 408. – Воп. 1. – Спр. 806. – Арк. 2.

233 Гарошка Л. Пад знакам «рускае і польскае веры» // Спадчына. – 2000. – № 1. – С. 163–164.

234 Туронак Ю. Фармаваньне сеткі рыма-каталіцкіх парафіяў у Беларусі (1387–1781 г.) // Беларускі гістарычны агляд . – 1995. – Т. 2, сш. 2.

235 РДГА. – Ф.823. – Воп. 2. – Спр.1400, 1487, 1490, 1492, 1507, 1845 і інш.

236 РДГА. – Ф. 823. – Воп. 2. – Спр.2129. – Арк. 1–2; Jak z Unitami obchodza się w Rosyi?: Korespondencya dyplomatyczna. – Kraków, 1877. – S. 19.

237 Mironowicz A. Kościoł prawosławny i unicki w połowie lat sześcdziesiątych XVII wieku na terenie Rzeczypospolitej // Наш Радавод. – Кн. 7: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII–XX ст.», Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г. / Заходне-беларускі гуманітарны цэнтр даследаванняў Усходняй Еўропы / Пад рэд. Д. У. Карава. – Гродна, 1996. – С.350.

238 Мишанич О. Берестейська Унія у наукових працях митрополита Йосифа Сліпого // Unia Brzeska. Geneza, dzieje i konsekwencje w kulturze narodów słowiańskich / Pod red. R. Łużnego, F. Ziejki, A. Kępińskiego. – Kraków: «Universitas», 1994. – S. 499.

Уніяцкая палітыка нейтралізацыі рыма-каталіцызму на сваёй кананічнай прасторы мела пэўны плён. Так, у 13-ці дэканатах паўночна-заходняй Беларусі і ў заходняй частцы Полацкага дэканата ў 1781 г. дзейнічала 167 каталіцкіх парафій – толькі на 2 болей, чым у 1669 г. Гэткае «разрастанне» тут касцёла Ю. Туронак тлумачыць стрымліваючым дзеяннем уніяцтва[239].

Нават «ліквідатар» уніі І. Сямашка прызнаваў, што самастойныя розумы «клапаціліся аб незалежнасці сваёй царквы ад рымскага прыгнечання»[240]. Украінскі мысліцель І. Франко катэгарычна адвяргаў думку, згодна з якой уніяты імкнуліся да лацінізацыі сваёй царквы[241].

Знішчальную ацэнку Берасцейскай уніі з пункту гледжання інтарэсаў польскага касцёла даў польскі аўтар Э. Старчэўскі. Ён лічыць наіўнымі разлікі польска-ватыканскіх палітыкаў аб'яднаць пад адным дахам дзве разнавіднасці каталіцтва – з іх утварыліся два асобныя веравызнанні. На яго думку, «з уніі была зроблена нейкая спецыфічная русінская рэлігія», якая стала канкурэнткай касцёла, бо перашкодзіла яму шырыцца далей на ўсход, і зрабіла «русінскі арганізм» гэтак непадобным на Польшчу нацыянальна, культурна і сацыяльна. Яна, як клін, убілася паміж Польшчай і Руссю (Беларуссю і Украінай), паміж каталіцтвам і ўсходнім веравызнаннем, і тое, што павінна была злучыць, надоўга развярэдзіла і падзяліла[242].

Расійская імперская, заходнеруская, а ўслед за імі савецкая гістарыяграфія, атаясамліваючы ўніяцтва з рыма-каталіцтвам, не змаглі ўбачыць розную ролю гэтых канфесій ў лёсе беларусаў. Яны не прызналі за нашымі продкамі гістарычнага і маральнага права на царкоўна-рэлігійнае самавызначэнне і індывідуальнасць у межах хрысціянскай супольнасці і праігнаравалі курс уніяцкай царквы на этнаканфесійную адметнасць і адасоблены статус.

---

239 Туронак Ю. Фармаваньне сеткі рыма–каталіцкіх парафіяў у Беларусі (1387–1781 г.) // Беларускі гістарычны агляд . – 1995. – Т. 2, сш. 2. С. 178.

240 Записки Иосифа, митрополита Литовского. – Т. 1. – СПб.: Тип. Императ. Акад. наук, 1883. – С. 27.

241 Hryckowian J. Iwana Franki poglądy na kwestie unii brzeskiej // Unia Brzeska. Geneza, dzieje i konsekwencje w kulturze narodów slowiańskich / Pod red. R. Łużnego, F. Ziejki, A. Kępińskiego. – Kraków: «Universitas», 1994. – S. 449.

242 Starczewski E. Widma przeszłosci: Szkice historyczne. – Warszawa: Wydawn. Towarystwa Kresów Wschodnich, 1929. – S. 283–284, 329–330.

Між тым, у канцы XVIII – першай трэці XIX ст. лепшыя прадстаўнікі ўніяцкай царквы таксама прыкладвалі вялікія намаганні для выратавання сваёй веры ў яе самабытных формах ад паглынання касцёлам. У 1780 г. полацкі архіепіскап Я. Смагаржэўскі напрамую абвінавачваў магілёўскага каталіцкага арцыбіскупа С. Сестранцэвіча, што ён падкапаў унію, схіляючы некаторых базыльян да лацінскага абраду, дамаганнем падпарадкаваць уніятаў сваёй уладзе. Ідэя перадачы полацкай кафедры лацінскаму арцыбіскупу была непапулярнай сярод уніяцкага духавенства[243].

Да 1796 г. большасць беларускіх вернікаў трымалася пасярод экспансіўных каталіцтва і праваслаўя.

Выкарыстаўшы пралікі «ўз'яднання» 1794 – 1795 г. і спрыяльную кан'юнктуру пасля смерці Кацярыны II, баючысяся згубіць уніятаў з-пад свайго ўплыву, касцёл з 1796 г. актывізуе барацьбу за іх душы, нягледзячы на забарону 1744 г. іх пераходу на рымскі абрад. Магілёўскі каталіцкі арцыбіскуп С. Сестранцэвіч у сувязі з пагрозай уніяцкай царкве выклапатаў урадавы дазвол на перавод яе вернікаў у лацінства[244]. Гэта яшчэ больш аслабляла справу ўніі.

У сувязі з пазіцыяй Паўла I, які нібыта сцвярджаў, што ўнія існаваць не можа, а будзе знішчана, і раіў прыняць уніятаў на лацінскі абрад, лацінскае духавенства, дамовіўшыся з памешчыкамі-кцітарамі ўніяцкіх цэркваў, пачалі ўніяцкіх святароў намаўляць, а сялян прымушаць прыняць лацінскі абрад. Па вёсках раз'язджалі тады лацінскія манахі і пераводзілі ўніятаў на свой абрад. Каталіцкі біскуп С. Сестранцэвіч пераконваў Аляксандра I падпарадкаваць яму рэшткі ўніяцкай царквы, што і было зроблена.

Скампраментаваўшыя сябе і выклікаўшыя азлабленне гвалтоўна-дысцыплінарныя сродкі дэўнізацыі, што прывялі да страты ўніяцкай царквой сваіх пазіцый, яе непрадуманае падпарадкаванне ў 1801 г. рымска-каталіцкай духоўнай калегіі ў Пецярбургу, упартыя чуткі аб намерах урада ліквідаваць гэта спавяданне нарадзіла ў некаторых намер схавацца пад апеку касцёла, аддацца на волю рыма-каталіцтву, знайсці ў ім паратунак, што ў тых варунках было раўназначна апазіцыйнасці палітыцы аправаслаўлівання.

243 Loret M. Kościół katolicki a Katarzyna II. 1772–1784. – Kraków–Warszawa: Druk. W.L.Anczyca i spółki, 1910. – S. 166, 180.

244 Коялович М.О. История воссоединения западнорусских униатов старых времен (до 1800 года). – Мн.: Лучи Софии, 1999. – С. 383.

За «перамогі» на рэлігійным фронце ў 1795 г. праваслаўнага папа І. Карніловіча ксяндзы ў «насмешку віншавалі, гаворачы, што маўляў вы сваімі камісіямі шмат нам рымлян прыўмножыце»[245]. Некаторыя ўніяцкія святары ў 1797 г. вучылі паству: «Ідзіце ў лацыннікі, а мы за вамі». На Лагойшчыне народ і духавенства «ўпрошваюць і ціснуцца ў лацінскі абрад»[246].

Усё гэта дало свае вынікі. Здарыўся гістарычны парадокс. 200 тысяч уніятаў[247], чые продкі два стагоддзі супраціўляліся лацінізацыі, калі іх сталі заганяць у праваслаўе, знайшлі ў 1798 – 1803 г. прытулак у касцёле. Аказала ўплыў 400-гадовае сужыццё з ім. Да таго ж у касцёле было менш пастоў; ён знаходзіўся ў лепшым матэрыяльным становішчы.

Але і на гэтым гістарычным этапе ўніяцкая царква не намервалася стаць пастаўшчыком паствы для рыма-каталіцтва. Уніяцкае духавенства, пазней абвінавачанае гісторыкамі ў акаталічванні беларусаў, у сваёй большасці як магло абараняла тады сваю веру ад замахаў касцёла. Яно хвалюецца за лёс сваёй веры, б'е трывогу, бо спаведнікаў «штодня ўбывае»[248].

Калі кансісторыя не акажа супрацьдзеянне, «хутка не будзе ўніі»; «Я прашу Бога … за ўнію», – гучыць у рапартах, паведамленнях 1797 г. Докшыцкі сурагат з цяжкасцю вяртаў назад сваю паству, якая ў 1797 г. пад уплывам «зласлоўя лацыннікаў на ўніяцкі абрад» яго кінула[249].

У вышэйшыя інстанцыі паляцелі скаргі: ад мінскага Троіцкага брацтва на парадзенне сваіх шэрагаў; са Слонімскага павета на дамінікан, якія 5 парафій «прымусілі да лацінскага абраду»; на каталіцкіх манахаў Дзісненскага павета, якія «ўсемагчыма намагаюцца знішчыць унію»; ад старасельскага святара І. Шалюты на свайго каталіцкага калегу за спакушэнне прыхаджан[250].

245 Горючко П. С. Из истории воссоединения униатов…– С. 26.

246 Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. – Т. 2: 1701–1839. – СПб.: Синодальная тип., 1907. – С. 567, 568

247 Dylągowa H. Dzieje Unii Brzeskiej (1596–1918). – Warszawa–Olsztyn: Wydawnictwo Interlibro, Warmińskie wydawnictwo dyecezjalne, 1996. – s. 78.

248 Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. – Т. 2: 1701–1839. – СПб.: Синодальная тип., 1907. – С. 548.

249 Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. – Т. 2: 1701–1839. – СПб.: Синодальная тип., 1907. – С. 546–548.

250 Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. – Т. 2: 1701–1839. – СПб.: Синодальная тип., 1907. – С. 566–568, 576, 583, 599, 615, 622.

Распускаючы чуткі «аб знішчэнні ўніі нібыта па гасудараву ўказу і з дазволу папы рымскага, ... і хто не станецца католікам, то будзе набожным», каталіцкія «зводители» схілялі на мяжы стагоддзяў сялян у сваю веру. Незадоўга да таго па вёсках ездзілі «зводители благочестивые». 1543 жыхары мястэчка Асвея, запэўненыя, «што ўніі больш не будзе», перайшлі на лацінскі абрад; частка іх пазней вярнулася ва ўніяцтва. 698 чалавек мяняць веру адмовіліся адразу[251]. Абураныя дзеяннямі каталіцкіх місіянераў, асвейскія базыльяне «лацінскі абрад абражалі рознымі злобнымі выразамі, угаворваючы прыхаджан вярнуцца ў сваю веру»[252].

Антыкаталіцкія настроі ў 1802 г. панавалі сярод ўшацкіх базыльян, якія адмовіліся прызнаваць над сабой уладу Пецярбургскай калегіі і, каб вярнуць да ўніі сваіх сялян, «усяляк зняслаўлялі каталіцкую рэлігію». Уніяцкія святары з Ушач у 1802 г. не пусцілі каталіцкіх місіянераў у свой храм. З Магілёўскай кансісторыі паляцела тады ў Пецярбург просьба дапамагчы ўтаймаваць ушацкіх базыльян, якія «вымаўляюць розныя шалёныя супраць рымакаталіцкай рэлігіі словы, яшчэ ніколі нечуваныя»[253]. Каб загладзіць міжканфесійны канфлікт у мястэчку Ушачы, туды накіравалі супольную камісію з уніяцкага і рымскага духавенства[254].

З гэткай жа мэтай – вярнуць да ўніі сваіх сялян – дэкан Радзевіч з Варанечы пайшоў на фальсіфікацыю ўказа Магілёўскай рымскакаталіцкай кансісторыі[255].

У 1799 г. сяляне вёскі Гарэспля Полацкага павета (40 дамоў) былі прымусова пераведзены іх панам у рыма-каталіцызм. Уніяцкі святар, які ўціскаў іх «залішнімі дамаганнямі за царкоўныя трэбы, вёў нецвярозы лад жыцця», згадзіўся зыйсці ў другую царкву. Але Полацкая ўніяцкая кансісторыя на падставе ўказаў 1796, 1797 і 1799 г., якія забаранялі пераход уніятаў у рыма-каталіцызм, запатрабавала, каб Гарэсплянская царква была пакінутая ва ўніі, каб пры ёй заставаўся ранейшы святар і каб ёй вярнулі ўсю яе маёмасць.

[251] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 34. – Арк. 227–230.

[252] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. – Т. 2: 1701–1839. – СПб.: Синодальная тип., 1907. – С. 623–625.

[253] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. – Т. 2: 1701–1839. – СПб.: Синодальная тип., 1907. – С. 607–608.

[254] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22303. – Арк. 6.

[255] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. – Т. 2: 1701–1839. – СПб.: Синодальная тип., 1907. – С. 607–613.

Грэка-уніяцкая калегія ў Пецярбургу ў 1818 г. пастанавіла вярнуць гэты прыход з яго фундушам, рэчамі і прыхаджанамі ва ўнію[256].

Сяляне Свалнянскага прыходу (Дрысенскі павет) у 1802 г., хоць і згадзіліся перавярнуцца ў рыма-каталіцызм, але ключы ад сваёй царквы, пабудаванай уласным коштам, місіянерам не далі – баяліся, каб яе «ў іх не адабралі на касцёл». У 1804 г. яны звярнуліся да беларускага губернатара за дазволам вярнуцца ва ўніяцтва[257].

Уніяцкі святар Фама Крываносавіч з Полацкага павета Віцебскай губерні ў 1805 г. шукаў абароны ў архіепіскапа І. Лісоўскага. Калі ён, Фама, не пажадаў перайсці на рымскі абрад, то памешчык пазбавіў яго сродкаў існавання – разабраў яго хату, адабраў зямлю[258].

Перавод беларусаў на лацінскі абрад выклікаў каталіцка-уніяцкі канфлікт небывалай моцы. У 1799 г экс-мітрапаліт Ф. Растоцкі пасылаў у Вену базыльяніна Храбравіцкага хадайнічаць аб заступніцтве за «рускіх» уніятаў і дапамозе ў супрацьдзеянні С. Сестранцэвічу, які выклапатаў урадавы дазвол на іх перавод у лацінства[259].

Праціўнік лацінскай дамінацыі над уніяцкай царквой полацкі ўніяцкі архіепіскап Іраклій Лісоўскі запатрабаваў ад Магілёўскай рымска-каталіцкай кансісторыі «забараніць … такое бясчынства, вінаватых аштрафаваць і вярнуць занятыя лацінянамі цэрквы»[260].

Не атрымаўшы задавальнення свайго патрабавання ад магілёўскага біскупа, Лісоўскі стаў шукаць сатысфакцыі і пратэкцыі ўніятам у Пецярбургу, у міністра ўнутраных спраў і ў імператара. Ён гаварыў ім пра «ўзмоцненае імкненне лацінян да заняволення ўніятаў». «Ніколі ўніяты, – пісаў Лісоўскі ў сталіцу імперыі, – з часу далучэння свайго, ані іх епіскапы, ні мітрапаліт не былі пад начальствам рымлян. А толькі пад паслушэнствам аднаго папы рымскага знаходзіліся».

Полацкі архіепіскап прадставіў у Пецярбург гістарычную даведку пра ўніяцка-каталіцкія ўзаемаадносіны. Калі ў мінулыя часы, пісаў ён, лацінскае духавенства дзеля памнажэння паствы «па-

[256] НБР. – Ф. 629. – Спр. 73. – Арк. 1–2, 4.

[257] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 34. – Арк. 231 адв.–232, 240 адв., 246 адв.

[258] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22303. – Арк. 13 адв.

[259] Коялович М.О. История воссоединения западнорусских униатов старых времен (до 1800 года). – Мн.: Лучи Софии, 1999. – С. 383.

[260] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22303. – Арк. 5–5 адв.

чало завабліваць у свой абрад дробную шляхту і чэрнь», уніяцкая іерархія скардзілася на гэта папе. Той выдаваў булы, якія такі пераход забаранялі. Але магутнае ў Рэчы Паспалітай лацінскае духавенства «мала паважала папскія забароны». Адбываліся і судовыя працэсы па гэтаму прадмету. І вось з канца XVIII ст. лаціняне зноў пачалі забіраць уніяцкія цэрквы. Пад іх уздзеяннем 27 святароў разам з прыходамі і царквой і 10 іераманахаў Полацкай епархіі прынялі лацінскі абрад. Яны служаць літургію ў лацінскім абрадзе славянскай мовай[261].

І. Лісоўскі пратэставаў супраць падпарадкавання ўніяцкай царквы Сенатам у 1801 г. рымска-каталіцкай духоўнай калегіі, якое прывяло да страты царквой сваіх пазіцый, пераводу да 200 тыс. чалавек на лацінскі абрад, і хадайнічаў аб адмене гэтага імператарскага ўказа.

Полацкі ўладыка знайшоў у Пецярбургу разуменне. Магілёўскаму арцыбіскупу С. Сестранцэвічу было абвешчана «манаршае незадавальненне з нагоды пераводу ўніятаў на рымскі абрад», забаронена разгалашэнне ў народзе чутак пра выкараненне ўніі і «высачайша загадана бараніць уніятаў»[262]. У 1805 г. І. Лісоўскі зноў скардзіцца ў Пецярбург на ўціск уніятаў лацінскім духавенствам, якое разносіла чуткі, што «ўнія зусім знішчыцца»[263].

Лацінскі біскуп пацярпеў паражэнне і быў вымушаны вярнуць «здабычу»[264]. Пратэсты Полацкай уніяцкай кансісторыі і архіепіскапа І. Лісоўскага ў Пецярбург, да цара, і Сестранцэвіча вымусілі Аляксандра I указамі 1803, 1806 і 1807 г. забараніць пераварочванне ўніятаў у рыма-каталіцызм. Пачалося іх вяртанне назад. Яно набыло такія памеры, што настала чарга абурацца каталіцкім уладам. Магілёўская кансісторыя запатрабавала ад уніяцкага начальства, каб не смела спрыяць іх вяртанню[265].

Такім чынам, з заняццем полацкай епіскапскай кафедры Іракліем Лісоўскім пераварочванне ўніятаў Полацкай губерні на

[261] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22303. – Арк. 14, 15–15 адв., 18.

[262] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22303. – Арк. 5 адв.–6, 19.

[263] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22303. – Арк. 3, 13.

[264] Boudou A. Stolica święta a Rosja: Stosynki dypłomatyczne między niemi w XIX stuleciu. Przekład z franc. – Kraków: Wyd. Ks. Jezuitów, 1928. – T. 1: 1814–1847. – s. 172.

[265] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. – Т. 2: 1701–1839. – СПб.: Синодальная тип., 1907. – С. 621, 623–629.

лацінскі абрад на тым гістарычным этапе «зменшылася, урэшце зусім спынілася».

Цяжбы ўніяцкага кліра з рыма-каталіцкімі калегамі, якія намагаліся адарваць ад іх паству, былі звычайнай справай у першай чвэрці XIX ст.[266].

Дзісненскі, бабруйскі і барысаўскі дэканы ў 1817 – 1827 г. хадайнічалі аб вяртанні «ў першабытны ўніяцкі абрад» спакушанай у 1797 – 1799 г. паствы і «забраных», «захопленых» тады лацінскім духавенствам храмаў[267]. Святар Полацкага дэканата М. Федаровіч заявіў пратэст і зрабіў папярэджанне даўгінаўскаму ксяндзу, які звёў двух яго прыхаджан[268]. Дубровіцкі поп (Лепельскі павет) Г. Нарамоўскі ў 1825 г. наракаў на палюдовіцкіх ксяндзоў: «павінны ведаць свой статак» і не прымаць чужых прыхаджан. Ён дамогся вяртання 433 уніятаў, імі «прысвоеных і ўтрымліваемых» з 1802 г.[269]. У 1835 г. мітрапаліт Булгак ізаляваў у Беразвеччы іераманаха скасаванага Любавіцкага манастыра за спробу прыняць каталіцкі абрад, каб ён не ўцягнуў у «заблуждение» іншых[270]. Быстрыцкі святар Наркевіч (Слуцкі павет) у 1836 г. дакараў цімкавіцкага ксяндза: «Нядобра з чужога статка блудных у сваё прымаць». Праз 2 гады ён хадатайнічаў аб стварэнні камісіі для разбору іх канфлікта з-за прыхаджан[271].

З сярэдзіны 1830-х г., калі ўсё больш відавочным станавіўся фінал уніі, «лаціняне» пачалі з новай сілай «раскрадаць уніцкі статак»[272], упарціцца чаму ўжо не было і сэнсу. Падпарадкаванне ў 1837 г. уніятаў Сіноду, што, сярод іншага, мела на мэце «выклікаць да іх агіду католікаў як да сапраўдных схізматыкаў»[273], сітуацыі не змяніла. З канца 30-х г. ідзе масавае добраахвотнае пераварочванне ўніятаў і экс-уніятаў, якія не жадалі быць праваслаўнымі, у рыма-каталіцызм[274].

Такім чынам, уніяцкая царква супрацьстаяла экспансіяніскай палітыцы прывязвання яе да касцёла, што праводзілася ў Рэчы

[266] НГАБ. – Ф. 2617. – Воп. 1. – Спр. 90. – Арк. 1–2 і інш.
[267] НГАБ. – Ф. 3245. – Воп. 5. – Спр. 21. – Арк. 124–125 адв.
[268] РДГА. – Ф. 823. – Воп. 3. – Спр.1575. – Арк. 1.
[269] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр.22591. –Арк. 1–5.
[270] РДГА. – Ф. 823. – Воп. 3. – Спр. 1567. – Арк. 4.
[271] НГАБГ. – Ф. 1772. – Воп. 2. – Спр. 8. – Арк. 37 адв., 40–41.
[272] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23283. – Арк. 11.
[273] НБР. – Ф. 52. – Спр. 25. – Арк. 15 адв.
[274] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23249, 23269, 23521 і інш.

Паспалітай і ў Расійскай імперыі, апелюючы спачатку да апостальскага прастола, а потым да пецярбургскага двара. Адстойванне сваёй веры мела этнаахоўны аспект: уніяцкія дзеячы, што выходзілі з беларускага асяроддзя аберагалі, такім чынам, і самабытнасць народа, якой яна спрыяла. Іх імкненню спыніцца на «беларускай уніі» трывала і ўстойліва перашкаджаў сам каталіцкі Захад. Ціскам на ўніяцкую царкву ён «усё больш заганяў яе пад Расію»[275].

У супрацьстаянні польска-каталіцкай «апецы» частка ўніяцкага духавенства яшчэ з 60-х г. XVIII ст.[276] стала звяртаць позіркі на магутную суседнюю блізкую па веры дзяржаву. Чым менш удаваліся спробы царкоўных лідэраў адстаяць асобнасць і самабытнасць сваёй канфесіі і чым болей яны ўпэўніваліся ў намерах Захаду сцерці розніцу паміж уніяцтвам і каталіцтвам і, такім чынам, ліквідаваць іх веру, тым больш схіляліся ў бок Масквы і Пецярбурга ў надзеі там атрымаць дапамогу. Але іх спроба абаперціся на Расію ў барацьбе супраць экспансіўнага каталіцызму за захаванне ўніяцтва мела трагічны фінал – замест дапамогі Мікалай I і Блудаў «сапхнулі яго на рэйкі праваслаўя»[277].

---

[275] БАНЛ. – Ф. 43. – Спр. 24846.

[276] Litak S. Kościoł unicki obrządku greckiego na styku dwóch kultur w XVI–XVIII wieku // Belarus, Lithuania, Poland, Ukraine: The Foundations of Historical and Kultural Traditions in East Central Europe: International Conference, Rome, 28 April – 5 May 1990 / Ed. J. Kłoczowski and other. – Lublin: Institute of East Central Europe; Rome: Foundation John Paul II, 1994. – P. 267.

[277] Цьвікевіч А. «Западно–руссизм»: Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. – 2-е выд. – Мн.: Навука і тэхніка, 1993. – С. 146–147, 151.

# 3. 1833 – лета 1838 г.: канфесійнае перайначванне Беларусі

## 3.1 «Частные присоединения» і «отпадение в унию».

### *Аднаўленне наступу на ўнію. Новы этап змагання за сваю веру*

Мікалай I аднавіў наступ на ўніяцкую царкву. Пасля паўстання 1830 – 1831 г., якому актыўна дапамала яе духавенства, імперская палітыка ў дачыненні да ўніятаў становіцца больш бязлітаснай, а з 1833 г. і наогул набывае форму пераследу.

Аднаразовае раптоўнае пераварочванне ўніятаў пры Кацярыне II змяніла доўгапланавае, разлічанае на некалькі гадоў, старанна падрыхтаванае вырашэнне «ўніяцкага пытання». Яно пачалося з так званых «частных присоединений», арганізаваных полацкім праваслаўным архіепіскапам Смарагдам. У іх выніку, з дапамогай беларускага генерал-губернатара Хаванскага і віцебскага губернатара Шрэдара, на ўсходзе Беларусі на працягу за 1833–1837 г. было «воссоедининено» больш за 100 тысяч уніятаў. Улады сталі тады на шлях адміністрацыйна-сілавога вырашэння праблемы.

Вось што занатаваў у сваіх «Запісках» будучы ўдзельнік расійскага рэвалюцыйнага руху Максімільян Маркс, як «з першых гадоў царавання Мікалая Паўлавіча пачалося так званае добраахвотнае ўз'яднанне ўніі з праваслаўнай царквой»:

«Вяртаючыся з экскурсіі ў Гарадоцкі павет, у вярстах сямі ці васьмі ад Віцебска, каля сяльца Аўжосна, я быў спынены цэлай масай народа, які тоўпіўся ля карчмы, што пры дарозе звычайна была непадалёк ад царквы.

«Што гэта такое?» – запытаўся я.

«А, прыехалі пераварочваць», – адказалі мне.

Пaглядзім, як гэта пераварочваюць, падумаў я, заехаў у карчму, пакінуў у ёй каня з возчыкам, адправіўся да царквы, прабіраючыся скрозь густы натоўп сялян і сялянак, падыйшоў да яе і вось што ўбачыў.

Дзверы царквы адчынены… І тут ужо ўвіхаюцца спраўнік, станавы і губернатарскі чыноўнік асобых даручэнняў. Усе ў мундзірах, пры шпагах і ў трохвуголках. Тут быў і пазнаўшы мяне прадвадзіцель дваранства Н. О. Энько; але ў якасці памешчыка і не ў форме.

… Выйшаў з царквы протаіерэй, і трохвуголкі і шапкі паляцелі з галоў. Пачалася казань на царкоўна-славянскай мове, якую і ў дзесятай частцы не зразумелі спраўнік і яго чыноўнікі, а тым больш не цямілі астатнія слухачы. Красамоўна, квяціста і захоплена гаварыў прапаведнік: і чаго толькі ён не нагаварыў – не сабраць усяго і ў цэлы мех! Вось рымская ерась, нібы распусніца, скача пад гукі домраў, накраў і дудак; вось вяшчуны яе састрыглі валасы, пагалілі бароды, адкідалі рызы, што насіў сам Збавіцель, і, каб зацерці ўсякі ўспамін аб ім, перасталі складваць пальцы ў святое яго імя. Дзіўная была казань, а яшчэ дзіўней заканчэнне яе. «О вы, агнцы, возвращающиеся на лоно призывающей вас матери вашей – церкви, идите о десную; вы же, козлища, остающиеся во смрадных ересях своих и во власти сатаны и аггелов его, ступайте о игую!»

Чыноўнікі і псаломшчыкі кінуліся тлумачыць мужыкам і бабам гэты эпілог хрысціянскага павучэння. Натоўп захваляваўся і памкнуўся спачатку хто ўправа (о десную – С. М.), хто ўлева (о игую – С. М.); але хутка ўсе злева, як адбітая хваля, адкінуліся назад і рушылі за правымі. Налева, у нязначным аддаленні, стаялі два вазы з розгамі, а пры іх некалькі паліцэйскіх соцкіх і дзесяцкіх з бліскучымі бляхамі на шапках; а направа – дзве бочкі суцяшальнейшай сівухі! Казань займела поўны поспех і наварочванне адбылося мірна і палюбоўна.

Пасля хадзілі чуткі, што па дарозе дадому памерла ў гадах жанчына ад выпітай па неабходнасці гарэлкі»[278].

Падаўленне ўніяцкай традыцыі выклікала шокавы стан у беларускім грамадстве. Уніяцкая царква тады ўжо была трады-

[278] Сосна У. «... С благочестивым свирепством всекал униат в православие» // Беларуская мінуўшчына. – 1996. – № 4. – С. 9–10; Уния в документах: Сборник / Сост. В. А. Теплова, В. И. Зуева. – Мн.: Лучи Софии, 1997. – С. 467–468.

цыйным рэлігійным інстытутам ў Беларусі, а традыцыя – моцная сіла і непераадольная перашкода на шляху любой канфліктнай трансфармацыі.

Ва ўніяцтве вырасла і выхавалася 12 пакаленняў людзей. За два з паловай стагоддзі народ паспеў прывязацца да веры, якая ў многім адпавядала яго нацыянальна-культурным памкненням і сацыяльнаму статусу. Выпрацаваныя ёю погляды, звычаі і схільнасці ў царкоўна-рэлігійным жыцці і культурна-бытавой сферы ўвайшлі ў свядомасць многіх пакаленняў, сталі іх патрэбай.

«Уз'яднанне» змяніла не толькі рэлігію, але парушыла звычайную размераную хаду сялянскага жыцця: пацягнула за сабой адмену яго святаў, абрадаў, рытуалаў, яго мовы ў храме; адбілася на царкоўным праве, запатрабавала перапісвання гісторыі; абярнулася асабістымі і сацыяльна-грамадскімі драмамі, узбударажыла народ. Так доўга выхаваны пад уплывам уніяцтва, ён не мог раптоўна кінуць ранейшыя сімпатыі, змяніць звычкі і хутка прывыкнуць да каштоўнасцяў, што яму навязваліся.

У гэты час унія трымалася на аўтарытэце духавенства і народным традыцыяналізме. Асабліва нялёгка было пераадолець гэты царкоўна-гістарычны рубеж старэйшаму пакаленню і тым вернікам, якія лічылі ўніяцтва сваёй верай і не бачылі патрэбы яе мяняць. Зламаць гэту агромністую культурную сілу і рэлігійную традыцыю, пранізаўшую многія сферы людскога жыцця, было нялёгка, нават цяжэй, чым задушыць паўстанне. Таму на іх знішчэнне была накіравана ўся сістэма царскай улады: суд, Сінод, сенат, мясцовая адміністрацыя, паліцыя, часам у ход ішло войска.

На рэлігійную канверсію 1830-х г. народ адказаў адданасцю сваім пастырам, абрадам, традыцыям, прывязанасцю да сваёй веры. Схіленыя да адрачэння ад уніі ўгаворамі, падманам і прымусам, «нявольныя» праваслаўныя нарабілі тады шмат клопатаў мясцовым і вярхоўным уладам. У 1834 – 1838 г. павятовыя суды былі завалены справамі аб «адпадзенні» ад пануючай веры. Антыўз'яднаўчы рух ахапіў усю Беларусь, хоць меў больш актыўны і арганізаваны характар на ўсходзе. Яго сацыяльную базу складалі шараговае духавенства, базыльяне, шляхта, сяляне. Адпор дэўнізацыі праяўляўся ў розных формах – ад байкоту культавых навацый да сілавой абароны сваіх сакральных каштоўнасцяў, у выгнанні місіянераў і камісій

па пераварочванню, у непрыняцці новых служэбнікаў, падачы калектыўных пратэстаў, апеляцый на царскае імя, і інш.

Ва ўніяцкай упартасці адыгрывалі ролю не адны рэлігійныя перакананні, але і нацыянальны аспект. Супраціў пераводу ў праваслаўе, зробленае зброяй этнічнага зліцця беларусаў з расіянамі, трэба разглядаць як барацьбу за захаванне свайго нацыянальнага аблічча, якое падтрымлівала ўнія. Рэлігійна афарбаваны «местный лжепатриотизм», як назваў яго спадвіжнік І. Сямашкі М. Сушкоў, перашкаджаў усталяванню «рускіх начал» у Беларусі.

Улады сустрэліся з вялікімі цяжкасцямі, выкліканымі праявамі рэлігійнага патрыятызму. У экстрэмальнай сітуацыі шматгадовай неабвешчанай «вайны» супраць іх веры, адзіным злачынствам якой было тое, што яна разыходзілася з казённым праваслаўем, уніяцкая супольнасць (сялянства, духавенства, шляхта) кансалідуецца і мабілізуе сілы самазахавання. Найбольш паслядоўнымі барацьбітамі за ўнію былі шараговыя прыходскія святары. Духавенства, больш адукаванае, адданае сваёй справе, узначальвала сялянскія масы. Змаганне за ўнію трывала тады ў Беларусі на працягу шасці гадоў.

## *«Як шкодных у грамадстве – у Сібір!»: першыя пакаранні*

Высветлілася, што сяляне вёскі Азарыч Пінскага павета Мінскай губерні, хоць і адносяцца да праваслаўя (перавернутыя, відаць, у 1795 г.), але «не па духу веры», але з-за аддаленасці ўніяцкага святара. Дый у суседніх прыходах: Паршэвіцкім, Лагішынскім і Выганошскім – «не прадбачыцца жаданага поспеху ў пераварочванні прыхаджан з уніі»[279].

Гэта безмесныя ўніяцкія святары, як тлумачылі ў Сінодзе, «будучы ў тых мясцінах, дзе не існуе ўніяцкіх цэркваў, спакушаюць сялян…, з-за чаго адбываецца паміж імі незадавальненне і самому начальству цяжкасць». Асаблівым аўтарытэтам у тых мясцінах карыстаўся святар Зубковіч. Пазбаўлены прыходу ад адмову адрачыся ад уніі, ён жыве ў суседніх Целяханах і робіць жыхарам навакольных вёсак «супрацьлеглае ўнушэнне», прыцягвае іх да сябе на споведзь.

[279] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22287. – Арк. 5–5 адв.

Мясцовыя ўлады, духоўныя і свецкія, неаднойчы намагаліся змяніць стан рэчаў у Азарычах. У 1826 г. 28 сялян «за спакушэнне» ва ўніяцкую веру былі аддадзены пад суд. Справу разглядала Мінская крымінальная палата, якая «прызнала несапраўднымі іх паказанні аб паходжанні і прыналежнасці да ўніяцкага спавядання, … з забаронай спакушэння іх ва ўнію». Але тыя судоваму выраку не падпарадкаваліся.

Ішлі гады. І вось Азарычы зноў папалі ў поле зроку ўладаў. У 1830 і 1832 г. мінская епархіяльная ўлада дарэмна звярталася ў Літоўскую ўніяцкую кансісторыю аб выдаленні святара Зубковіча з Целяхан з забаронай яму з'яўляцца ў праваслаўных прыходах. Тады абрынуліся рэпрэсіі на вяскоўцаў. Рашэннем Пінскага павятовага суда ў 1833 г. 13 чалавек пакаралі бізунамі – па 25 удараў. Восем сялян, з-за іх старасці і лядаштасці, не білі, але вытрымалі па тры тыдні ў астрогу. Уніяцкім святарам было забаронена даваць усім ім трэбы.

Пасля пакарання 17 чалавек згадзіліся прыняць праваслаўе. 57-гадовы Рыгор Ціхановіч і Андрэй Козел, 44-х гадоў, «засталіся ўпартымі», яшчэ 2 чалавекі – «захварэлі». Першых двух, «як шкодных у грамадстве і здольных упартасцю сваёй аказаць на іншых дрэнны ўплыў», павятовы суд у 1836 г. прыгаварыў да высылкі ў Сібір на пасяленне. Гэтак жа было вырашана паступіць і з «хворымі».

Пецярбургскі Дэпартамент духоўных спраў замежных веравызнанняў вырашыў так далёка азарыцкіх сялян не пасылаць, а накіраваць іх ў адзін з праваслаўных манастыроў «для выкладання ім вопытнымі манахамі духоўных настаўленняў …, пакуль тыя не адчуюць сваіх памылак»[280].

У 1795 г. Пячарская ўніяцкая царква Клімавіцкага павета Магілёўскай губерні была перавернута ў праваслаўе. Але па прашэсці гадоў прыхаджане сталі ўхіляцца ад новай веры. Вярнулася, у прыватнасці, ва ўнію Еўдакія Грыгор'ева. Павыходзілі замуж за «іншаверцаў» (адпаведна ўніята і рыма-католіка) і здрадзілі праваслаўю Мар'я Нікіфарава і Праскоўя Сцяпанава. Хрышчаны ў праваслаўнай царкве Кузьма Курчанкоў з маленства наведваў уніяцкі храм.

[280] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22287. – Арк. 3 адв.–7 адв.

З 1831 г. узяліся і за гэтых сялян – жыхароў вёскі Цехановічы. Іх угаворвала праваслаўнае духавенства, «настаўляў на розум» іх уладальнік – памешчык Маліноўскі. Іх выклікалі ў Магілёў, дзе тройчы іх ушчуваў сам магілёўскі ўладыка. Нічога на іх не падзейнічала – яны «рашуча засталіся непахіснымі да вяртання ў праваслаўе».

Тады ў 1832 г. за справу ўзяліся Клімавіцкі павятовы суд, Магілёўская крымінальная палата, Магілёўскае губернскае праўленне і больш высокія інстанцыі ў Пецярбургу: грэка-уніяцкая і рымска-каталіцкая калегіі, Сінод, Сенат, міністэрства ўнутраных спраў. Пачалі шукаць, хто стаіць за гэтымі адмаўленцамі. Пан Маліноўскі? Але ж ён сам угаворваў іх вярнуцца ў праваслаўе. Заключылі: Яны навучаны святаром тамашняй уніяцкай царквы Падабедам. Праўда, і святар той ужо нейкі час як памёр. А сяляне ж застаюцца непахіснымі.

Урэшце Сенат вырашыў паставіць на гэтай справе кропку. Калі яны адмовяцца, абвяшчаў сенацкі ўказ, паступіць з імі згодна артыкула Зводу законаў аб злачынствах супраць веры[281].

Уніяцкія святары Васіль Сушчынскі і Іосіф Вішнеўскі «спакусілі» ў 1832 г. назад ва ўнію некалькі сялян памешчыцкага маёнтка Талкачэвічы. Справу тых сялян разглядаў Мінскі суд. «Спакуснікаў» на месяц упяклі пад нагляд у Лядзенскі базыльянскі манастыр на пакаянне[282].

У вёсцы Гербовіч Рэчыцкага павета Мінскай губерні былі дзве царквы: праваслаўная і ўніяцкая і пры ёй святар Малевіч. Ён спакусіў паству свайго праваслаўнага калегі. Той данёс. У 1833 г. Малевіча прыцягнулі да судовай адказнасці. Але справа набыла нечаканы паварот – пакаралі праваслаўнага святара Падольскага. Яго абвінавацілі «ў слабым наглядзе … за сваімі прыхаджанамі, з якіх адны ўхіліліся ад праваслаўя, а другія, з яго згоды, звярталіся за духоўнымі паслугамі да … Малевіча». Так што апошняга апраўдалі. Пад гэтым выракам, датаваным 1836 годам, стаіць подпіс міністра ўнутраных спраў Д. Блудава[283].

---

[281] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22268. – Арк. 2 адв.–3 адв., 5–7, 9–10, 17, 19 адв.

[282] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22785. – Арк. 19 адв.

[283] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22290. – Арк. 2–2 адв.

## *Хадайнікі за ўнію*

У студзені 1834 г. хваля дэўнізацыі дакацілася да маёнтка Белая Полацкага павета – уладання барона Корфа. Сялян прыналежных яму вёсак Белая, Бароўцы, Дубеніцы, Экімань, Цынаўка, Дварэц і інш., разам з прыходскай царквой, перавярнулі, нібыта па іх добрай волі, у «грэка-расійскую веру». Аднак калі ўладальнік Печанько пачаў прымушаць вяскоўцаў хадзіць на споведзь і прычасце ў перавернутую царкву, на дзесятках вёрст запанаваў агульны настрой: «жыць і памерці ў прыроднай уніяцкай веры».

Абшчына накіравала ў Полацк, у грэка-уніяцкую кансісторыю, хадака – усімі паважанага старца Савелія Лаўскага – «прасіць за ўнію». Напісаць прашэнне ад імя сялян яму дапамог полацкі павятовы маршалак Белікові́ч – актыўны змагар за ўнію. Але Лаўскі вярнуўся ні з чым: прашэнне ў кансісторыі не прынялі. Ноччу нехта прыбіў гэту паперу да дзвярэй царквы ў Белай. На сустрэчы ў карчме сяляне выпрацавалі далейшы план дзеянняў[284].

12 сакавіка «адшукваць дазволу па-ранейшаму быць уніятамі» і прасіць замены «рускага святара, які ўжо правіць нашым прыходам, уніяцкім» у Полацк прыйшлі ўжо 44 хадакі з розных вёсак. Спачатку яны звярнуліся да ўніяцкага епіскапа, каб ён «не дапускаў нас у рускую веру». Той адмовіў, бо «царква і прыход ужо рускай веры».

Тады ўся гэта дэлегацыя накіравалася да павятовага суддзі Корсака, які выконваў абавязкі адсутнага на той час полацкага прадвадзіцеля дваранства, з просьбай абараніць іх ад прымусу да перамены веры, вярнуць іх святара. Але за «неабгрунтаваную, агульным скопам, скаргу супраць благачасцівай веры, імі прынятай добраахвотна з уніі,» па загаду падпалкоўніка Агатонава просьбітаў схапіла паліцыя, жорстка збіла палкамі і кінула ў астрог[285] .

Пачаўся судовы разбор. Як пасмелі? Хто падбухторыў? Вінавацілі ўніяцкае духавенства, чыноўнікаў-католікаў, зламысных людзей, якія рассейвалі чуткі. У следчай справе зафігуравала імя Беліковіча. Гэта ён, «аддадзены польскаму патрыятызму», «заўсёды ідзе супраць рускага праваслаўя і стаіць за польскую ўнію». Ды й

[284] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7797. – Арк. 29 адв., 43, 48 адв., 79, 82, 92 адв.–93.

[285] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7797. – Арк. 1, 29 адв., 40 адв., 77, 82; ДАРФ. – Ф. 109. – IV экспедыцыя. – Воп. 175. 1835 год. – Спр. 83. – Арк. 33 адв.

праваслаўнае духавенства павінна «утрымліваць новаперавернутых ад спакушэння».

Высветлілася, што праблема перасягнула далёка за межы Бельскага маёнтка ў сувязі «з распачатымі паміж перавернутымі да праваслаўя сялянамі і ў іншых месцаў хваляванняў». Паўстала няпростае пытанне: як іх папярэдзіць, спыніць? Сялянам унушалі, што «пасля добраахвотнага далучэння да праваслаўя зварот назад ва ўнію на падставе найвышэйшых узаканенняў немагчымы»[286].

Спачатку «бельскія бунтаўшчыкі», як ахрысціў іх полацкі ўладыка Смарагд, трымаліся стойка, з рашучым намерам трымацца ўніі. «Рускай веры я не асуджаю..., але ж хачу толькі памерці ва ўніяцкай веры», – заявіў на допыце непісьменны Трафім Літвінаў. Сяляне адмаўлялі, што яны давалі згоду на перамену веры. Абвяргалі і падазрэнне, што нехта іх падбухторыў звярнуцца ў Полацк да епархіяльных і павятовых уладаў. Адзін з іх, 65-гадовы Канстанцін Андрэеў з вёскі Цынаўкі, сведчыў, што «агульны погалас усіх навакольных людзей – трымацца ў сваёй веры – зацвердзіў нас у рашэнні ісці ў горад»[287].

Астрог зламаў людзей. Настаўленыя на розум у Полацкай грэка-расійскай кансісторыі, яны «чыстасардэчна раскаяліся ў сваіх памылковых поглядах» і былі адпушчаны дахаты. Акрамя дваіх – Якіма Жалудовіча з вёскі Дварэц і Карпа Сувалкі з Довінкаў, якія «меней каяліся ў сваіх памылках».

…У маёнтку Белым «навялі дасканалы спакой»[288].

## *Барацьба за сялянскія душы ў Шыпаве і Юровічах*

У сакавіку 1834 г. пра свой намер застацца ўніятамі заявілі мясцовым уладам 66 сялян вёскі Шыпаў Сенненскага павета Магілёўскай губерні. Яны аднадушна адмовіліся, «хоць бы гэта каштавала ім жыцця», ад прынятай чатырма месяцамі раней па настаянню свайго пана Шыдлоўскага грэка-расійскай веры[289]. На розум іх настаўлялі памешчык, грамадзянскае начальства, новы прыходскі

[286] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7797. – Арк. 2 адв.–3 адв., 6. 30.
[287] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7797. – Арк. 41, 48 адв.
[288] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7797. – Арк. 19, 77–77 адв.
[289] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8513. – Арк. 2–2 адв.

святар. Усё было дарэмна. Тады справай шыпаўскіх сялян заняўся земскі суд.

Нехта стаіць за іх упартасцю – вырашылі ў судзе. Пачалі шукаць падбухторшчыкаў, каб з імі «паступіць па ўсёй строгасці»[290]. Падазрэнне пала на ўніяцкага папа Фадзея Насовіча з суседняй вёскі Утрылава. Да яго паслуг шыпаўцы сталі звяртацца пасля перадачы іх Аляксейніцкай царквы ў праваслаўнае ведамства. Следчая камісія запатрабавала ад святара пісьмовага абавязацельства не прымаць сялян з Шыпава. Паколькі ўзятых абавязацельстваў ён не выконваў, епіскапу Васілію Лужынскаму прапанавалі перамясціць Насовіча ў іншы, аддалены прыход і прызначыць на яго месца «добранадзейнага» святара[291].

Прынятыя меры далі вынік. У маі 1835 г. жыхары Шыпава «зноў далучыліся да грэка-расійскай царквы і выказалі жаданне непахісна ўтрымліваць праваслаўную веру да канца жыцця». Следства спынілі[292].

Аднак у жніўні зноў высветлілася, што 6 вяскоўцаў, нягледзячы на моцныя дамаганні кінуць уніяцкую веру, «наследуючы прыкладу сваіх продкаў, якія былі ўнітамі, здрадзіць ёй не згадзіліся»[293]. Гэта ўніяцкія духоўныя ўлады вінаватыя, наракаў магілёўскі епіскап Гаўрыіл. Яны ўзялі Насовіча пад сваю абарону. Епіскап запатрабаваў устанавіць за сялянамі «неаслабны нагляд», каб яны не звярталіся да Насовіча за рэлігійнымі трэбамі[294].

У другой палове 1834 г. разгарнулася барацьба за душы і розум пяці тысяч казённых сялян суседняга з Полацкам уніяцкага пагоста Юровічы (маёнтак Спас), а таксама за ўпартых «у сваёй уніцкай цвёрдасці» жыхароў бліжэйшых маёнткаў: Струнь, Сосніцы, Сітна, Стаек, Непадовіч, Чэмес, Обаль, Альбрэхтаў Полацкага павета. Барацьбу за іх павялі праваднік урадавай палітыкі смаленскі, віцебскі і магілёўскі генерал-губернатар Хаванскі і падначаленыя яму службы; ваенна-павятовы начальнік падпалкоўнік Агатонаў, які прадстаўляў корпус жандараў; полацкі праваслаўны епіскап Смарагд. Гэта магутная сіла стаяла за юровіцкім святаром Кнышэўскім, у асобе

290 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8513. – Арк. 4 адв.–5.
291 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8513. – Арк. 8–9.
292 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8513. – Арк. 13 адв.–14.
293 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8513. – Арк. 15.
294 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8513. – Арк. 18–19.

якога Смарагд «сярод уніяцкага духавенства … першага знайшоў такога, які адзіна па перакананню сумлення схільны да нашага праваслаўя»[295].

Гэтай сіле супрацьстаялі Полацкая грэка-уніяцкая кансісторыя, якая дарэмна намагалася выдаліць з Юровіч гэтага рэнегата сярод прыходскіх святароў; валасны пісар маёнтка Спас і засядацель полацкага земскага суда Рудкоўскі; мясцовыя памешчыкі і былы настаяцель юровіцкага прыхода С. Златкоўскі.

«Звонку ўніцкі, а па духу праваслаўны» Кнышэўскі схіляў юровіцкіх сялян кінуць унію і прасіў прыслаць яму на падмогу «добранадзейнейшага» члена казённай палаты. Выбар паў на віцебскага чыноўніка Часлаўскага. У дапамогу яму далі акруговага ваеннага начальніка падпалкоўніка Агатонава. На час далучэння сялян той прасіў выдаліць з вёскі былога юровіцкага святара Златкоўскага і полацкага засядацеля Рудкоўскага «як шкодных праваслаўю»[296].

Златкоўскі, як вынікала з сакрэтнай карэспандэнцыі паміж Смарагдам, Агатонавым і Хаванскім, быў ужо раней выдалены з юровіцкага прыхода «за падбухторванне сялян да хвалявання»[297]. Але ён і далей раз'язджае па вёсках, спакушае новаправаслаўных ва ўнію, «усюды бязбоязна ганьбуе грэка-расійскую царкву». Хоць ён і абяцаў не ўмешвацца ў пераварочванне ўніятаў, але з'яўляецца яго «непрымірымым нядобразычліўцам». Не служыў царскага малебна ў дзень каранацыі імператара… і г.д.[298]

Ён, Златкоўскі, моцна хваляваў розумы юровіцкіх сялян. У тых, што «праяўлялі схільнасць да прыняцця праваслаўя, укараніў адчужэнне ад яго»[299]. На падставе гэтага прадстаўлення Смарагда генерал-губернатар прызнаў далейшае прабыванне Златкоўскага ў Юровічах «шкодным для праваслаўнай царквы». Але святар паскардзіўся на праслед міністру ўнутраных спраў. За Златкоўскага заступіліся Полацкая грэка-уніяцкая кансісторыя, сябры, родныя[300].

Мясцовыя духоўныя і свецкія ўлады грунтоўна ўзяліся за Юровічы – вымалёўвалася перспектыва пераможным рапартам

---

[295] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8509. – Арк. 22 адв.
[296] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8509. – Арк. 1–2.
[297] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8509. – Арк. 28 адв.
[298] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8509. – Арк. 17–17 адв.
[299] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8509. – Арк. 18 адв.
[300] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8509. – Арк. 17 адв.–18.

у Пецярбург звярнуць на сябе ўвагу ўраду[301]. Ды й справа набыла дастатковую галоснасць. Трэба было яе паскорыць, «інакш нядобранадзейныя людзі сваімі ілжывымі нагаворамі могуць аслабіць жаданне сялян да прыняцця благачэсця або і зусім ад яго адхіліць»[302]. Выдалілі Златкоўскага. Пісара Рудкоўскага спачатку вырашылі заняць нейкім выязным даручэннем на час пераварочвання юровіцкіх сялян. А потым прызналі за лепшае прызначыць на яго месца іншую, «цалкам добранадзейную асобу»[303].

І вось з канца жніўня юровіцкія сяляне сталі аб'ектам узмоцненай апрацоўкі. У пагост зачасцілі місіі і камісіі, адна паважней за другую.

26 жніўня, падчас апошняга ўніяцкага богаслужэння, святар Кнышэўскі пераконваў вяскоўцаў, што з адрачэннем ад уніі яны «не павінны засмучацца, а павінны яшчэ і радавацца», бо вяртаюцца ў веру продкаў[304]. Назаўтра стаць «аднаверцамі са сваім гасударом» іх заклікаў полацкі протаіерэй І. Капаевіч, які прыехаў па даручэнню падпалкоўніка Агатонава. Протаіерэй «тлумачыў ім чысціню і святасць абрадаў і дагматаў праваслаўнай веры…, гэтак жа адступленні і ўпушчэнні ва ўніі». Пасля такіх угавораў да 1300 сялян, як рапартаваў Агатонаў генерал-губернатару, «аднадушна і радасна выказалі добраахвотнае жаданне кінуць унію». 2 верасня полацкі епіскап Смарагд урачыста асвяціў царкву, частаваў сялян[305].

Аднак на гэтым кропка на ўніі ў Юровічах яшчэ далёка не была пастаўлена. 5 верасня Смарагд наракаў, «наколькі мала беларускае ўніяцкае епархіяльнае начальства добразычлівае да тых сваіх падначаленых, якія схільныя да праваслаўнай грэка-расійскай царквы»[306]. Праз месяц высветлілася, што зацвярджэнню сялян у новай веры перашкаджаюць суседнія прыходы з іх «уніцкай цвёрдасцю» і капліцы, у акружэнні якіх апынуліся новаправаслаўныя Юровічы[307].

Цяпер наступіла чарга абурацца памешчыкам. Вікенцій Кулеша, Загорскі, Драздоўскі, Рудкоўскі заявілі, што капліцы ў сваіх ма-

[301] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8509. – Арк. 31.
[302] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8509. – Арк. 39.
[303] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8509. – Арк. 26–27, 36.
[304] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8509. – Арк. 50.
[305] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8509. – Арк. 49–50, 60.
[306] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8509. – Арк. 60.
[307] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8509. – Арк. 71 адв.

ёнтках яны будавалі ўласным коштам, лічаць іх сваёй маёмасцю і іх перадачы ў праваслаўнае ведамства запрацівіліся[308]. Супраціў паноў ламалі судом[309].

## *Традовіцкі «мяцеж»*

Восенню 1834 г. на абарону сваіх святынь – Заборскай і Традовіцкай цэркваў – узняліся жыхары шэрагу вёсак Полацкага павета. У прыходзе першай з іх (маёнткі Шарстова, Заборье) налічвалася каля 1000 чалавек. Частка іх згадзілася кінуць унію, другая, «па падгавору» святара Шчансновіча і благачыннага Нікановіча, запрацівілася здачы царквы ў праваслаўнае ведамства і звярнулася ў Полацк, да духоўных улад, з просьбай пакінуць царкву ва ўніі.

Пакуль «заборская справа» разглядалася ў адпаведных інстанцыях, паўсталі сяляне маёнтка Крашут з суседняга Традовіцкага прыхода. Некаторых з іх таксама схілілі да перамены веры. Але варта было 6 лістапада з'явіцца ў вёсцы камандзіраваным Смарагдам святарам, як 40 вяскоўцаў, «большай часткай маладых», пабілі царкоўнага старасту і адабралі ключы ў протаіерэя.

Протаіерэй звярнуўся да генерал-губернатара з просьбай разабрацца з традовіцкімі прыхаджанамі, якія «добраахвотна прынялі праваслаўе, а потым з нахабствам не дапусцілі … святара» ў сваю царкву. Яны, як паведамляў у Сінод Смарагд, пачалі «ўзбунтоўваць» і суседнія вёскі, збірацца на «свавольныя сходкі», абралі сабе новае валасное начальства і царкоўнага старасту – замест тых, што згадзіліся памяняць веру, «словам, учынілі сапраўдны мяцеж». Смарагд запатрабаваў аддаць бунтаўшчыкоў суд, бо інакш «государственного единомыслия и безмятежного спокойствия, а также и верности в клятвенных обещаниях в стране сей никак ожидать нельзя»[310].

На месца здарэння губернатар прыслаў сваіх чыноўнікаў. Але сяляне праявілі «яшчэ больш абуральны дух і поўную непакору ўраду» і не далі камісіі правесці расследаванне. Тады камісія запрасіла ў віцебскага губернатара «законнай успамогі, каб уціхамірыць і прывесці да пакоры буйных традовіцкіх сялян».

[308] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8509. – Арк. 92 адв.–93, 98.
[309] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8509. – Арк. 117.
[310] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 6799. – Арк. 6 адв.

11 снежня ў вёску прыбыў сам губернатар «з поўным судом і адной ротай салдат … дзеля прывядзення ў належны парадак зачыншчыкаў традовіцкага мяцежа». Яго місія была больш паспяховай. Пасля «лагодных, але моцных ушчуванняў і перакананняў адносна кепскіх наступстваў ад учыненага мяцежа» ўсе сяляне, 750 чалавек: і тыя, «што ўчынілі шмат буйства і сваволля», і тыя, якія вагаліся, – прынялі праваслаўе, што і пацвердзілі крыжацалаваннем і падпіскамі. Зачыншчыкі прынеслі «чыстасардэчнае раскаянне» і самі прынеслі ключы ад царквы яе новым гаспадарам.

Пасля «шчаслівага завяршэння традовіцкай справы» здаліся 15 снежня і заборскія сяляне. Яны кінулі ўнію і папрасілі прабачэння «за былую ўпартасць».

Пераможная справаздача аб трыумфе ў гэтым кутку Беларусі пануючай веры паляцела ў Пецярбург: у Сінод, імператару. Полацкаму епіскапу адтуль «давялі да ведама», што здарэнні, падобныя традовіцкаму, даюць падставы для грамадскага ганьбавання дзеянняў грэка-расійскага духавенства, і запатрабавалі, «каб у справе далучэння ўніятаў паступалі няспешна», з усялякай асцярогай і звярталі асаблівую ўвагу на шчырасць іх ахвоты далучыцца да праваслаўя[311]. З нагоды тых падзей Смарагд пісаў, што гэты сумніўны куток Полацкага павета «жывіць думкі працівіцца прамой карысці Расіі» і таму «патрабуе асаблівага за ім назірання»[312].

## *Вілейскі эксцэс*

Гісторыя з пераварочваннем у канцы 1834 – пачатку 1835 г. у пануючую веру ўніятаў Вілейкі на месяцы і гады стала «галаўным болем» афіцыйных Мінска, Вільні і Пецярбурга і таму пакінула добрае адлюстраванне ў архіўных дакументах[313].

---

311 РДГА. – Ф. 815. – Воп. 16. – Спр. 1043. – Арк. 1–8 адв.

312 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7800. – Арк. 2–42.

313 О произшествии в греко-униатской церкви г. Вилейки Минской губернии и о возвращении жителей онаго из унии в православие. 1835–1839 г. // РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22974; Об обращении жителей Вилейки из унии в православие. 23 ноября 1834 г. – 15 июля 1838 г. // ДГАЛ. –Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2972.; Дело о вызове священников Вилейского деканата в Жировичи на обучение. Март 1836 г. – апрель 1837 г. // ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2516; О беспорядках в Куренецком униатском приходе и тамошнем священнике Федоре Буцевиче. Март 1836 г. – апрель 1837 г. // ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2315.

Да 1831 г. насельніцтва Вілейкі складалася з уніятаў і католікаў. Вілейскі ўніяцкі прыход аб'ядноўваў больш за дзве тысячы гараджан і жыхароў навакольных вёсак. На чале яго стаяў святар Шалепін. Пасля паўстання ў горадзе размясціўся Шлісельбургскі полк егераў, для якога заклалі маленькую драўляную праваслаўную цэркаўку. Яе настаяцелем быў Ігнат Нямшэвіч.

16 лістапада 1834 г. Шалепін памёр, і Нямшэвіч спытаўся ў мінскага епіскапа Ніканора дазволу перавесці ўніятаў Вілейкі ў праваслаўе. Епіскап звярнуўся сакрэтным пісьмом да мінскага губернатара з просьбай загадаць начальніку вілейскай паліцыі падпалкоўніку Чартарыйскаму і вілейскаму гараднічаму Дзяконскаму зняць усялякія перашкоды, што маглі ўзнікнуць пры пераварочванні. Ажыццявіць справу епіскап даручыў мінскаму протаіерэю Якаву Шыманскаму.

18 снежня 1834 г. духоўна-цывільная місія на чале з прадстаўніком епіскапа Я. Шыманскім прыбыла ў Вілейку для пераварочвання тутэйшых уніятаў, колькасцю больш за 2000 чалавек. Сабралі людзей. Тыя слухалі ўважліва, згаджаліся з кожным словам протаіерэя. Але ніхто не згадзіўся змяніць сваю веру. Цэлы тыдзень угаворваў і пераконваў вілейцаў мінскі протаіерэй, але поспеху не меў. Пакрыўджаны на цёмны люд, на «інтрыгі паноў», на лёгкадумства Нямшэвіча, ён разам з місіянерамі пакінуў Вілейку.

Тады па даручэнню мінскага губернатара за ўгаворы ўзяўся вілейскі гараднічы Дзяконскі. Раз'юшаны іх безвыніковасцю, ён 27 снежня разам з паліцыяй (па іншых звестках, з салдатамі) уварваўся падчас набажэнства ва ўніяцкую царкву, разагнаў вернікаў, выгнаў святара, замкнуў храм. Ключ разам з царквой ён перадаў расійскім вайскоўцам, якія кватаравалі ў горадзе. Тыя перанеслі сюды гарнізоннае богаслужэнне.

У Вілейцы пачаўся пярэпалах. Гвалт і незаконнасць гэтага наскоку, такі відавочны, зрабіў «шкоднае ўражанне … на розум мясцовых жыхароў». А тут яшчэ ўніяцкі святар Савіцкі «выказаў сваю рашучасць супрацьдзейнічаць збліжэнню народа да праваслаўя».

Пра вілейскія падзеі ўніяцкі вілейскі благачынны Канстанцін Заблоцкі неадкладна паведаміў літоўскаму епіскапу Іосіфу Сямашцы, а той – віленскаму губернатару Далгарукаму. Учынак вілейскага гараднічага, які дзейнічаў па даручэнню мінскага губернатара,

быў асуджаны ў Вільні і Пецярбургу. І. Сямашка 6 лютага 1835 г. звярнуўся да віленскага губернатара з просьбай вярнуць уніятам іх царкву і пакараць заўзятага гараднічага[314]. Не дачакаўшыся адказу ад губернатара, накіраваў скаргу на Дзяконскага міністру ўнутраных спраў Блудаву.

Каб прыкрыць сваё абуральнае беззаконне, мінскі губернатар і вілейскі гараднічы запатрабавалі афіцыйнай перадачы царквы ў праваслаўнае ведамства. Дзеля гэтага трэба было стварыць ілюзію добраахвотнага жадання вілейцаў кінуць унію. У ход пайшлі паліцыя і … гарэлка. «Хіба што некалькі п'яніц па моцнаму нагавору мясцовага гараднічага на гэта згадзіліся», – дакладваў епіскапу Іосіфу мясцовы благачынны Заблоцкі, – …ужо потым, і то сілком, салдаты з засядацелем, раз'язджаючы па вёсках, заганялі народ у Вілейку, дзе з іх, напаіўшы гарэлкай, узялі падпіску ад 150 чалавек…»[315]. Так з'явіліся першыя заявы аб жаданні кінуць унію і дэкларацыі адданасці новай веры. На адной з іх стаяла 60 крыжыкаў – сярод падпісантаў не было пісьменных.

Праўда, ніхто не хацеў ісці на споведзь да Нямшэвіча. А калі хто, завезены пад канвоем, і прымаў праваслаўе, то пад дакорам сваякоў у ім «пахіснуўся» [316].

Прыходскага ўніяцкага святара Савіцкага, «каб ён не падбухторваў народ», рашылі выдаліць з горада. Яго выклікалі ў Мінск, але ён ехаць адмовіўся. Тады гараднічы прымусова выправадзіў яго туды пад канвоем салдат. Пасля разборкі Савіцкага перавялі ў аддалены ад Вілейкі прыход[317]. Яму забаранілі з'яўляцца ў Вілейцы і ўзялі распіску-абавязацельства «ни под каким предлогом не поселять в жителях чего-нибудь противного новому их положению». Пазней сталі прыбіраць святароў з навакольных уніяцкіх прыходаў, каб не спакушалі новаправаслаўных вяртацца ва ўнію.

У сакавіку таго ж 1835 г. імператару і міністру ўнутраных спраў паспяшаліся адрапартаваць, што жыхары Вілейкі і тутэйшага казённага староства – 2034 чалавекі – «па выказанаму імі жаданню вярнуліся з уніі ў праваслаўе … і ў зацвярджэнні іх у оным прыняты

---

[314] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22974. – Арк. 1–1 адв., 7.

[315] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22974. – Арк. 11 адв.

[316] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22974. – Арк. 31 адв.

[317] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22974. – Арк. 11 адв., 31 адв.

належныя меры». «Дзякуй Богу!» – уласнаручна напісаў 16 сакавіка імператар Мікалай І на тым рапарце[318].

Праўда, 6 і 23 сакавіка ўсё той жа мясцовы ўніяцкі благачынны К. Заблоцкі інфармаваў літоўскага епіскапа, што жаданне вілейцаў прыняць праваслаўе і іх прашэнне аб гэтым на імя мінскага архіепіскапа – няпраўда. «…Вілейскіх прыхаджан, – паведамляў ён 26 красавіка І. Сямашку, – і да цяперашняга часу гоняць паступова пры дапамозе салдат да споведзі». Ён выказаў асцярогу наконт «агульнага гвалту адносна ўніятаў, тады як усе астатнія веравызнанні пад покрывам Дзяржавы Усеаўгусцейшага нашага манарха цешацца бяспекай і спакоем» [319].

Гараднічага Дзяконскага, які прадэманстраваў «трыумф» пануючай веры ў Вілейцы, вырашылі не караць, бо «нават нязначнае галоснае спагнанне гэтага чыноўніка пахіснула бы, па цяперашніх абставінах, далучаных з уніі ў складзе думак» [320].

Гісторыя не паставіла тады кропку на вілейскім эксцэсе. Фармальна пераведзеныя ў пануючую веру, пазбаўленыя сваёй царквы, перададзенай у праваслаўнае ведамства, вілейскія экс-уніяты знайшлі спачуванне сярод сялян і духавенства суседніх прыходаў, дзе сачылі за падзеямі ў Вілейцы.

У сямі вярстах ад Вілейкі ёсць мястэчка Куранец, у ім – уніяцкая царква. Дэўнізацыя ўзбударажыла яе прыхаджан. Загнаныя ў пануючую веру, сяляне не зведвалі радасці ад сваёй новай веравызнаўчай прыналежнасці.

Куранецкія святары Фёдар Буцэвіч і Савіцкі сачылі за падзеямі ў Вілейцы. Вілейцам спачувала таксама духавенства іншых суседніх прыходаў: Вязынскага, Касутскага, настаяцель Нароцкага прыхода Пякарскі, Мыскага – Марціноўскі. 11 чэрвеня 1835 г. яны правялі ў Куранцы сход – вырашалі, што рабіць у гэтай сітуацыі? Пастанавілі: узяць на сябе аказанне рэлігійных паслуг вілейцам, якія не па сваёй волі былі далучаны да чужой ім і ад таго яшчэ больш нямілай рэлігіі[321].

14 чэрвеня ў Куранцы адзначалі свята – Дзень спагады Маці Божай. Фёдар Буцэвіч, як і дамовіліся на той нарадзе, сабраў у мястэчку суседніх уніяцкіх святароў, рыма-каталіцкіх ксяндзоў. Прыйшло шмат вернікаў, у тым ліку з Вілейкі. Служылі літургію па

---

[318] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22974. – Арк. 9.

[319] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22974. – Арк. 11 адв.

[320] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22974. – Арк. 11 адв.

[321] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2315. – Арк. 16, 25, 35, 39 адв., 42.

ўніяцкаму і каталіцкаму абрадах, спавядалі і прычашчалі ўсіх, хто да іх прыходзіў, не адмовілі і новаправаслаўным вілейцам[322]. Праз месяц у Куранецкай царкве адбыліся «беспарадкі», пра якія, праўда, выяўленая намі архіўная справа не распавядае[323]. Дзеянні Фёдара Буцэвіча і яго калег, што аказвалі рэлігійныя паслугі праваслаўным, былі кваліфікаваны як злачынства. Усе яны паплаціліся за гэта сваімі пасадамі і былі выдалены з прыходаў[324].

Уніятаў Рускага сяла (Вілейскі павет), каб ўратаваць ад пераварочвання, прыгарнуў да сябе ксёндз суседняга войстамскага касцёла Казімір Земкаржэцкі. Ён увёў у сваім касцёле свята святога Юрыя, якое адзначаюць уніяты, каб такім чынам «обольстить» рускасельскіх прыхаджан і схіліць да пераходу ў рыма-каталіцызм[325].

Прайшло яшчэ два гады. 21 чэрвенем 1837 г. датуецца скарга ужо вядомага нам Нямшэвіча мінскаму епіскапу на начальніка вілейскай паліцыі падпалкоўніка Шэпелева, які не хоча змушаць вілейскіх прыхаджан хадзіць у царкву. 27 лістапада таго ж года мінскі губернатар наракаў, што вялікая частка ўніятаў Вілейкі, якія ў 1835 г. перайшлі ў праваслаўе, не бываюць у царкве, а ўніяцкія папы з навакольных вёсак, нягледзячы на забарону, прымаюць іх да споведзі.

Вілейская справа дае падставу сцвярджаць, што распаўсюджванне пануючай веры з дапамогай паліцыі і салдат не дадавала ёй аўтарытэту і вяла да ўпартага супраціўлення ўніятаў. Важнае значэнне ў такіх выпадках мелі аўтарытэт і пазіцыя прыходскага святара. Тых з іх, якія не падпарадкоўваліся ўказу кансісторыі аб перадачы царквы ў праваслаўнае ведамства, нейтралізоўвалі выдаленнем з прыхода. Дэмаралізаваны, безабаронны ўніяцкі люд бараніў сваю веру хоць бы пазбяганнем навязанай яму абраднасці.

## *Шляхта на абароне ўніі: «Пераварочваць кілішкамі віна мужыкоў – … справа няхітрая»*

Унія, як пісаў у канцы XIX ст. адзін з апалагетаў «уз’яднання», «у сваёй перадсмяротнай агоніі … знайшла яшчэ сабе гарачых абаронцаў у асяроддзі інтэлігенцыі»[326]. На яе абарону выступіла

[322] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2315. – Арк. 9.

[323] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2315. – Арк. 45.

[324] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2315. – Арк. 9, 45.

[325] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2284. – Арк. 5.

[326] Фотинский О. Иоанн Красовский – униатский архиепископ полоцкий и луцкий. – Почаев: Тип. Почаево-Успенской лавры, 1894. – С. 2.

шляхта – людзі адукаваныя, сацыяльна актыўныя, найбольш апазіцыйнае тады саслоўе, доля якой сярод уніяцкага насельніцтва ўсходу Беларусі была большай, чым на захадзе. Гэты фактарам можна растлумачыць большую моц і маштабнасць антыўз’яднаўчага руху ў Беларускай епархіі як па колькасці барацьбітоў, так і па ўдзелу ў ім людзей таленавітых і ўплывовых[327]. Тон задавалі буйныя ўплывовыя паны з сувязямі, якія «мелі больш сілы і сродкаў для ўпартасці». Яны, як правіла, тайна стымулявалі і падтрымлівалі сялян, гараджан і духавенства ў іх супраціве палітыцы дэўнізацыі; фарміраваннем адпаведнай грамадскай думкі, рассейваннем чутак, бясплатнай раздачай хлеба і living рознымі ільготамі ўмацоўвалі іх у сваёй веры. Удзелам «вераадступнікаў» і «хрыстапрацаўцаў» былі насмешкі, папрокі, праклёны, пагрозы, эканамічныя санкцыі, а бывала, і фізічнае пакаранне. Прыклад з буйнай шляхты брала дробнапамесная[328].

Шляхціч Тамашэўскі ў 1833 г. высмеяў папа з Ліёзнаў, які хваліўся, што лёгка схіліў да перамены веры 10 сялян: «Паспрабавалі б Папу Рымскага ўгаварыць ды іншых, разумнейшых мужыкоў...; а пераварочваць кілішкамі віна мужыкоў – на самай справе рэч няхітрая»[329].

У Барысаўскім павеце, нягледзячы на поспехі ў распаўсюджванні праваслаўя – былі далучаны да яго ў 1834 г. да 6 тысяч чалавек, адбываліся «вельмі непрыемныя здарэнні, якія ясна даказвалі супраціў ксяндзоў, памешчыкаў, арандатараў і іншых асоб рымска-каталіцкага веравызнання», якія намагаліся адхіліць уніятаў ад перамены веры і часта «паспяваюць рознымі спосабамі спакушаць ужо зусім гатовых да прыняцця праваслаўя»[330].

Пра здарэнне ў чэрвені 1834 г. у вёсцы Сяльцы Барысаўскага павета Мінскай губерні былі праінфармаваны імператар, міністр юстыцыі, шэф жандараў. Падчас літургіі мясцовыя шляхцічы зайшлі ў перавернутую праваслаўную царкву і пачалі насміхацца з паноў і сялян, якія кінулі ўнію, а потым зачынілі іх у храме. Тыя не маглі выйсці, пакуль ім не адкрыў дзверы выпадковы мінак. У сувязі

---

327 Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского и воссоединение западно–русских униатов с православною церковию в 1839 г. – Вильна: Тип. И. Блюмовича, 1893. – С. 126.

328 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 9196. – Арк. 3–5.

329 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 6768. – Арк. 1–6 адв.

330 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7766. – Арк. 1 адв.–2.

з гэтым фактам паследаваў імператарскі ўказ кіраўнікам заходніх губерняў, губернатарам і генерал-губернатарам: арганізаваць нагляд за ўсімі тымі, хто нясхільны да праваслаўя, неадкладна спыняць арганізаваныя імі беспарадкі і не пакідаць без пакарання ніводнага антыправаслаўнага выпаду[331].

У кастрычніку 1834 г. быў секвестраваны маёнтак шляхцянкі Бесарабскай за тое, што не пусціла ў пабудаваную ёй царкву праваслаўнага папа і перашкаджала яму агітаваць сялян у сваю веру[332]. Калі фундатары храмаў і капліц працівіліся іх перадачы ў ведамства грэка-расійскага спавядання, супраць іх пачыналіся судовыя працэсы.

Група інтэлігенцыі горада Лепеля (Віцебская губерня) ратавала ўнію сваімі спосабамі, стварала негатыўную грамадскую думку вакол яе ліквідатараў. Сваёй радыкальнасцю вылучаўся сакратар павятовага суда тытулярны саветнік Плісоўскі. Ён заклікаў духавенства ўдзельнічаць у хваляваннях далучаных сялян, абяцаючы за гэта падзяку шляхты; знеслаўляў адступнікаў і пагражаў ім карай божай і людской[333]. Пісьмавадзіцелю Шостаку выгаварыў: «Не быць табе ў валадарстве нябесным, але ў пекле». Дзяка Кудраўцова назваў «вераломцам»[334].

У жніўні 1834 г. пры актыўным садзеянні мясцовага гараднічага жыхароў Лепеля перавярнулі ў праваслаўе. Праз 2 дні, у ноч з 24 на 25 жніўня, па горадзе былі раскіданы ўлёткі з заклікам да насельніцтва захоўваць вернасць уніі і з пагрозай шыбеніцай мясцовым уз’яднальнікам. «Не мяшайся, гараднічы, бо павесім цябе, папа, дзякоў і ўсіх нягоднікаў за веру», – гаварылася ў тых рукапісных лістках[335].

Пачалося следства. Западозрвалі, што ідэйным натхняльнікам гэтай акцыі пратэсту быў Плісоўскі. Ён прыцягнуў асаблівую ўвагу карных органаў сваёй радыкальнасцю. Меркавалі, што напісанне і распаўсюд лістовак былі справай рук шляхціцаў Мікалая і 19-гадовага Восіпа Сіпкаў, Людвіга Барцэвіча. За імі устанавілі сакрэтны паліцэйскі нагляд[336].

---

331 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7766. – Арк. 1–6.

332 НГАБ. – Ф. 1416. – Воп. 2. – Спр. 7305. – Арк. 121–121 адв.

333 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7814. – Арк. 15, 17 адв., 332, 340–341 адв., 352, 380.

334 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7814. – Арк. 340 адв.–341.

335 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7814. – Арк. 332.

336 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7814. – Арк. 17 адв., 380.

Супраціў «уз’яднанню» меў характар мноства стыхійных лакальных раздробленых выступленняў, якія ўспыхвалі то тут, то там і гэтак жа паасобку гасіліся мясцовымі ўладамі. Тыя хваляванні не зліліся ў адзін суцэльны кіруемы рух – толькі ў такім выпадку ён мог мець нейкі поспех.

Аднак зусім рэальнай была магчымасць арганізаванага супраціву, узначаленага шляхтай. У 1834 – 1838 г. неаднаразова прадпрымаліся спробы каардынацыі антыўз’яднаўчага руху ў межах асобных паветаў, губерняў, нават усёй Беларусі і Вялікага княства Літоўскага. Першая з іх ажыццяўлялася ці не з найбольшым размахам. Зыходзіла яна ад шляхты Віцебскай губерні.

## *«Абуральная папера»*

У снежні 1834 г. на стол міністра ўнутраных спраў лягла «абуральная папера» – прадстаўленая віцебскім прадвадзіцелям дваранства ад імя шляхты Віцебскай губерні «усепадданейшая просьба на прымус уніятаў пераварочвацца да грэка-расійскай царквы».

У снежні таго года віцебская шляхта сабралася ў губернскі горад на свой сход дзеля выбараў органаў дваранскага самакіравання. Абураная дзеяннямі полацкага епіскапа Смарагда, яна вырашыла звярнуцца са скаргай на яго да імператара. Быў прыняты адпаведны акт-зварот да кіраўніка дзяржавы.

Смарагду давялося апраўдвацца, самому станавіцца ў позу абвінаваўцы. Ён скардзіўся, што віцебскія дваране «польскай нацыі», памешчыкі, арандатары, адміністратары маёнткаў «ніколі не пераставалі … ужываць усе свае намаганні дзеля адрыву прасталюдзінаў ад грэка-расійскай царквы». Цяпер жа «дваранства тутэйшае пачало аказваць асаблівую дзёрзкасць і супраціў пры паступленні некаторых уніяцкіх цэркваў у праваслаўнае ведамства». Прашэнне дваран да імператара – гэта абраза мясцовага начальства і пануючай веры. Гэтых «ганьбіцеляў веры» і «звадыяшаў з праваслаўя» падтрымліваюць суды, паліцыя і гэта абнадзейвае іх на поспех іхняй справы. Завадатарам жа мясцовага панства з’яўляецца Людвік Беліковіч – полацкі павятовы прадвадзіцель дваранства.

За Беліковічам устанавілі паліцэйскі нагляд. А як быць са Смарагдам? – раіцца начальнік Беларускага краю з шэфам жандараў

Бенкендорфам. Сітуацыя няпростая. «Усялякая галосная заўвага наконт яго дзеянняў у пераварочванні ўніятаў магла бы ўзбудзіць у людзях, нядобразычлівых распаўсюджванню ў тым краі праваслаўя, смеласць супрацьдзейнічаць гэтаму з яшчэ большай упартасцю і не толькі аддаліць, але нават і спыніць далейшыя поспехі ў справе, гэтак важнай у многіх адносінах».

Ці не найгоршым, як для уладаў, аказалася тое, што акт віцебскага дваранскага сходу ў выглядзе «праекта ўсепадданейшай просьбы на прымус уніятаў» «загуляў» па Беларусі і, як вынікае са спраў Трэцяга аддзялення імператарскай канцылярыі, быў «паўсюдна распаўсюджаны ў простым беларускім народзе»[337].

Акт гэты складаўся, побач з пералікам шматлікіх фактаў жорсткіх пакаранняў за адмову ад перамены веры, з 12 пунктаў-абвінавачванняў, кінутых на адрас Смарагда. Сярод іх наступныя:

• Пры ўсіх амаль пераварочваннях уніятаў выкарыстоўваюцца, замест духоўнага павучання, сродкі, супярэчныя годнасці Хрысціянскай Царквы.

• У многіх месцах сялян схіляюць да перамены веры абяцаннем асаблівых даброт, аблягчэннем павіннасцяў, нават надзеяй на вызваленне ад прыгону. Таму перавернутыя сяляне неаднойчы «прыходзілі ў буйства і непадпарадкаванне ўладальнікам».

• Для лягчэйшага схілення сялян ужываюцца гарачыя напоі.

• Там, «дзе ніякія меры пераканання не могуць адарваць жыхароў ад веры іх продкаў, там прымушалі іх да таго неадступным і нахабным патрабаваннем з унушэннем, што гэткая ёсць воля Вашай Імператарскай Вялікасці, якую належыць выканаць абавязкова пад пагрозай найсуровейшага пакарання». Калі і пасля гэтага вернікі не згаджаліся, іх чакалі арышты, калодкі, жорсткае збіццё.

• Страхам і спакусай прымусіўшы прыняць праваслаўе некалькіх сялян з вёскі, маёнтка, прыхода, і іх астатніх жыхароў запісвалі ў лік новадалучаных, а царкву неадкладна пераварочвалі ў праваслаўе.

• Нягледзячы на рашучую адмову некаторых вернікаў памяняць веру, іх залічвалі як новадалучаных, а начальству даносілі, што далучэнне адбылося па волі саміх жыхароў.

---

337 ДАРФ. – Ф. 109. – IV экспедыцыя. 1835 год. – Спр. 83. – Арк. 3–17.

• «Былі прынятыя ўсемагчымыя меры, каб скаргі на гэткі ўціск сумлення не даходзілі да ведама ўраду. Іх сачыніцеляў падвяргалі пераследу. Грамадзянскім чыноўнікам было прадпісана ніякіх прашэнняў на гэты прадмет не прымаць». Калі ж, пераадолеўшы ўсе перашкоды, сяляне звярталіся да мясцовага духоўнага і грамадзянскага начальства з просьбай абараніць іх ад прымусу, «то гэткі іх надта ціхмяны ўчынак лічыўся за бунт, незаконнае зборышча» і адступленне ад пануючай веры, нібыта добраахвотна імі прынятай. Іх жа саміх мардавалі пагрозамі, следствам і нават турэмным зняволеннем.

Гэтыя злоўжыванні, а таксама скаргі на іх сялян вымушалі часам памешчыкаў за іх заступацца перад начальствам, аднак просьбы іх амаль заўсёды заставаліся без сатысфакцыі. Саміх жа дваран кожны раз імкнуліся ўблытаць у несправядліва выдуманыя справы аб стварэнні нібыта перашкод распаўсюджванню пануючай веры[338].

Час пацвердзіў слушнасць абвінавачванняў на адрас Смарагда, кінутых шляхтай Віцебшчыны. У 1862 г. гісторыку М. Каяловічу даручылі выканаць імператарскі заказ – скласці гістарычную запіску аб ўз’яднанні ўніятаў. У сваім плане запіскі ён прызнаваў, што неразважная рэўнасць епіскапаў Смарагда ў Полацку і Яўгенія ў Мінску мела «дрэнныя наступствы». Іх распараджэнні былі «недарэчнымі, нават шкоднымі ў многіх адносінах». З-за гэтага ў расійскім і замежным грамадстве распаўсюджана ўяўленне, быццам бы ўз’яднанне ўніятаў было справай сваволля і гвалту; выказваецца дакор рускаму ўраду і ўсім «рухавікам» уз’яднання[339].

## *«Противники благодетельных видов правительства»*

Рашучым і дзейсным праціўнікам царскай палітыкі «добраўпарадкавання» Беларусі як «краіны спрадвеку рускай» быў полацкі павятовы прадвадзіцель дваранства Людвік Белікові. Ён, як вынікае з даклада беларускага генерал-губернатара Хаванскага на імя шэфа жандараў, пахіснуў гатоўнасць тысяч жыхароў Беларусі кінуць унію! Яго дзейнасць, вымушаны быў прызнаць начальнік

338 ДАРФ. – Ф. 109. – IV экспедыцыя. 1835 год. – Спр. 83. – Арк. 19–29.

339 РДГА. – Ф. 1282. – Воп. 2. – Спр. 2022. – Арк. 31.

краю, мела плён. Рассейваючы па Беларусі і іншым заходнім губерням паміж дваранствам і людзьмі іншых саслоўяў «розныя недарэчныя чуткі і разгалашэнні», ён «пахіснуў легкаверных, падбухторваючы іх усемагчымымі сродкамі да супраціўлення і скаргаў на мясцовае начальства».

Яшчэ ў красавіку 1835 г. аб «шкодных дзеяннях» Беліковіча дакладвалі Мікалаю І. Каб нейтралізаваць уплыў лідэра полацкіх дваран, імператар загадаў узмацніць за ім нагляд і, калі здарыцца магчымасць, выкрыць яго ў «зламысных намерах і падкопах», учыніць следства, а па ўстанаўленні віны – «аддаць яго дзеянню закона».

За антыўз'яднаўчай дзейнасцю Беліковіча ледзь не ад самага яе пачатку сачылі пільным жандарскім вокам з Пецярбурга. Уплыў і абсяг сваіх дзеянняў, як даносілі жандарскія агенты, ён «распаўсюдзіў … на Вільню і Мінск», куды ён у 1835 г. неаднаразова ездзіў. «Там ён займаўся, – зафіксавана ў справах корпуса жандараў, – распаўсюджваннем многіх шкодных у палітычных адносінах думак, рабіў розныя і непрыстойныя і абразлівыя супраць ураду і пануючай у Расіі веры разважанні і водзывы, рассейваў бязглуздую лухту, узбуджаючы да гневу супраць ураду і як бы да бунту». Ён не абмяжоўваецца дзеяннем у Беларусі і Літве, але намагаецца і ў замежных землях узбудзіць непрыязнь да Расіі дзеля гэтага пасылае за мяжу розныя артыкулы для надрукавання ў газетах[340]. «Надзвычай злоснічаючы на дзеянні праасвяшчэннага Смарагда», Беліковіч рассейвае супраць яго чуткі, дакараючы, што «спакушэнне ўніятаў у праваслаўе было вымушанае і насуперак іх жадання», «разлютоўвае дух уніятаў і католікаў супраць праваслаўнай рэлігіі». Каб адхіліць уніятаў ад далучэння, ён разаслаў і ў іншыя губерні экзэмпляры складзенага на дваранскіх выбарах у Віцебску ў снежні 1834 г. акта-пратэста супраць дзеянняў Смарагда. Шмат садзейнічаў Беліковічу ў распаўсюджванні па Мінскай губерні гэтага пратэсту прадвадзіцель дваранства гэтай губерні Оштарп[341].

Беліковіч меў уплывовых аднадумцаў і ў Вільні. Імі былі граф Канстанцін Тышкевіч, барон Корф, Ромер, Шумскі – «саўдзельнікі шкодных у палітычных адносінах нарад».

---

[340] ДАРФ. – Ф. 109. – IV экспедыцыя. 1835 год. – Спр. 254. – Арк. 1–1 адв.

[341] ДАРФ. – Ф. 109. – IV экспедыцыя. 1835 год. – Спр. 254.– Арк. 5–5 адв., 12, 13.

Вялікім праціўнікам палітыкі пераварочвання ўніятаў і наогул царскай палітыкі на Беларусі быў буйны памешчык Мінскай губерні Канстанцін Тышкевіч, з якім Белікові сустракаўся ў Вільні. Да жандармерыі дайшлі чуткі, што ў графа ёсць дом з двайной падлогай і там схаваны матэрыялы аб падрыхтоўцы новага паўстання[342].

18 лютага 1835 г. уніяцкая шляхта і сяляне Пустынскага прыхода (Мсціслаўскі павет) звярнуліся да мітрапаліта Булгака з пратэстам супраць змены абрадаў, нібы яны «былі ўстаноўлены негрунтоўна і неадпаведна», – яны «не самавольна ўстаноўлены, але святыя і нязменныя», і на іх знішчэнне няма дазволу кіраўніка нашай царквы[343].

У снежні 1835 г. шэраг памешчыкаў Мсціслаўскага павета з’ехаліся на нараду для выпрацоўкі агульнай тактыкі супраціву аправаслаўліванню ўніятаў[344].

Быў «абвінавачваемы па справах уніі» памешчык Себежскага павета Віцебскай губерні Віктар Ульяноўскі. Полацкі епіскап Ісідор лічыў яго «галоўным віноўнікам ва ўпартасці сялян маёнтка Далосцы супраць прынятага імі праваслаўя». У 1836 г. гэтыя сяляне, 121 чалавек, запрацівіліся перадачы іх царквы ў праваслаўнае ведамства, ды так, што для іх ўціхамірвання давялося ужыць ваенную сілу. Ульяноўскага выслалі на пасяленне ў Смаленскую губерню. Дазвол на вяртанне далі толькі пасля ліквідацыі ўніяцкай царквы – ў чэрвені 1839 г. Пры гэтым, аднак, устанавілі за ім строгі паліцэйскі нагляд[345].

Гэтак жа «за супраціў у справах нашай веры» дэпартавалі ў Смаленскую губерню памешчыка Віцебскай губерні Корсака[346].

Секвестрам маёнткаў, судамі, перасяленнямі ўраду ўдалося супакоіць бунтуючую шляхту.

## *Патрабуецца «больш рашучае ўціхамірванне супраціўных»*

Поспех місіянерска-паліцэйскіх «частных присоединений» у казенных маёнтках і ўладаннях праваслаўных памешчыкаў, поспех далучэння народа без духавенства не надта радаваў міністэрства

[342] ДАРФ. – Ф. 109. – IV экспедыцыя. 1835 год. – Спр. 254. – Арк. 2 адв.–3.
[343] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7815. – Арк.109–109 адв.
[344] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 9106. – Арк .3.
[345] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23363. – Арк. 10, 18, 37, 40.
[346] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23363. – Арк. 28.

ўнутраных спраў. Быў гэты поспех «не зусім надзейным і моцным», непрацяглым. Як і прадбачылі, ён спыняўся на ўладаннях паноў-католікаў, «для ўтаймавання якіх патрэбны … меры больш рэзкія». «Шкодныя наступствы здзейсненых ужо прыватных далучэнняў відавочныя, – лічыў маскоўскі мітрапаліт Філарэт. – Яны зрабілі надта відавочнымі намеры ўраду, выклікалі агульную асцярогу і супрацьдзеянне…, абудзілі … асцярогу і недавер да ажыццяўляемых …ператварэнняў, выклікалі ўзаемнае раздражненне, надта невыгоднае для далейшых дзеянняў ураду»[347].

Адстойванне сялянствам сваёй веры атаясамлівалася ўладамі з народным бунтам. Хваляванні ва ўніяцкіх прыходах намагаліся пагасіць «вразумлениями» сялян духавенствам, земскімі чыноўнікамі, губернатарам. У ход ішлі запужванні і пагрозы, матэрыяльныя пакаранні, турэмнае зняволенне. Калі гэта не дапамагала, супраціў уніятаў ламалі з дапамогай паліцыі і войска. Заўсёды ў такіх выпадках шукалі падбухторшчыкаў – людзей больш высокага сацыяльнага статуса, ранга і адукацыі (паноў, адміністрацыю маёнткаў, грамадзянскае начальства, духавенства), якіх імкнуліся нейтралізаваць, аддаліць ад народа, пазбавіць уплыву на сялян шляхам паніжэння або зняцця з пасады, заменай «добранадзейнымі» людзьмі, часовым выдаленнем і дэпартацыяй.

Найбольш паслядоўнымі барацьбітамі за ўнію былі шараговыя прыходскія святары. Хвалю «частных присоединений» стрымлівалі безместныя святары. Пазбаўленыя пасад і прыходаў, разам з якімі яны не згадзіліся змяніць веру, яны тым не менш засталіся на ранейшым месцы жыхарства. Паважаныя сялянамі, яны карысталіся ўплывам у навакольных вёсках. Іх расказы пра тое, як іншаверцы адбіраюць уніяцкія храмы, з іх «выкідваюць абразы, а ставяць сваіх Багоў», рабілі моцнае ўражанне на просты народ.

Смарагду здавалася, што гэтыя святары застаюцца ў сваіх прыходах «адзіна … дзеля ўзбунтавання навадалучаных». А будучы выдаленыя з прыходаў, апазіцыйныя святары хадзілі па вёсках, несучы людзям сваю крыўду і абурэнне і заклікалі моцна стаяць за ўнію. Трэба пазбавіцца ад гэтых «бескарысных бадзяг». Яны ёсць амаль ва ўсіх прыходах. 9 кастрычніка 1833 г. Смарагд просіць у

---

[347] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 205. – Спр. 183. – Арк. 8–8 адв.

обер-пракурора Сінода С. Д. Нячаева распараджэння аб высылцы іх адтуль.

«Далучыць уніяцкае духавенства цяжэй, чым вернікаў,» – зрабілі слушную выснову ў «вярхах»[348]. Між тым сіламі толькі праваслаўнага духавенства, пры супрацьдзеянні грэка-уніяцкага і рымска-каталіцкага духавенства і паноў, уніяцкую справу не вырашыць. Але ўстараніць гэтыя сілы, якія сталі на шляху «ўз’яднання», «запатрабавала бы моцных мер, не адэкватных ні палітычнаму, ні рэлігійнаму духу часу». Таму такія меры палічылі заўчаснымі.

«Здаецца, добрую справу вяртання 1,5 мільёна ўніятаў да іх прабацькоўскай праваслаўнай царквы можа паспяхова здзейсніцца толькі з дапамогай самога грэка-уніяцкага духавенства, – асяніла міністра ўнутраных спраў, – тым больш што да гэтага спавядання належыць амаль без выключэння самы просты народ, які звычайна бесспярэчна слухаецца настаўленняў сваіх пастыраў»[349]. Толькі ў Літоўскай епархіі 1300 святароў – «іх усіх трэба перавыхаваць». 6 лютага 1834 г. міністр асудзіў практыку прыватных далучэнняў: «Уніятаў больш за 1,5 мільёна і мы можам згубіць для праваслаўнай царквы ўсю гэту вялізную масу, калі будзем ганяцца за нязначнай часткай. Таму трэба быць вельмі асцярожнымі адносна прыватных далучэнняў, калі толькі прадбачыцца значны супраціў»[350].

Стала відавочным – трэба спыніць «свавольствы» ўніяцкага і каталіцкага духавенства, якія служаць новай перашкодай для пераварочвання ўніятаў. Базыльяне, хоць і дастаткова аслабленыя, аднак, не спынялі ўскладняць пераварочванне як уніяцкага народа, так і белага духавенства.

Канфідэнцыйную запіску обер-пракурора Сінода ад 13 студзеня 1834 г. пра «самавольных уніяцкіх святароў» і хваляванні пры пераварочванні ўніятаў, у сілу важнасці прадмета, разглядаў міністр унутраных спраў. Яна была прадстаўлена і імператару. Той прапанаваў «узброіць» епіскапаў сакрэтнай інструкцыяй, як дзейнічаць асцярожна пры пераварочванні ўніятаў.

Так з’явіліся «Думкі і парады для праваслаўных архіерэяў, чыя паства суіснуе з разнадумнымі ў веры і з тымі, хто ўхіляецца

348 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 4. – Спр. 14074. – Арк. 30.
349 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 4. – Спр. 14074. – Арк. 13 адв.
350 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 4. – Спр. 14074. – Арк. 16, 19.

ад праваслаўя,» – сакрэтная інструкцыя для епіскапаў і генерал-губернатараў заходніх губерняў, закліканая забяспечыць адзінства і ўзгодненасць іх дзеянняў адносна ўніятаў[351]. «Неабходна суняць і спыніць наступныя свавольствы ўніяцкага і каталіцкага духавенства, якія служаць новай перашкодай да пераварочвання ўніятаў», – гаварылася ў ёй. Яна патрабавала не дапускаць «адваротнага нова-адпадзення ва ўнію»[352].

Вясной (у маі – красавіку) 1835 г. гэта інструкцыя была даведзена да іх ведама. Пры гэтым імператар агаварыў, каб настаўленні, выкладзеныя ў ёй ад імя ўраду, не разгалашаліся як дужа сакрэтныя.

Адну з галоўных прычын «шматлікіх вопытаў беспаспяховасці або нетрываласці пераварочвання ўніятаў у Віцебскай губерні» і беспарадкаў у новадалучаных прыходах смаленскі, віцебскі і магілёўскі генерал-губернатар Хаванскі ўбачыў у святарах, якія вялі сябе неадпаведна сану, чакалі празмернай узнагароды за трэбы, вымушалі новадалучаных выконваць усё больш вонкавыя абавязкі пануючай веры без іх унутранай да яе схільнасці, і дзейнічалі «толькі пагрозамі і абяцанкамі таго, што не адносіцца да іх ўлады, і іншымі, законамі недазволенымі мерамі»[353].

Ён прапанаваў у кастрычніку 1835 г. у тыя з новадалучаных прыходаў, «у якіх выявілася расстройства і на якія звернута пераважнае імкненне ворагаў праваслаўя»: Лепельскі, Гарадзецкі, Ушачскі, Мішневіцкі, Юровіцкі, Экіманскі і інш., а таксама ў суседнія з імі прыходы, якія мяркуецца перавярнуць у праваслаўе, прысылаць святароў «найлепшай маральнасці і адукацыі», бескарыслівых, здольных не толькі «прымусіць прыхаджан зацвярджацца ў нова-прынятай веры, але і суседніх з імі ўніятаў спакваля, але з поспехам больш трывалым, схіляць да шчырага прыняцця праваслаўя»[354].

Гэта меркаванне было даведзена да імператара. Ён загадаў накіраваць у Полацкую епархію выпускнікоў семінарый і на адзін год з Пскоўскай, Смаленскай і Валынскай епархій святароў, «вядомых сваёй адукацыяй, вопытнасцю і добрымі паводзінамі» з захаваннем акладу па асноўнаму месцу[355]. Па распараджэнню міністэрства ўнутраных спраў Сінод вызначыў накіраваць у тыя прыходы По-

[351] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 4. – Спр. 14074. – Арк. 3–36, 126.
[352] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 4. – Спр. 14074. – Арк. 47, 70 адв.
[353] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8642. – Арк. 4–5.
[354] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8642. – Арк. 5 адв.–6.
[355] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8642. – Арк. 1–2.

лацкай епархіі, якія паступілі ў праваслаўнае ведамства і дзе «надта прыкметныя намаганні да спакушэння новых сыноў Расійскай царквы да ранейшага ўніяцтва», 20 выпускнікоў Уладзімірскай, Яраслаўскай, Разанскай і Арлоўскай семінарый і 50 расійскіх святароў, устанавіўшы ім павышаны аклад (у 480 рублёў). Полацкі епіскап патрабаваў яшчэ 20 семінарыстаў[356].

Значыць, у 90 прыходах Полацкай епархіі духоўныя і свецкія ўлады былі не ў стане ўласнымі сіламі прывесці да пакоры эксуніятаў. Спадзяваліся, што святары з Расіі змогуць схіліць іх хадзіць на споведзь і прычасці, «бо гэта, у сілу ўказа 1800 года, лютага 1-га, ёсць самы галоўны і моцны законны сродак, што зацвярджае іх у праваслаўі, ад якога яны, пасля ажыццяўлення гэтых таінстваў, без суда і пакарання як вераадступнікі, адарваны быць не могуць»[357].

Выкліканы «частными воссоединениями» магутны рух супраціву прымусіў «вярхі» пераглядаць сваю стратэгію і тактыку ва ўніяцкім пытанні. Патрабавалася, на думку маскоўскага мітрапаліта, «больш адкрытага ўдзелу ўраду ў гэтай справе і больш рашучага ўціхамірвання супраціўных»[358].

Створаны ў 1835 г. у Пецярбургу Сакрэтны камітэт па ўніяцкіх справах з высокіх духоўных асоб і вядучых палітыкаў патаемна выпрацоўваў планы вынішчэння ўніі і дырэктывы духоўнаму і грамадзянскаму начальству на час іх рэалізацыі.

## *Самулкі: «Мы веры сваёй ламаць не будзем»*

На пачатак 1836 г. у вёсцы Самулкі засталася адзіная у Чавускім павеце ўніяцкая царква паміж новадалучанымі прыходамі. Гэта стварала небяспеку – самулкаўскі святар Чурыла раз’язджаў па навакольных вёсках, адхіляючы сялян ад пануючай веры[359].

22 студзеня 1836 г. у Самулкі прыбыла камісія: земскі спраўнік, павятовы страпчы, пристаў. Яны запатрабавалі ў святара Чурылы аддаць ключы ад царквы. Той адмовіўся. Камісія царкву апячатала, а ўсіх сялян склікала ў адзін вялікі дом. Іх угаворвалі чыноўнікі, але

[356] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8642. – Арк. 8–9 адв.
[357] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 8642. – Арк. 6.
[358] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 205. – Спр. 180. – Арк. 11 адв.
[359] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 9204. – Арк. 2, 12.

сяляне «не згадзіліся кінуць унію»[360]. Святар П. Лепяшынскі, які папярэдне вырваў у сялян згоду на далучэнне, прапанаваў ім віно, але тыя ад пачастунку адмовіліся. Тады ў ход пайшлі абяцанкі. Святары і чыноўнікі абяцалі ад імя ўраду ільготы: вызваленне ад павіннасцяў, волю. І гэта не падзейнічала. Потым пайшлі пагрозы астрогам, высылкай у Сібір. Сяляне засталіся нязломнымі.

Тады да іх паспрабавалі падыйсці з іншага боку. Сазнайцеся, што ўпарціцеся па падгаворванню свайго пана – памешчыка Вікенція Петух-Кубліцкага. За адно слова такога прызнання абяцалі імем ўраду волю назаўсёды[361].

Потым было рукапрыкладства. Пяцёра сялян, не паслухаўшыся ўгавораў, самавольна пакінулі пакой. За гэта іх потым тры дні трымалі ў калодках у голадзе. Арыштавалі святара Чурылу. Яшчэ некалькі чалавек, найбольш актыўных, якія і астатніх натхнялі ў іх упартасці, сілком выдалілі з памяшкання: цягнулі за валасы, білі[362].

Тым, што засталіся ў пакоі, загадалі падняць руку ўверх і прысягаць на Евангеллі і крыжы. Сяляне не згадзіліся. Адзін з іх, Лявон Маркаў, сказаў: «Мы веры сваёй ламаць не будзем»[363]. Усе яны, акрамя аднаго, тады «засталіся пры сваёй упартасці»[364]. Камісія поспеху не мела. Памешчык Кубліцкі да таго ж абскардзіў яе дзеянні. Яны, абураўся Кубліцкі, могуць мець «шкодныя» не толькі для мяне наступствы. «Бо дастаткова аднаго толькі разгалашэння абяцанай вольнасці беларускаму селяніну, які, па непісьменнасці сваёй, мае пра яе так ілжывае паняцце, каб падрыхтаваць яго і зрабіць рашучым на ўсё, законам забароненае»[365].

## *Гарадок: з каламі за веру*

9 студзеня 1836 г. мясцовыя ўлады сабралі разам сялян з вёсак Гарадок, Гразь, Драздоўка, Каскова і Клюкіна Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні. На тым сходзе прысутнічалі сам начальнік IV акругі корпуса жандараў падпалкоўнік Крыгельскі, мсціслаўскі земскі засядацель. Падтрыманыя імі місіянеры прапанавалі сяля-

[360] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 9204. – Арк. 1–1адв., 12.
[361] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 9204. – Арк. 11 адв., 16 адв., 84–84 адв.
[362] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 9204. – Арк. 84–84 адв.
[363] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 9204. – Арк. 85 адв.–86.
[364] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 9204. – Арк. 87.
[365] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 9204. – Арк. 17.

нам прыняць праваслаўе. 412 чалавек, якія згадзіліся, адразу ж і перавярнулі.

19 студзеня місіянеры зноў прыбылі ў Гарадок, каб асвяціць там царкву. Але 21 селянін і дзячок Васіль Сцяфанаў з каламі ў руках і пагрозамі запатрабавалі пакінуць іх царкву ў спакоі, не пусцілі туды аднавяскоўцаў, якія змянілі веру, ганяліся за імі з каламі. Пабілі царкоўнага старасту, якога абвінавацілі ў здрадзе. Ушчуванні духавенства і пагрозы грамадзянскага начальства не падзейнічалі, і тыя вымушаны былі пакінуць узбунтаваную вёску. Сяляне ўстанавілі ахову свайго храма. Пераасвячэння тады не адбылося[366].

За аднаўленне спакою ў новадалучаным Гарадкоўскім прыходзе ўзяўся магілёўскі губернатар. Для папярэджання новых хваляванняў туды ўвялі вайсковую каманду з 21 чалавека[367]. Уніяцкага святара Сабалеўскага, які штодня склікаў сялян, уніятаў і праваслаўных, «дзеля ўнушэння ім шкодных парад», заперлі ў камору пад ахову.

26 студзеня ў Гарадок зноў з’явілася камісія па пераварочванню. Яе сустрэў натоўп сялян, узброены каламі. З крыкам кінуўся ён у царкву, каб выгнаць адтуль святароў і перавернутых вяскоўцаў. Вайскоўцы іх не пусцілі. Пачалася стычка. «Раз’юшаны натоўп мужыкоў,  – рапартаваў вышэйшаму начальству падпалкоўнік Крыгельскі аб стратах, – біў вартавых каламі і чым папала, збілі унцер-афіцэра, двух радавых, зламалі некалькі штыкоў»[368].

Пачалася расправа. Усіх удзельнікаў хваляванняў арыштавалі. Тых, хто двойчы, 19 і 26 студзеня, нападаў на царкву, аддалі пад суд. З Гарадка выдалілі святара Сабалеўскага. Памешчыка Сымона Кулака, якога západозрвалі ў дачыненні да беспарадкаў, узялі пад варту. З яго вырвалі абяцанне пераканаць сваіх сялян і сялян суседніх памешчыкаў далучыцца да праваслаўя і выпусцілі пад распіску. Аднак устанавілі за ім паліцэйскі нагляд.

Некалькі сялян, пераведзеных у праваслаўе, 28 студзеня напісалі просьбу, каб іх пакінулі ва ўніяцкай веры. Але рэпрэсіі зламалі сялян. Каб пазбегнуць пакарання, 51 чалавек папрасіў прыняць іх у праваслаўе, што і было зроблена. Праўда, шчырасць

[366] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 23016. – Арк. 3–5 адв.
[367] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 23016. – Арк. 7, 19 адв.
[368] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 23016. – Арк. 20.

іх жадання слушна ставілася пад сумнеў. Сяляне пераконвалі, што прыступаюць «не з-за страху, але па волі сваіх сэрцаў», галасілі[369].

Аналагічныя падзеі адбыліся праз паўгода ў вёсцы Воранавічы Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні, якую збіраліся перавярнуць у праваслаўе. 5 верасня 1836 г. у час праваслаўнага набажэнства ў Воранавіцкай царкве «выявілася паміж прыхаджанамі-шляхтамі (шляхтай, не зацверджанай у дваранскім званні, аднадворцамі – С. М.) хваляванне». З'явіліся калы – для абароны царквы, дзёгаць – для знеслаўлення духавенства. Мясцовы ўніяцкі святар Адам Радзевіч «гаварыў адважныя словы супраць найвышэйшай волі», выказанай ва ўказе ад 8 лютага 1834 г[370]. Пачалася сутычка. «П'яная шляхта», як афіцыйна паведамлялася пра гэта здарэнне, не дала схапіць аднаго з вяскоўцаў.

18 кастрычніка для расследавання інцыдэнта прыбыла новая камісія. Паліцыя арыштавала ўдзельнікаў буянства 5 верасня. Па вясковай ваколіцы імгненна разнесліся чуткі: прыехалі, маўляў, пераварочваць. Па закліку ўніяцкага святара да 500 аднадворцаў з'явіліся абараняць сваю царкву. «Шляхты зусім адпалі ад падпарадкавання паліцэйскай уладзе», – гаварылася ў рапарце. Натоўп вызваліў тады арыштаваных[371].

Для ўтаймавання воранавіцкіх уніятаў у ваколіцы накіравалі цэлы батальён салдат. Чыніць расправу прыбыў сам губернатар. 15 чалавек заключылі ў гарадавы астрог. Суровыя меры, губернатарскія пагрозы, падмацаваныя прысутнасцю вайскоўцаў, зрабілі сваю справу. Жыхары Воранавіч і ваколіц раскаяліся і далі распіску аб падпарадкаванні ўладам. Усе яны, 1963 чалавекі «шляхт» і 227 сялян, выказалі жаданне далучыцца да праваслаўя і перад губернатарам далі клятву «ў гэтым іх чыстасардэчным жаданні».

Пасля гэтага тры з чатырох рот з вёскі вывелі. Вінаватых у хваляваннях вызвалілі ад суда. Следства па факту хваляванняў 18 кастрычніка не праводзілі. Але ўсім пяцістам загадалі кампенсаваць выдаткі. Толькі шасцярых чалавек, прызнаных найбольш вінаватымі, паўтары месяцы трымалі пад арыштам, а пасля вызвалення ўстанавілі за імі паліцэйскі нагляд[372].

369 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 23016. – Арк. 21, 28 адв., 33.
370 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 23040. – Арк. 1–1 адв.
371 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 23040. – Арк. 2.
372 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 23040. – Арк. 3–5 адв., 10 адв.–11.

Са справай воранавіцкіх уніятаў знаёміўся Мікалай І. Ён ухваліў прынятыя меры. Імператар дараваў «усеміласцівейшае забыццё ўчынкаў жыхароў Воранавіцкай ваколіцы, былой шляхты, уцягнутай у беспарадкі цемнатой, рэлігійнымі памылкамі і ілжывымі чуткамі.» «Новадалучаных членаў праваслаўнай царквы» ён вызваліў ад выплаты выдаткаў[373].

## *Шкодніцтва магілёўскага панства*

Моцна супрацьдзейнічала пераварочванню ўніятаў шляхта Магілёўскай губерні. Прычым рабіла яна гэта патаемным шляхам. Пра гэта паведамляў 25 лютага 1837 г. шэфу корпуса жандараў Бенкендорфу смаленскі, віцебскі і магілёўскі генерал-губернатар Дзякаў.

Магілёўская шляхта, як пісаў Дзякаў, фінансава падтрымлівала ўніяцкіх святароў, каб тыя ўсе трэбы прыхаджанам маглі выконваць без грашовай узнагароды. Праваслаўнаму духавенству яна не аказвала ніякай дапамогі і гэткім чынам не давала яму магчымасць выконваць свае святарскія абавязкі прыхаджанам з падобнай бескарыснасцю. З-за гэтага, тыя, хто памяняў унію на праваслаўе, зведвалі вялікія незручнасці. У першым выпадку прыхаджане выконвалі свае хрысціянскія абавязкі без аніякіх выдаткаў, а ў другім – любую рэлігійную патрэбу павінны аплочваць грашамі. Таму яны «адчуваюць надзвычайныя невыгоды свайго пераварочвання, або нават зноў вяртаюцца да ўніі». Так тлумачыў Дзякаў Бенкендорфу эканамічныя хітрыкі магілёўскага панства, якія перашкаджаюць «уніяцкай справе»[374].

Магілёўскі епіскап Гаўрыіл прадставіў у красавіку 1837 г. смаленскаму, віцебскаму і магілёўскаму генерал-губернатару Дзякаву, а таксама обер-пракурору Сінода свае заўвагі аб прычынах, паводле якіх далучэнне ўніятаў у Магілёўскай губерні не мае чаканага поспеху[375]. Дваранства Магілёўскай губерні, аналізаваў сітуацыю ўладыка, «хоць і патаемнымі шляхамі, але моцна супрацьдзейнічае» пераварочванню ўніятаў. Яно прадстаўляе ўніяцкім святарам розныя выгоды і дапамогі (забяспечвае сенакосамі, дровамі і іншымі жыццёвымі

---

[373] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 23040. – Арк. 12–13.

[374] ДАРФ. – Ф. 109. – І экспедыцыя. 1837 год. – Спр. 86. – Арк. 1 адв.–2.

[375] ДАРФ. – Ф. 109. – І экспедыцыя. 1837 год. – Спр. 86. – Арк. 3–8 адв.

патрэбамі). А праваслаўных святароў усяго таго пазбаўляюць, ва ўсім абмяжоўваюць.

Гаўрыіл намаляваў шырокую карціну сабатажу мясцовай шляхтай урадавай палітыкі. Уніяцкія святары, паводле яго назіранняў, не згаджаюцца прыняць праваслаўя ўжо з-за боязі згубіць свае месцы і ўсе тыя выгоды, якімі яны карыстаюцца пры паблажцы начальства. Яны і сваіх прыхаджан намагаюцца ўсяляк утрымліваць ва «ўніяцкіх памылках».

Апякаемыя рымска-каталіцкімі памешчыкамі ўніяцкія святары пагражаюць просталюдзінам markознымі божымі карамі і надуманымі прыкладамі няшчасцяў, паблажліва ставяцца да невыканання памешчыцкімі сялянамі  царкоўных правілаў і абрадаў. Паны, у дадатак, застрашваюць сялян уціскам, аддачай у рэкруты, цялеснымі пакараннямі і збядненнем. І, наадварот, абяцаюць розныя ільготы і дапамогу тым, хто будзе трымацца ўніі. Паны дэманструюць сялянам  сваю агіду да праваслаўнага духавенства.

Больш таго, сялянам унушаюць, што далучэнне да праваслаўя забаронена самім урадам, а духоўныя ўлады дзейнічаюць свавольна, незаконна, і хто не захоча далучыцца, можа заставацца назаўсёды ўніятам. Моцны ўплыў на грамадскія настроі аказала «замена начальнікаў, якія асабліва шчыравалі ў справе далучэння»[376]. Гэты факт, на якім акцэнтавалі ўвагу праціўнікі дэўнізацыі, рабіў уражанне не толькі на сялян, «застрашваемых і спакушаемых такімі markознымі спосабамі, але і на самых добранадзейных паноў, якія таксама ўхіляюцца ад прыняцця праваслаўя».

Ды й памешчыкі і грамадзянскія чыноўнікі, працягваў свае разважанні епіскап Гаўрыіл, якія шчыруюць у гэтай «справе дзяржаўнай і невылічальна карыснай», не атрымоўваюць заахвочвання, але, наадварот, пазбаўляюцца ўсялякага даверу мясцовага дваранства, падвяргаюцца абгаворванню і нянавісці.

Баючыся страціць свае выбарныя пасады, і чыноўнікі «ахаладжаюцца ў сваёй руплівасці і пад розными прычынамі ўхіляюцца ад удзелу ў справе далучэння».  Яны адгаворваюцца тым, што не могуць прымусіць сялян да перамены веры. Чыноўнікі ж земскай паліцыі толькі робяць выгляд, што выконваюць волю ўраду, а самі

[376] ДАРФ. – Ф. 109. – I экспедыцыя. 1837 год. – Спр. 86. – Арк. 4 адв.

тайным чынам пераконваюць сялян, каб моцна трымаліся сваёй веры[377].

Епіскап Гаўрыіл прыйшоў да наступнай высновы: Справа далучэння ўніятаў да таго часу не будзе мець поспеху, «пакуль земскія паліцэйскія чыноўнікі не будуць прызначацца ад кароны (ад імператарскай улады – С. М.) і пакуль памешчыкам не будзе афіцыйна абвешчана, каб яны не толькі не ўтрымлівалі сваіх сялян ва ўніі, пад пагрозай строгага, паводле законаў спагнання,  але і садзейнічалі гэтай агульнакарыснай справе ўсімі мерамі, іх уладзе прыналежнымі»[378].

У шкодніцтве справе пераварочвання ўніятаў быў западозраны нават адзін з яе высокапастаўленых выканаўцаў – падпалкоўнік корпуса жандараў Куцынскі. Ну як жа? Мае сувязі з мясцовай шляхтай, ведае польскую мову, у размовах на старане «лае і абражае праваслаўнае духавенства». Адны меркавалі, што ён з'яўляецца тайным каталікам. Іншыя сцвярджалі, што ён – сын уніяцкага святара[379].

## *«Узы единоверия могут ли быть прочны?»*

Так паставіў пытанне не праціўнік ліквідацыі ўніяцкай царквы, але афіцэр корпуса жандараў падпалкоўнік Куцынскі, які па роду сваёй службы вымушаны быў гэтай справай актыўна займацца ў Магілёўскай губерні. Гэта быў адзін з тых нешматлікіх чыноўнікаў, які цвяроза ацэньваў сітуацыю і бачыў абсурднасць шырока дэклараванай «добраахвотнасці» і неадэкватнасць метадаў пераварочвання ўніятаў урадавай мэце. Яго характарыстыка гэтых метадаў, рэдкая па сваёй адкрытасці і непрадузятасці, рэзка дысануе з асноўнай масай афіцыйна-дакументальных матэрыялаў.

«Найвялікшае зло, – пісаў Куцынскі ў 1837 г., – ёсць паспешнасць і выкарыстанне паліцэйскіх мер. Розум мясцовай улады толькі тым і заняты, каб паспець паболей далучыць уніятаў за час свайго ўплыву на справы… Звычайныя спружыны, … ужываныя для далучэння ўніятаў, – гэта недапушчальныя спакусы і пагрозы… Чыноўнікі, якіх камандзіруюць для далучэння па якомусьці

[377] ДАРФ. – Ф. 109. – І экспедыцыя. 1837 год. – Спр. 86. – Арк. 3–7.
[378] ДАРФ. – Ф. 109. – І экспедыцыя. 1837 год. – Спр. 86. – Арк. 8.
[379] ДАРФ. – Ф. 109. – І экспедыцыя. 1837 год. – Спр. 86. – Арк. 1–1 адв.

неабгрунтаванаму даносу нашага святара, … захапляюцца лішкам руплівасці і амаль ніколі не клапоцяцца, што … сяляне былі шчыра прывязаны да свайго ўніяцкага святара… Чыноўнікі земскай паліцыі і іншыя не павінны выступаць у ролі грозных місіянераў, а толькі быць сведкамі пры прыняцці ад людзей прысягі». Інакш «урад яшчэ не хутка дасягне сваёй добрадзейнай мэты, а брацкія нашы вузы будуць вельмі няпэўнай трываласці»[380].

## 3.2. Абарона сваіх сакральных рэліквій

### *«Добраўпарадкаванне» храмаў*

Адмовіўшыся ад няздольных цалкам вырашыць уніяцкую праблему прыватных далучэнняў, урад узяў курс на збліжэнне ўніяцкай царквы з праваслаўнай праз рэфармаванне – ажыццяўленне шэрагу захадаў па яе ўнутранай і знешняй трансфармацыі ў абрадавай, іерархічнай і юрысдыкцыйнай сферах. Зыходзячы з тэзіса, што толькі праваслаўная царква захоўвае ў недатыкальнасці і першароднай чысціні абраднасць, пачалі прыводзіць «у аднастайнасць» з ёй уніяцкія рытуалы. Гэта павінна было аблегчыць будучае зліццё канфесій. Больш за тое, уніяцкія кнігі, святы, спевы, адзенне, прадметы культа падтрымлівалі «дух адчужанасці ад Расіі»[381]. Духавенству і вернікам пачалі ўнушаць, што яны ў храм і абрады «ўкраліся ад чужога ўплыву» і ўнеслі ў іх «беспарадкі», «адступленні», «злоўжыванні». А цяпер адбываецца выкараненне гэтых «злоўжыванняў» заходнехрысціянскага паходжання і «непрыстойнага» рознагалосся з грэка-расійскай царквой. Аргументамі пра лацінізацыю і паланізацыю ўніяцкай царквы імкнуліся падарваць давер да яе народа.

Пастанова Грэка-уніяцкай духоўнай калегіі (у Санкт-Пецярбургу) ад 7 лютага 1834 г. прадугледжвала ўвядзенне ў богаслужэнне ва ўніяцкія храмы спеўнікаў і служэбнікаў, надрукаваных у Маскве адпаведна ў 1828 г. і 1831 г., усталяванне іканастасаў, аднаўленне ўсходняй абраднасці і выкараненне лацінскіх запазычанняў у абсталяванні і афармленні царквы, у абрадах, кнігах, адзенні і начынні[382].

Каб рэалізаваць гэту грандыёзную задуму, толькі ў Літоўскай епархіі трэба было перавыхаваць і перавучыць да 1300 святароў з

[380] ДАРФ. – Ф. 109. – Воп. 2. – Спр. 311. – Арк. 1–4.
[381] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7815. – Арк. 40 адв.
[382] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7815. – Арк. 2 адв.–3.

прычтам і пераабсталяваць 800 храмаў[383]. У Беларускай епархіі ў 1835 г. было 625 уніяцкіх храмаў[384]. Выдаткі на такое іх «добраўпарадкаванне» меркавалася пакрыць з сумы, прызначанай на стварэнне ўніяцкай акадэміі ў Полацку. Тыя з духавенства, хто праявіць нядбайнасць у выкананні гэтай пастановы, павінны падвяргацца пакаранню[385].

Так з 1834 г. пачаўся новы этап у суровай паслядоўнасці ліквідацыі ўніі – аднаўленне ў царкве ўсходняга абраду, увядзенне маскоўскіх богаслужэбных кніг, аднаўленне іканастасаў і знішчэнне ўніяцкай атрыбутыкі. Выцясненне з царкоўнага ўжытку адных прадметаў культу і іх замена іншымі, адаптаванымі да праваслаўна-расійскіх узораў, праходзіла пад пільным кантролем свецкіх улад і наглядам паліцыі.

Распачатая тады духоўная пераарыентацыя Беларусі на хрысціянскі Усход, закліканая ўзмацніць яе ўнутранае аб'яднанне з Расіяй і ізаляваць ад заходніх уплываў, суправаджалася жорсткай рэвізіяй уніяцкага культурна-абрадавага комплексу. Створаныя працай шэрагу пакаленняў беларусаў каштоўнасці, звязаныя з дзейнасцю ўніяцкай царквы, не знайшлі разумення і прыняцця тых, хто ўсталёўваў тут вяршэнства праваслаўя. Нішчылася ўсякая мясцовая даўніна, якая не была падобнай па стылю да расійскай.

Расійская культура з яе этнацэнтрызмам і імкненнем ацэньваць усе з'явы навакольнага свету таксама ў маштабе каштоўнасцяў свайго тыпу культуры, якім надавала ўніверсальны характар, навязваннем уласных каштоўнасцяў і іншым культурам[386] усемагчымымі сродкамі прымусу, ад інтэлектуальнага да фізічнага, выціскала народжаную ўніяй аўтэнтычную культуру беларусаў. Справа даходзіла да публічных аўтадафэ. Вызваленае месца запаўнялася культурнымі каштоўнасцямі расійскага праваслаўя, якія прышчэпліваліся замест зруйнаваных, фарміруючы ў беларускага народа адпаведную самасвядомасць.

---

383 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7815. – Арк. 16 адв.

384 РДГА. – Ф. 796. – Воп. 205. – Спр. 180. – Арк. 4 адв.

385 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7815. – Арк. 1–7; РНБ. – Ф. 52. – Спр. 25. – Арк. 9–10, 13 адв.

386 Культурология: Учебное пособие для студентов ВНУ / Под ред. Г. В. Драча. – М.: Феникс, 1995. – С. 387; Учебный курс по культурологии: Многоуровневое учебное пособие для учащихся средних и высших учебных заведений. – Ростов-на-Дону: Феникс, 1996. – С. 309.

## *Калектыўныя пратэсты*

Санкцыянаваная Пецярбургам кампанія па ачышчэнню ўніяцкай абраднасці і інтэр'ера храма ад лацінскіх запазычанняў і замене богаслужэбных кніг, якая праводзілася ў 1834 – 1838 г., паставіла духавенства перад неабходнасцю лавіраваць паміж вернасцю ўніі і націскам улад і нарадзіла розныя формы супраціву: ад непадпарадкавання загадам аб новаўвядзеннях да зваротаў з прашэннямі і пратэстамі ў вышэйшыя інстанцыі. Распаўсюджанай формай абароны сваёй веры ў тых умовах сталі групавыя і аднаасобныя пратэсты на адрас вышэйшых уладаў.

Першы моцны пратэст супраць рэформы меў месца ў Навагрудку ў 1834 г. У верасні тут на сустрэчу з І. Сямашкам сабраліся 57 святароў. Ад іх імя навагрудскі благачынны Ян Гамаліцкі прадставіў епіскапу пісьмовае прашэнне – вызваліць іх ужывання ў набажэнстве служэбніка маскоўскай сінадальнай друкарні.

Л. Лаўрэш лічыць, што першы прыклад непрыняцця маскоўскага служэбніка даў святар Адам Плаўскі, які разам з навагрудскім духавенствам стаў у апазіцыю да ліквідацыі ўніяцкай царквы[387].

Магістр багаслоўя Адам Плаўскі – ўраджэнец Брэстчыны, выпускнік Галоўнай семінарыі пры Віленскім універсітэце (1822 г.). Вучыўся там разам з Іосіфам Каяловічам (бацькам гісторыка М. Каяловіча) і Іосіфам Сямашкам, які потым прайшоў па рэлігійнай лесвіцы шлях ад протаіерэя да мітрапаліта. Выпускнікі семінарыі занялі прынцыпова адрозную пазіцыю адносна лёсу ўніяцкай царквы.

Ужо ў 1827 г. протапрэсвітэр І. Сямашка падаў расійскаму ўраду сваю першую запіску, стаўшую потым знакамітай. Ён прапанаваў праект рэформ, у выніку якіх уніяты «непазбежна злучацца з праваслаўнай царквой». З таго часу кар'ера І. Сямашкі пачала хутка прасоўвацца ўверх па службовай лесвіцы. У 1833 г., маючы ўсяго 35 гадоў, ён быў прызначаны літоўскім епіскапам. А ўжо праз месяц прасіў дазволу Сінода далучыцца да праваслаўя. У сваім прашэнні пісаў, што ўжо 6 гадоў ён лічыць сабе праваслаўным, але

[387] Лаўрэш Л. Л. Жыццё святара Адама Плаўскага // Актуальныя праблемы гістарычнай навукі і адукацыі: зборнік навуковых артыкулаў / Пад рэд. С. В. Марозавай. – Гродна: ЮрСаПрынт, 2014. – С. 51.

да гэтага часу не змяніў веру афіцыйна толькі дзеля таго, каб зручней было далучыць да праваслаўнай царквы і 1,5 мільёна ўніятаў. У 1834 г. па прапанове епіскапа Іосіфа грэка-уніяцкая калегія вырашыла прыняць для ўніяцкіх цэркваў служэбнік і кнігу богаслужэбных спеваў Маскоўскай сінадальнай друкарні [388].

У адрозненне ад І. Сямашкі его аднакурснікі А. Плаўскі і І. Каяловіч сталі на абарону ўніяцкай царквы і яе сакральных каштоўнасцяў.

І вось у верасні 1834 г. прыходскі святар А. Плаўскі і епіскап І. Сямашка сустрэліся ў Навагрудку. «З належнай павагай да Вашай Правялебнасці з нагоды прапанаванай змены грэка-уніяцкага абраду мы тлумачым нашы запыты ў наступных пунктах, – гаварылася ў паданні навагрудскіх святароў». Яны канстатавалі, што абрады, прылады і начынне ўніяцкай царквы, неабходнае для літургіі, устаноўлены Брэсцкім і Замойскім саборамі, «зыходзячы больш з ... нацыянальных звычаяў, а не са старых абрадаў царградскіх». І яны, святары, пад прысягай абавязаліся гэтыя абрады захоўваць.

Старыя грэка-уніяцкія малітоўнікі і рытуалы, як гаварылася ў паданні, «маюць агульную крыніцу ва Усходняй Царкве» і «маюць пацвярджэнне ў сівой даўніне». «Малітоўнікі, друкаваныя ў 1831 г. у Маскве, адрозніваюцца ад нашых малітоўнікаў месцам аб паходжанні Святога Духа і некаторымі малітвамі, ні разу не ўзгадваецца Папа, якому мы пры нашым высвячэнні клятвенна абяцалі паслухмянасць і павагу, як і імператару».

«Молім Правялебнага епіскапа, – гаварылася ў паданні, – не прымушаць нас прыняць гэта і пакінуць нам віленскі малітоўнік, які мы заўжды ўжывалі». «Люд рускі амаль два стагоддзі прывык» да сваіх абрадаў і богаслужэбных кніг – «гэта патрэбна ў нашым абрадзе і не можа быць выдалена без пакрыўджання народа, які, здаецца, будзе мець абурэнне супраць духавенства з-за новых зменаў».

Спасылаліся на імператара, які сваёй найвышэйшай воляй «кожнаму пакідае поўную свабоду вызнаваць сваю рэлігію, таксама і грэка-каталіцкаму духавенству. Такім чынам, не меней за іншыя веравызнанні мы маем абавязак захавання старых абрадаў наша-

[388] Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского и воссоединение западно-русских униатов с православною церковию в 1839 г. – Вильна: Тип. И. Блюмовича, 1893. – С. 40, 68, 70, 78.

га набажэнства, абы мы не пагрэбавалі высокай дабрынёй нашага цара».

Нарэшце, навагрудскае духавенства, паводле іх прашэння, «з належнай павагай да Правялебнага епіскапа, аб'яўляе просьбу, каб Грэка-уніяцкая Царква адрознівалася ад Праваслаўнай Царквы, і заклікае да ўважлівага клопату пра сябе свайго выбітнага пастыра». Паданне завяршалася словамі: «Гэтыя пажаданні, аб'яўленыя аднагалосна, падпісаны кожным уласнай рукой»[389].

Нават не прачытаўшы прашэнне, епіскап загадаў усім святарам чытаць па-стараславянску. Чыталі яны дрэнна і за гэта атрымалі вымову. Таму ён дадаў, што, маўляў, меркаванне гэтых малаадукаваных святароў не можа лічыцца грунтоўным.

Пасля сходу І. Сямашка зрабіў строгую вымову благачыннаму. Прыгразіў, што вышле яго ў манастыр і пазбавіць прыходу (гэта значыць, сродкаў да існавання), калі той праз тры дні не прадставіць пісьмовага адрачэння ўсіх святароў ад свайго прашэння і не выдасць завадатараў. Пад моцным ціскам святары выдалі завадатараў і падпісаліся пад патрабаванай ад іх паперай[390].

Сярод «завадатараў» быў Адам Плаўскі – чалавек высокаадукаваны, які разумеў, што пераход на маскоўскія богаслужбовыя кнігі – гэта пачатак канца ўніі. І. Сямашка з аднадумцамі дэкларавалі, што імі ўсё робіцца для выгоды кліру і ўмацавання ўніі[391]. А святароў, якія разумелі, што справа ідзе да ліквідацыі іх царквы і не маўчалі, абвінавачвалі ў распаўсюдзе шкодных чутак.

Між іншым, нават у імператарскім акружэнні з трывогай ставіліся да замены ўніяцкіх кніг. Міністр унутраных спраў Д. М. Блудаў асцерагаўся, што супраціў можа выйсці з-пад кантролю урада[392]. Але І. Сямашка даказаў Блудаву неабходнасць такога

[389] Лаўрэш Л. Л. Жыццё святара Адама Плаўскага // Актуальныя праблемы гістарычнай навукі і адукацыі: зборнік навуковых артыкулаў / Пад рэд. С. В. Марозавай. – Гродна: ЮрСаПрынт, 2014. – С. 57–59.

[390] Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского и воссоединение западно-русских униатов с православною церковию в 1839 г. – Вильна: Тип. И. Блюмовича, 1893. – С. 82.

[391] Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского и воссоединение западно-русских униатов с православною церковию в 1839 г. – Вильна: Тип. И. Блюмовича, 1893. – С. 61.

[392] Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского и воссоединение западно-русских униатов с православною церковию в 1839 г. – Вильна: Тип. И. Блюмовича, 1893. – С. 79.

кроку і ўзяў на сябе за яго адказнасць. Далей, каб перамагчы і не дапусціць выбуху незадавальнення, епіскап бязлітасна караў нязгодных і ізаляваў лідэраў супраціву.

27 верасня 1834 г. І. Сямашка інфармаваў гродзенскага губернатара М. М. Мураўёва «пра зламысныя дзеянні святароў, Любчанскага Адама Плаўскага, Навагрудскага Ігната Дылеўскага і Ведзьмянскага Антонія Гарбацэвіча». Яны ў бытнасць яго ў Наваградку арганізавалі падачу прашэння ад «большай паловы духавенства Навагрудскага дэканату, ... супрацьлеглае іхняму абавязку і здароваму сэнсу». За гэта ён вырашыў падвергнуць іх шасцімесячнай епітыміі ў Валнянскім манастыры Навагрудскага павета. Епіскап прасіў губернатара з дапамогай паліцыі даставіць іх у манастыр і там устанавіць пільны паліцэйскі нагляд.

Так пад грыфам «сакрэтна» ў губернскай канцылярыі з’явілася справа «О переводе в Волнянский монастырь священников Плавского Адама, Дылевского Игнатия и Горбацевича Антона за распространение ложных слухов»[393]. Пачалося расследаванне. Высветлілася, што да ліку «першапачатковых завадатараў» адносіцца яшчэ і святар Юльян Гарбацэвіч з вёскі Сенна Навагрудскага павета. Ён першы падпісаў гэтае прашэнне, падаўшы прыклад іншым. Прашэнне падпісвалася святарамі ў мястэчку Любча ў святара Плаўскага, а таксама ў Наваградку. Ужо падпісанае прашэнне Плаўскі чытаў навагрудскім дамініканам, і тыя «са слязьмі блаславілялі яго на поспех». Духоўным таксама спрыялі памешчыкі, «каб унія не адыходзіла ад рымскіх абрадаў».

«З ліку схопленых завадатаяў, – паведамляў губернскі крымінальных спраў страпчы, – утаймаваны два толькі святары: Адам Плаўскі і Юльян Гарбацэвіч, з якіх першы катэгарычна сардэчна раскайваецца, абавязуючыся выконваць усе ... распараджэнні яго духоўнага начальства і ў тым ліку вырак Вашага правасхадзіцельства…, (астатнія – С. М.) не перастаюць заставацца ўпартымі і даволі дзёрзкімі ў памылцы сваёй».

Але эпітімія ў Валнянскім манастыры для свайго аднакурсніка і іншых навагрудскіх святароў І. Сямашцы здалася малым пакараннем, бо яны з манастыра ходзяць па селішчах, раз’язджаюць па суседніх дамах і «займаюцца распаўсюдам ілжывых вестак». У

[393] НГАБГ. – Ф. 1. – Воп. 27. – Спр. 614.

снежні 1834 г. ён прапанаваў М. Мураўёву для іх больш «надзейныя спосабы да выпраўлення»: перавесці ў Быценьскі манастыр, прызначыць там асобную келлю «і даручыць іх асабліваму нагляду», зрабіць больш жорсткімі ўмовы эпітыміі, каб яна стала «сапраўды … карыснай для … выпраўлення»[394].

Паводзіны Плаўскага, на думку Л. Лаўрэша, які даследаваў яго біяграфію, можна растлумачыць тым, што ён меў вялікую сям'ю – восем дзяцей. Відавочна, што ў яго душы ішла барацьба паміж абавязкам святара-інтэлектуала і бацькоўскімі пачуццямі[395]. Час, праведзены ў манастырах, А. Плаўскі выкарыстаў для напісання запіскі, у якой выклаў свае погляды. Як законапаслухмяны святар, ён перадаў сваю працу ў Літоўскую кансісторыю, думаючы, што на людзей, якія свядома ліквідуюць сваю царкву, можна ўздзейнічаць логікай.

І. Сямашка спачатку зрабіў выгляд, што не зразумеў, якія паперы яму перадалі. Сказаў, што не мае часу займацца чытаннем «нейкіх прыватных пустых папер», аўтар якіх да таго ж выявіў «недахоп здаровага сэнсу»[396].

Аднак у чэрвені 1835 г. епіскап хадайнічаў перад міністрам унутраных спраў пра выдаленне святара Адама Плаўскага ў Магілёўскую губерню, «бо ён узбуджае паміж духавенствам процідзеянне начальству». Яго высылка ў манастыр «не прынесла … поспеху». За паўгода святар падаў яму «дзве цыдулкі». У адной з іх ён мяркуе, што служэбнікі маскоўскага друку не павінны прымяняцца ўніятамі, у другой бэсціць кормчую кнігу (зборнік царкоўных і свецкіх законаў для кіравання праваслаўнай царквой).

Таму іерарх палічыў патрэбным ужыць «больш дзейсныя сродкі ўтаймавання і выпраўлення» А. Плаўскага. Мяцежнага святара адхілілі ад Любчанскага прыхода і разам з сям'ёй пад канвоем паліцыі адправілі дзячком у Магілёўскую губерню «на бедны прыход», а пазней выслалі ў Смаленскую губерню[397].

---

[394] НГАБГ. – Ф. 1. – Воп. 27. – Спр. 614. – Арк. 17–17 аб.

[395] Лаўрэш Л.Л. Жыццё святара Адама Плаўскага // Актуальныя праблемы гістарычнай навукі і адукацыі: зборнік навуковых артыкулаў / Пад рэд. С. В. Марозавай. – Гродна: ЮрСаПрынт, 2014. – С. 54.

[396] Записки Иосифа Митрополита Литовского. – Т. 3. – СПб., 1883. – С. 163–164.

[397] Записки Иосифа Митрополита Литовского. – Т. 3. – СПб., 1883. – С. 166–167, 583.

Апальны беларускі святар-інтэлектуал заплаціў за сваю веру і перакананні галечай і жыццём сваёй жонкі. Яго трактат супраць кніг маскоўскага друку і ліквідацыі ўніі, перакладзены на розныя мовы, неаднаразова перавыдаваўся на працягу XIX ст. за мяжой[398].

Акрамя трох згаданых святароў у Навагрудскім благачынні ў 1835 г. яшчэ шэсць святароў адмовіліся служыць па маскоўскіх кнігах: Міхал Віторскі, Гедэон Савіч, Ігнат Марцыноўскі, Томаш Гарбацэвіч, Юльян Гарбачэвіч, Віктар Гарбацэвіч. Усе яны, што «осмелились рассуждать», былі пераведзены ў прычэтнікі і на па працягу трох дзён высланы з благачыння. Але 31 ліпеня 1835 г. благачынны Ян Гамаліцкі дакладваў, што яшчэ 13 парахаў адмовіліся прыняць кнігі маскоўскага друку[399]. Хваляванні святароў пракаціліся тады па усёй Беларусі.

Гісторык Г. Кіпрыяновіч, прыхільнік заходнерусізма, пісаў: «Ухіленне ад падпіскі протаіерэя Баброўскага (да 1837 г.) і протаіерэя Сасноўскага (да 1839 г.), нікчэмны лік падпісак ў 1833 – 1834 г. з боку даволі шматлікіх у той час святароў, былых выхаванцаў Галоўнай семінарыі, а так жа навагрудскі пратэст магістра багаслоўя Адама Плаўскага, таварыша Іосіфа (Сямашкі – С. М.) па Галоўнай семінарыі, ясна даказвае, што нават шматлікія духоўныя таго часу не адразу разглядзелі ўсе веліч пачатай Іосіфам справы»[400]. «Усё наадварот, – думае на гэты конт Л. Лаўрэш, – яны разглядзелі справу І. Сямашкі і менавіта таму, нягледзячы на моцны ціск уладаў, супраціўляліся ёй у меру сваіх магчымасцяў»[401].

Свабоды сваёй веры і захавання яе адрознення ад артадаксальнага праваслаўя патрабавалі ў імператара 40 святароў Клецка. З петыцыяй на царскае імя звярнуліся 10 ліпеня 1835 г. святары і вернікі з Любавіч. Яны прасілі рэлігійнай свабоды і падымалі нацы-

---

398 Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского и воссоединение западно-русских униатов с православною церковию в 1839 г. – Вильна: Тип. И. Блюмовича, 1893. – С. 96.

399 Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского и воссоединение западно-русских униатов с православною церковию в 1839 г. – Вильна: Тип. И. Блюмовича, 1893. – С. 174, 188.

400 Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского и воссоединение западно-русских униатов с православною церковию в 1839 г. – Вильна: Тип. И. Блюмовича, 1893. – С. 91.

401 Лаўрэш Л. Л. Жыццё святара Адама Плаўскага // Актуальныя праблемы гістарычнай навукі і адукацыі: зборнік навуковых артыкулаў / Пад рэд. С.В. Марозавай. – Гродна: ЮрСаПрынт, 2014. – С. 56.

янальную праблему – прасілі не ідэнтыфікаваць іх з расіянамі. Гэту петыцыю падпісалі 120 чалавек. У 1835 г. была паслана петыцыя з Ушач. Вяскоўцы заявілі прыбыўшай камісіі, што яны не хочуць іншай веры, акрамя сваёй, і захаваюць яе, нават калі ў іх забяруць святароў.Паданне на імя цара ў 1838 г. накіравала духавенства Беласточчыны[402] і 111 святароў Беларускай епархіі[403].

Але нават шлях лаяльных просьбаў на карысць уніі быў непрыймальны для царызму. Улады тлумачылі такога роду заявы і пратэсты нечымі «інтрыгамі», шукалі зачыншчыкаў. Падпісантаў прымушалі замаўчаць высылкай, дэпартацыяй, зняволеннем. Так, на год упяклі ў манастыры «на пакуту» навагрудскіх святароў, якія адмовіліся на патрабаванне літоўскага епіскапа адклікаць свой ліст[404]. Пад цяжарам рэпрэсій святары і прыхаджане адзін за другім пачыналі здавацца і выяўляць сваю пакорнасць уладам. Пісьмовыя пратэсты поспеху не прынеслі.

### *«Цяпер у царкве не па-нашаму»: супраць новых абрадаў і змены інтэр'ера*

Поспех справы рэфармавання ўніяцкай царквы (па падставе пастановы ад 7 лютага 1834 г.), як пісаў 8 мая 1834 г. І. Сямашка Смарагду, будзе залежаць ад мясцовых абставін і стараннасці мясцовых выканаўцаў, «з ліку якіх я, на жаль, яшчэ не шмат на каго магу цалкам палажыцца». Ён прадбачыў, што перавыхаваць да 1300 святароў з прычтам і змяніць інтэр'ер 800 уніяцкіх цэркваў Літоўскай епархіі – справа не такая лёгкая [405].

Літоўскі епіскап быў праў. Праблемы пачаліся адразу, бо шараговае духавенства байкатавала ўвядзенне ўсходніх абрадаў і рэарганізацыю царкоўнага інтэр'ера.

У першыя ж месяцы аказалася, што ў Беларускай епархіі «амаль нідзе і ні ў чым выканання (пастановы 7 лютага – С. М.) не відаць, а, наадварот, аказваюцца ў многіх месцах непарадкі і

402 Lencyk W. The Eastern Catholic Church and Czar Nicholas I. – Romae–New York: Ukrainian Catholic Uniwersity Press, 1966. – P. 65–71.

403 Шавельский Г. Последнее возсоединение с православною церковию униатов Белорусской епархии (1833–1839 гг.). – СПб., 1910. – С. 285.

404 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7815. – Арк. 117.

405 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7815. – Арк. 7, 16.

супярэчныя закону ўчынкі»[406]. У 1835 г. полацкі епіскап Смарагд паведамляў беларускаму генерал-губернатару М. Хаванскаму аб грэбаванні грэка-ўсходняй абраднасцю і «яўным пасмейваннем існуючым узаконенням» віцебскага духавенства, невыкананні пастановы магілёўскім святарствам[407]. «Чым болей заклапочваюся я ўладкаваннем у Беларускай епархіі грэка-уніяцкіх цэркваў па правілах грэка-усходняй царквы, столькі не менш сустракаю да таго перашкод», – пісаў ён тады віленскаму генерал-губернатару М. Далгарукаву ў сувязі з супрацівам духавенства Мінскай губерні[408]. У Беларускай епархіі, на думку В. Ленцыка, гэта рэформа сустрэлася з больш моцнай апазіцыяй[409].

Востра адрэагаваў на змены і клір Літоўскай епархіі. Аглядзеўшы яе восенню 1834 г., епіскап Іосіф убачыў, што пастановы аб рэфармаванні царквы тут таксама «вельмі слаба выконваюцца». Рэзка выступіў супраць рэформы Сямашкі настаяцель Віленскага базыльянскага манастыра, буйнейшага ўніяцкага цэнтра краю, іераманах Басяцкі. Калі знішчалі прысценны сталец і ўстанаўлівалі яго пасярод алтара, ён плакаў ад прыкрасці  і наракаў на перамену[410]. За гэта трапіў у лік нядобранадзейных. Памешчыкі рымска-каталіцкай веры, хоць іх і абавязалі садзейнічаць пераўтварэнням, за гэта «вельмі неахвотна прымаюцца». Епіскап распачаў перапіску з начальнікамі губерняў «аб устараненні шкоднага ўплыву людзей, якія не спрыяюць гэтай меры»[411].

Слонімскі спраўнік у 1834 г. данёс на любішчыцкага святара Гамаліцкага, які, нягледзячы на прымус, пад рознымі зачэпкамі адмаўляўся пераабсталёўваць сваю царкву і будаваць іканастас. Спосабам злому непакорных былі эпітымія ў Жыровіцах, утрымліванне там у голадзе і холадзе, паніжэнне ў пасадзе, выдаленне з прыхода. Самых упартых высылалі ў расійскія губерні[412].

[406] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7815. – Арк. 21.

[407] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7815. – Арк. 95, 96 адв.–99.

[408] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 370. – Арк. 39.

[409] Lencyk W. The Eastern Catholic Church and Czar Nicholas I. – Romae–New York: Ukrainian Catholic Uniwersity Press, 1966. – P. 63.

[410] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22996. – Арк. 15, 46.

[411] РДГА. – Ф. 796. – Воп. 205. – Спр. 180. – Арк. 4–5 адв.

[412] Марозава С. Дэпартацыя як сродак вырашэння рэлігійных праблем (XVII–XIX ст.) // Дэпартацыя як сацыяльная праблема: Тэматычны зборнік навуковых прац / Навуковы рэдактар С. А. Яцкевіч. – Брэст: Міжнародная акадэмія вывучэння нацыянальных меншасцей, 1997. – С. 10–12.

Адукаваны, «фанатычна адданы свайму абраду ... і любімы чэрню» астрынскі святар В. Жэромскі «смела працівіцца епіскапу, пры ўсіх яго пагрозах, што датычыць новага ўладкавання царквы», а гэта «чэрнь» – прыхаджане Ракавіч і Астрына (Лідскі павет), дзе духавенства больш адукаванае, моцна гневаецца з нагоды любых перамен у храме[413].

Трэцяга снежня 1835 г. гродзенскі губернатар Копцеў аддаў мясцовым уладам распараджэнне аб знішчэнні ва ўніяцкіх храмах рэчаў, «неўласцівых» усходняму багаслужэнню ў тэрмін да 1 мая наступнага года. У лютым – красавіку 1836 г. земскія спраўнікі Лідскага, Слонімскага, Брэсцкага, Кобрынскага, Пружанскага і Навагрудскага паветаў паспяшаліся адрапартаваць: усе цэрквы «ачышчаны» ад арганаў, лавак, званочкаў[414].

Але ўвядзенне іканастасаў у Гродзенскай губерні зацягнулася з-за супраціву духавенства і насельніцтва, у сувязі з чым ад чыноўнікаў і паліцыі патрабавалася «асаблівая на гэты конт клапатлівасць»[415]. Мясцовым уладам прыйшлося аказаць націск на святароў, прыхаджан і паноў.

Ужо ў 1834 г. было відавочна, што пазбаўленне народа «з маладосці ўражанага богашанавання, існаваўшага з незапамятных часоў.., без найменшага ад кагосьці пярэчання», можа абудзіць у ім «жудаснае спачуванне ... і аслабіць прыхільнасць да храмаў і святароў, якія ён падтрымлівае»[416]. Так і здарылася. У 1836 г. афіцыйны Пецярбург прызнаў, што ўтрымліванне ўніяцкіх «адступленняў» «моцна дзейнічае на розумы просталюдзінаў», якіх, пры розніцы ўніяцкага і грэка-расійскага багаслужэння, цяжка пераканаць, што гэта амаль тая ж самая вера, і ўтрымаць у праваслаўі. Архівы стракацяць справамі аб байкатаванні навязанай абраднасці і пратэстах супраць змены царкоўнага інтэр'ера [417].

Пасля змены абстаноўкі залосскія сяляне і абшарнік (Себежскі павет) заявілі: «Цяпер у царкве не па-нашаму» і сталі абыходзіць яе бокам[418].

---

413 НГАБГ. – Ф. 1. – Воп. 27. – Спр. 695. – Арк. 5.

414 НГАБГ. – Ф.1. – Воп.19. – Спр. 1004,1005.

415 НГАБГ. – Ф. 1. – Воп. 1. – Спр. 1747. – Арк. 5–5 адв., 120–121; Ф. 1. – Воп. 21. – Спр. 605. – Арк. 11.

416 РДГА. – Ф. 823. – Воп. 2. – Спр. 3306. – Арк. 14.

417 РДГА. – Ф. 823. – Воп. 2. – Спр. 2926, 3323, 3356, 3441, 3451 і інш.

418 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 10713. – Арк. 1 адв.–2.

Сяляне вёскі Шапялевічы, якая адносілася да Цяцерынскага дэканата Магілёўскай губерні, унію кінуць не жадалі. Аднак сітуацыяй яны валодалі: пераварочванне няўмольна падкочвалася да іх царквы. Вяскоўцы паспрабавалі зрабіць прэвентыўны крок. На пісьме заявілі, што «ў выпадку схілення іх да праваслаўя яны будуць ахоўваць сваю царкву сілай уласных рук»[419]. Улады ўсклалі за гэта віну на ўніяцкага дэкана Раклянскага, які натхніў сялян на супраціў і меў дачыненне да напісання той заявы. Яго выклікалі ў Магілёў, каб не перашкаджаў «уніяцкай справе»[420].

Упісаныя ў рэестры пануючай царквы сяляне вёскі Радзілавічы Мазырскага павета Мінскай губерні 22 красавіка 1834 г., пасля богаслужэння, калі ўсе выйшлі з царквы, закрылі яе на свой замок і святара Мазюкевіча, які змяніў веру, туды болей не пусцілі.

Сталі вырашаць, што рабіць далей. У панскім доме адбылася нарада арганізатараў супраціву. Сялян на ёй прадстаўлялі Антон Мішкевіч, Фёдар і Іван Лукашэвічы, Ясафат Уласевіч, Дзмітрый і Гаўрыла Цыбулічы. Вырашылі: угаварыць усю вясковую грамаду «трымацца ва ўніі, хоць бы здарылася і прыняць пакуты за гэта». Эканом Браткоўскі на тым сходзе асудзіў святара, які «спакусіўшыся на грошы», далучыўся сам і сялян схіліў да здрады. Непахвальныя словы гучалі і на адрас камісіі, што пераварочвала радзілаўцаў: маўляў, абманшчыкі, ездзяць па вёсках і «вярбуюць нібы ва ўланы».

Нікога за іх словы і дзеі Мінская крымінальная палата не пакінула без пакарання. Усіх змоўшчыкаў арыштавалі. Чатырох сялян асудзілі на цялеснае пакаранне – па 25 і 35 удараў. Потым, праўда, гэту кару замянілі аддачай іх на 6 месяцаў у Мінскі рабочы дом. Турэмнаму зняволенню падверглі і ўсіх тых, хто ім дапамагаў (эканома і інш.)[421].

У Барысаўскім павятовым судзе ў 1835 – 1836 г. разглядалася крымінальная справа сялян казённага маёнтка Вяляцічы, абвінавачаных у буянстве. Як вынікае з судовай справы, па нагавору аднавяскоўцаў Івана Шантыронка, Кандрата Шышкаўца і Шапара Ільюшэнкі вяляцічскія жыхары «пачалі вагацца ў далучэнні іх з уніі ў праваслаўе». Натоўп сялян у 30 чалавек аказаў няўвагу ўгаворам

---

[419] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22282. – Арк. 1.
[420] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22282. – Арк. 1–2.
[421] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22303. – Арк. 2–5, 9.

начальства, не падпарадкаваўся яго распараджэнням. Паслухаўшы падбухторшчыкаў Шантыронка, Івана Старавойта, Тараса Іванова і Лаўрэнція Хатучонка, яны «адмовіліся быць у праваслаўі». Пры гэтым праявілі «розныя буянствы і абурэнні, дзёрзкасці і процізаконні», адабралі ў новага святара ключы ад царквы.

Сяляне звярнуліся ў Полацкую кансісторыю з прашэннем аб дазволе застацца ўніятамі. Напісаць скаргу ім дапамог шляхціч Раман Ржэцкі. Старшы афіцыял кансісторыі заклікаў іх трымацца сваёй веры. А вяляцічскі пісар Дамброўскі раіў «хадзіць у Мінск і прасіць уніяцкай веры».

Да судовай адказнасці прыцягнулі каля 40 сялян. Спачатку яны не прызнавалі сваю віну, але пад моцным ціскам раскаяліся і абяцалі заўсёды быць у праваслаўнай веры, што і пацвердзілі сваімі распіскамі. Справа сялян, якія «раскаяліся ў сваіх памылках», была закрытая. А вось шляхціч Ржэцкі, пісар Дамброўскі і полацкі афіцыял, якія мелі дачыненне да хваляванняў у Вяляцічах, былі аддадзены крымінальнаму суду[422].

Восенню 1836 г. кіраўніцтва Літоўскай епархіі ўсур'ёз узялося за ўкараненне новых парадкаў, якія духавенства ўспрыняла ў штыкі. Дзеля гэтага начальства заручылася адпаведным указам Мікалая І ад 26 верасня 1836 г. Цяпер пярэчыць і супраціўляцца было цяжэй – палітыка рэфармавання царкоўнага жыцця зыходзіла ад вышэйшай дзяржаўнай улады.

Усіх святароў і манахаў абавязалі даць распіскі аб адказнасці за пераабсталяванне храмаў[423] і «занядбанне абрадаў богаслужэння па служэбніку маскоўскага друку»[424]. Яны вымушаны былі гэта зрабіць, але з розных прычын (беднасць фундушаў, адсутнасць царкоўных грошай, уласная старасць, хваробы), пры спрыянні мясцовых благачынных, ўхіляліся ад збудавання іканастасаў, не давалі знішчаць лаўкі, арганы, званочкі. Калі вернікі словам і справай выказвалі сваё негатыўнае стаўленне да парушэння традыцыйнага царкоўнага інтэр'ера, то святары рабілі гэта, як правіла, больш асцярожна і абачліва, бо за непадпарадкаванне начальству іх пазбаўлялі прыхода.

[422] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23265. – Арк. 10–12.

[423] НГАБ. – Ф. 3245. – Воп. 2. – Спр. 512. – Арк. 43–43 адв.

[424] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2147. – Арк. 37.

Не выконваў імператарскі ўказ святар Сцяпуржынскі з Маламажэйкава (Лідскі дэканат)[425]. Ухіляліся ад новых абрадаў і, адпаведна, ад пакоры вышэйшай уладзе чатыры святары Ратненскага дэканата, некаторыя святары Гродзенскага дэканата[426].

Аляксандр Забела са Свіслачы (Ваўкавыскі дэканат) за невыкананне ўсходніх абрадаў адбыў 12-дзённую эпітымію ў Жыровіцах. Пасля гэтага ён стаў больш згаворлівым. Бо дахаты адпусцілі толькі тады, калі вырвалі з яго распіску, «што заўсёды іх выконваць будзе і па служэбніку маскоўскага друку служыць будзе»[427].

У 1837 г. ваенных начальнікаў паветаў абавязалі даваць штомесячныя справаздачы пра募раабсталяванне храмаў. Тым не менш, у вёсках Астрамечы, Косіцы, Камяніца-Жыровіцкая (Брэсцкі павет), нягледзячы на шматлікія «приглашения», і «за многим настаиванием успеха не видно»[428]. Пан І. Выганоўскі ў 1838 г. «понуждался» да перабудовы царквы ў Камяніцы-Жыровіцкай. Святары Ізабелінскай, Свіслацкай, Дабравольскай, Ляўкоўскай, Ляўшоўскай, Яцвезскай, Мсцібоўскай і Зельчынскай цэркваў Ваўкавыскага павета адмаўляліся дэкарыраваць свае храмы праваслаўнымі абразамі, спасылаючыся на адсутнасць сродкаў і жывапісцаў. 13 мая 1839 г . лідскі тысяцкі атрымаў грознае прадпісанне: як найхутчэй адміністрацыю маёнткаў «прымусіць рашучымі паліцэйскімі мерамі, пад пагрозай за маруднасць строгага спагнання» пераабсталяваць цэрквы[429]. Сродкі бралі з царкоўнай касы, абавязвалі раскашэльвацца паноў, устанаўлівалі спецыяльныя падаткі з сялян.

Вайсковы начальнік данёс у 1836 г. полацкаму архіепіскапу В. Лужынскаму, што нягледзячы на шматразовыя прадпісанні, толькі ў 1/3 цэркваў Дзісненскага павета зроблены іканастасы, а стальцоў з-за ўпартасці і ў пятай долі няма.

«Самым шкодным святаром» аказаўся Антон Самовіч, які не прымаў ад паноў грошы на іканастас, выконваў богаслужэнні паранейшаму ды распаўсюджваў чуткі, што пераўладкаванне царквы – гэта выдумка губернатара. Яго непаслушэнства, гаварылася ў заведзенай справе, служыць спакусай для іншых святароў і аказвае

[425] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2147. – Арк. 108.
[426] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – С пр. 2147. – Арк. 249.
[427] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2147. – Арк. 117.
[428] НГАБГ. – Ф. 1. – Воп. 1. – Спр. 1364. – Арк. 17 адв., 45, 46.
[429] НГАБГ. – Ф. 2. – Воп. 21. – Спр. 327. – Арк. 21–21 адв., 25–26 адв., 50 адв.

шкодны ўплыў на народ. Самовіч і шэраг яго калег былі асуджаны на эпітымію і зняты з пасады[430].

Абшарнікаў абавязалі ўнесці патрэбную суму на рэарганізацыю інтэр'ера, але тыя адмовіліся ад такой ўспамогі.

Памешчык Клаўдзій Мірскі слыў лібералам. У свой час скончыў Віленскі ўніверсітэт. Дакацілася і да яго маёнтка тое «ўз'яднаўчае» ліхалецце. Дакацілася і … зламала лёс.

Калі губернскае начальства зрабіла распараджэнне аб пераабсталяванні ўніяцкіх цэркваў па грэка-расійскаму абраду, ваенны начальнік палкоўнік Курасоўскі прыбыў у Дзісненскі павет і з залішняй суровасцю пачаў прымушаць да таго мясцовых паноў і сялян[431]. Ліберал адмовіўся пераабсталёўваць Узменскую ўніяцкую царкву, якая служыла яму хатняй капліцай. Не дазволіў знішчаць начынне, бо лічыў яго сваёй уласнасцю. Не даў ключы самазваным новым гаспадарам, але вярнуў царкву ўніятам. Сваіх сялян ён пераконваў перайсці на лацінскі абрад, што 272 чалавекі і зрабілі. «Асабліва небяспечны прыклад непакорнасці!» – забілі трывогу ў Пецярбургу. На Мірскага завялі справу. Яе прадставілі імператару. Выслаць у Вятку пад нагляд – была манаршая воля. За вакном стаяў люты 1837 г.[432]

Яшчэ больш сурова абышліся з дваранінам Андрушкевічам, які 30 мая 1836 г. у царкве вёскі Гулі дэманстратыўна і своеасабліва выказаў пратэст супраць змены абрадаў. Яго «для вящшего восчувствования … вины» аддалі пад суд, 9 месяцаў трымалі пад арыштам, спагналі ў казну грошы, якія пайшлі на разгляд яго справы, а самога пастанавілі аддаць у салдаты[433].

Шмат якія памешчыкі адмовіліся выдзяляць сродкі на пераўладкаванне храмаў. Калі на мясцовае панства не падзейнічалі ніякія перакананні, магілёўскі губернатар пусціў у ход паліцыю. Абражаны такім паваротам справы, памешчык Барысаўскага павета Мінскай губерні Беліковіч падаў ў верасні 1837 г. у Сенат скаргу на несправядлівы прымус яго мясцовым начальствам да пераабсталявання Латыголіцкай уніяцкай царквы. Аднак яго ўчынак у Сенаце расцанілі адзіна як прыклад і заахвочванне іншых дваран да непакоры і супраціву.

430 НГАБ. – Ф. 3245. – Воп. 2. – Спр.445. – Арк. 14.
431 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23161. – Арк. 8 адв.
432 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23161. – Арк. 43–43 адв., 48–48 адв.
433 ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47. – Арк. 233–233 адв.

Над Беліковічам пачалі згушчацца хмары. Губернатар прасіў прыцягнуць яго за гэту скаргу да судовай адказнасці – ў папярэджанне іншым[434].

У верасні 1838 г. яшчэ не ўсе цэрквы Літоўскай епархіі былі прыведзены «ў поўнае і належнае ўладкаванне» ў адпаведнасці з правіламі ўсходняй царквы. Кансісторыя вінавацiла мясцовае панства, што яно байкатуе гэту царкоўна-дзяржаўную справу. На паноў ўздзейнічалі праз прадвадзіцеляў дваранства, паліцыю, якіх абавязвалі «понудить» памешчыкаў раскашэльвацца[435].

Факты байкоту навязанай абраднасці рэгіструюць таксама крыніцы 1839 г.

На хросным ходзе па праваслаўнаму абраду ў Перавалачняненскай царкве ў 1839 г. народ не пайшоў за духавенствам, узняў лямант. Нават прыбылы на месца «здарэння» жандар не мог супакоіць абураных сялян[436]. 25 ліпеня 1839 г. з-за рознагалоссяў абрадавага характару ў час працэсіі ў вёсцы Марцюхава (Капыскі павет) паміж нова- і «древлеправославным» духавенствам адбылася спрэчка і бойка, якую разняла паліцыя[437].

З улікам, што «мясцовыя звычаі… ад доўгачасовай да іх звычкі не могуць быць у хуткім часе зменены», у красавіку 1839 г. імператар Мікалай І выказаў епіскапам аршанскаму і брэсцкаму сваю волю: зацвярджаючы паству ў «аднадумстве праваслаўнай веры», «да разнастайнасці мясцовых звычаяў, што не датычаць дагматаў і таінстваў, праяўляць апостальскае патуранне»[438].

## *«Пераломны» этап у гісторыі беларускага сакральнага мастацтва*

У пераабсталяваных храмах не было месца ўніяцкім абразам – творам нізавога духоўнага мастацтва. Многія з іх напаткала доля старых абразоў з Быценя, якія сцены царквы «псавалі», і таму «пінскі біскуп Ясафат загадаў спаліць і яны спалены»[439]. Іншыя ўніяцкія абразы, якія часам мелі вялікую культурную каштоўнасць, часткова перарабляліся або цалкам загрунтоўваліся фарбай і замалёўваліся на-

[434] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23236. – Арк. 5, 22 адв., 25.
[435] ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47. – Арк. 386–387, 389.
[436] РДГА. – Ф. 824. – Воп. 1. – Спр.109. – Арк.1–2.
[437] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 11268.
[438] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 11116. – Арк. 121–125.
[439] НГАБГ. – Ф. 1143. – Воп. 1. – Спр. 140. – Арк. 4.

нова. Улік знішчаных помнікаў жывапісу ніхто не вёў. Несумненна, іх лік ішоў на тысячы.

Пазнішчалі ўніяцкае начынне і абразы. У спешцы нарабілі іканастасаў – на іх выраб адводзілася ўсяго некалькі месяцаў. І гэтым парушылі цэласнасць і гармонію храмаў, збяднілі іх інтэр'ер, на дзесяцігоддзі асудзілі яго на ўбоства, прымітывізм і нядобраўпарадкаванасць.

Тое, што было наспех зроблена падчас уз'яднання, уражвала прымітыўнасцю. Іканастасы часта ўяўлялі брыдкую, непафарбаваную перагародку з дошак, якая не мела ніводнай іконы.

Там, дзе і меліся абразы, жывапіс на іх быў агідны і не адпавядаў святасці намаляваных вобразаў. Але на некаторых іканастасах усёткі размяшчалі вельмі старыя ўніяцкія абразы, шанаваныя вернікамі. Недахоп абразоў, якія замянілі б выкінутыя і знішчаныя ўніяцкія, стала самай вялікай бядой беларускіх цэркваў, пачынаючы з 1838 г. Абшарнікі адмаўляліся забяспечваць пераўладкаваныя храмы свайго краю іконамі.

Патрэбы беларускіх храмаў у творах сакральнага жывапісу і іншых культавых рэчах часткова задавольваліся з Расіі за кошт царкоўных, памешчыцкіх, сялянскіх грошай, ахвяраванняў рускіх дабрадзеяў. Месца твораў аўтэнтычнага беларускага жывапісу, падвергнутых масаваму знішчэнню ў другой палове 1830-х гадоў, паступова замяняў рэлігійны імпарт з Расіі. Ужо тады святары білі трывогу з нагоды адсутнасці ў святынях мясцовых абразоў[440].

Калі 24 сакавіка 1836 г. Літоўская кансісторыя рашуча запатрабавала ўладкавання іканастасаў ва ўсіх цэрквах епархіі, памешчыкі Вілейскага павета, чые сяляне стваралі прыходы аднайменнага дэканата, наадрэз адмовіліся фінасаваць гэту справу. Паны Вікенцій Багдановіч, Храптовіч, граф Іосіф Тышкевіч, Казімір Шышко – кціта Ільскай царквы, Мікалай Касперскі, Дамейкі і іншыя памешчыкі – ўсе, як адзін, – адмовіліся ад такой ўспамогі.

А тыя, што згадзіліся, выставілі ўмову, каб на тое было дадзена ўказанне грамадзянскага начальства, бо разглядалі гэту ініцыятыву як чарговую выдумку духоўных улад. Поза, у якую стала вілейскае панства, ставіла пад пагрозу зрыву ўсю зацеяную справу. Тады епархіяльнае начальства звярнулася да мінскага губернатара князя

[440] НГАБГ. – Ф. 1. – Воп. 19. – Спр. 1304. – Арк. 34; Ф. 2. – Воп. 21. – Спр. 326. – Арк. 2–9; Спр. 327. – Арк. 27, 52 адв., 156.

Давыдава з просьбай «понудить» памешчыкаў, якія адмовілі ў рамонце і абустройстве храмаў паводле правілаў усходняй царквы[441].

Паколькі справа з уладкаваннем храмаў на новы лад паўсюдна ішла цяжка ў Літоўскай епархіі, кансісторыя 9 верасня 1836 г. прыняла рашэнне аб «понуждении» да таго памешчыкаў[442]. Як духоўная ўлада магла паўплываць на мясцовае панства? Праз уладу свецкую. На падставе гэтага рашэння па прапанове Іосіфа Сямашкі Літоўская кансісторыя 8 снежня 1836 г. пастанавіла прасіць мінскага губернатара аб «запрашэнні паліцэйскімі мерамі» памешчыкаў Слуцкага павета да пераўладкавання цэркваў, да якіх належаць іхнія сяляне[443].

Уладкаванне іканастасаў сабатавала і само прыходскае ўніяцкае духавенства. Кансісторыя на сваім чарговым пасяджэнні 10 красавіка 1836 г. прадпісала вілейскаму благачыннаму Заблоцкаму патрабаваць ад падначаленых святароў выканання свайго ўказа ад 24 сакавіка (1836 г.) пад пагрозай пакарання[444].

Літоўскі епіскап палічыў рашэнне кансісторыі занадта лагодным. Год, прызначаны ім на ўладкаванне іканастасаў, прайшоў, і яна дарэмна абмяжоўваецца пагрозамі на адрас святароў, якія гэта так і не зрабілі. Ён прапанаваў падвергнуць іх духоўнаму суду[445] і запатрабаваў неадкладна, «хоць бы з дапамогай паліцыі», выклікаць дзеля гэтага ў Жыровіцы святароў Порплiскай, Сітскай, Норжыцкай, Жаснянскай і Рабунскай цэркваў.

З'явіўся толькі рабунскі настаяцель. Адбыўшы 17-дзённую эпітымію, іканастас ён зрабіў[446]. Астатнія былі падвергнуты фармальнаму суду, але ў кансісторыю так і не з'явіліся[447].

Прайшло каля паўгода. «У Вілейскім дэканаце горш за ўсё ў Мінскай губерні ідзе справа з уладкаваннем іканастасаў,» – гневаецца Сямашка ў сваім лісце з Пецярбурга ў Жыровіцы ад 7 верасня 1836 г. Гэта ўсё – з-за патурання тамашняга дэкана Заблоцкага. Гэта ён пакрывае непаслухмяных святароў[448].

Адказнасць за ўсталяванне іканастасаў у Вілейскім дэканаце пераклалі на віцэ-дэкана Акуліча. Ён заўзята ўзяўся за справу. Але

[441] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2482. – Арк. 3–4 адв.
[442] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 1836. – Арк. 49 адв.
[443] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 3458. – Арк. 23 адв.
[444] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2482. – Арк. 9–9 адв.
[445] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2482. – Арк. 9.
[446] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2482. – Арк. 62 адв.
[447] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2482. – Арк. 75.
[448] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2482. – Арк. 45, 104.

і яго распараджэнні «не бралі» выканання ў дэканаце[449]. На дапамогу прыйшлі паліцыя, мінскі губернатар, сам літоўскі епіскап. Апазіцыйным святарам Міхаілу Леснеўскаму з Сітскай царквы, Клімантовічу, Камінскаму і Пузырэўскаму з Порплiскай і Норжыцкай цэркваў забаранілі свяшчэннадзейнічаць і тым вымусілі з’явіцца ў Жыровіцы на расправу. Рэпрэсіі прымусілі іх раскаяцца і падпарадкавацца. «Чрез понуждение полиции» больш згаворлівым на прадмет уладкавання цэркваў стала вілейскае панства[450].

Святару Дзярэчынскай царквы Гродзенскага павета Паўлу Жалязоўскаму шматразова загадвалі, настаўлялі пераабсталяваць сваю царкву на ўсходні лад. Але ён усё адмаўляўся зрабіць іканастас, разбіць каменныя прастолы, прадаць званочкі, знішчыць лаўкі і цыборый. «Не я збудаваў – не мне і знішчаць,» – адказваў ён на ўсе дамаганні[451]. Пакараннем упартаму святару, які да таго ж «распаўсюджваў абуральныя чуткі» наконт збліжэння цэркваў, стала высылка ў Тараканскі манастыр[452].

Ігнаравалі загад аб уладкаванні іканастасаў святары Дзісненскага павета Котлінскі і Абуховіч. І іх пакаралі «за непаслушэнства і ўпартасць». Святар Заманскай уніяцкай царквы Самовіч пад рознымі зачэпкамі ўхіляўся ад збудавання іканастаса. Насуперак дамаганням паліцыі ён праводзіў богаслужэнне па-ранейшаму звычаю[453].

У 1830-я гады была штучна перарвана і спынена традыцыя ў развіцці сакральнага жывапісу, сфарміраваная ўніяцкай царквой у папярэднія два стагоддзі. З нашай зямлі быў вымыты тады такі магутны пласт сакральнага жывапісу, што на кампенсацыю страт запатрабаваліся дзесяцігоддзі, – і ў 1860-я гады ў Беларусі адчувалася патрэба ў абразах. Той, што запоўніў яго месца, меў, як правіла, іншакультурнае паходжанне. Другая трэць XIX ст. стала «пераломным» этапам у развіцці беларускага сакральнага мастацтва[454].

449 ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2482. – Арк. 143 адв.

450 ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2482. – Арк. 94–95, 143 адв., 161, 166.

451 ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2713. – Арк. 3, 8, 13.

452 ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2713. – Арк. 32.

453 НГАБ. – Ф. 3245. – Воп. 2. – Спр. 445. – Арк. 6, 8, 14.

454 Морозова С. «Переломний» етап розвитку білоруського сакрального живопису (30–60-ті роки XIX ст.) // Історія релігій в Україні: Матеріали VIII міжнародн. круглого столу, Львів, 11–13 травня 1998 р. / Інститут релігієзнавства–філія Львівского музею історіі релігіі, Львівське відділення Інституту української археографіі та джерелознавства ім. М. Грушевського НАН Украіни. – Львів: «Логос», 1998. – С. 156–157.

Культурным рабаўніцтвам Беларусі было забіранне ад народа культавага начыння, які яго тварыў, яго вываз ці знішчэнне, таму што яно адрознівалася ад рэчаў такога кшталту, створаных у Расіі. Па загаду І. Сямашкі ў Жыровіцы былі дастаўлены манстрацыі, таксама прызнаныя «непатрэбнымі». Медныя манстрацыі перадавалі ў Пецярбург, срэбныя – пераплаўлялі ў злiткі, якія таксама паступалі ў сталіцу імперыі ў абмен на царкоўныя кнігі і начынне, «аднастайнае» з тымі, што мелі храмы Расіі.

У сваіх запісках базыльянскі прапаведнік Ляшчынскага манастыра Ігнат Салтаноўскі абураўся, што Сямашка абрабаваў базыльянскія манастыры. У 1836 г. ён загадаў пазабіраць спачатку іх фундушы, а потым – пазабіраў у Жыровіцы каштоўныя залатыя і срэбныя рэчы: келіхі, манстрацыі, крыжы. «Там іх на кавадлы молатам пабілі на дробныя кавалачкі, сплавілі ў масу»[455].

Раптоўная змена дэкору храма і цырымоній, а таксама аддаленне святароў увергла масы, чыя вера ў XIX ст. трымалася на аўтарытэце духавенства і народным традыцыяналізме, у шокавы стан: чаму забараняецца тое, што заўсёды шанавалася, лічылася святым. Рушылася ўсталяваная традыцыя. Вера была адным з важнейшых элементаў, звязаных з пачуццём уласнай традыцыі і культуры, была неразрыўна звязана з людской псіхалогіяй

Рэакцыя ўніятаў на змены ў многім вызначалася пазіцыяй святара. Людзі слухаліся яго, калі ён свядома і добраахвотна прымаў праваслаўе і пераконваў сваю паству ў неабходнасці змен у храме, у форме і змесце набажэнства, пры ўмове, што не былі з ім у канфліктных адносінах. Але прыхаджане апазіцыйна настроенага святара бурна рэагавалі на ўсялякія спробы злому іх традыцый.

У 1834 г. рэзка скарацілася наведванне сялянамі Голдаўскай царквы (Навагрудскі павет) пасля ўсталявання ў ёй іканастаса – многія пайшлі ў суседні Баброўскі храм, дзе захаваўся ранейшы інтэр’ер[456]. У 1836 г. сяляне маёнтка Рэчыцы (Пінскі павет), «не настаўленыя» сваім святаром наконт чаканых змен у храме, прысунулі да сцяны пастаўлены пасярэдзіне алтара сталец і падрыхтаваныя для іканастаса рамы.

Як заўсёды ў такіх выпадках рабілася, на месца «надзвычайнага здарэння» прыбывалі чыноўнікі і ад імя губернатара даводзілі сялян да розуму. 238 з 600 вяскоўцаў пасля адпаведнай апрацоўкі

455 ЯгБ. – Спр. 5915. – Арк. 3.
456 НГАБГ. – Ф. 1. – Воп. 27. – Спр. 693. – Арк. 1.

губернатарскімі пасланцамі «выказалі жаданне» далучыцца да праваслаўя і ўжо не супраціўляліся пераўладкаванню іх царквы. Астатнія засталіся вернымі ўніі і яе каштоўнасцям. Свой пратэст новаўвядзенню яны выказалі дзеяннем – разбурылі іканастас[457].

Сяляне вёскі Сожыцы (Сененскі павет), калі ўбачылі ў чэрвені 1838 г. змены ў інтэр'еры, усчалі шум у царкве, «што не хочуць нічога новага, а павінна быць усё па-старому»[458].

Абарона ўніятамі сваіх сакральных каштоўнасцяў (арганаў, кніг, скульптур, абрадаў і г.д.) абвяргае ўсталяваны ў навуцы і прышчэплены ў грамадскую думку стэрэатып, што ўсе новаўвядзенні ўніі, у тым ліку заходнехрысціянскага паходжання, з'яўляюцца прымусова навязанымі варожымі беларускаму народу вонкавымі і ўнутранымі сіламі, для яго чужародныя і непрымальныя. Тым больш недарэчнымі з'яўляюцца сцвярджэнні ліквідатараў уніі, што новыя элементы і вонкавыя атрыбуты культа сапсавалі, «нарушили благолепие» абраду і храма. У другой трэці XIX ст. новаправаслаўнае духавенства, нават з ліку начальніцкіх асоб, «яўна выказвала шкадаванне аб харастве страчанай уніі»[459].

Ахвярай палітыкі «разлатынівання» стала скульптура – праваслаўе не прызнае аб'ёмных выяў біблейскіх персанажаў. «Свяшчэнныя ляпныя аздобы і статуі святых, неадпаведныя правілам грэка-расійскай ... рэлігіі», разбівалі, распілоўвалі, спальвалі. Старыя медныя крыжы пераплаўлялі на новыя, як гэта, у прыватнасці, зрабілі пры «выпраўленні» ў другой палове 1830-х г. полацкай царквы св. Мікалая. З яе таксама знялі старыя крыжы і часткова выкарысталі пры пераробцы на новыя[460]. Гэткія навацыі, аднак, нялёгка гэта было ўкараніць у людскую свядомасць.

Рэшткі ўніяцкай атрыбутыкі (скульптуры, абразы, бакавыя стальцы, падсвечнікі і т.п.), якія зберагаліся ў новаправаслаўных храмах нават у другой палове XIX ст., выклікалі незадавальненне свецкіх і духоўных улад. Але і ў апошняй трэці XIX ст. шмат у якіх храмах яшчэ трапляліся старыя абразы і драўляныя статуі, уратаваныя ад знішчэння ў 1830-я гады, а ўсё начынне прыпісных і могільнікавых цэркваў «аддавала ўніяй».

[457] РДГА. – Ф. 824. – Воп. 1. – Спр. 36. – Арк. 1, 2 адв., 5.

[458] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 10700. – Арк. 45 адв.–46.

[459] Миловидов А. Заслуги графа М. Н. Муравьева для православной церкви в Северо-Западном крае. – Харьков: Тип. Губ. правл., 1900. – С. 42.

[460] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 9106. – Арк. 104–104 адв.

Незайздросным быў і лёс саміх храмаў. Як пісаў у 1837 г. штаб-афіцэр Куцынскі з Магілёва, пераасвячэнне царквы ў праваслаўную для ўніяцкага насельніцтва было раўназначна яе страце – яе адразу ж пераставалі наведваць. Непрыемная для іх перамена ў пастыры рабіла яго зусім чужым – яны бачылі ў ім хатняга ворага[461]. У далейшым яны праяўлялі абыякавасць да лёсу царквы, а шляхціцы сабатавалі яе рамонт і ўладкаванне, нягледзячы на строгія ўказы, якія пагражалі за гэта высылкай у вялікарасійскія губерні.

Шляхціч Лагоньскі з Мсціслаўскага павета адмовіўся хадзіць у Дабрасельскую царкву, таму што ў ёй «уладкавана як у рускіх цэрквах», а новы святар для яго «гнюсны і агідны»[462].

Праз 10 дзён пасля пераварота ў праваслаўе, ноччу, згарэла Карчэмская царква (Магілёўскі павет). Падазрэнне пала на былога святара Ф. Лукашэвіча, які адмовіўся прыняць новую веру. Частка яго прыхаджан далучылася, а другія іх дакаралі, што «за кілішак гарэлкі прадалі Бога»[463].

Тое «ўз’яднаўчае» ліхалецце, паўторанае ў 60-я – 70-я г. у беларускім Падляшшы, знайшло адлюстраванне ў народнай паэзіі:

Клапатлівая айчына залiваецца слязамі.
Успомніце, уніты, што рабілі з вамі
У той час, калі рускі ўрад у нашу веру ўкрочыў
І цэрквы нашы войскамі аточыў.

Найперш арганы з цэркваў забралі
І потым крыжы ўніз паскідалі.
А калі ўжо крыжы з цэркваў скінулі,
То свае купалы зараз жа паставілі.

А калі ўжо купалы свае паставілі,
То зараз алтары святыя выкінулі.
А калі ўжо алтары святыя выкінулі,
То свае іканастасы рускія паставілі.

А калі паставілі свае іканастасы,
То не хацелі хадзіць да іх уніяты[464].

---

461 ДАРФ. – Ф. 109. I экспедыцыя. 1859 г. – Спр. 264. – Арк. 2.
462 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 1254. – Арк. 1, 6 адв.
463 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7451. – Арк. 16 адв., 19.
464 ЯгБ. – Спр. 6958/IV. – Арк. 221–222.

Насцярожана ставіліся да пераахрышчаных уніяцкіх храмаў і «древлеправославные». У другой палове XIX ст. новаправаслаўныя храмы ўражвалі беднасцю, убоствам, трухлявасцю, нібы дажывалі свой век. Яны, як пісаў у 1842 г. у Сінод беларускі генерал-губернатар, «замест храмаў божых … больш падобныя на запусцелыя хаціны, напоўразваленыя, ледзь прыкрытыя саломай і, звыш таго, абстаўленыя халупамі сялян, так што погляд на такія цэрквы нявольным чынам прыводзіць у збянтэжанасць душу праваслаўных, пануючую веру спавядаючых, жыхароў»[465].

Уніяцкі культава-абрадавы комплекс, які здолеў сумясціць элементы заходняга і ўсходняга хрысціянства, аказаўся прынцыпова несумяшчальным з каштоўнасцямі расійскага праваслаўя, якое не прызнавала множнасці і раўнацэннасці культур, і стаў ахвярай практычнай рэалізацыі на Беларусі тэзіса аб прыярытэце Расіі ў развіцці сапраўдна-хрысціянскай культуры Пагалоўнае рэнегацтва і зліццё з пануючай нацыяй мясцовых уніяцкіх саноўнікаў спарадзіла зняважлівыя адносіны да роднай старасветчыны, якая або вывозілася на ўсход, або нішчылася на месцы. На іх, а таксама на царызм і Сінод, які стаяў у яго на службе, падае вялікі цяжар гістарычнай адказнасці на ўчынены вандалізм, якім абярнулася наўмысная «чыстка» культуры.

Канфлікт культур і падаўленне ўніяцкай традыцыі выклікала шокавы стан у беларускім грамадстве. Навязванне іншакультурных сакральных знакаў сустрэла супраціў у розных слаях насельніцтва. Сялянства больш актыўна адстойвала вонкавыя формы культу (абрады, начынне), а духавенства – яе ўнутраны змест, зафіксаваны ў кнігах.

Вонкавыя змены ў храме – з’яўленне іканастасаў, выдаленне арганаў, нязвыклыя рытуалы – балюча ўздзейнічалі на народ. На іх фоне больш істотныя змены, якія, аднак, не кідаліся яму ў вочы, – падпарадкаванне царквы Сіноду і выхад з-пад папскай юрысдыкцыі, рашэнне Полацкага сабора – такога ўздзеяння не мелі.

Каштоўнасці, якія ўдалося зберагчы, працягвалі выкарыстоўвацца і шанавацца тайнымі прыхільнікамі ўніяцтва ў сярэдзіне – другой палове XIX ст. Змагацца з уніяцкімі рэліквіямі давялося доўга.

---

465 ДАРФ. – Ф.109. I экспедыцыя. 1842 г. – Спр. 29. – Арк. 5 адв.

## *Уніяцкая кніга – крыніца іншадумства*

Свой уласны кніжны набытак уніяцкая царква стварыла, калекцыянуючы на працягу двух стагоддзяў выданні друкарняў ВКЛ і кніжныя веды іншых краін і народаў. Буйнейшыя базыльянскія кнігасховішчы былі створаны ў Вільні, Супраслі, Жыровіцах. Аднак большая ці меншая бібліятэка – ад некалькіх дзесяткаў да некалькіх сотняў тамоў – мелася пры кожным манастыры. Свае кніжныя фонды стваралі ўніяцкія навучальныя ўстановы. Цэрквы звычайна бібліятэк не мелі, але ў кожнай з іх быў патрэбны набор богаслужэбных і чытальных кніг.

Кніжны скарб, што месціўся на паліцах базыльянскіх бібліятэк, быў шматмоўны. Ад паловы да 2/3 кніг кнігазбораў гродзенскага Барысаглебскага манастыра – на латыні, мове еўрапейскай навукі, культуры, асветы. Праз яе адукаванае беларускае грамадства далучалася да культурных, рэлігійных і ідэалагічных каштоўнасцяў Захаду. На другім месцы па колькасці друкаў стаялі польскамоўныя выданні, як мясцовага паходжання, так і ўласна з Польшчы[466]. «Руская» кніга (беларуская ці царкоўнаславянская ў беларускай рэдакцыі) – вялікая рэдкасць у манастырскіх кнігазборах XVIII – XIX ст., разлічаных на дэнацыяналізаваную эліту; затое яна – звычайная з’ява ва ўніяцкім храме, які працаваў з народам.

З канца XVIII ст., ва умовах Прусіі і Расіі, друкарская справа базыльян папала ў неспрыяльныя ўмовы. Другая трэць XIX ст. вядома жорсткімі ганеннямі на ўніяцкую кнігу ў Расійскай імперыі. Афіцыйная Расія лічыла яе крыніцай іншавер’я і разнадумства і таму ставілася вельмі падазрона.

У 1794 г. у сувязі з узятым курсам на скасаванне ўніі Кацярына II запатрабавала уніфікацыі пачаеўскіх выданняў паводле маскоўска-кіеўскіх нормаў. Пры гэтым дазволіла захаваць імя папы рымскага, месяцаслоў з імёнамі шанаваных царквой святых і сімвал веры «по

---

[466] Палуцкая С. В. Старажытнейшыя бібліятэкі Гродзеншчыны // Наш Радавод: Матэрыялы міжнародн. навук. канф. «Царква і культура народаў Вялкага княства Літоўскага і Беларусі XIII – пач. XX ст.», Гродна, 28 вер.–1 кастр. 1992 г. – Кн.4 (ч.1) / Бел. дзярж. музей гіст. рэлігіі / Адк. рэд і ўклад. Д. Караў. – Гродна, 1992. – С. 155–163; Полуцкая С. В. Монастырская библиотекаXVI–XVIII вв. как отражение культурно-исторических контактов (на примере библиотеки Борисо-глебского монастыря в г. Гродно) // X Всеукраїнська славістична конференція «Духовне відродження слов’ян у контексті европейськоі та світовоі культури»: Тези доповідей / Чернівецький державний університет ім. Ю.Федьковича, Український комітет славістів. – Т. 1. – Чернівці: ЧДУ, 1992. – С. 41–42.

униатскому их умствованию»[467]. Ва ўніяцкім трэбніку віленскага выдання 1807 г. епіскап Смарагд убачыў падставу «заблуждения» ўніятаў[468].

На выданне 1824 г. з царкоўнаславянскімі песнямі, «праціўнымі грэка-расійскаму спавяданню», з падманнымі выхаднымі данымі (Вільня) было ўчынена сапраўднае паляванне. Тады былі ператрэсены манастырскія і царкоўныя кнігасховішчы, бібліятэкі навучальных установ Беларусі і Віленшчыны[469].

Паколькі прададзеныя на кірмашах у вялікай колькасці малітоўнікі і іншага роду ўніяцкія кнігі на царкоўнаславянскай мове сталі разносіцца «па ўсёй Расіі да спакусы праваслаўных», пачаліся непаразуменні – іх выкарыстанне ў праваслаўным набажэнстве. Каб зменшыць абарачэнне на публіцы гэтых кніг, Сенат указам ад 27 чэрвеня 1826 г. забараніў іх продаж на кірмашах і наогул у тых месцах, дзе няма ўніяцкіх цэркваў[470].

У 1833 г. быў прыгавораны да канфіскацыі надрукаваны ў 1826 г. у Мінску польскамоўны малітоўнік «Набожныя песні на ўрачыстыя святы, на цэлы год сабраныя, з дадаткам новых песень», якія маглі служыць «да ўзбуджэння і ўзмацнення мяцежа». Сярод новых былі песні, папулярныя ва ўніяцкім асяроддзі[471].

У 1833 г. расшуквалі і канфіскоўвалі кнігу «Падабенства і адрозненне паміж Усходняй і Заходняй цэрквамі, або думкі аб злучэнні з рымска-каталіцкай царквой адступіўшай ад яе грэчаскай царквы». Напісаная нямецкім аўтарам Іосіфам Германам Шмітам, яна была без дазволу цэнзуры надрукавана ў Царстве Польскім ў перакладзе на польскую мову і рэдакцыі варшаўскага каноніка Ф. Сярчынскага. Сваімі дапаўненнямі ён актуалізаваў кнігу настолькі, што яе распаўсюджванне ў Расійскай імперыі стала небяспечным, бо яна магла «ўтрымліваць чытачоў … у неспакойных для сумлення сумненнях і хістаць іх у веры, а разам з тым супрацьдзейнічаць дабрадзейным намерам урада»[472].

---

[467] РДАСА. – Ф. 18. – Спр. 321. – Арк. 3–4.

[468] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 4. – Спр. 14074. – Арк. 2–2 адв.

[469] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. – Т. 2: 1701–1839. – СПб., 1907. – С. 783–784.

[470] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 22600. – Арк. 1–2, 4, 7–7 адв.

[471] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 6888. – Арк. 1, 7, 21, 24 адв., 31 адв., 45 адв.–46.

[472] ДГАЛ. – Ф. 378. Палітычны аддзел. 1833 год. – Спр. 62. – Арк. 1–1 адв., 2, 7 адв.

Другім бокам царскай палітыкі абмежаванняў для ўніяцкай кнігі было інтэнсіўнае, у цэнтралізаваным парадку, насычэнне беларускіх зямель прадукцыяй расійскіх друкарань. З канца XVIII ст. яна пачынае выцясняць уніяцкую кнігу. Па загаду Сінода для перавернутых у 1795 г. у праваслаўе паўсотні цэркваў Магілёўскай епархіі па ўбаўленых на першы раз цэнах адправілі па 50 асобнікаў розных набажэнскіх кніг: Евангелляў, Апосталаў, актоіхаў, служэбнікаў, трэбнікаў, мінэй[473].

Пастановай ад 7 лютага 1834 г. уніяцкае духавенства абавязалі карыстацца толькі служэбнікамі і кнігамі малітоўных спеваў, надрукаванымі ў маскоўскай сінадальнай друкарні адпаведна ў 1828 і 1831 гадах, каб замяніць «памылковыя, рознага друку царкоўныя кнігі, у якіх даўно перакручана славянская мова». 2800 асобнікаў меркавалася накіраваць у Беларусь па памяркоўай цане[474].

У Літоўскую кансісторыю пайшлі з месцаў рапарты дэканаў аб выкананні імператарскай волі. Разам з тым, святар Малецкай царквы (Пружанскі дэканат) і яго вікарый, хоць падпіску і далі, але ад служэння літургіі па маскоўскаму служэбніку ўхіліліся[475]. Ніяк не хацелі развітвацца, хоць на двары ўжо стаяла лета 1837 г., са старымі служэбнікамі многія святары Вілейскага дэканата[476]. Аляксандр Забела са Свіслачы (Ваўкавыскі дэканат) толькі пасля 12-дзённай эпітыміі ў Жыровіцах, згадзіўся, што «па служэбніку маскоўскага друку служыць будзе»[477].

Уніяцкая кніга карысталася павагай у духавенства і вернікаў. Таму ўвядзенне новых служэбнікаў, змест якіх разыходзіўся з традыцыйным, збянтэжыла духавенства і народ, устрывожыла наконт мэтаў рэформы. Канфіскацыя ўніяцкіях кніг і замена іх маскоўскімі выданнямі выклікала, на думку А. Мартаса, найбольшы супраціў духавенства[478].

З месцаў пачалі паступаць калектыўныя пратэсты. 2 красавіка 1834 г. 57 святароў з Навагрудка падалі пратэст супраць прымусу ўжываць маскоўскі Літургікон і патрабавалі працягнуць карыстацца

---

473 Горючко П. С. Из истории воссоединения униатов в Белоруссии 1795 –1805 годов. – Киев: Тип. И. И. Горбунова, 1902. – С. 19–20.

474 НБР. – Ф. 52. – Спр. 25. – Арк. 9–9 адв.

475 ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2147. – Арк. 70 адв.

476 ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2147. – Арк. 244.

477 ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2147. – Арк. 117.

478 Мартос А. Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. – Репринт. Буэнос-Айрес, 1966. – Мн.: Белорусский Экзархат Русской Православной Церкви, 1990. – С. 222.

віленскім выданнем[479]. У канцы 1835 г. себежскае (17 чалавек), лепельскае (18 чалавек), чашніцкае, бешанковіцкае і дрысенскае духавенства адмовілася прыняць прысланыя кнігі і заявіла пісьмовыя пратэсты, а «большая частка святароў пакідае іх без увагі», некаторыя і «зусім не ўмеюць чытаць па кнігах маскоўскага славянскага друку».

Святары Докшыцка-Барысаўскага дэканата на сходзе ў Докшыцах у кастрычніку 1835 г. заявілі аб сваёй адмове прынять служэбнікі маскоўскага друку. Яны склалі прашэнне на імя аршанскага епіскапа Васілія Лужынскага аб вызваленні іх ад карыстання гэтымі кнігамі. Яго падпісалі 22 чалавекі. У маі 1836 г. яны падалі сваю заяву епіскапу.

Пачаліся пошукі зачыншчыкаў, сачыніцеля, падпісантаў. Ігнацій Счасновіч паказаў, што асмеліўся прасіць аб вызваленні ад гэтых кніг, бо яны набліжаюць да хутчэйшага прыняцця праваслаўя. На пытанне, хто прыводзіў яго да падпісання гэтай заявы, святар Іван Вернікоўскі адказаў: «Уласная рэлігія» [480].

Шмат якія прыходскія святары, як пісаў у красавіку 1836 г. аршанскі епіскап Васілій, тады «дзёрзка звярталіся з недарэчным заявамі ў Беларускую кансісторыю супраць гэтых служэбнікаў»[481].

Салідарнасць са святарамі праяўляла чынавенства мясцовага паходжання. Прадвадзіцель дваранства Магілёўскай губерні пан Галынскі запатрабаваў даставіць яму маскоўскі служэбнік, а калі прынеслі, «плюнуў на яго». Пра гэта было паведамлена генерал-губернатару князю Хаванскаму[482].

Міністэрства ўнутраных спраў запатрабавала ўрэшце «пакласці канец беспарадкам». «Няма магчымасці выкараніць гэта злоўжыванне без рашучай канфіскацыі з уніяцкіх цэркваў старых кніг», – трапіла думка магілёўскаму губернатару. Кансісторыі было прапанавана канфіскаваць усе ўніяцкія служэбнікі і іншыя кнігі, «каб зусім нідзе старых не было». Іх загадалі звазіць у Полацк[483].

Але ў час чарговай рэвізіі полацкі архіепіскап В. Лужынскі не знайшоў ні ў адной з 16-ці наведаных цэркваў пасланых туды маскоўскіх

[479] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7815. – Арк. 117; Lencyk W. The Eastern Catholic Church and Czar Nicholas I. – Romae–New York: Ukrainian Catholic Uniwersity Press, 1966. – P. 62, 65–66.

[480] НГАБ. – Ф. 1416. – Воп. 2. – Спр. 7900. – Арк. 15 адв., 28 адв.–33; Ф. 3245. – Воп. 2. – Спр. 468. – Арк. 15 адв., 28 адв., 33–34.

[481] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 23015. – Арк. 21 адв.

[482] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. - Спр. 2322. – Арк. 11.

[483] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7815. – Арк. 137–137 адв., 147–149, 163 адв., 167–168 адв., 199 адв., 202 адв.–203, 212 адв., 222.

служэбнікаў і пераканаўся, што ўсе святары так і не развіталіся са старадрукамі, а новыя – байкатуюць. Асаблівае непавінавенне змене абрадаў мела месца у Сенненскім павеце. Сенненскі дэкан Квяткоўскі пры народзе кідаў маскоўскі служэбнік на зямлю з дзёрзкімі словамі на адрас епархіяльнага начальства. Святар Ліскоўскай царквы Арашкевіч на пытанне, чаму ён карыстаецца забароненай кнігай, а не новай, адказаў: «Сумленне маё мне не дазволіла гэта».

Каб прымусіць духавенства падпарадкавацца, В. Лужынскі асабіста рэвізоўваў цэрквы і, знаходзячы непарадкі ў дакументах, фінансавых справаздачах, кнігазборах, пагражаў папу адлучэннем ад прыхода, а то і судом кансісторыі. Ён унушаў, што выкарыстаннем старых кніг робіцца злачынства. У такой сітуацыі, як успамінае сам епіскап, ім нельга было доўга стаяць за ўнію[484].

## *«Кніжны» інцыдэнт у Сожыцах*

Моцныя хваляванні сялян у вёсцы Сожыцы Сенненскага павета Магілёўскай губерні ў чэрвені 1838 г. адбыліся з-за кнігі, дакладней з-за яе знявагі. Кампанія насаджэння новых служэбнікаў маскоўскага друку была яшчэ далёкай ад завяршэння.

Сожыцкія святары – бацька і сын Квяткоўкія – аказаліся ў 1838 г. у няпростай сітуацыі лавіравання паміж вернасцю ўніі і выкананнем волі ўлад. Маскоўскага служэбніка яны не прынялі. Сваім прыхаджанам растлумачылі далёка ідучыя наступствы замены багаслужэбных кніг і заклікалі цвёрда стаяць пры сваёй веры. З-за гэтага, як небеспадстаўна ацэньваліся настроі ў вёсцы ў сакрэтнай афіцыйнай перапісцы паміж Магілёвам, Вільняй і Пецярбургам, «можа нарадзіцца ў бяздумным натоўпе прасталюдзінаў нараканне, а пры найменшым намёку на змену іх веры – і хваляванне»[485]. Так яно і здарылася.

Сожыцкі святар Квяткоўскі правіў у царкве літургію па старому ўніяцкаму служэбніку. Пасля завяршэння службы ўніяцкі благачынны протаіерэй Васютовіч, выконваючы волю начальства аб замене ўніяцкіх служэбнікаў выданнямі маскоўскай сінадальнай друкарні, у прысутнасці прыхаджан выразаў з кнігі 48 лістоў, «змест

[484] Записки Василия Лужинского, архиепископа полоцкого. – Казань: Издание Казанской духовной академии, 1885. – С. 109, 111, 118, 120, 122–123, 125–126, 147.
[485] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23410. – Арк. 7–7 адв.

якіх не адпавядаў духу ўсходняй царквы». «Гэта выклікала гоман і засмучэнне ў народзе».

Назаўтра, сабраўшыся ў храме, сяляне разглядзелі знявечаны служэбнік і заключылі: «Нас дабру не навучаць». Квяткоўскі-малодшы пачаў літургію па новай кнізе. Людзі закрычалі: «Не хочам, і ты нас у зман уводзіш!» Яны завязалі званы, каб тыя не клікалі сялян на набажэнства, зачынілі царкву і забралі ад яе ключы. Пяць дзён, з 19 па 24 чэрвеня, духавенства дарэмна пераконвала сялян адкрыць храм і выслухаць абедню. Яны «з грубасцю і нейкай упэўненасцю ў праваце сваёй справы адмовілі»[486].

5 ліпеня ў Сожыцы прыбыў земскі спраўнік Кругоўскі. Ахоўваць царкву збеглася больш за 300 чалавек. Угаворваў іх спраўнік, пужаў непазбежным пакараннем. Сяляне перадалі яму ключы ад царквы, два старыя служэбнікі, а таксама петыцыю за 167-мю подпісамі: «Каб літургію служылі па-ранейшаму, каб вярнулі ім вырваныя лісты»[487]. Складальнікі петыцыі, 6 сожыцкіх сялян, «угаворвалі сваіх сабратаў цвёрда трымацца ўніі»[488]. Яны патрабавалі суда над Васютовічам, а сабе патрабавалі святара, якому яны давяраюць.

У царкву выклікалі Квяткоўскага-бацьку. Асцерагаючыся служыць па ўніяцкаму служэбніку, ён пачаў чытаць акафіст. Зразумеўшы, што і ён цураецца старой кнігі, сяляне закрычалі: «Не хочам, і ты нас у ману ўводзіш!» Царкву зноў зачынілі. На гэты раз не дапамаглі і ўшчуванні земскага спраўніка. 40 дзён працягвалася супрацьстаянне.

Сожыцкія сяляне склалі адозву да мясцовага духавенства з заклікам не здраджваць уніяцкай веры і папе рымскаму, якую чыталі па цэрквах, вымусілі свайго святара В. Квяткоўскага прынесці прысягу на вернасць ўніі[489].

Мясцовыя ўлады запрасілі санкцыі Пецярбурга на расправу з сожыцкімі «бунтаўшчыкамі». Пакуль не супакоіць «у гэтым павеце (Сенненскім – С. М.) тых, хто не церпіць грэка-ўсходніх абрадаў, мэта ўрада па ўладкаванню ўніяцкіх цэркваў … будзе сустракаць найвялікшую перашкоду»[490], бо гэты павет «ва ўсёй Магілёўскай

[486] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23410. – Арк. 2–2 адв.
[487] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23410. – Арк. 2 адв.–3.
[488] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23410. – Арк. 18.
[489] НГАБ. - Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 10700. – Арк. 2 адв.–4, 12 адв., 49–50, 55.
[490] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23410. – Арк. 9.

губерні вылучаецца духам непрыязні да праваслаўя і да рускіх»[491]. У той жа час было відавочным, што калі пры ўвядзенні новых абрадаў духавенства не будзе дзейнічаць больш разважна, «гэты прыклад знойдзе сабе шматлікіх пераймальнікаў»[492].

З'яўленне ў вёсцы паліцыі зрабіла сялян больш згаворлівымі. Вынік быў звычайны: сожыцкіх складальнікаў петыцыі аддалі пад суд[493].

Гэты інцыдэнт у невялікай беларускай вёсцы выклікаў пярэпалах у Віцебску, Вільні, Пецярбургу – там баяліся, што «дадзены прыклад знойдзе шматлікіх пераймальнікаў». Мясцовыя ўлады намагаліся пагасіць канфлікт, інакш, як паведамляў падпалкоўнік корпуса жандараў Куцынскі, «памешчыкі могуць пазбавіцца многіх сялян праз высылку»[494].

У 1837 г. святар Каралевіцкай царквы Давыдовіч аслухаўся распараджэння аб аднаўленні грэчаскіх абрадаў ва ўніяцкай царкве. Яго разжалавалі ў дзячкі і прыгаварылі да высылкі «на чорную работу» на 6 месяцаў. Але ён яшчэ нейкі час жыў пад апекай мясцовай памешчыцы[495]. «Буянствавалі» прыхаджане Дарагакупаўскай царквы – пераабсталявалі афармленне богаслужэння па-ранейшаму[496]. А вось цяпер Сожыцы… Васіль Лужынскі сцвярджаў, што Сенненскі павет «належыць да гэтага часу да ліку самых малапаспяховых у справе аднаўлення старажытных … абрадаў»[497].

У 1838 г. 111 святароў Беларускай епархіі звярнуліся з прашэннем да цара пра захаванне ўніі і ўладкаванне друкарняў для выдання ўніяцкіх набажэнскіх кніг. Яны прапаноўвалі самі выдаткаваць грошы на гэтыя патрэбы[498].

Паколькі шараговае духавенства Літоўскай епархіі таксама масава не жадала развітвацца са сваімі кнігамі, у 1834 г. ва ўсе парафіі паступіў загад: адабраць з цэркваў усе старыя кнігі пачаеўскага, віленскага і супрасльскага друку і выслаць у кансісторыю ў Жыровічы. Толькі старым святарам, няздольным асвоіць новыя

[491] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23410. – Арк. 3–3 адв.
[492] ДАРФ. – Ф. 109. – IV экспедыцыя. 1838 год. – Спр. 165. – Арк. 7.
[493] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23410. – Арк. 18.
[494] ДАРФ. – Ф. 109. – IV экспедыцыя. 1838 год. – Спр. 165. – Арк. 1–7.
[495] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23410. – Арк. 8.
[496] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23410. – Арк. 8.
[497] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23410. – Арк. 12 адв.
[498] Шавельский Г. Последнее возсоединение с православною церковию униатов Белорусской епархии (1833–1839 гг.). – СПб., 1910. – С. 285.

псалтыры ды малітоўнікі, і тым, хто, прыкрываючыся гэтым, не хацеў «граць пад маскоўскую музыку», часова былі пакінуты старыя кнігі[499].

На ўсіх неслухаў абрынуліся рэпрэсіі: эпітымія, паніжэнне ў пасадзе. Звычайнай справай стала высылка святароў і манахаў, «якія па складу думак сваіх не павінны заставацца ў заходніх губернях», за межы Беларусі[500]. Паліцыі было даручана сачыць, каб папы прытрымліваліся новых кніжак і ад іх не адступалі.

Пра той час і падзеі пазней узнік верш[501]. Яго прыпісваюць пяру В. Каратынскага[502]:

Даўней людзі добра жылі,
І другіх добра вучылі,
Маскаль сам дабра не знае,
То і ліха научае.

Стаў касцёлы адбіраць,
Зачаў ксяндзоў разганяць,
Другім вялеў быць папамі,
Хадзіць у рызах з барадамі.

Біць паклоны і вучыцца,
Як па-маскоўску маліцца,
Хоць пацеры, што ён мае,
То іх ніхто не жадае.

Нехай жа хто слова скажа,
Маскаль яго зараз звяжэ,
І здароўя адбірае,
І на Сібір пасылае.

---

499 Смаленец А. Да стацьці В-ста «Аб паленьні кніг на Беларусі» // Крывіч. – 1924. – № 2. – С. 32–33.

500 Марозава С. Дэпартацыя як сродак вырашэння рэлігійных праблем (XVII–XIX ст.) // Дэпартацыя як сацыяльная праблема: Тэматычны зборнік навуковых прац / Навуковы рэдактар С. А. Яцкевіч. – Брэст: Міжнародная акадэмія вывучэння нацыянальных меншасцей, 1997. – С. 11–12.

501 ГАСА. – Архіў Прозараў і Ельскіх. – Спр. 140. – Арк. 186.

502 Каратынскі В. Творы. – Мн.: Мастацкая літаратура, 1981. – С. 153–154.

18 чэрвеня 1839 г. Літоўская кансісторыя выдала пастанову аб зняцці служэбнікаў мінулага друку з ужытку. Іх звазілі ў Жыровічы. Ужо ў жніўні ўзнікла праблема: што з імі рабіць? Вырашылі: спаліць, пакінуўшы па аднаму-два асобнікі кожнага выдання для бібліятэкі епархіяльнай семінарыі[503]. Спальванне ў манастырскіх печках было марудным спосабам іх знішчэння, да таго ж частка кніг раскрадалася. Таму ў 1844 г. Сямашка загадаў вынесці кнігі на манастырскі плац і спаліць іх на вогнішчы адразу[504]. За 3 гады было спалена 2000 кніг[505].

Выратаваныя ад знішчэння кнігі надалей выкарыстоўваліся ў богаслужэнні прыхільным да ўніі духавенствам, як было, напрыклад, у Лідскім і Ашмянскім паветах у 1852 г. Таму 30 мая 1852 г. Сенат распарадзіўся канчаткова зняць з ужытку ўніяцкую літаратуру. У 1853 – 1855 г. паўтары тысячы асобнікаў, тады яшчэ сабраных па цэрквах і манастырах, былі спалены[506]. Тым не менш … У час рэвізіі цэркваў Кобрынскага павета ў 1856 г. выявілі 16 служэбнікаў, прычым адзін святар катэгарычна адмовіўся выдаць кнігу. У 1865 г. мітрапаліт Іосіф звяртаў увагу Сінода на выкарыстанне даўно забароненых кніг[507]. Паводле дадзеных В. Ластоўскага, знішчэнне іх працягвалася ў 1860-я г.[508].

### *«Варган маўчыць»: антыарганная кампанія – памылка «ўз'яднання»*

Старажытныя праваслаўныя пеўчыя традыцыі ўніяцкая царква ўзбагаціла ўвядзеннем у свой рытуал інструментальнай музыкі. У канцы XVII – XVIII ст. у шэрагу храмаў былі заведзены музычныя інструменты, з якіх найбольш шырокае распаўсюджанне атрымаў

[503] Записки Иосифа, митрополита Литовского. – Т. 3. – СПб.: Тип. Императ. Акад. наук, 1883. – С. 526, 598.

[504] Калубовіч А. Мова ў гісторыі беларускага пісьменства // Крокі гісторыі: Дасьледаваньні, артыкулы, успаміны. – Беласток: ГаМакс; Вільня: Наша Ніва; Менск: Мастацкая літаратура, 1993. – С. 192.

[505] Смаленец А. Да стацьці В-ста «Аб паленьні кніг на Беларусі» // Крывіч. – 1924. – № 2. – С. 32.

[506] Записки Иосифа, митрополита Литовского. – Т. 2. – СПб.: Тип. Императ. Акад. наук, 1883. – С. 617.

[507] Извеков П. Д. Исторический очерк состояния православной церкви в Литовской епархии за время с 1839–1889 г. – М.: Печатня А. И. Снегиревой, 1899. – С. 418, 421.

[508] В-ст (Ластоўскі В.). Паленьне кніг на Беларусі // Крывіч. – 1924. – № 1. – С. 61.

арган. Гэта быў час росквіту арганнай культуры ў Еўропе, і ў яго кантэксце развівалася музычная культура Беларусі.

Цэнтрам арганнага будаўніцтва ў ВКЛ была Вільня. Прафесійных музыкантаў рыхтавалі ў некаторых базыльянскіх школах. Спецыяльная музычная бурса існавала ў Жыровіцах[509], семінарыя арганістаў – пры Віленскім універсітэце.

Першым арган з’явіўся ў Жыровіцах. Гэта быў адзін з самых буйных і лепшых арганаў Беларусі. Масавае ўвядзенне арганаў у храмы адбываецца пасля Замойскага сабора 1720 г., які санкцыянаваў выкарыстанне музыкі ва ўніяцкім набажэнстве.

У гарадскіх храмах будаваліся пераважна вялікія арганы, у мястэчках і вёсках – звычайна невялікія арганы або пераносныя арганчыкі – пазітывы. Арган уяўляў сабой цэлае архітэктурнае збудаванне і прыўносіў у культавы інтэр’ер адчуванне ўрачыстасці і свята. Моцай і шматфарбавасцю гучання, разнастайнымі выканальніцкімі магчымасцямі ён упрыгожваў літургію, якая прыцягвала шмат слухачоў. Гэты музычны інструмент, нават калі маўчаў, быў эмацыянальна значным.

Уніяцкі храм стаў своеасаблівай канцэртнай залай, дзе людзі далучаліся да прафесійнай музычнай культуры. Пры культавых установах працавалі кампазітары, вакалісты, інструменталісты, выкладчыкі і музычныя майстры. Людзі з музычнай адукацыяй і талентам цаніліся царквой. Найлепшыя музыкі групаваліся пры вялікіх царквах і манастырах. Царкоўныя музыканты звычайна паходзілі з мясцовага насельніцтва – мяшчан, шляхты, сялян. Найбольшае распаўсюджанне атрымала прафесія арганіста.

Аднак у 1829 г. было забаронена ўстанаўліваць у царквах арганы як неўласцівыя грэчаскаму богаслужэнню[510]. У 1831 г. з гэтай нагоды ў Вільні ліквідавалі семінарыю арганістаў[511]. Рашучы наступ на музычны інструмент, які выклікаў пачуцці рэлігійнага ўздыму, пачынаецца ў 1833 г.

Першай ахвярай новых рэлігійных павеваў паў жыровіцкі аркестр – гонар мясцовых базыльян[512]. 31 ліпеня 1833 г. І. Сямашка

---

[509] Дадзіёмава В. У. Гісторыя музычнай культуры Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст.: Дап. для сяр. навуч. установ. – Мн.: Бел. гуманітарн. адукац.-культ. цэнтр, 1994. – С. 68.

[510] ЦДГАУ – Ф. 201. – Воп. 4. – Спр. 2021.

[511] НГАБ. – Ф. 3157. – Воп. 1. – Спр. 189. – Арк. 24.

[512] Charkiewicz W. U grobu unji kościelnej. – Kraków: Druk Przeglądu Powszechnego, 1926. – S. 36.

распарадзіўся прадаць арганы з кафедральнага сабора, бо яны «занимают напрасное место в соборе и безобразят вид онаго», а калі не знойдзецца пакупнікоў, – разабраць[513]. У сакавіку наступнага года ён прыспешвае з продажам, а ў канцы 1835 г. надае кампаніі масавы характар.

Мясцовыя ўлады атрымалі загад прыбраць арганы, дзе яны ёсць, каб не перашкаджалі набажэнству і не парушалі парадак у царкве, асабліва малой, і адрапартаваць начальству. 11 лютага 1836 г. па настаянню епіскапа быў устаноўлены трохмесячны тэрмін продажу або знішчэння арганаў. Арганісты падлягалі аддаленню ад царквы. З месцаў пачалі паступаць справаздачы: «скасаваны», «разабраны», цэрквы «ачышчаны ад арганаў»[514].

19 сакавіка 1836 г. Сямашка пісаў віленскаму генерал-губернатару Далгарукаву, што арганы замінаюць у царкве; іх захаванне «могло быть поводом к соблазну». Ён даводзіць да ведама начальніка беларуска-літоўскага края, што ў храмах Літоўскай епархіі яшчэ засталося 86 гэтых музычных інструментаў. Але справа ішла марудна, бо народ не хацеў развітацца з арганамі. Таму з другой паловы года зусім забаранялася іх выкарыстанне, а да канца года яны падлягалі поўнаму вывядзеннню з ужытку[515].

Наступ на арганы ішоў і на ўсходзе Беларусі. Быў разабраны і адасланы ў Вільню інструмент з Полацка[516]. Аб набыцці аргана, кніг і мошчаў з царквы Віцебскага базыльянскага манастыра хадайнічала мясцовае рымска-каталіцкае духавенства. Цана аргана была прызначана «па вартасці яго» – 600 рублёў срэбрам[517].

Антыарганная кампанія выклікала вялікія нараканні ў свецкіх і духоўных колах Беларусі. Амаль усё духавенства Віцебскай губерні (мястэчак Юхновічы, Тадулін, Сероцін, Ушачы і інш.) «не толькі не выкараняла... чужы Усходняй царкве звычай, але і падмацоўвае яго абзавядзеннем новымі музычнымі інструментамі». Таму генерал-

513 Записки Иосифа, митрополита Литовского. – Т. 3. – СПб.: Тип. Императ. Акад. наук, 1883. – С. 14.

514 НГАБГ. – Ф. 1. – Воп. 19. – Спр. 1005. – Арк. 5–8; Ф. 1. – Воп. 27. – Спр. 708. – Арк. 261–265.

515 Записки Иосифа, митрополита Литовского. – Т. 3. – СПб.: Тип. Императ. Акад. наук, 1883. – С. 14.

516 НГАБ – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 9106. – Арк. 104.

517 НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 11293. – Арк. 1 адв., 7, 11 адв.

губернатар Хаванскі запатрабаваў ад Беларускай кансісторыі музыку ў храмах забараніць, а неслухаў пакараць[518].

Замест «цёплых малітваў усявышняму з нагоды запячатання аргана» ў 1835 г. себежскім дэканам «няўдзячныя» сяляне мястэчка Юхновічы «ўчынілі вялікае нараканне, лямант і шкадаванне». Яно і зразумела, арган быў устаноўлены іх стараннем і коштам, да яго музыкі яны прывыклі з маленства,

Ад «незадавальнення і журбы з-за такой раптоўнай перамены» юхновіцкія сяляне нават «адарваліся» ад богаслужэння і перасталі наведваць царкву. Царква страціла свае даходы. Улічваючы такія настроі, святар П. Макавецкі самавольна распячатаў інструмент і вярнуў музыку ў храм, пераконваючы начальства, што «са знішчэннем аргана царква застанецца глухой»[519].

У лютым 1835 г. падалі мітрапаліту пратэст супраць змены абрадаў і знішчэння арганаў шляхта і сяляне Пустынскага прыхода (Мсціслаўскі павет)[520].

Не ўпісваліся ў новы царкоўны парадак арганы і дзве іконы Мядзельскага базыльянскага жаночага манастыра. На патрабаванне духоўнага начальства іх у чэрвені 1836 г. пусцілі на таргі. Але знайшоўся сапраўдны гаспадар манастырскіх рэліквій – брацтва пры Мядзельскім кармеліцкім касцёле. Гэта яно ў свой час набыло іх за ўласны кошт, а потым перадало ў карыстанне мясцовым базыльянкам. Пад прэсам антыарганнай акцыі тыя не змаглі ўратаваць арган і абразы ў храме. Такое абыходжанне з гэтымі дарагімі сэрцу культавымі рэліквіямі абурыла мясцовае рыма-каталіцкае духавенства і брацтва, якія сталі патрабаваць іх вяртання ўласнікам[521].

Прызначаны ў 1836 г. са Смаленшчыны ў новаправаслаўны прыход вёскі Расоны (Полацкі павет) бацюшка прываблівае сялян у перахрышчаную царкву з дапамогай таннай сівухі. Але ўсё сапсавала гэта «арганная кампанія». Калі святар зваў сялян на абедню, у яго пыталі: «А на варгане повинны б гратсь?» На што ён адказаў: «Не, некому, детуньки, некому … Почекайте! Я привезу от Полотьска органиста…» Ён і сам разумеў, што хлусіў – так навучыў яго вопытны ў такіх справах протаіерэй Капяевіч. Але з тых часоў ніхто не

[518] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7815. – Арк. 47–47 адв.
[519] РДГА. – Ф. 823. – Воп. 3. – Спр. 1563. – Арк. 2–6 адв.
[520] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 7815. – Арк. 109–109 адв.
[521] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 2265. – Арк. 1.

прыходзіў да яго на імшу, бо «варган молчит». А ад вербнай нядзелі «пошло по маслу. Прихожане уважили Казенную Палату, которая стала их угощать лучше ... – палками»[522].

У 1839 г. развіталіся з уніяй жыхары Супрасля. Перад разборкай арганаў і бакавых алтароў царкву, адкрытую днём і ноччу, запаўняў натоўп людзей. Без перапынку гралі на арганах. Праз некалькі дзён люд крыжам ляжаў у святыні. У царкве і на кляштарным панадворку голасна разносілася песня, якую людзі са слязьмі спявалі ў апошні раз[523].

Пазбаўленне беларускіх уніятаў велічнай музыкі, сугучнай настрою набажэнства, стала адной з тых памылак «уз'яднання», якія схілілі частку насельніцтва да рыма-каталіцтва. Так, адышлі ад праваслаўя прыхаджане царквы мястэчка Крывічы Вілейскага павета, «знаходзячы сабе духоўную ўцеху ў велічным касцёле з гучным арганам»[524].

Адну з прычын масавых пераходаў з абвяшчэннем у 1905 г. свабоды сумлення праваслаўныя іерархі ўбачылі ў «бессознательном тяготении к католичеству бывших униатов ради громкозвучного органа»[525]. Сярод людзей, заклапочаных заняпадам тады ў заходніх губернях імперыі праваслаўя, з'явілася думка выправіць зробленую 70 гадоў назад памылку шляхам дапушчэння ў богаслужбовую практыку беларускай царквы музыкі – «прыемнай асаблівасці старадаўняй веры беларусаў», скасаванай без іх волі і згоды[526].

Такім чынам, рэвізія ўніяцкага культурна-абрадавага комплексу, якая спадарожнічала духоўнай пераарыентацыі Беларусі канца

---

522 На униатском приходе // Чтения в императорском обществе истории и древностей российских при Московском университете. – М., 1910. – Кн. 1. 1909. – Ч. 2. – С. 4–6.

523 Далматов Н. Супрасльский благовещенский монастырь. Историко-статистическое описание. – СПб.: Синод. тип., 1892. – С. 415.

524 Извеков П. Д. Исторический очерк состояния православной церкви в Литовской епархии за время с 1839–1889 г. – М.: Печатня А.И.Снегиревой, 1899. – С. 381.

525 Грыгор'ева В. Уніяцкая вера і рэлігійная свядомасць беларусаў (другая палова XIX – пач. XX ст.ст.) // Наш Радавод. Кн. 7: Матэрыялы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII–XX ст.», Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г. / Заходне-беларускі гуманітарны цэнтр даследаванняў Усходняй Еўропы / Пад рэд. Д. У. Карава. – Гродна, 1996. – С. 394.

526 Голос православного из литовско-белорусского края // Церковный вестник. – 1906. – № 35, 36, 39, 44, 47, 48. – С. 1541.

XVIII – першай паловы XIX ст., абярнуўся вымываннем значнага пласту нацыянальнай культуры.

Даследчык культурнай спадчыны грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі А. А. Суша сцвярджае, што асноўнай прычынай знішчэння гэтай спадчыны з'яўляецца знікненне самой царквы і няздольнасць гэтай спадчыны ў поўнай меры інтэгравацца ў сістэму каштоўнасцяў і сферу ўжытку новых уладальнікаў. Знікненне носьбіта традыцыі не магло не выклікаць яе частковую ці поўную страту. Найбольш пацярпела пасля ліквідацыі ўніі яе нематэрыяльная (духоўная) спадчына: музычная творчасць, абраднасць, інтэлектуальнае і манаскае жыццё і інш. Матэрыяльная культурная спадчына (кнігі, помнікі архітэктуры, элементы храмавага інтэр'еру і інш.) захавалася значна лепш.

А. А. Суша не схільны вінаваціць у знішчэнні значнай колькасці культурных багаццяў, якая засталася пасля знікнення грэка-каталіцкай царквы, праваслаўную і каталіцкую цэрквы, як і дзяржаўныя структуры. На яго думку, наадварот, можна казаць, што пераход часткі гэтай спадчыны да новых уладальнікаў станоўча паўплывала на яе захаванне, бо застаўшыся ў іх руках, яна працягвала быць запатрабаванай, г.зн. працягвала сваё існаванне. Тыя ж каштоўнасці, што не былі запатрабаваны, прыходзілі ў заняпад, нішчыліся, прападалі з народнай памяці[527].

## 3.3. Пярэдадзень

### *Падпісная кампанія. «Адмаўленцы»*

Махавік далучэнняў між тым раскручваўся ўсё мацней. 1 студзеня 1837 г. з'явіўся імператарскі ўказ аб падпарадкаванні ўніяцкай царквы обер-пракурору Сінода.

Па заданню начальніка IV акругі корпуса жандараў быў арганізаваны збор звестак аб тым, як успрынялі гэты ўказ у розных саслоўях. «Уніяцкім духавенствам ён прыняты з пакорай», – даносілі жандарскія агенты. – Просты народ пра ўказ не ведае і па прыкладу духавенства з паслухмянасцю глядзіць на распараджэнні на-

[527] Суша А. А. Культурная спадчына грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі ў XIX–XX ст.: інтэграцыя ў сістэму каштоўнасцяў і сферу ўжытку новых уладальнікаў // Хрысціянства у гістарычным лёсе беларускага народа: зб. навук. арт. У 2 ч. Ч. 1 / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал.: С.В. Марозава [і інш.]. – Гродна: ГрДУ, 2009. – С. 343–348.

чальства. Найбольш негатыўна ўказ успрыняты рымска-каталіцкімі памешчыкамі. Дваране Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай губерняў гавораць, што «хутка … канец уніі»[528]. Адзін з агентаў выказаў упэўненасць, што «ніякая мера ўрада адносна ўніятаў не скалане розум тамашніх дваран, а пра беларускую чэрнь – і гаварыць няма чаго»[529].

Падпарадкаванне ўніяцкай царквы обер-пракурору Сінода азначала яе хуткі фінал. Насельніцтву было даведзена, што палітыку дэўнізацыі праводзіць урад. Раней супраціўляліся свайму ўніяцкаму начальству, цяпер усялякі пратэст разглядаўся як супраціў ураду.

У тым жа 1837 г. І. Сямашка ініцыяваў падпісанне духавенствам фармальнага акта згоды далучыцца да праваслаўя, калі на тое «последует высочайшая воля». Ён павінен быў стварыць уражанне добраахвотнасці далучэння. Збор подпісаў вёўся больш за год індывідуальным спосабам, каб лягчэй было ўздзейнічаць на святароў. Большасць іх спачатку адмовілася падпісацца «на здраду грэка-уніяцкага нашага спавядання, якога дагматы не толькі прыродай, але нават і клятвай абавязаны … захоўваць цэла і непарушна да канца жыцця нашага»[530]. Адны адкрыта абураліся, другія, выдумляючы розныя прычыны, ухіляліся. Тады ў ход пайшлі пагрозы, шантаж, прымус.

Лепельскі благачынны падманам вырваў у Івана Катырла з Хоціна такую распіску і адаслаў яе епіскапу Васілію Лужынскаму. Але праз некалькі дзён уладыка атрымаў ад хоцінскага папа «дзёрзкую заяву»: не лічыць распіску сапраўднай, «бо я ні пад якім відам супрацівіцца не магу сумленню майму і не пакіну веры па жыццё маё»[531].

Супраць «адмаўленцаў» даць подпіс адступства пачаліся рэпрэсіі. Застрашаныя іх доляй, звязаныя сям'ёй, не маючы ніадкуль аніякай падтрымкі, апынуўшыся сам-насам са сваім епіскапам-здраднікам, святары ламаліся і «добраахвотна» давалі вымагальнікам свой подпіс.

Дзевяць святароў Палескага дэканата на чале з Фадзеем Плескацэвічам (Вялікарытская царква) і Іосіфам Паўловічам (Па-

[528] ДАРФ. – Ф. 109. – I экспедыцыя. 1837 год. – Спр. 23. – Арк. 8, 16 адв.–17.
[529] ДАРФ. – Ф. 109. – I экспедыцыя. 1837 год. – Спр. 23. – Арк. 39 адв.–40.
[530] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 11116. – Арк. 145–146 адв.
[531] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 11262. – Арк. 2–4 адв.

жэжынская царква) у сакавіку 1838 г. падалі свайму дэкану пратэст супраць вымаганых з іх падпісак аб згодзе далучыцца да праваслаўя. «Супраціў распараджэнням духоўнага начальства,» – так ацанілі іх дэмарш у Літоўскай кансісторыі. Апазіцыйным святарам забаранілі свяшчэннадзейства і адправілі ў Жыровіцы на эпітымію. Калі ж і яна іх не выправіць, то далейшы шлях гэтым «адмаўленцам» (ад падпісак), нізведзеным у дзячкі, ляжаў у мясціны, аддаленыя ад іх прыходаў. Такіх захадаў было дастаткова, каб прымусіць іх ужо ў красавіку з'явіцца ў кансісторыю са «слёзным раскаяннем» і павіннай[532].

У Літоўскай епархіі буйным асяродкам апазіцыі знішчэнню ўніі стала Беластоцкая вобласць. Тут дзейнічала 49 уніяцкіх цэркваў. 15 чалавек духавенства адмовілася ад дачы падпісак. Душой апазіцыі быў пробашч з Кляшчэль Сасноўскі, пробашч з Чыжова Фаустын Гаворскі і Антон Панькоўскі – пробашч з Новабярозава. Яны ад імя 15-ці падалі на рукі шэфу жандараў Бенкендорфу просьбу цару, каб іх не прымушалі да праваслаўя і не ўціскалі ў веры.

Гэты «акт 15-ці» беластоцкіх папоў выклікаў немалую трывогу ў вышэйшых пецярбургскіх сферах. Расія імкнулася пераканаць свет, што ўсё робіцца з добрай волі ўніятаў, а тут – гэта заява. Цар загадаў тых, хто падпісаўся пад гэтай петыцыяй, адных выслаць у расійскія губерні пад нагляд паліцыі, другіх убраць з прыходаў, каб не першкаджалі вырашэнню ўніяцкага пытання. Каб не быць высланымі, гэтыя 15 падпісалі дэкларацыю аб згодзе прыняць праваслаўе[533].

Паводле данных Э. Лікоўскага, на працягу 1838 г. з 1057 святароў і манахаў Літоўскай епархіі сабралі падпіскі з 760. Цяжка справа ішла на ўсходзе Беларусі. З 680 духоўных асоб тут падпісалася толькі 186 чалавек. 494 – адмовіліся, у тым ліку 84 базыльяне[534].

Усяго было назбірана 1305 подпісаў. 593 адважныя святары, не зважаючы на пагрозы, адмовіліся іх даць[535]. На Полацкім саборы

---

532 ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 3444. – Арк. 5–5 адв.

533 Likowski E. Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku uważane głównie ze względu na przyczyny jego upadku. – Warszawa, 1906. – Cz. 1–2. – S. 99, 100–101.

534 Likowski E. Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku uważane głównie ze względu na przyczyny jego upadku. – Warszawa: Druk.P.Laskauer, 1906. – Cz. 1–2. – S. 98.

535 Dylągowa H. Dzieje Unii Brzeskiej (1596–1918). – Warszawa–Olsztyn: Wydawnictwo Interlibro, Warmińskie wydawnictwo dyecezjalne, 1996. – S. 89.

былі прадстаўлены падпіскі 938 духоўных Літоўскай і 367 духоўных Беларускай епархіі. Не далі падпіскі ў Літоўскай епархіі 116 свецкіх і 95 манахаў, у Беларускай – адпаведна 305 і 77, а ўсяго 593 чалавекі[536] – амаль адна трэць усяго ўніяцкага духавенства. Са 170 базыльян Літоўскай правінцыі падпіскі далі толькі 66[537].

Усе «адмаўленцы» былі заключаны ў манастырскія турмы Беларусі, дэпартаваны ўглыб Расіі. Л. Гарошка прыводзіць данныя, што з Беларусі і Украіны тады было выслана 160 святароў[538]. Па звестках Э. Лікоўскага, 116 святароў і манахаў ніякай цаной не хацелі мяняць сваю веру і за гэта былі высланы ў Сібір ці аддаленыя праваслаўныя манастыры. Некаторыя з іх ўцяклі ў Галіцыю[539].

## *Лыскава: «Целы нашы – ў вашай волі, але рука ваша не дасягне нашай душы»*

У вёсцы Лыскаў, у 30 хат, Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні быў базыльянскі манастыр. У манастыры – лекар. Ён лячыў вяскоўцаў без розніцы стану і веравызнання. Кошт за лекі, узятыя ў аптэцы, запісваў на базыльян. У манастырскай царкве знаходзіўся слаўны на ўсю ваколіцу арган. Мясцовыя жыхары любілі лыскаўскіх базыльян. У 1838 г., калі манахі адмовіліся кінуць ўнію, да іх прыйшла бяда.

Манастырскі настаяцель Сядлецкі не выконваў загады Сямашкі аб змене абрадаў. Базыльяне тлумачылі вяскоўцам пра «адрозненне паміж маскоўскай царквой і рускай» (уніяцкай – С. М.), пра тое, што набліжаецца час выпрабаванняў, і заклікалі трымацца сваёй веры. Настаяцель пасля богаслужэння прынёс перад прыхаджанамі прысягу на вернасць уніі. Ён пакляўся, што гатоў

[536] Likowski E. Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku uważane głównie ze względu na przyczyny jego upadku. – Warszawa: Druk.P.Laskauer, 1906. – Cz. 1–2. – S. 107–108.

[537] Извеков П.Д. Исторический очерк состояния православной церкви в Литовской епархии за время с 1839–1889 г. – М.: Печатня А. И. Снегиревой, 1899. – С. 236.

[538] Гарошка Л. Пад знакам «рускае і польскае веры» // Спадчына. – 2000. – № 1. – С. 169.

[539] Likowski E. Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku uważane głównie ze względu na przyczyny jego upadku. – Warszawa: Druk.P.Laskauer, 1906. – Cz. 1–2. – S. 116–117.

прыняць пакуты і смерць, але ад сваёй веры не адрачэцца. У храме панаваў агульны настрой нібыта падрыхтоўкі да смерці. Некаторыя плакалі. Разам вырашылі прасіць Сямашку, калі ён прыедзе ў Лыскава, каб пакінуў іх у спакоі. Гаварылі, што яго і іншых Юдаў трэба павесіць[540].

Бяда падступала ўсё бліжэй. І вось ужо ў суседнім Ражанскім манастыры, у трох мілях ад Лыскава, пачаліся рэпрэсіі супраць нязгодных кінуць унію: заключылі ў турму адных манахаў, збіраліся некуды выслаць другіх[541]. Праз некалькі дзён і ў Лыскаў з'явіўся Сямашка са сваім прычтам. Лаяў Сядлецкага, што не прыслаў запіску аб пераходзе на праваслаўе. Той адрэзаў, што веру яны не зменяць. «Знайду табе месца», – прыгразіў Сямашка. «Абы толькі не ў пекле», – быў адказ. Потым пачалі кожнага манаха паасобку намаўляць змяніць веру.

Старац Бацэвіч назваў іх Юдамі. «Целы нашы – ў вашай волі, але рука ваша не дасягне нашай душы»[542] (у іншай крыніцы: «Целы нашы – ў вашай волі, але душы – не падлеглыя вашай злосці»[543]), – сказаў ён.

Манахаў замкнулі ў келлях, каб абдумалі патрабаванне епіскапа. Але тыя і назаўтра адмовіліся ад падпісак. Калі перагаворы закончыліся беспаспяхова, пачаліся здзекі. Сямашка загадаў усім скінуць абутак і выносіць гной з хлявоў. Ва ўсіх забралі боты і цэлы тыдзень, пры дрэнным харчаванні, басанож – а былі марозныя ранкі – ганялі на цяжкія брудныя работы[544].

Старца Бацэвіча закрылі ў каморы ў холадзе і голадзе. Там ён хутка і памёр. Сямашка забараніў базыльянам выканаць над ім пахавальны рытуал і вельмі раззлаваўся, што гэта зрабілі суседнія місіянары. На другі дзень пасля яго пахавання ўсіх базыльян – іх было 12 чалавек – вывезлі ў розныя месцы на пераслед прыспешнікам

---

540 Руски уніаты под панованем московским. – Львов, 1882. – С. 8–10.

541 Akta męczeńskie unji // Rocznik Towarzystwa Historyczno-Literackiego w Paryżu. – Rok 1866. – Paryż, 1867. – S. 113–115.

542 Руски уніаты под панованем московским. – Львов, 1882. – С.11–12.

543 Akta męczeńskie unji // Rocznik Towarzystwa Historyczno-Literackiego w Paryżu. – Rok 1866. – Paryż, 1867. – S. 116.

544 Akta męczeńskie unji // Rocznik Towarzystwa Historyczno-Literackiego w Paryżu. – Rok 1866. – Paryż, 1867. – S. 116–117.

Сямашкі. Больш іх у Лыскаве не бачылі. Але мясцовыя жыхары яшчэ доўга ўспаміналі мучаніка айца Бацэвіча і высланых манахаў[545].

Найгоршым ганіцелем быў Міхневіч – ігумен Тараканскага базыльянскага манастыра (Пружанскі павет), які вылучыўся пераследам сваіх аднаверцаў, што адмаўляліся прыняць праваслаўе. Таму манастыр у Тараканах, дзе лютаваў ігумен Міхневіч, «прымаў» на пакуту ўпартых уніяцкіх духоўных. Іх трымалі ў хляве, мучылі голадам і цяжкай працай.

Туды былі высланы святары Іван Сабаткоўскі, Грыгорый Галынец, Іосіф Забела, Бераговіч, Бараноўскі, базыльяне Чарнецкі, Абрамовіч і інш. Іх марылі голадам, трымалі на адным хлебе і вадзе, ужывалі для чорных унізіцельных работ, білі[546].

Сярод рэпрэсіраваных аказаўся поп Бараноўскі, які напісаў пра гэтыя пакуты і злоўжыванні цару і знайшоў спосаб перадаць яму сваю скаргу. Праверыць скаргу прыслалі ад'ютанта генерал-губернатара. Той даў вязням шэсць месяцаў на прыняцце праваслаўе, прыгразіўшы, што не пашкадуе розаг і сам знішчыць іх, бо «цар ліквідаваў унію».

Пасля гэтага пачаліся яшчэ большыя ганенні, і поп Бараноўскі стаў іх першай ахвярай. Яго трымалі ў склепе, потым у хляве, каталі. Але адрачыся ад уніі ён адмовіўся, гаварыў, што «не хоча сваёй душы загубіць». Ён памёр, як пакутнік, не вытрымаўшы здзекаў і фізічных пакутаў, але не скораны душой[547].

Той пераслед нарадзіў шмат пакутнікаў за веру, якім прыйшлося зведаць псіхалагічны, маральны ціск і фізічны здзек. Гэта нікому невядомыя пакутнікі. Сведкамі іх пакутніцтва былі жыхары вёсак і гарадоў, якія ў другой палове 1830-х г. сталі аб'ектам дэўнізацыі.

---

545 Akta męczeńskie unji // Rocznik Towarzystwa Historyczno-Literackiego w Paryżu. – Rok 1866. – Paryż, 1867. – S. 117; Руски уніаты под панованем московским. – Львов, 1882. – С.11–12.

546 Руски уніаты под панованем московским. – Львов, 1882. – С.13.

547 Akta męczeńskie unji // Rocznik Towarzystwa Historyczno-Literackiego w Paryżu. – Rok 1866. – Paryż, 1867. – S. 118; Руски уніаты под панованем московским. – Львов, 1882. – С. 14–15.

## *«Маю веру … не спаліць агонь, не забярэ вада»: манастырскія вязні Рыгор Міцэвіч, Ілля Андрушкевіч, Ігнат Салтаноўскі*

14 год адпакутаваў манастырскім вязнем Рыгор Міцэвіч з Камянца – адзін з 593 святароў, якія адмовіліся даць пісьмовую згоду кінуць унію. Ён быў рэпрэсіраваны за адмову прыняць сінадальны служэбнік. Успаміны, якія пакінуў Р. Міцэвіч, – гэта гісторыя цярпенняў іх аўтара, расказ пра зламаныя лёсы людзей[548].

У 1834 г., як расказаў сам апальны святар, сабралі духавенства Камянецкага дэканата для азнаямлення з указам, прысланым з Пецярбурга, з Грэка-уніяцкай калегіі, аб адпраўленні імшы і правядзенні ў будучым цырымоній паводле грэка-расійскіх мшалаў, якія будуць прысланыя. У жорсткай форме парэкамендавалі прытрымлівацца у набажэнстве грэка-расійскіх абрадаў, перарабіць нанова алтары. Выслухаўшы ўказ, Р. Міцэвіч выказаў думку, што такі пачатак можа мець не надта добрыя наступствы. Цяпер кажуць змяніць толькі павярхоўна абрады, перарабіць прастолы, іканастасы, што здаецца рэччу малой вагі, але гэта пачатак – змена абрадаў будзе уступам да адмены дагматаў веры нашага вызнання. Благачынны строга выгаварыў Рыгору за такія прамовы.

У пачатку 1835 г., паводле мемуараў Р. Міцэвіча, «зноў быў сабраны саборчык духавенства для раздачы новых мшалаў маскоўскага друку». Адны іх прынялі, другія адмовіліся. Тых, хто не прыняў, выклікалі ў Жыровіцы для тлумачэнняў. Яны тлумачылі сваю адмову тым, што гэтыя мшалы ўласцівыя толькі для свяшчэннікаў грэка-расійскай царквы, а не для нашага вызнання, бо нязгодныя з многімі дагматамі ўніяцкай царквы. Апелявалі таксама да манаршага ўказа 1826 г., які забараняў уніятам ужываць для набажэнства кнігі грэка-расійскай друкарні[549]. Тое, што «згодна з маскоўскім мшалам, не згодна з маім веравызнаннем і сумленнем», – так растлумачыў Р. Міцэвіч сваю пазіцыю брэсцкаму епіскапу Антонію Зубко[550].

За непадпарадкаванне волі начальства камянецкі святар разам з калегамі-аднадумцамі падвергся рэпрэсіям. Спачатку яго шэсць

---

548 Успаміны Рыгора Міцэвіча, пароха з Камянца, аб пераследзе ўнітаў // ЯгБ. – Спр. 4294. – 52 арк.

549 ЯгБ. – Спр. 4294. – Арк. 3.

550 ЯгБ. – Спр. 4294. – Арк. 11.

месяцаў трымалі на хлебе і вадзе ў склепе Жыровіцкага манастыра. Ён зведаў шмат пакутаў: голад, холад, цяжкія работы; на кожным кроку – сачэнне і праслед. Потым былі зняцце з пасады, высылка, траўля. Шэсць гадоў яго трымалі ў Лыскаўскім манастыры.

Пра святара Р. Міцэвіча, прызначанага дзячком да Хомскай царквы, драгічынскі благачынны Т. Гарбацэвіч паведамляў вышэйшаму начальству, што ён «ні пад якім выглядам ужыты не можа быць да гэтай пасады…, бо ён з-за сваёй упартасці … робіць немалое спакушэнне» жыхарам мястэчка Хомск. Гарбацэвіч прасіў перамясціць Міцэвіча «як зусім нядобранадзейнага» ў іншае месца, «каб пазбегнуць магчымых дрэнных наступстваў». Непахіснага святара вывезлі ў Загораўскі манастыр на Валыні пад нагляд настаяцеля. Сваё пакутніцкае жыццё ён закончыў у Дзярманскім манастыры[551].

У 1837 г., пасля адмовы прыняць новыя абрады і даць «падпіску на праваслаўе», пачаліся шматгадовыя хаджэнні па пакутах настаяцеля базыльянскага Ануфрэйскага манастыра з-пад Віцебска Іллі Андрушкевіча.

Адукаваны іераманах, паважаны сваім асяроддзем і царкоўнымі саноўнікамі, І. Андрушкевіч меў добрыя сувязі з духоўным начальствам. Ганарыўся сваёй прыналежнасцю да базыльянскага ордэна. Зразумеўшы, што «пад корань дрэва святога адзінства прыкладзена сякера», Ілля стаў значнай перашкодай яго вырубкі ў гэтым кутку Беларусі і на працягу трох гадоў нейтралізоўваў тут дэўнізацыйныя намаганні епіскапа Васіля Лужынскага. У лістападзе 1836 г. быў абвінавачаны ў «предосудительной» перапісцы і ізаляваны[552].

Цярністы шлях Іллі Андрушкевіча пачаўся 26 верасня 1837 г. У гэты дзень яго гвалтам забралі з манастыра і пад канвоем даставілі да віцебскага губернатара. Той угаворваў, запужваў – не атрымалася. Потым павезлі да Васілія Лужынскага – некалі епіскапа аршанскага, як пісаў Ілля ў сваіх запісках, а цяпер – «уладыкі грэка-маскоўскай царквы»[553]. Раней міласцівы да ануфрэйскага настаяцеля, В. Лужынскі быў цяпер да яго суровым і няўмольным. Андрушкевіча выслалі пад нагляд у Тадулінскі манастыр, што ў 30 вярстах ад Віцебска[554].

---

551 ЦДГАУ. – Ф. 201. – Воп. 4 б. – Спр. 2091. – Арк. 63; Коструба Т. Як Москва нищила українську церкву. – Львів: Благочинне видання «Атлас», 1995. – 160 с.

552 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 6. – Спр. 23039.

553 ЯгБ. – Спр. 5916. – Сшытак 1. – Арк. 14

554 ЯгБ. – Спр. 5916. – Сшытак 1. – Арк. 65, 66

Каб угаварыць парафіян Ануфрэйскай архімандрыі, выкарысталі батальён салдат[555]. Назаўтра пасля выдалення настаяцеля на манастырскі падворак прыгналі акружаных узброенай вартай прыхаджан, якія засталіся ва ўніі. Паколькі ключэй ад царквы (па загаду І. Андрушкевіча) пратапоп не даў, выбілі дзверы храма і загналі туды люд. Загадалі падняць руку ўверх, зачыталі тэкст прысягі, далі пацалаваць крыж. Потым пераасвяцілі царкву, яе начынне. Сцены акрапілі асвечанай вадой.

70-гадовы базыльянскі манах-старац, які быў духоўным правадыром тутэйшых жыхароў, 12 гадоў спавядаў іх, пачаў публічна гаварыць аб трываласці ў веры. Але камісія ахрысціла яго блюзнерцам і пасадзіла ў астрог, як і пратапопа, што не даў ключоў ад царквы. Старац вытрымаў там некалькі месяцаў. У астрогу ён і памёр. Да астатніх святароў прыставілі ваенную ахову[556].

Трохгадовыя намаганні В. Лужынскага схіліць І. Андрушкевіча да прыняцця праваслаўя поспеху не мелі. Тады базыльянін пачаў прасіць дазволу на пераход у лацінскі абрад, звяртаўся нават да імператара, але ўсюды атрымаў адмову[557]. Не могучы сваімі сіламі і ўладай зламаць уплывовага базыльяніна, аршанскі епіскап перадаў яго І. Сямашцы. Той у красавіку 1838 г. выклікаў Андрушкевіча ў Пецярбург, дзе па даручэнню самога Мікалая І «угаворваў яго перавярнуцца да грэка-расійскай царквы»[558].

Непахіснага ануфрэйскага настаяцеля І. Сямашка адправіў у распараджэнне брэсцкага епіскапа Антонія Зубко ў Жыровіцы, які стаў папраўчым домам для непакорных уніяцкіх духоўных. Ілля прыбыў туды, ужо будучы гатовым да выгнання за веру.

А. Зубко вымагаў ад яго «падпіску на далучэнне»[559]. Зразумеўшы, «што адбылася здрада», Ілля хацеў пераканаць і брэсцкага епіскапа застацца ў сваёй веры. Меў з ім 4,5-гадзінную тэалагічную сутычку-дыспут. У епіскапа, відаць, не хапіла аргументаў для абгрунтавання курса на ліквідацыю ўніі. Таму на дыспут былі запрошаны іншыя духоўныя асобы, і ён працягваўся яшчэ 4 гадзіны[560].

[555] ЯгБ. – Спр. 5916. – Сшытак 3. – Арк. 101
[556] ЯгБ. – Спр. 5916. – Сшытак 1. – Арк. 66
[557] ЯгБ. – Спр. 5916. – Сшытак 1. – Арк. 60
[558] ЯгБ. – Спр. 5916. – Сшытак 1. – Арк. 82–83; Сшытак 3. – Арк. 19.
[559] ЯгБ. – Спр. 5916. – Сшытак 3. – Арк. 19.
[560] ЯгБ. – Спр. 5916. – Сшытак 2. – Арк. 127, 133

Тады манастырскі настаяцель, якога апрацоўвалі і ад якога так і не змаглі дамагчыся падпіскі тры епіскапы: Васіль Лужынскі, Іосіф Сямашка і Антоній Зубко, – стаў манастырскім вязнем. У студзені 1839 г. літоўскі епіскап характарызаваў яго перад обер-пракурорам Сінода наступным чынам: «Сапраўдны фанатык і сваім энтузіязмам робіць на многіх рэзкае ўражанне. Ён распаўсюджвае самыя нядобранадзейныя звесткі адносна грэка-уніяцкіх спраў, нібы зробленых ім у Пецярбургу» (І. Андрушкевіч ездзіў у Пецярбург хадайнічаць за ўнію). Выслаць яго ў Любарскі манастыр на Валынь – быў прысуд Сінода[561].

Так І. Андрушкевічу акрэслілі поўнае нягод жыццё ў дарозе. Многія гады яго перасылалі з аднаго манастыра ў другі. У кожным яго прымалі нібы на жыхарства. Пераконвалі і, не атрымаўшы вымаганай «падпіскі на праваслаўе», згодна з прадпісаннем І. Сямашкі, з тытулам «нядобранадзейнага» высылалі ў наступны манастыр[562]. Апошняй інстанцыяй было вызначана пасяленне ў праваслаўным манастыры.

За першыя тры гады няволі яго прагналі праз 11 «былых базыльянскіх кляштараў» Беларусі і Украіны: Тадулін, Жыровіцы, Быцень, Таракань, Любар... Жыццёвымі спадарожнікамі нязломнага іераманаха сталі дарогі, холад, голад, уніжэнне, абразы[563].

1 сакавіка 1840 г. імператар выдаў указ, каб упартых духоўных грэка-уніяцкага абраду звальняць у свецкае званне. Жыць ім дазвалялася толькі ў расійскіх губернях. За імі ўстанаўліваўся сакрэтны нагляд паліцыі. Ілля адмовіўся прыняць свецкае званне[564]. Таму яго хаджэнне па пакутах працягнулася. Цяпер яго выслалі ў «грэка-маскоўскі» манастыр у Ноўгарад-Северскі.

І вось ужо ідзе пяты год манастырскага зняволення[565]. Вось ужо восьмы год жыве ён на кавалку хлеба. У 1846 г. з Ноўгарад-Северска Іллю Андрушкевіча перавялі ў Курск[566]. З году ў год ён старанна рабіў запісы ў сваім, назавём яго так, «дзённіку нявольніка», аплаківаў «канец уніі», ахрысціў яе ліквідацыю «апастазіяй»[567].

561 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23489. – Арк. 1–1 адв.
562 ЯгБ. – Спр. 5916. – Сшытак 2. – Арк. 137
563 ЯгБ. – Спр. 5916. – Сшытак 3. – Арк. 19; Сшытак 4. – Арк. 103
564 ЯгБ. – Спр. 5916. – Сшытак 3. – Арк. 57
565 ЯгБ. – Спр. 5916. – Сшытак 4. – Арк. 153
566 ЯгБ. – Спр. 5916. – Сшытак 4. – Арк. 379, 455
567 ЯгБ. – Спр. 5916. – Сшытак 4. – Арк. 142, 162

Праз многія гады шматпакутнаму манастырскаму вязню ўдалося вярнуцца на Беларусь. Закончыў ён свой жыццёвы шлях у бернардынскім кляштары ў Заслаўі ў 1884 г., ужо будучы глыбокім старцам, але так і застаўшыся не зламаным.

У рукапісным аддзеле Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве намі знойдзены таксама ўласнаручныя кароткія запісы ўраджэнца Слонімскага павета базыльяніна Ігната Ёны Салтаноўскага – прапаведніка Ляшчынскага манастыра Пінскага павета Мінскай губерні[568].

У 1837 г., як расказвае ў сваіх запісках І. Салтаноўскі, прыехалі ў іх манастыр пінскі гараднічы і страпчы. Прачыталі ўказ губернатара, «каб у нашай царкве з гэтага часу ўсё было, як у рускай праваслаўнай царкве»: каб арган выкінулі, некаторыя абразы павыкідалі, бакавыя алтары знішчылі. Ігнат праігнараваў гэты ўказ[569].

Праз месяц гараднічы са страпчым прыбылі зноў, абвінавацілі І. Салтаноўскага ў невыкананні распараджэння губернатара, якому пра гэта і данеслі. Яшчэ праз 2 тыдні прапаведніка выклікалі ў Быцень на суд да правінцыяла І. Жарскага. Зрабілі строгае папярэджанне. І. Жарскі загадаў яму і яшчэ двум такім жа святарам, выкліканым у Быцень на «перавыхаванне», адправіць «мшу з рускага служэбніка цалкам па руску».

Адзін з іх згадзіўся. Тых, хто адмовіўся, заключылі на 5 дзён у манастырскую турму на хлеб і ваду. Заключэнне іх не зламала. Тады І. Сямашка загадаў аднаго з іх пазбавіць святарскага звання і аддаць у салдаты. Ігната за адмову даць падпіску выслалі ў Любарскі манастыр на Валыні.

У Любары тады знаходзіліся ў выгнанні за адмову даць падпіску 21 «непадпісковы святар». Потым дадаліся яшчэ трое. Усе яны адмаўляліся хадзіць у манастырскую царкву і «адпраўляць набажэнства па-руску». Архімандрыт паскардзіўся на іх генерал-губернатару Бібікаву. На іх ўздзейнічалі абяцанкамі і пагрозай выслаць на Салаўкі. 12 святароў не ўстаялі – далі сваю згоду.

І. Салтаноўскі адказаў: «Сумленне не дазваляе мне быць ліцэдзеем і здраднікам … прабацькоўскай веры». Тады яго пад жандарскім канвоем павезлі праз Кіеў нібыта на Салаўкі. У Кіеве

568 ЯгБ. – Спр. 5915. – Арк. 3–8 адв.
569 ЯгБ. – Спр. 5915. – Арк. 2 адв.

пасадзілі ў цёмны каземат, пагражалі расстраляць як бунтаўшчыка. У казематах таміліся тады 12 такіх жа вязняў сумлення. Адзін з іх там і памёр. У 1840 г. іх, так і не зламаных, разаслалі ў праваслаўныя манастыры. І. Салтаноўскага трымалі пад наглядам паліцыі ў розных манастырах як арыштанта аж да 1852 г. У гэтым годзе, пісаў ён, было яшчэ 16 такіх выгнанцаў, рассыпаных па розных губернях[570].

Свае кароткія запіскі пра супрацiў і пакуты І. Салтаноўскі завяршае словамі: «Маю веру не вырве ані жорсткі вораг, не спаліць агонь, не забярэ вада, … а здраднікаў веры чакае пекла»[571].

## *Місія камергера Скрыпіцына*

У 1838 г. завяршалася падрыхтоўка да рашаючага перакройвання канфесійнай карты Беларусі.

З 1835 г. у Пецярбургу дзейнічаў Сакрэтны камітэт па ўніяцкіх справах, які ўзгадняў дзеянні дзяржаўных і царкоўных структур, – падрыхтоўка да выкаранення ўніі вялася патаемна. Змянілі дэкор храмаў і цырымоніі, выдалілі арганы. Уніяцкія служэбнікі і спеўнікі выцеснілі выданнямі маскоўскай сінадальнай друкарні. У патрэбным духу былі перавыхаваны сотні святароў. У 1837 г. уніяцкую царкву падпарадкавалі обер-пракурору Сінода, а таксама арганізавалі збор распісак ад духавенства аб згодзе прыняць праваслаўе, калі на тое «воспоследует монаршая воля». На іх выбіванне пайшоў 1838 год.

На чале ўніяцкай царквы былі пастаўлены людзі, верныя «видам правительства». Смерць у 1838 г. апошніх (з ліку кіраўніцтва царквы) працiўнікаў аб'яднання з Рускай праваслаўнай царквой – мітрапаліта Іасафата Булгака і пінскага епіскапа Іасафата Жарскага – зняла апошнія перашкоды для знішчэння ўніі.

Дзеля вывучэння ступені гатоўнасці мясцовага грамадства да ліквідацыі ўніяцкай царквы і дзеля забеспячэння поспеху на апошнім этапе «ўз'яднання» імператар Мікалай I 23 мая 1838 г. камандзіраваў ў Беларусь і на Украіну камергера Валерыя Скрыпіцына – чыноўніка па асобых даручэннях пры обер-пракуроры Сінода[572]. Гэтага дзеяча «ўз'яднання» ўніятаў звычайна не згадваюць гісторыкі. Між тым ён,

570 ЯгБ. – Спр. 5915. – Арк. 3.
571 ЯгБ. – Спр. 5915. – Арк. 7 адв.–8.
572 Марозава С. Місія камергера Скрыпіцына // Історія релігій в Україні: Науковий щорічник. – 2005 рік. – Кніга 1. – Львів: «Логос», 2005. – С. 365–371.

упаўнаважаны самім імператарам, адыграў важную ролю ў падзеях сярэдзіны 1838 – пачатку 1839 г., звязаных з масавай рэлігійнай канверсіяй беларускіх уніятаў.

Шлях В. Скрыпіцына з Пецярбурга пралягаў праз Люцын – Себеж – Полацк – Віцебск – Оршу – Мінск – Вільню – Слонім – Жыровіцы – Гродна – Беласток – Брэст – Ратна – Луцк – Дубна – Пачаеў – Крамянец – Жытомір – Кіеў і назад праз Жытомір – Оўруч – Мазыр – Магілёў – Віцебск – Полацк – Люцын. За час трохмесячнага падарожжа В. Скрыпіцын наведаў у Беларускай і Літоўскай епархіях 77 цэркваў і 13 манастыроў. З розных гарадоў ён накіроўваў у сталіцу імперыі лісты і рапарты з характарыстыкай сітуацыі на месцах[573], а па заканчэнні свайго падарожжа 31 жніўня 1838 г. склаў пісьмовую справаздачу аб выкананні імператарскага задання[574].

10 чэрвеня высокі пецярбургскі чыноўнік паведамляў у сваім сакрэтным рапарце з Віцебска обер-пракурору Сінода: «…У грэка-уніяцкім духавенстве відаць столькі дзейнасці, а ў прыхаджанах – столькі пакоры, што ўніяцкая царква павінна прыйсці да жаданага ўладкавання.., калі толькі грамадзянскае начальства будзе шчыра імкнуцца ўтаймоўваць намаганні супрацьдзеяння нясхільных да гэтай справы асоб»[575].

З Мінска 17 чэрвеня Скрыпіцын пісаў пра тое, што вельмі важна, каб «кожная нядобранамераная асоба была прасякнутая не запальчывасцю, а непахіснай цвёрдасцю і няўмольнай воляй галоўнага начальніка (генерал-губернатара – С. М.) караць, каб адна думка пра яго нейтралізоўвала ўсялякі супрацьзаконны і непрыязны замах». Ліквідацыя ўніі, як паведамляў у Сінод Скрыпіцын, «тут ужо не з'яўляецца тайнай, бо ўсе пра гэта галосна гавораць»[576].

Найбольшую інфармацыйную каштоўнасць уяўляе аналітычны рапарт Скрыпіцына за № 18 ад 31 жніўня 1838 г., пададзены обер-пракурору Сінода[577]. З рапарта вынікала, што настроі ў Беларускай і Літоўскай епархіях адрозніваліся.

[573] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446; РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 18; Radwan M. Carat wobec kościoła greckokatolickiego w zaborze rosyjskim. 1796–1839. – Roma-Lublin: Polski Instytut kultury chreścijańskiej, 2001. – S. 174–175.

[574] Марозава С. Місія камергера Скрыпіцына // Історія релігій в Україні: Науковий щорічник. – 2005 рік. – Кніга 1. – Львів: «Логос», 2005. – С. 365–371.

[575] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 18. – Арк. 1 адв.–2.

[576] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 18. – Арк. 3 адв., 5 адв.

[577] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 18. – Арк. 14–32.

На 15 жніўня 1838 г., паводле падлікаў польскім гісторыкам М. Радванам дадзеных В. Скрыпіцына, у Беларускай епархіі выказала згоду кінуць унію толькі 25% духавенства, ў Літоўскай – амаль 72%. Гэта згода, як вядома, афармлялася ў выглядзе пісьмовых распісак, якія рознымі, часта несумленнымі спосабамі браліся, выбіваліся духоўным начальствам з падведамнага кліру. Паводле падлікаў Скрыпіцына, у абедзвюх епархіях было сабрана 946 такіх распісак (760 – у Беларускай епархіі і 186 – у Літоўскай). Іх адмовіліся даць 791 чалавек белага духавенства і манахаў (494 – у Беларускай епархіі і 297 – у Літоўскай)[578].

«Адмаўленцы» (ад дачы падпісак) не ведалі, што для іх ўжо вызначаюцца месцы зняволення. Мясцовыя духоўныя ўлады, як вынікае са справаздачы, намервалася пры агульным далучэнні ўніятаў заключыць «недастаткова надзейных» манахаў Літоўскай епархіі ў Быценьскі манастыр, ля Жыровіцаў, пад нагляд епіскапа. Для «зусім ненадзейных» прызначаўся Любарскі манастыр у Валынскай губерні, акружаны праваслаўнымі прыходамі[579].

Усіх уніятаў наогул В. Скрыпіцын падзяліў на 3 групы: 1) добранадзейных, якія станоўча ставіліся да перамены веры; 2) паслухмяных і 3) непрыхільных. Да першай катэгорыі ён залічыў 633 прыходы Гродзенскай і Віленскай губерняў, Беластоцкай вобласці, заходніх паветаў Валынскай і Мінскай губерняў, а таксама Пінскага, Слуцкага і Мінскага паветаў. Да другой групы быў аднесены 441 прыход амаль усёй Віцебскай і Магілёўскай губерняў і той часткі Мінскай губерні, якая да іх прымыкала. Да трэцяй групы належалі паўночныя паветы Віцебскай губерні: Себежскі, Полацкі, Лепельскі і Дрысенскі, Дзісненскі павет Мінскай губерні, Мсціслаўскі і Сенненскі паветы Магілёўскай губерні, Оўручскі павет Валынскай губерні і Радамышльскі павет Кіеўскай губерні – усяго 151 прыход. На гэту апошнюю групу прыходаў і паветаў Скрыпіцын раіў звярнуць асаблівую ўвагу [580].

Да ведама, у 1839 г. па колькасці прыхільнікаў уніяцкага веравызнання лідзіравала Гродзенская губерня. Паводле статыстычных дадзеных 1833 г., тут пражывала 472 тысячы ўніятаў (пры агульнай колькасці насельніцтва губерні 783 тыс. у 1835 г.), у другой палове

578 Radwan M. Carat wobec kościoła greckokatolickiego w zaborze rosyjskim. 1796–1839. – Roma-Lublin: Polski Instytut kultury chreścijańskiej, 2001. – S. 174.

579 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 26.

580 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 18. – Арк. 27 адв.–28.

1838 г. – 487 тысяч уніятаў[581]. Для параўнання: у Мінскай губерні тады было 376 тысяч уніятаў, Віцебскай – 273 тысячы, Магілёўскай — 228 тысяч.[582] 99% уніятаў Гродзеншчыны і Брэстчыны – гэта сяляне[583]. У 1827 г. на тэрыторыі Гродзенскай губерні дзейнічала 279 уніяцкіх храмаў і 20 базыльянскіх манастыроў[584].

Статыстыка Скрыпіцына пацвярджала яго выснову, што найбольшы супраціў дэўнізацыі аказала духавенства ўсходу Беларусі. Завадатарамі ён лічыў святароў Івана Ігнатовіча (Галаўчынская царква Полацкага павета), Адама Тамкавіда (Іказненская царква Дзісненскага павета), Ігнація Малішэўскага (Зяленская царква Дзісненскага павета), Івана Тачыцкага (Дварэцкая царква Лепельскага павета) і Канстанціна Мальчэўскага (Старабыхаўская царква Новабыхаўскага павета). «Гэтыя 5 святароў хвалююць духавенства і нават сам народ не з рэлігійнага фанатызму, але з вальнадумства, таму неадкладнае выдаленне іх з епархіі ва ўсіх адносінах крайне неабходнае». Ён раіў пад зручнай зачэпкай выслаць іх у расійскія праваслаўныя манастыры. Такі прэцэдэнт уціхамірыў бы і астатняе «свавольнае духавенства»[585].

Больш смелы, нават дзёрзкі супраціў «видам правительства», паводле назіранняў імператарскага ўпаўнаважанага, аказвалі таксама памешчыкі і сяляне ўсходу Беларусі. Ён прапанаваў ускласці на паноў адказнасць за антыўз’яднаўчыя хваляванні сялян. За ўсялякі сялянскі супраціў раіў памешчыка дэпартаваць у расійскія губерні, а маёнтак браць у секвестр, бо непакорнасць сялян заўсёды адбываецца не інакш, як «паводле таемных настаўленняў паноў, арандатараў, упраўляючых маёнткамі і ксяндзоў»[586].

Сярод прычын, якія ўскладнялі далучэнне ўніятаў на ўсходзе Беларусі, галоўнымі Скрыпіцын назваў наступныя: 1) уплыў памешчыкаў-католікаў на сялян і святароў; 2) паслабленні для завадатараў супраціву з боку грамадзянскіх чыноўнікаў каталіцкага веравызнання; 3) пакіданне ў многіх прыходах маланадзейных

---

581 ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 3540. – Арк. 10.

582 Марозава С., Філатава А. Уніяцкая царква // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 6. – Кн. 1. – Мінск: БелЭн, 2001. – С. 585.

583 НГАБГ. – Ф. 14. – Воп. 1. – Спр. 639. – Арк. 97–100.

584 РДГА. – Ф. 824. – Воп. 1. – Спр. 78. – Арк. 43–63.

585 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 1. – Арк. 20 адв.–21.

586 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 18. – Арк. 21 адв.

святароў; 4) сакрэтнае процідзеянне епархіяльнага начальства і некаторых уніяцкіх святароў, звязаных з памешчыкамі[587].

Агульная выснова чыноўніка Сінода была наступнай: пры цяперашніх абставінах «усялякае прамаруджванне з'яўляецца шкодным, ...можа, калі не зусім разбурыць, дык адтэрмінаваць … вялікае дзяржаўнае прадпрыемства далучэння грэка-уніяцкай царквы», ды й пісьмовыя абавязацельствы пры далейшым адкладванні могуць страціць сваю сілу[588]. Нягледзячы на знешні спакой, як адзначаў В. Скрыпіцын, абстаноўка ўсё ж была трывожнай. Таму –справа за імператарскім указам аб далучэнні ўніятаў.

Сапраўды, пецярбургскі двор усё часцей бударажылі весткі пра намеры мясцовай шляхты і духавенства сарваць урадавую акцыю «уз'яднання» ўніятаў. Яны, як гаварылася ў чарговым сакрэтным паведамленні В. Скрыпіцына ад 23 жніўня 1838 г., «жадаюць схіліць уніятаў-сялян да якогасьці хвалявання, калі ўрад прыступіць да выканання»[589].

---

587 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 1–2 адв.
588 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 18. – Арк. 31.
589 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23418. – Арк. 1.

# 4. Апошні акт уніяцкай трагедыі (восень 1838 – вясна 1839 г.)

## *Пратэст 111-ці*

Восенню 1838 г. і на месцах, і ў сталіцы імперыі ўсім было відавочна, што знішчэнне ўніяцкай царквы – справа часу. Завяршаўся збор падпісак аб згодзе далучыцца да праваслаўя, «калі на тое з’явіцца найвышэйшая воля». Афіцыйны Пецярбург, дзякуючы аналітычнай справаздачы камергера Скрыпіцына, у прынцыпе арыентаваўся ў настроях, якія панавалі ў Беларусі і на Украіне. Усе чакалі толькі імператарскага ўказу аб усеагульнай канверсіі ўніятаў.

Але тут, нібы гром сярод яснага неба, у сталіцу імперыі прыляцела вестка: 111 папоў з Белай Русі (усходняй Беларусі) рашылі стаяць за ўнію. І гэта ў той час, калі ў Літоўскай епархіі ўся без выключэння ўніяцкая эліта далучылася да лагера прыхільнікаў праваслаўя! Такога дзёрзкага і масавага дэмаршу «супраць урадавай мэты» ніхто ў Пецярбургу не чакаў. 11 лістапада ў Царскім сяле обер-пракурор Сінода граф Пратасаў дакладваў пра гэта імператару: «Справа агульнага ўз’яднання ўніятаў магла б лічыцца ўжо далёка прасунутай, калі б Беларуская епархія дасягнула роўнай ступені (гатоўнасці – С. М.) з Літоўскай»[590].

«Я не спадзяваўся, што злонаўмыснікі маглі скласці настолькі моцную партыю паміж духавенствам, якое знаходзіцца ў ваколіцах самога месцапрабывання беларускага епархіяльнага начальства,» – здзіўляўся галоўны «ліквідатар» уніі І. Сямашка[591].

[590] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 1–2 адв.
[591] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 21.

Гэта «партыя» апазіцыйнага духавенства сфарміравалася ў 1838 г. у Полацку. Прыходскіх святароў, па 20 – 30 чалавек, выклікала туды епархіяльнае начальства дзеля навучання новым абрадам. Там іх трымалі па некалькі месяцаў. Такім чынам, на працягу ўсяго года праціўнікі ўз'яднання праводзілі свае нарады ў Полацку. На гэтых нарадах і быў выпрацаваны план дзеянняў[592].

К сярэдзіне верасня ў вёску Царкоўна, што ў Дрысенскім павеце Віцебскай губерні, з'ехаліся і сышліся звыш сотні апазіцыйных святароў Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў. Там 16 верасня яны правялі несанкцыянаваны сход, на якім рашылі стаяць за ўнію. Арганізатарамі акцыі пратэсту былі асэсар Полацкай грэка-уніяцкай кансісторыі Іван Ігнатовіч і Адам Тамкавід. Іван Ігнатовіч звярнуўся з пропаведдзю да народа, у якой пераконваў, «каб цвёрда трымаліся сваёй уніяцкай веры». Зачыншчыкі, як праходзіць па дакументах Сінода, «хацелі ўзбудзіць народ да супраціўлення»[593].

Царкаўнянскі сход выпрацаваў петыцыю-просьбу да імператара аб абароне і дапамозе. У кіраўніка дзяржавы прасілі назаўсёды пакінуць духавенства і прыхаджан паветаў, чые прадстаўнікі падпісалі петыцыю, ва ўніі. Прасілі прызначыць для тых, хто застаўся ва ўніі, асобага пастыра і духоўнае начальства. Петыцыю падпісалі 111 святароў. Для яе дастаўкі ў Пецярбург сход абраў дэлегацыю. Выканаць гэту місію выпала святарам Лепельскай і Астровенскай благачыній (Івану Квяткоўскаму і інш.)[594]. Каб звярнуцца з лістом да імператара, трэба было атрымаць пісьмовыя даверанасці на тое ад усіх удзельнікаў сходу. Іх збіралі Ігнатовіч і Тамкавід. Рабілі складку на пасылку дэпутацыі ў Пецярбург.

За арганізатарамі акцыі быў устаноўлены паліцэйскі нагляд. Яго наладзіў палкоўнік Агатонаў, нам ужо вядомы як жорсткі і паслядоўны выканаўца волі вышэйшага начальства па канверсіі ўніятаў. Ён жа ездзіў у Царкоўна – для разбіральніцтва на месцы[595].

Калі інфармацыя пра змову 111-ці ў падачы обер-пракурора Сінода 11 лістапада дайшла да імператара, той распарадзіўся тых духоўных Беларускай епархіі, якіх епархіяльнае начальства прызнае неабходным, выслаць у Расію[596].

---

592 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 156.

593 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 43 адв.

594 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 6 адв., 24.

595 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 46, 49–50.

596 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 1.

Петыцыя мяцежных святароў была дастаўлена ў Пецярбург дзесьці ў пачатку снежня. 28 снежня обер-пракурор Сінода дакладваў імператару, што Ігнатовіч і Тамкавід ад імя 111 святароў «адважыліся турбаваць Вашу Імператарскую Вялікасць просьбай, напоўненай самых недарэчных дамаганняў, як … звольніць іх з-пад улады цяперашняга духоўнага начальства, адкрыць асобую друкарню, нават з іх ахвяраванняў, каб друкаваць богаслужбовыя ўніяцкія кнігі замест ужываемых зараз кніг маскоўскага друку, уладкаваць духоўныя вучылішчы, … і ўрэшце, калі на гэта не адбудзецца найвышэйшай ласкі, і Унія павінна ў Расіі спыніцца, дазволіць ім прыняць рымска-каталіцкае веравызнанне»[597]. Ці не заўгодна будзе Вашай Імператарскай Вялікасці, пытаўся кіраўнік Сінода, камандзіраваць у Беларусь ў сувязі з гэтым Скрыпіцына дзеля «спрыяння ходу ўніяцкай справы ў цяперашніх важных для яе абставінах?»[598].

Вінаватых ў складанні гэтак дзёрзкай просьбы расшукаць і зрабіць падрабязнае прадстаўленне – такім быў загад імператара. Ён даручыў літоўскаму епіскапу Сямашку ехаць у Полацк, каб там «унікнуць у сапраўдныя прычыны гэтага беспарадку, прыняць меры па выпраўленні онага»[599]. Туды ж, згодна імператарскаму загаду, накіраваўся і чыноўнік па асобых даручэннях Сінода В. Скрыпіцын[600].

Усе ўдзельнікі царкаўнянскага сходу і падачы петыцыі імператару былі пакараныя. Прыцягнулі да адказнасці 29 падпісантаў. Арганізатараў гэтай акцыі пратэсту Івана Ігнатовіча і Адама Тамкавіда адправілі пад нагляд у (часовы) Курскі манастыр[601] – найбольш вядомы «перавыхаваўчы» цэнтр, спецыяльна адкрыты ў 1833 г. «для ўніяцкіх духоўных, якія па складу думак сваіх не павінны заставацца ў заходніх губернях»[602]. Але расправа з мяцежнымі святарамі – гэта ўжо асобная гісторыя…

## *Беластоцкія «бунтаўшчыкі»*

Буйны збой у падпісной кампаніі атрымаўся ў жніўні 1838 г. у Літоўскай епархіі, дзе справа дэўнізацыі ішла, здавалася, больш гладка. Цэнтрам супраціву тут стала Беластоцкая вобласць – у ёй усяго 49

[597] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 27.
[598] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 27.
[599] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 32, 39, 61, 138 б.
[600] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 32, 39, 61, 138 б.
[601] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 10716. – Арк. 22 адв.
[602] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 11116. – Арк. 78.

уніяцкіх цэркваў. Калі брэсцкі епіскап Антоній Зубко стаў збіраць тут подпісы, пайшлі масавыя адмовы. Амаль усе яны прыйшліся на Бельскае благачынне. Ідэйнымі натхняльнікамі адмовы сталі паважаныя і любімыя прыхаджанамі святары Фаустын Гаворскі з Чыжэва, Антон Панькоўскі з Новабярозава і протаіерэй Антоній Сасноўскі з Кляшчэль – чалавек высокаадукаваны, паважаны духавенствам, былы старшыня скасаванай Віленскай грэка-уніяцкай кансісторыі. Адмовіліся даць падпіскі таксама Леў Казмянскі з Корніна, Іван Імшэнін з Вялікіх Грыневіч і інш.[603]

Больш таго, 15 папоў з Беласточчыны падалі імператару просьбу, каб іх не прымушалі да праваслаўя. Гэта была не звычайная скарга, але юрыдычнымі нормамі абгрунтаванае абвінавачванне, патрабаванне спыніць уціск іх веры. Фактычна імператара заклікалі загадаць духоўнаму і грамадзянскаму начальству прытрымлівацца дзеючага заканадаўства, якое гарантуе свабоду веравызнання. У чаканні станоўчага адказу са сталіцы завадатары адмовіліся ад падпісак ды яшчэ і ўзбунтавалі ў кастрычніку сялян прыходаў Чыжэў і Новабярозаў[604], што для ўтаймавання хваляванняў у вёсках спатрэбіліся вайсковыя каманды[605].

За «непадпарадкаванне духоўнаму начальству» ўсе «адмаўленцы» былі аддалены ад прыходаў. На іх месцы прызначылі іншых. Але мяцежныя святары не змірыліся з такім паваротам справы: скардзіліся прыхаджанам, што іх несправядліва праследуюць, «унушалі чэрні правілы, супраціўныя … распараджэнням улад». Тады кансісторыя запатрабавала іх у Беласток для тлумачэнняў. Паколькі на гэты выклік яны не адрэагавалі, духоўнае начальства звярнулася да грамадзянскай улады з просьбай прымусова даставіць іх у кансісторыю.

Калі ў Чыжэў прыбыў для прыняцця прыхода благачынны Лапушынскі, па закліку звона ля царквы сабраўся натоўп сялян, каб бараніць свой храм і святара Гаворскага. Услед прыехаў бельскі земскі спраўнік. Сяляне сталі «громка наракаць», заявілі пра свой намер не прымаць Лапушынскага, абураліся наконт перамен у царкоўных абрадах і не далі канвою вывезці сваіх святароў.

---

[603] ДАРФ. – Ф. 109. – Сакрэтны аддзел. – Воп. 2. – Спр. 289. – Арк. 2.

[604] ДАРФ. – Ф. 109. – IV экспедыцыя. 1838 год. – Воп. 178. – Спр. 212. – Арк. 6 адв.–21.

[605] ДГАЛ. – Ф. 378. – Агульны аддзел. 1838 год. – Спр. 1383.

На другі дзень у Чыжэў з’явіўся іншы благачынны, Кастыцэвіч, каб прымусіць Гаворскага следаваць у вызначаны яму Тараканскі манастыр. Па знаку, дадзенаму звонам, зноў вырас натоўп чалавек да 500. Кастыцэвічу нічога не заставалася, як з Чыжэва ўдаліцца.

Тады ён накіраваўся ў Новабярозаў – дзеля высылкі святара Панькоўскага. Але і там сяляне абаранілі свайго настаяцеля. Кастыцэвіча яны прымусілі даць распіску, што больш у іх прыходзе не з’явіцца[606]

У Беласток, Вільню і Пецярбург паляцела тады данясенне: «Паміж уніятамі некаторых прыходаў Бельскага павета … хвалянне, узнятае тамашнім духавенствам з боязі быць далучанымі да праваслаўнай царквы». Галоўныя віноўнікі – уніяцкія святары, «якія падбухторылі сваіх прыхаджан да супраціўлення духоўнай і паліцэйскай уладзе»[607].

Повад да супраціву, як высветлілася, даў сам Кастыцэвіч. Выконваючы загад кансісторыі аб зборы падпісак, ён замест таго, каб узяць іх з падведамнага кліру паасобна, каб адзін пра другога нічога не ведалі, склікаў іх усіх разам – 35 чалавек – і аб’явіў волю вышэйшых духоўных улад. Таму калі ў іншых благачыннях гэта распараджэнне было паспяхова выканана, то некаторыя святары Бельскага павета аказалі супраціўленне[608].

Прынялі меры для супакаення сялян. У бунтоўныя прыходы «з мэтай перасцярогі» ўвялі на ўзмоцнены пастой ваенныя каманды – па роце салдат. Апазіцыйныя святары вымушаны былі самі з’явіцца ў Беласток. Яны звярнуліся да правіцеля вобласці са скаргай на несправядлівасць адносна іх духоўнага начальства, якое прызначыла на іх месцы іншых святароў[609].

Гаворскага і Панькоўскага выслалі ў Тараканскі манастыр. Але пад выглядам хваробы яны схілілі тараканскага настаяцеля іх адпусціць. Вярнуліся ў свае прыходы і падрыхтавалі прыхаджан для сваёй абароны[610].

Пецярбург імкнуўся пераканаць свет, што ўсё робіцца з добрай волі ўніятаў, – а тут гэтыя акцыі пратэсту: Царкоўна, Беласток.

---

[606] ДАРФ. – Ф. 109. – IV аддзел. – Воп. 178. 1838 год. – Спр. 212. – Арк. 16 адв.–17.

[607] ДАРФ. – Ф. 109. – IV аддзел. Воп. 178. 1838 год. – Спр. 212. – Арк. 6 адв.

[608] ДАРФ. – Ф. 109. – IV аддзел. Воп. 178. 1838 год. – Спр. 212. – Арк. 7 адв.–8.

[609] ДАРФ. – Ф. 109. – IV аддзел. Воп. 178. 1838 год. – Спр. 212. – Арк. 6.

[610] ДАРФ. – Ф. 109. – IV аддзел. Воп. 178. 1838 год. – Спр. 212. – Арк. 8–8 адв.

Яны выклікалі пры двары эфект выбухнуўшай бомбы, бо ставілі рэалізацыю «благодетельных видов правительства» пад сур'ёзную пагрозу. Хутчэй за ўсё яны разам з аўтарытэтнай заявай Скрыпіцына, што Беларусь да ліквідацыі ўніяцкай царквы гатова, а прамаруджванне можа разбурыць так старанна падрыхтаваную справу, прыспешылі санкцыю афіцыйнага Пецярбурга на ўсеагульную канверсію ўніятаў. Да таго ж асцерагаліся, як успамінаў пазней паплечнік І. Сямашкі М. Сушкоў, «не раззлаваць Еўропу», каб «не апалчыліся на нас замежныя ўсіх колераў часопісы»[611].

Запісы ў журнале пастаноў Літоўскай духоўнай кансісторыі (Жыровіцы) за верасень 1838 г. раскрываюць механізм нейтралізацыі «бунтаўшчыкоў» з Беласточчыны, а таксама сведчаць, што пад знешнім спакоем чакання вакол уніяцкай веры кіпелі страсці, ламаўся лёс людзей.

Вось змест некаторых з гэтых запісаў[612]:

2 верасня

– разглядалі прашэнне святароў Бельскага і Драгічынскага паветаў ад 27 ліпеня вызваліць іх ад дачы падпісак, патрабуемых епархіяльным начальствам;

– паводле прадстаўлення І. Сямашкі, пастанавілі выдаліць з прыходаў нядобранадзейных Антонія Панькоўскага (Новабярозаўская царква) і Фауста Гаворскага (Чыжэўская царква) і затачыць іх у Тараканскі манастыр для «зацвярджэння ў пакоры».

3 верасня

– абмяркоўвалі патрабаванне І. Сямашкі змясціць у Быценьскі манастыр «для выпраўлення ладу думак» святара Боцькаўскага прыхода Васіля Высекірскага.

5 верасня

– нядобранадзейнага святара царквы ў Жыдомлі Івана Савашкевіча вызначылі перавесці прычэтнікам у Заслаўе, а калі не паедзе добраахвотна, выслаць з дапамогай паліцыі;

– вырашылі выклікаць у Жыровіцы для тлумачэняў настаяцеля царквы ў Кляшчэлях Сасноўскага, які «ўзбуджае некаторых нявопытных святароў да непадпарадкавання мясцоваму благачыннаму»;

– гэтак жа выклікаць у Жыровіцы для перавыхавання ненадзейнага настаяцеля Чыжэўскай царквы Івана Філяноўскага.

611 Сушков Н. В. Воспоминания о митрополите Литовском и Виленском Иосифе и об уничтожении унии в России. – М.: Университетская тип., 1869. – С. 8.

612 ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47. – Арк. 19, 28, 54, 72, 77, 79, 104.

7 верасня

– даставіць у Жыровіцы «паліцэйскімі мерамі» святароў Давілейскага благачыння Зялінскага і Кавалеўскага, якія ўхіляюцца прыехаць у кансісторыю самі.

Гэта кніга (журнал) пастаноў Літоўскай духоўнай грэка-уніяцкай кансісторыі за верасень 1838 г. дае добрае ўяўленне пра сітуацыю ў Літоўскай епархіі напярэдадні рыхтуемай усеагульнай рэлігійнай канверсіі ўніятаў. За адзін толькі верасень 1838 г. кансісторыя 24 разы прымала рашэнні, накіраваныя на падаўленне іншадумства. У кнізе зарэгістраваны імёны 20 манахаў і прыходскіх святароў, падвергнутых рэпрэсіям.

Былі высланы ў Любарскі манастыр (на Валыні) іераманах Быценьскага манастыра Парфірый Княжынскі[613], іераманах Кузьміцкі[614]. Аддалілі ад прыходаў як «нядобранадзейных» святароў з Жыдомлі Івана Савашкевіча, з Чэрска Івана Філяноўскага, настаяцеля Трабскай царквы Франца Кулакоўскага[615]. Шэраг свяшчэннікаў выклікалі «для тлумачэнняў і іспытаў» у Жыровіцы[616]. Тых, хто ў гэты «перавыхаваўчы» цэнтр для апазіцыйнага духавенства быў запатрабаваны раней, але ад паездкі ўхіляўся, дастаўляла паліцыя[617].

Балявой кропкай «уз’яднання» ўніятаў, як відаць з вышэйзгаданай кнігі пастаноў Літоўскай кансісторыі, сталі Бельскі і Драгічынскі паветы Беластоцкай вобласці. Яшчэ 27 ліпеня іх святары падалі прашэнне вызваліць іх ад выдачы патрабуемых епархіяльным начальствам падпісак[618].

Настаяцель Кляшчэлеўскага прыхода протаіерэй Сасноўскі, святары Корнінскай царквы Сімяон і Леў Казмянскія «злонаўмыснымі і недарэчнымі намовамі падбухторвалі некаторых нявопытных святароў да непадпарадкавання мясцоваму благачыннаму і распараджэнням епархіяльнага начальства»[619]. Таму іх, а таксама «нядобранадзейных» святароў Бельскай Прачысценскай царквы Антона і

---

[613] ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47. – Арк. 36.

[614] ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47. – Арк. 128.

[615] ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47. – Арк. 72–72 адв., 79, 150 .

[616] ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47. – Арк. 77–77 адв., 79, 104, 317, 318, 332, 402.

[617] ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47. – Арк. 104.

[618] ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47. – Арк. 19.

[619] ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47. – Арк. 77, 317.

Мікалая Гіжэўскіх, святара Івана Імшэніна выклікалі ў Жыровіцы[620]. Антона Панькоўскага (Новабярозаўская царква) і Фауста Гаворскага (Чыжэўская царква), як найбольш дзейных з бельска-драгічынскай апазіцыі, дзеля «зацвярджэння ў пакоры» палічылі за лепшае ўпячы ў Тараканскі манастыр[621].

Стараннем вікарнага епіскапа Літоўскай епархіі Антонія, паводле справаздачы В. Скрыпіцына, з мястэчка Жыровіцы сярод заходніх губерняў быў створаны «зусім рускі і па духу праваслаўны» гарадок, выдатна здольны да выпраўлення ўсіх выкліканых сюды духоўных асоб .

Падвергнутыя тут масіраванай ідэалагічнай апрацоўцы і псіхалагічнаму ціску, бытавым, а то і фізічным лішэнням, святары пачыналі здавацца. «Зусім выправіўся» пасля жыровіцкай «навукі» і атрымаў дазвол вярнуцца ў свой прыход святар Вішнянскай царквы Міхаіл Кульчыцкі[622]. Знялі забарону на свяшчэннадзеянне са святара Радваніцкай царквы Паўла Гарачкі[623]. А вось святар Палбрэскай царквы (з вёскі Дзялятычы Навагрудскага дэканата) Рафаіл Слаўта, хоць і абавязаўся распіскай выконваць абрады ўсходняй царквы, але «не хоча выконваць … волі начальства»[624].

Літоўская кансісторыя вырашала ў верасні 1838 г. лёс не толькі падначаленага духавенства, але таксама сялян і шляхты, якія вярнуліся з праваслаўя ва ўніяцкую веру або, каб ухіліцца ад аправаслаўлівання, прынялі лацінскі абрад. Атрымалі вымову за ўмяшанне ў праваслаўны прыход базыльяне Ляшчынскага манастыра, якія «спакусілі» сялянку з вёскі Дамашыцы (Пінскі павет Мінскай губерні) назад ва ўнію[625].

Рашэннем кансісторыі падлягалі вяртанню «ў прабацькоўскае сваё грэка-уніяцкае веравызнанне» прыхаджане Начаўскай і Груздоўскай цэркваў, сялянін з вёскі Ліпічанка Лідскага дэканата, якія перайшлі на лацінскі абрад[626]. Лёс ашмянскіх уніятаў, якія

620 ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47. – Арк. 318, 322.
621 ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47. – Арк. 28.
622 ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47. – Арк. 402.
623 ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47. – Арк. 357.
624 ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47. – Арк. 453.
625 ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47. – Арк. 405, 408.
626 ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47. – Арк. 400, 465.

паспрабавалі «схавацца» ў рыма-каталіцызме, вырашаў мясцовы земскі суд[627].

А вось веравызнаўчую прыналежнасць шляхціца Лемяшэўскага (вёска Лемяшэвічы Пінскага павета), які перайшоў на лацінскі абрад, вызначаў сам імператар. Ён загадаў уніяцкаму духавенству схіліць Лемяшэўскага «ў яго прыроднае ўніяцкае спавяданне». Выконваць манаршую волю кансісторыя даручыла пінскаму дэкану: ушчуваць Лемяшэўскага, а калі не будзе поспеху, выклікаць на апрацоўку ў Жыровіцы. Не будучы чалавекам духоўнага ведамства, шляхціч мог адмовіцца ад такой «прагулкі». Але і гэта прадугледзела кансісторыя – даставіць у такім выпадку яго пад канвоем паліцыі[628].

Уніяцкая царква, як 25 кастрычніка сакрэтна інфармаваў з Жыровіцаў обер-пракурора Сінода епіскап Антоній, цяпер нагадвае нанова адбудаваны будынак, які застаецца аднак без даху. Дах – гэта воля ўрада. «Без нее враждебные стихии начинают уже нашептывать, что присоединение к православию есть изменение веры прародительской... Уже появляются маленькие возмущения прихожан, проистекающие от неблагонамеренных священников. Епархиальное начальство предпринимает против онаго меры, но пока дело в секрете (официальном), эти меры будут недостаточны»[629].

Восенню 1838 г. пайшло па высокім інстанцыям: Сінод, міністэрства ўнутраных спраў – сакрэтнае данясенне літоўскага епіскапа. Памешчыкі Беларусі, як паведамляў ён, – больш за палову тамашніх рыма-католікаў – «супрацьдзейнічаюць уніяцкай справе». А асаблівую небяспеку для яе ўяўляюць губернскія прадвадзіцелі дваранства: віцебскага – Шадурскі і магілёўскага – Галынскі, а таксама былы полацкі прадвадзіцель дваранства Беліковіч[630]. Беліковіч і Шадурскі «падбухторвалі» ўніяцкіх святароў, абяцалі сваю апеку, абнадзейвалі пераменай абставін. Яны заступаліся за тых з іх, хто за сваю вернасць уніі падлягаў пакаранню Полацкай духоўнай калегіі.

---

[627] ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47. – Арк. 399.

[628] ДГАЛ. – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47. – Арк. 125, 345.

[629] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23442. – Арк. 1 адв.; Пятидесятилетие (1883–1889 г.) возсоединения с православною церковию западно-русских униатов: Соборные деяния и торжественные служения в 1839 году. – СПб., 1889. – С. 52.

[630] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23222. – Арк. 6–7.

Мясцовыя дваранскія лідэры прапаноўвалі свае сродкі на друкаванне ўніяцкага служэбніка замест навязваемага маскоўскага[631].

З Пецярбурга спусцілі ўказанне: іх умяшанне ва ўніяцкія справы не дапусціць. За іх учынкамі і ладам думак устанавіць неаслабны сакрэтны нагляд[632]. …Гісторыя ўніяцкай царквы ў Беларусі адлічвала апошнія месяцы і дні.

## *Апошняя «зачыстка» рэлігійнага поля, або за кулісамі Полацкага царкоўнага сабора*

Гучная «справа 111-ці» і «акт 15-ці» былі апошнімі радыкальнымі крокамі духавенства ў ратаванні ўніі. Далей ужо ішлі, галоўным чынам, рэпрэсіі: пераслед, арышты, дэпартацыя, высылка, зняволенне, здзекі. Закліканыя забяспечыць поспех «уніяцкай справы» на яе апошнім этапе, яны сталі нам раней малавядомым закулісным дзействам Полацкага царкоўнага сабора. Пачалася, скажам так, зачыстка рэлігійнага поля ў Беларусі. На падаўленне ўніі мабілізавалі ўвесь апарат царскай улады: Сінод, сенат, міністэрства ўнутраных спраў, губернатараў, паліцыю, войска. Пецярбург усур'ёз чакаў масавых хваляванняў у Беларусі і на Украіне. Таму рэпрэсіўная машына была заведзена да адказу.

4 лістапада обер-пракурор Сінода граф Пратасаў папярэджваў віленскага генерал-губернатара М. Далгарукава аб неабходнасці «ўзмацнення мер бяспекі… для папярэджання хваляванняў пры цяперашнім пераўтварэнні ўніяцкай царквы», асабліва ў Беластоцкай вобласці. Беларускага генерал-губернатара ён інфармаваў пра неабходнасць прыняцця мер перасцярогі ў Себежскім, Полацкім. Лепельскім і Дрысенскім паветах Віцебскай губерні, Мсціслаўскім і Сенненскім паветах Магілёўскай губерні[633].

11 лістапада ў Царскім сяле обер-пракурор Сінода дакладваў імператару, з падачы Скрыпіцына, наступнае: «Справа агульнага ўз'яднання ўніятаў магла б лічыцца ўжо далёка прасунутай, калі б Беларуская епархія дасягнула роўнай ступені (гатоўнасці – С. М.) з Літоўскай. …Цяпер асабліва патрэбна намаганне мясцовых грамадзянскіх начальстваў утаймоўваць яўныя і тайныя

631 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23236. – Арк. 25.
632 РДГА. – Ф. 797. - Воп. 7. – Спр. 23222. – Арк. 7 адв., 9.
633 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23442. – Арк. 1 в.

супрацьдзеянні… У дачыненні асоб, якія распасціраюць сваю нядобранадзейнасць да дзёрзкага ўзбуджэння іншых супраць урадавай мэты, … прысутнасць іх у заходніх губернях робіцца шкоднай».

Кіраўнік рэлігійнымі справамі імперыі прасіў найвышэйшага дазволу на высылку тых духоўных Беларускай епархіі, якіх епархіяльнае начальства прызнае патрэбным, у вялікарасійскія манастыры, а таксама на сакрэтнае даручэнне генерал-губернатарам заходніх губерняў «аб узмацненні … мер перасцярогі і пільнага нагляду дзеля папярэджання найменшых беспарадкаў пры цяперашнім пераўтварэнні грэка-уніяцкай царквы»[634]. Вынікам гэтага хадайніцтва стаў імператарскі ўказ: ваенна-павятовым начальнікам мець за ўніяцкай справай «аккуратнейшее, согласное с высочайшею волею наблюдение, содействуя всемерно духовному начальству»[635].

28 снежня обер-пракурор Сінода прапанаваў Мікалаю I ў сувязі са «справай 111-ці» зноў камандзіраваць у Беларускую епархію В. Скрыпіцына дзеля «садзеяння ходу ўніяцкай справы ў цяперашняй важнай для яе сітуацыі». Імператар даручыў Скрыпіцыну вінаватых у падачы дзёрзкай просьбы расшукаць і пакараць[636]. У той жа дзень з'явіўся імператарскі ўказ: пад пагрозай пакарання абмежаваць перасоўванне рымска-каталіцкага духавенства па тэрыторыі заходніх губерняў і аказанне імі рэлігійных паслуг для ўніятаў[637]. Баяліся тайнага місіянерства – яно магло хваляваць людскія розумы, перакрывалі яшчэ адзін канал магчымага выбуху незадавальнення «ўз'яднаннем».

4 студзеня 1839 г. у Пецярбургу адбылося чарговае пасяджэнне Сакрэтнага камітэта. На яго запрасілі і генерал-губернатараў: смаленскага, віцебскага і магілёўскага Дзякава, а таксама віленскага, гродзенскага, беластоцкага і мінскага Далгарукава. Прысутнічалі шэф жандараў генерал Бенкендорф, міністр дзяржаўных маёмасцяў П. Кісялёў, міністр унутраных спраў Д. Блудаў, обер-пракурор Сінода Пратасаў. Абмяркоўвалі выпрацаваную Сакрэтным камітэтам інструкцыю. У ёй – «часова дараваныя (на перыяд усеа-

[634] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 1–2 адв.
[635] ДГАЛ. – Ф. 421. – Воп. 1. – Спр. 552. – Арк. 3 адв.
[636] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 29–29 адв., 32.
[637] ДГАЛ. – Ф. 378. – Палітычны аддзел. 1839 год. – Спр. 797. – Арк. 1–1 адв.

гульнай рэлігійнай канверсіі ўніятаў – С. М.) генерал-губернатарам асаблівыя правы, якія перавышаюць іх звычайную ўладу»[638].

«Для большага поспеху агульнага ўз'яднання ўніятаў, – гаварылася ў той інструкцыі, – ён (урад – С. М.) прызнае неабходным даць усемагчымае адзінства распараджэнням галоўных начальнікаў Заходняга краю да ўтаймавання ўсіх магчымых супрацьдзеянняў». Каб рымска-каталіцкае духавенства і шляхта, з боку якіх найперш чакалася супрацьдзеянне, не смелі «ні яўна, ні тайна, пропаведзямі або настаўленнямі падрываць цяперашнюю схільнасць уніятаў да ўз'ядання..., каб нідзе, у гарадах і сялібах, не дапускалася ані найменшая непакора начальству, а тым больш парушэнне грамадскага спакою». Ажыццяўляць паліцэйскі нагляд над сялянамі абавязалі саміх паноў і арандатараў, якіх належала папярэдзіць пра ўсю «адказнасць, якой яны падвяргаюць сябе ў выпадку хваляванняў у іх маёнтках».

«Незалежна ад гэтых паліцэйскіх мер, – апавяшчаў чацвёрты пункт інструкцыі, – і пры гэтым без далейшага адкладу генерал-губернатары і, згодна іх настаўленню, начальнікі губерняў … абяруць … зручныя пункты ў гарадах і сялібах для размяшчэння ў іх войскаў пастоем… Для ўвядзення войскаў у паветы, дзе іх няма і дзе прадбачыцца ў тым патрэба, генерал-губернатары адразу ж звернуцца да ваеннага міністра…»

Рымска-каталіцкаму духавенству «пад пагрозай найстражэйшага спагнання» забаранялася адпраўляць трэбы для ўніятаў і ганіць праваслаўную веру. Абмяжоўвалася перасоўванне каталіцкага духавенства ў межах заходніх губерняў. Уніяцкае духавенства, якое не падпарадкоўвалася свайму начальству, падлягала выдаленню. Генерал-губернатары атрымлівалі права высылаць такіх духоўных у праваслаўныя манастыры ў глыб Расіі, а асоб «з меншай ступенню фанатызму» – змяшчаць пад нагляд у манастырах паўднёвых губерняў.

Генерал-губернатары надзяляліся правам адхіляць ад пасады прадвадзіцеляў дваранства, гараднічых, земскіх спраўнікаў, западозраных «у саўдзеле іх процідзеянню відам ураду», а таксама выдаляць з маёнткаў памешчыкаў і арандатараў, калі яны дапусцяць у іх хваляванні сялян або будуць шкодзіць поспеху справы. Маёнткі ў

[638] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 22. – Арк. 1–1 адв.

такім выпадку перадаваліся ў казённае праўленне. Калі ж «прысутнасць такіх уладальнікаў у Заходнім краі акажацца шкоднай», трэба высылаць у вялікарасійскія губерні, якія не мяжуюць з заходнімі губернямі, як і ўсіх духоўных і свецкіх асоб, якія б асмеліліся «пахіснуць цяперашнюю схільнасць грэка-уніятаў да ўз'яднання». «У выпадку ўзброенага мяцежу … аддаваць іх ужо ваеннаму суду». Пра ўсе свае захады адносна духоўных і свецкіх асоб генерал-губернатары павінны былі інфармаваць міністэрства ўнутраных спраў і Сінод[639].

Незадоўга да гістарычнага сабора, які павінен быў паставіць апошнюю кропку на гісторыі ўніяцкай царквы ў Беларусі, па загаду Мікалая I у Полацк прыбыў дарадчык обер-пракурора Сінода В. Скрыпіцын. Ён меў «асобае даручэнне па грэка-уніяцкіх справах», выкладзенае ў сакрэтнай запісцы-інструкцыі ад 6 студзеня 1839 г., атрыманай ад свайго шэфа. «Уважліва назіраць за настроямі грэка-уніяцкага духавенства, – патрабавала інструкцыя. – Звяртаць пастаянную ўвагу на супрацьдзеянні, якія могуць быць ад памешчыкаў і лацінскага духавенства… Калі заўважаны будзе дзесьці пачатак неспакою, схільнасць да хвалявання, неадкладна з эстафетай апавяшчаць пра гэта мясцовага губернатара, даводзячы разам з тым да ведама генерал-губернатара, з дадаткам яму, калі будзе вядома, якія асобы ёсць галоўныя зачыншчыкі і ўзбуджальнікі астатніх… Штотыднёва дакладваць мне пра ўсё заўважанае вамі па ўскладзенаму на вас даручэнню, пра вашы дзеянні, пра асобаў, якія асабліва адзначыліся руплівасцю або заўважаныя ва ўпартасці і нядобранадзейнасці, далейшае прабыванне якіх у тым краі можа быць у цяперашні час шкодным»[640].

У адпаведнасці з гэтымі інструкцыямі, у Чашніках арыштавалі і адправілі ў Полацк Івана Ігнатовіча, арганізатара акцыі пратэсту ў Царкоўне. Кіраваў арыштам – адпаведна значнасці «злачынцы» – вядомы змагар з уніятамі падпалкоўнік Агатонаў. Бунтара ў расе, чыё прабыванне ў Беларусі палічылі «шкодным, як з-за непрыхільнасці яго да праваслаўя, так і з-за ўплыву, якое ён меў на іншае духавенства», 10 студзеня пад канвоем павезлі ў Смаленск. Далейшы шлях ляжаў у Прадцечанскі манастыр у Вязьму[641].

---

[639] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 22. – Арк. 1 адв.–7.
[640] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 22. – Арк. 62–67.
[641] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 22. – Арк. 78, 83, 137, 152.

Другога арганізатара царкаўнянскага сходу і петыцыі на імператарскае імя Адама Тамкавіда арыштавалі ў Іказні Дзісненскага павета і перапраілі ў Мінск, а адтуль 26 студзеня – у Курск. Праз два тыдні, 9 лютага, яго даставілі на месца высылкі[642]. Перамешчаныя на сотні кіламетраў ад таго месца, дзе рыхтаваўся апошні акт уніяцкай трагедыі, Іван Ігнатовіч і Адам Тамкавід небяспекі ўжо не ўяўлялі.

Скрыпіцын вяршыў расправу ў Полацку. І. Сямашка пакуль даваў распараджэнні адносна неслухаў з Пецярбурга. У лісце у Літоўскую кансісторыю ад 9 студзеня ён абураўся тым, што шэсць «нядобранадзейных» святароў яшчэ кіруюць прыходамі, патрабаваў выклікаць іх на перавыхаванне ў Жыровіцы, а калі і там не ўдасца пераканаць іх кінуць унію, то замяніць «надзейнымі» людзьмі[643]. 13 студзеня І. Сямашка даў указанне неадкладна вывезці пад ваенным канвоем у расійскія манастыры іншадумных іераманахаў Віктара Басяцкага, Анаклета Данілевіча і Іллю Андрушкевіча – адпаведна ў Курскую, Арлоўскую і Чарнігаўскую епархіі. Часу на зборы ім не далі[644].

Для разборкі з царкаўнянскімі мяцежнікамі, якія выявілі «дух сваволля і непакорнасці», у пачатку лютага прыбыў у Полацк, згодна з імператарскім загадам, І. Сямашка. Ён заняўся разборкай па «справе 111-ці». Шукалі складальніка прашэння, людзей, якія сваімі даверанасцямі ўпаўнаважылі дэлегацыю на падачу петыцыі імператару.

Галоўную прычыну «гэтак важнага супраціву духавенства Беларускай епархіі» літоўскі епіскап убачыў «у раздражнёнасці і нават разлютаванасці, выкліканымі ў яго цяжкімі наступствамі ранейшай сістэмы пераварочвання ўніятаў». Такімі настроямі, сцвярджаў ён, намагалася скарыстацца варожая справе польска-каталіцкая партыя. Звальненне епіскапа Смарагда, князя Хаванскага і губернатара Шрэдара, якое лічыцца справай рук гэтай партыі, узмацніла аўтарытэт яе намоў, нібыта пераўтварэнні грэка-уніякай царквы робяцца самім яе духоўным начальствам і супраціўныя намерам гасудара-імператара.

Другой прычынай Сямашка лічыў слабасць духоўнай улады ў Беларускай епархіі. Нядобранадзейныя святары, якіх выклікалі ў По-

---

642 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 22. – Арк. 78, 83, 125, 136, 137, 152.

643 ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 2. – Спр. 2100. – Арк. 1.

644 ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 3782. – Арк. 1, 10.

лацк «дзеля намоў або выпраўлення», заставаліся на прыходах, нават будучы ад іх адлучанымі. І гэта нягледзячы на прадпісанні начальства. Не дзіўна, піша ён ў сваёй справаздачы обер-пракурору Сінода, што знайшлося 111 духоўных асоб, якія падпісалі даверанасць на падачу прашэння імператару супраць уласнага начальства[645].

Адзін з іх, Захарый Маркоўскі, як паведамляў 4 лютага з Полацка ў Сінод епіскап Іосіф, «дзейнічаў рашуча і амаль адкрыта… і таму звольнены яшчэ ў мінулым годзе ад Чашніцкага прыхода і ад пасады благачыннага. Пій Перабіла звольнены таксама за падобныя ўчынкі ад Бешанковіцкага Ільінскага прыхода і ад пасады благачыннага». Разам з настаяцелем Дварэцкай царквы Іванам Тачыцкім яны «маюць моцны і шкодны ўплыў на духавенства». «Дзеля супакаення мясцовага грэка-уніяцкага духавенства, а таксама дзеля выкаранення сярод яго духа ўпартасці і непакоры» Сямашка палічыў за лепшае ўпячы згаданых трох асоб ў расійскія манастыры[646].

Распраўляючыся з бунтарамі ў расах, Сямашка, як ён сам адзначаў, кіраваўся трыма мэтамі: 1) разарваць сувязі паміж членамі «шматлікай партыі духавенства, якое запрацівілася распараджэнням Беларускага епархіяльнага начальства»; 2) аднавіць уладу гэтага начальства; «знішчыць дух сваволля і думкі пра беспакаранасць» з яго боку; 3) «аблегчыць таму ж начальству спосабы ўздзейнічаць на розум астатняга духавенства, яшчэ не набытага праваслаўнай царквой»[647].

«Мінулы тыдзень, – пісаў Сямашка обер-пракурору Сінода Пратасаву 8 лютага, – прысвяціў я разгляду абставін справы, мне даручанай. На жаль, значная колькасць духавенства, уцягнутага ў супрацьдзеянне, … не дазволіла мне абмежавацца некалькімі прыкладамі строгасці. Аказалася неабходным зрабіць нашмат важнейшае ўражанне, каб разарваць шайку, існаваўшую даволі ўжо працяглы час, каб устараніць у аддаленыя месцы людзей, якія ёй кіравалі», каб пазбавіць іх магчымасці зносін паміж сабой і з астатнім духавенствам Беларускай епархіі».

Гісторык і архівіст Д. В. Лісейчыкаў, правёўшы даследаванне штодзённага жыцця ўніяцкага парафіяльнага святарства беларуска-

[645] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 22. – Арк. 138 б*.
[646] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 22. – Арк. 123–123 адв.
[647] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 22. – Арк. 138 б.

літоўскіх зямель у 1720–1839 г., прыйшоў да высновы, што да моманту далучэння гэтых зямель да Расійскай імперыі парафіяльнае святарства практычна не ўдзельнічала ў палітычным жыцці. Царская палітыка дэўнізацыі вымусіла іх гуртавацца. У 1830-я г. па ўсёй тэрыторыі беларуска-літоўскіх губерняў, асабліва ў Віцебскай і Мінскай, сярод іх пачалі стыхійна ўзнікаць патаемныя гурткі праціўнікаў новаўводзінаў. Найбольш яскравае ўвасабленне іх дзейнасць знайшла ў правядзенні дзвюх буйнамаштабных акцый непадпарадкавання новаўводзінам: збор подпісаў у Докшыцка-Барысаўскім дэканаце ў 1835 – 1836 г. і «фэст» у вёсцы Царкоўна Дрысенскага павета ў 1838 г., на які з'ехалася большасць святароў Беларускай епархіі, і было сабрана і адаслана на імя імператара 111 святарскіх подпісаў супраць аб'яднання з праваслаўнай царквой[648].

Апальных святароў, падпісантаў петыцыі, «каб адабраць у пазначаных духоўных надзею на ранейшае бяздзеянне паліцыі», І. Сямашка распарадзіўся неадкладна адправіць у вызначаныя для іх месцы выгнання ў суправаджэнні паліцыі[649].

У Трыгурскі манастыр «на чорную работу» выслалі Андрэя Нікановіча і Івана Латто. Яго аддаленасць ад уніяцкіх цэркваў павінна была пазбавіць гэтых упартых святароў сродкаў «шкоднага ўплыву» на астатняе духавенства. У Любарскі манастыр «пад нагляд да поўнага выпраўлення» даставілі Фаму Чабаноўскага і Грыгорыя Эльяшэвіча, у Жыровіцы – Ігнація Хруцкага. 14 лютага Пія Перабілу часова, «да асобага распараджэння», выслалі ў Аршанскі манастыр «пад нагляд настаяцеля і паліцыі». Услед за ім 21 лютага туды павезлі Івана Тачыцкага.

Руплівасцю Сямашкі высылцы з Беларускай епархіі падлягала 20 святароў, якія далі І. Ігнатовічу і А. Тамкавіду даверанасці на падачу прашэння імператару. Адны былі адпраўлены ў Літоўскую епархію для назначэння на пасады прычэтніка «пры разважных настаяцелях», другія – заключаны ў аддаленыя, размешчаных паміж праваслаўным насельніцтвам уніяцкія манастыры, трэція – высланы ў манастыры Расіі.

---

[648] Лісейчыкаў Д. В. Штодзённае жыццё уніяцкага парафіяльнага святарства беларуска-літоўскіх зямель (1720–1839 гг.). Аўтарэферат дыс. … канд. гіст. навук. – Мн., 2009. – С. 17–18.

[649] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 22. – Арк. 121, 132–132 адв., 138 б.

Кіраўнік духоўнага ведамства дзяржавы Пратасаў такое пакаранне санкцыянаваў. У сваім сакрэтным лісце ад 20 лютага ён цікавіўся ў аршанскага епіскапа Васілія, «ці ўсе яны сапраўды адпраўлены да месцаў іх прызначэння»[650]. Чыноўнікі на месцах, якія непасрэдна ажыццяўлялі арышт і дэпартацыю, спрацавалі не так аператыўна, як гэта было патрэбна Сіноду. Трэцяга сакавіка «за маруднасць у высылцы грэка-уніяцкіх святароў Мараўскага і Стульчынскага» знялі з пасады станавога прыстава, зрабілі строгую вымову членам Дрысенскага земскага суда[651].

Пераведзеныя дзячкамі ў Літоўскую епархію, святары з усходу Беларусі звязвалі з місіяй  Скрыпіцына надзею на аднаўленне справядлівасц. Спадзяваліся, што ён ва ўсім разбярэцца, дакладзе імператару і той задаволіць іх жаданне застацца ва ўніі. У чаканні царскага рашэння яны ўмовіліся настойліва стаяць на сваім. Яны заўлялі аб сваім непрызнанні цяперашняга духоўнага начальства, як прыналежнага да іншай царквы, і яго праве караць іх[652].

Ад галоўных зачыншчыкаў царкаўнянскай акцыі пратэсту пазбавіліся. Але на месцах заставаліся яшчэ многія дзесяткі яе ўдзельнікаў, «уцягнутыя ў яе болей староннімі інтрыгамі, чым па ўласнаму жаданню, якія аднак яшчэ не засведчылі начальства ў сваім раскаянні». Лёс 68 святароў, якія падпісалі «супрацьзаконныя даверанасці» на імя Ігнатовіча і Тамкавіда, вырашаў Сямашка 11 лютага. Вось што займала яго думкі за дзень да гістарычнага Полацкага царкоўнага сабора!

Ён распарадзіўся выклікаць іх па чарзе ў Беларускую кансісторыю для разборкі. Тых, хто раскаецца, можна вяртаць на месца службы. Тых, хто адмовіцца ад раскаяння, і нядобранадзейных падвяргаць забароне. «А калі каторыя з царкоўнаслужыцеляў акажуцца лішнімі або шкоднымі па Беларускай епархіі», заключаць такіх пад нагляд у манастыр[653].

«На астатнюю масу духавенства яшчэ няпэўнай добранадзейнасці» ён раіў уздзейнічаць праз благачынных, «цяпер

---

[650] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 124, 125, 131–132 адв., 138 б, 148 адв.

[651] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 154.

[652] Чистович И. Пятидесятилетие (1839–1889 г.) возсоединения с православною церковию западно-русских униатов. – СПб., 1889. – С. 56–57.

[653] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 22. – Арк. 123–123 адв.

ужо амаль усіх надзейных». А потым рэкамендаваў выклікаць іх для перавыхавання ў Полацк па 2–3 чалавекі – «каб зноў не даць повада скласціся шматлікай бандзе неслухаў». Тых, хто адмовіцца змяніць веру, Сямашка патрабаваў пастунова замяшчаць надзейнымі святарамі.

З часам большасць рэпрэсіраваных святароў была зламана і вымушана даць згоду кінуць унію на карысць праваслаўя.

«Пасля гэткіх мер, – пісаў уладыка, – я не чакаю ніякага важкага супраціву з боку няпэўнай яшчэ добранадзейнасці святароў Беларускай епархіі. … Пра манахаў не варта хвалявацца, … таму што наогул амаль ужо пазбаўлены ўсялякага ўплыву на грэка-уніяцкі народ. Адзіна, на што належыць звярнуць увагу, ёсць … спробы ўзняць прыхаджан супраць святароў, прызначаных на месца духоўных, якія аказаліся нядобранадзейнымі». Памешчыкаў, настаўляў далей Сямашка, праз прадвадзіцеляў дваранства трэба папярэдзіць, што хваляванні сялян у іх уладаннях будуць разглядацца як іх уласная безадказнасць.

Пасля ўсіх прынятых і плануемых да выкарыстання мер, заключаў літоўскі епіскап, «не знаходжу ніякага повада прыпыняць мяркуемае далучэнне ўніятаў, насупраць, лічу, што гэта мера будзе рашуча садзейнічаць канчатковаму вынішчэнню элементаў супрацьдзеяння. Адна толькі перасцярога можа быць не лішняй, менавіта: каб не абвяшчаць цяпер афіцыйна ўказу Св. Сінода…, каб выйграць час…»[654].

Шмат намаганняў было прыкладзена свецкімі і духоўнымі ўладамі, каб дасягнуць жаданай развязкі. Паводле ўспамінаў М. В. Сушкова, 3 або 4 лютага 1839 г. усім павятовым прадвадзіцелям дваранства накіравалі канфідэнцыйны ліст. Іх абавязвалі наведаць усіх памешчыкаў свайго павета і асабіста аб’явіць кожнаму, што «справа ўніі – вырашаная», што тыя адказваюць за захаванне спакою ў сваіх маёнтках і ў выпадку любых хваляванняў, калі не змогуць іх самі ўтаймаваць, будуць пакараны аддачай маёнткаў у апеку. Паны, як пісаў Сушкоў, «вразумились от такого объявления»[655].

[654] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 22. – Арк. 138 б.

[655] Сушков Н. В. Воспоминания о митрополите Литовском и Виленском Иосифе и об уничтожении унии в России. – М., 1869. – С. 10, 11.

Між тым, апошні акт уніяцкай трагедыі няўмольна набліжаўся. Падрыхтаваліся да яго, трэба адзначыць, вельмі старанна.

Дзеля канчатковых нарад адносна «вяртання ўніятаў да праваслаўнай царквы» ў Полацк прыбылі таксама епіскапы Васіль Лужынскі, Антоній Зубко. «Падрыхтаваны для паднясення гасудару імператару акт (аб далучэнні ўніятаў да Рускай праваслаўнай царквы – С. М.), – паведамляў з Мінска шэфу жандараў Бенкендорфу маёр Ламачэўскі, – будзе падпісаны важнейшымі духоўнымі асобамі, у колькасці да 22-х. Да яго будзе дададзена да 1800 падпісак уніяцкіх благачынных і святароў, якія выказалі жаданне на прыняцце ранейшых абрадаў праваслаўнай царквы, перайначаных часам і ўплывам палітычных абставін»[656].

Значыць, планавалася прадэманстраваць ураду поўнае, 100-працэнтнае, аднадушша духавенства ў жаданні кінуць унію. Да апошняга моманту спадзяваліся дамагчыся менавіта такой колькасці згодных. Відаць, гэта лічба падпісак была наперад афіцыйна абвешчана Сямашкай. Трэць духавенства іх усё-такі не дала.

У гэтым святле інакш успрымаецца лічба 1305 падпісак, далучаных да саборнага акта. Яна хоць і забяспечыла перамогу Блудаву-Сямашцы, але з улікам прагнозных, так сказаць, паказчыкаў, метадаў выбівання гэтых падпісак, была для іх не поспехам, але няўдачай. Гэта тлумачыць і жорсткасць таго рэпрэсіўнага махавіка, які да апошняга дня выбіваў з раз'яднаных святароў іх подпісы і караў тых са 111-ці, хто ад свайго подпісу ў абарону ўніі не адрокся. Скрыпіцыну і Сямашцы належала ў гэтым першаступенная роля.

12 лютага 1839 г. сабраныя на саборы ў Полацку тры епіскапы і 21 іншая духоўная асоба прынялі Акт, у якім абвяшчалася адзінства з Рускай праваслаўнай царквой і ўтрымлівалася просьба да імператара Мікалая І садзейнічаць хутчэйшаму далучэнню ўніятаў да праваслаўя. Да саборнага Акта прыкладалася 1305 распісак-абавязацельстваў святароў і манахаў.

Колькасць распісак зусім не азначала колькасці тых, хто адрокся ад уніі. Паводле Г. Кіпрыяновіча, у распісках беларускага духавенства (ён меў на ўвазе духавенства Беларускай епархіі) не было шчырасці. Подпісы рэдка даваліся шчыра і добраахвотна, час-

[656] ДАРФ. – Ф. 109. – IV экспедыцыя. 1839 год. – Воп. 179. – Спр. 58. – Арк. 6–6 адв.

цей за ўсё – пад уплывам страху – В. Лужынскі папярэджваў, каб не спадзяваліся на беспакаранасць, – або разліку. Адны марылі тайна падтрымаць унію, іншыя жадалі вычакаць, што скажа час. Праўда, вырваныя падпіскі вымушалі быць больш асцярожнымі ў праяве сваіх уніяцкіх сімпатый[657].

Даследчык «уз'яднаўчай» дзейнасці полацкага архіепіскапа Смарагда М. Глубакоўскі таксама сведчыць, што сярод гэтых дакументаў «пераважалі падпіскі вымушаныя, фальшывыя, няшчырыя, якія Васіль Лужынскі збіраў то бакалам шампанскага, то шляхам запужвання»[658].

593 чалавекі, у тым ліку 172 манахі, сваёй згоды так і не далі. Дарэчы, Полацкі царкоўны сабор, яго пярэдадзень, ход, вынікі яшчэ чакаюць свайго незаангажаванага беларускага даследчыка.

Ужо пасля сабора Скрыпіцын прасіў віцебскага, магілёўскага і смаленскага генерал-губернатара аб высылцы з Сенненскага павета Віцебскай губерні 14 святароў, якія ў верасні мінулага года падпісалі прашэнне ў абарону ўніі на царскае імя[659]. 25 лютага 1839 г. у Віцебску яны трымалі адказ перад самім царскім пасланнікам. Прысутнічаў запрошаны ім палкоўнік корпуса жандараў Куцынскі. Абвінавачаныя ў супрацьдзеянні імператарскай волі, маральна зламаныя і застрашаныя, безабаронныя, святары далі пісьмовае абяцанне, што «заўсёды будуць павінавацца свяшчэннай волі манарха і … ўладам». Адзін толькі Адам Ранчэўскі ад такога абавязацельства, а, значыць, як націскалі высокапастаўленыя следчыя, ад пакоры ўладам адмовіўся, «выявіў дух упартасці і дзёрзкага свавольства». Па распараджэнню Скрыпіцына яго павезлі пад паліцэйскім канвоем у Полацк, да аршанскага епіскапа Васілія[660]. Далейшы лёс святара быў прадвызначаны.

Потым Скрыпіцын паехаў у Магілёў і Мінск , каб там давяршыць справу «ўз'яднання ўніятаў». Але варта было яму часова выехаць з Полацка, як пачалася новая хваля антыўз'яднаўчых хваляванняў. «Злосць ворагаў … не дрэмле…, – канфіцэндыйна

---

[657] Киприанович Г. Я. Последнее воссоединение с православной церковью униатов Белорусской епархии (1833–1839). – СПб., 1910. – С. 82–85.

[658] Глубоковский Н. Н. Архиепископ Смарагд в его деятельности по воссоединению униатов (1833–1837 гг.) // Христианское чтение. – 1914. – Май. – С. 624.

[659] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 11116. – Арк. 19–21, 29 адв.

[660] ДАРФ. – Ф. 109. – IV экспедыцыя. 1839 год. – Воп. 179. – Спр. 96. – Арк. 1–2.

паведамляў обер-пракурору Сінода аршанскі епіскап Васілій Лужынскі. – Гэтыя ворагі туземцы ў час ад'езда пана камергера Скрыпіцына … распусцілі чуткі, … быццам бы ён адклікаваны ў Пецярбург, і ўжо болей не вернецца». Сяляне шэрагу прыходаў пад уздзеяннем гэтых чутак адмовіліся аддаць новым, прызначаным уладыкай «добранадзейным святарам« ключы ад сваіх цэркваў. Адных бунтаўшчыкоў епіскапу Васілію ўдалося супакоіць самому з дапамогай мясцовых «добранадзейных» памешчыкаў. Для ўтаймавання іншых прыйшлося звярнуцца па дапамогу да генерал-губернатара Дзякава.

Выкліканыя ад'ездам Скрыпіцына чуткі натхнілі некаторых святароў, якія паставілі свой подпіс пад зваротам 111-ці да цара, на новую дзёрзкасць. Яны, якія амаль раскаяліся перад камергерам, цяпер зноў «моцна стаяць на сваім»; сцвярджаюць, што высланыя святары не пазней мая – чэрвеня вернуцца ў свае прыходы. Адзін з іх, Ігнацій Малішэўскі, які «здаваўся агнцам перад панам Скрыпіцыным», нібыта ў насмешку прасіў кансісторыю пасняшацца з вырашэннем яго лёсу. Высылаемыя ў Курск святары Казаневіч і Макавецкі, развітваючыся са сваімі прыхаджанамі, публічна заклікалі іх стаяць за сваю веру, байкатаваць новых святароў. Завяралі, што яны хутка вернуцца, застаўшыся ўніятамі. Памешчык Валер'ян Місевіч таксама агітаваў тады сваіх сялян байкатаваць святароў, якія змянілі веру.

Як толькі Скрыпіцын вярнуўся ў Полацк, гэтыя «шкодныя» чуткі сціхлі. В. Лужынскі інфармаваў тады обер-пракурора Сінода, што прабыванне Скрыпіцына «як руплівага і бескарыслівага дзеяча паскарае ход справы наконт уніі» ў Полацку і «пры цяперашніх абставінах неабходна», бо тады «і духавенства робіцца больш паслухмяным, а прыхаджане – ціхмяныя»[661].

26 лютага 1839 г. Сямашка пісаў Мікалаю І пра выкананне імператарскага даручэння: «Амаль усе святары-завадатары, якія ўдзельнічалі ў згаданай інтрызе або праявілі дух прадпрымальны і дзёрзкі, устаранёныя ў аддаленыя месцы»[662]. Перамешчаныя на сотні кіламетраў ад месца, дзе пачаўся апошні акт уніяцкай трагедыя, яны ўжо не ўяўлялі небяспекі.

---

[661] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 9. – Спр. 25802. – Арк. 1–5.

[662] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 22. – Арк. 138 б адв.

Дзейнасцю Сямашкі і яго акружэння была забяспечана нейтральная пазіцыя большасці святароў адносна «ўз'яднання», непакорных пазбавілі магчымасці супраціву, душылі незадавальненне сялян.

Некалькі гадоў схілялі «падпарадкавацца сваёй праваслаўнай царкве» сялян мястэчка Ушачы Лепельскага павета. Іх уговорвалі камісіі, пераконваў лепельскі земскі спраўнік, адміністрацыя маёнтка, прымушала паліцыя. Але яны так і заставаліся ўпартымі ў сваіх «памылках». Нават падпалкоўнік Агатонаў, «пры ўсёй яго дбайнасці і руплівасці да спраў праваслаўя», не меў поспеху.

Жыхароў мястэчка нават асцерагаліся публічна пытацца, хто з іх уніят, хто праваслаўны, «бо можа адбыцца сярод іх хваляванне, ды й сумніўна, каб хоць адзін сказаў, што ён праваслаўны». Прыходскі святар Ясафат Шавельскі, які веру-такі змяніў, здабыў сабе нянавісць навакольных паноў, уніяцкіх святароў Лепельскага павета, ушацкіх прыхаджан.

Застаўся адзін сродак – па чарзе (так лягчэй было зламаць) выклікаць сялян у Полацк у грэка-расійскую кансісторыю для ўгаворвання. Яго і пусцілі ў ход у лютым 1839 г. Зразумела, ніхто сам у Полацк не паехаў. Тады паспрабавалі вазіць іх туды ў суправаджэнні паліцыі. Дык сяляне спачатку ўцякалі ад паліцэйскіх, а потым пачалі збірацца натоўпамі і адбіваць узятых пад канвой аднавяскоўцаў[663].

Памешчык Сялява, якога абвінавацілі «ў неспрыянні пераварочванню ўніятаў», апраўдваўся: сялян выклікаюць у кансісторыю і там ваенна-павятовы начальнік «моцна б'е іх і прымушае да праваслаўя», таму яны і не ідуць у Полацк[664].

Націснулі на ўпраўляючага маёнткам маёра В. Пылінскага, каб ён паўздзейнічаў на сялян. Дарэмна і ён траціў час на ўгаворы. Урэшце рэшт не вытрымаў і маёр – папрасіў, каб па гэтаму пытанню да яго больш не звярталіся, бо «сяляне ва ўсім яму павінуюцца, за выключэннем аднаго праваслаўя», … і адмовіўся ад упраўлення маёнткам[665].

Пайшлі судовыя працэсы…

У архіве Сінода захаваўся перахоплены паліцыяй прыватны ліст ад 5 сакавіка 1839 г. нейкага Івана з Полацка ў Пецярбург, сту-

[663] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23307. – Арк. 12.
[664] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп.1. – Спр. 11261. – Арк. 1 адв.–2
[665] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23307. – Арк. 13 адв.

дэнту Медыка-хірургічнай акадэміі Г. Акаловічу. Ліст адлюстроўвае раскол унутры ўніяцкага духавенства на глебе адносін да завяршаючай фазы дэўнізацыі Беларусі, грамадскія сімпатыі і спачуванне адмаўленцам. У лісце згадваецца нехта Нарбут – адзін з уніяцкіх святароў-падпісантаў прашэння імператару. Відавочным з'яўляецца – і гэта, напэўна, самае важнае – разуменне аўтарам ліста асуджанасці ўніяцкай царквы пад прэсам дзяржаўнай машыны. Ён хутчэй за ўсё яшчэ не ведаў пра саборны акт, які ў гэты час, як вядома, яшчэ хаваўся ад народа.

Змест ліста, з якім у свой час знаёміліся і шэф корпуса жандараў, і обер-пракурор Сінода, прыводзім амаль цалкам. Арыгінал быў пісаны на польскай мове. З гэтым лістом мы знаёміліся па яго арыгіналу, выяўленаму ў дакументах Сінода, і рускамоўнаму перакладу – у справах імператарскай канцылярыі, корпуса жандараў. Падкрэсліванні зроблены ў жандарскім ведамстве.

«Твой добранадзейны бацька даў падпіску і спакойны наконт захавання свайго месца, у ліку тых, хто даў (падпіскі – С. М.), знаходзяцца яшчэ твае знаёмыя Пётр Іаахім, Фартунат Хромін, Акаловічы, Мегержынскія, Валовіцкія і Мацкевіч з Багданова. Адзін толькі з той акругі Нарбут упарты далучыўся да ліку падобных сабе святароў, якія асмеліліся падаць дзёрзкае прашэнне гасудару Імператару. За гэта яны разстрыжаны ў дзячкі, панамары і званары і сасланыя ў далёкія краіны, дзеці ж іх і жонкі пакінутыя на Божае папячэнне… Хто зойме месцы гэтых гаспод, да гэтага часу яшчэ невядома. Іх налічваюць каля 100 чалавек. Не ўваходжу ў падрабязнасці гэтай справы: што ўрад хоча, тое і будзе; ёсць бізун, – дзе ён свісне, там і рэлігія пырсне»[666].

## *Войска – на дапамогу «ўз'яднанню»*

Унушальная апазіцыя дэўнізацыі прымусіла ўлады належным чынам «абставіць» «ўз'яднанне»: былі зняты з пасад і ізаляваны, зняволены ў турмы і манастыры, узяты пад паліцэйскі нагляд або высланы ў расійскія губерні ўсе іншадумцы, якія маглі перашкодзіць «намерам урада»; абмежавалі перасоўванне ўніяцкага і каталіцкага духавенства. Генерал-губернатары былі надзелены надзвычайнымі

[666] ДАРФ. – Ф. 109. – IV экспедыцыя. 1839 год. – Воп. 179. – Спр. 96. – Арк. 4–4 адв.; РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23442. – Арк. 10–10 адв.

паўнамоцтвамі. На паноў ўсклалі паліцэйскі нагляд за сялянамі і падаўленне супраціву, папярэдзіўшы «аб непазбежнай адказнасці… у выпадку замяшання ў іх маёнтках».

Але гэтага здавалася мала. Царкоўныя аднавіцелі ўсё роўна не адчувалі сябе спакойна. Ды й Пецярбург баяўся выбуху бунтаў. Ён яшчэ выдатна памятаваў апошняе паўстанне. Таму акт Полацкага сабора некалькі месяцаў хавалі ад народа. А каб магчымы новы выбух прадухіліць, у студзені 1839 г. у Беларусь выклікалі дадатковую вайсковую сілу.

«У выніку супраціву, дзе б тое ні здарылася, – звяртаўся ў студзені 1839 г. да ваеннага міністра смаленскі, віцебскі і магілёўскі генерал-губернатар, – прысутнасці адной роты дастаткова будзе на прывядзенне ў паслушэнства ўпартых, тады як па прашэсці месяца, на працягу якога зло гэта можа ўзмацніцца, трэба будзе дзеля гэтага ўжыць намнога большую колькасць войск»[667].

Каб прадухіліць хваляванні, імператар распарадзіўся тады накіраваць у Беларусь 29-ты казачы полк, які ішоў з Фінляндыі на Дон. Полк прыбыў у сярэдзіне сакавіка. Яго размясцілі сотнямі ў тых населеных пунктах Полацкага, Дрысенскага, Себежскага і Лепельскага паветаў Віцебскай губерні, Вілейскага, Дзісненскага і Барысаўскага паветаў Мінскай і Сенненскага і Мсціслаўскага паветаў Магілёўскай губерняў, дзе чакалі супраціўлення[668]. Абнародаванне саборнага рашэння прайшло спакойна…

Паводле А. Зубко, «польскія паны паспелі напужаць рускіх саноўнікаў» так, што віленскі генерал-губернатар Далгарукаў прапаноўваў і яму прысланць у Літоўскую епархію войска ў сувязі з абнародваннем указа аб уз’яднанні. Ва ўрадзе радаваліся, што ўз’яднанне 1839 г. абыйшлося без кравапраліцця. Прайшлі дзесяцігоддзі, перш чым асмеліліся «пригласить к воссоединению» ўніятаў Царства Польскага[669].

Такім чынам, ад узброена-уз’яднаўчых паходаў магілёўскага губернатара Чарамісінава да ўвядзення расійскіх карных атрадаў у беларускія гарады і вёскі «пісалася» гісторыя падаўлення ўніяцкай традыцыі ў Беларусі.

[667] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 11116. – Арк. 6–6 адв.

[668] НГАБ. – Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 11116. – Арк. 5–6 адв., 8, 11 адв., 27, 29 адв., 53–53 адв.

[669] Три докладные записки бывшего архиепископа минского Антония Зубко графу М. Н. Муравьеву (1864 г.). – Вильна, 1901. – С. 8–9.

25 сакавіка 1839 г., паводле распараджэння Мікалая І, была прынята пастанова Сінода аб далучэнні ўніятаў. На «ўз'яднаўцаў» пасыпаліся ўзнагароды. Сямашку прынялі ў члены Сінода.

Але гэты ўказ да часу трымалі ў таямніцы. Абвяшчэнне саборнага Акта пачалося ў красавіку. Пастунова яго даводзілі да ведама «добранадзейных» святароў, якіх дзеля гэтага па аднаму выклікалі ў кансісторыю. Прызначаная ім грашовая ўзнагарода за перамену веры была зручнай нагодай для іх выкліку ў Жыровіцы або Полацк. Праводзіць жа публічныя набажэнствы пакуль забаранілі, каб не прыцягваць увагі да гэтай перамены.

З сярэдзіны мая ў галоўных гарадах Заходняга краю, у яго самых знакамітых храмах, пачаліся з нагоды «ўз'яднання» ўрачыстыя богаслужэнні «ліквідатараў» уніі разам з высокімі праваслаўнымі іерархамі. Скрыпіцын, які не дачакаўшыся дазволу з Пецярбурга, загадаў публічна зачытаць сінадальны ўказ у царкве, атрымаў вымову обер-пракурора вышэйшага духоўнага ведамства імперыі. Сінод не хацеў заўчасна абнародаваць здзейсненую справу, бо на той момант народ яшчэ не ўсюль быў падрыхтаваны да праваслаўя і мог ўспрыняць «уз'яднанне» як здраду духавенства веры бацькоў[670].

У Пецярбургу вырашылі карысным, каб Беларусь і Літву наведаў і ў тых урачыстасцях удзельнічаў і галоўны дзеяч «уз'яднання» І. Сямашка. 1 чэрвеня ён быў ужо ў Полацку. 11 чэрвеня служыў у Мінску. Потым былі Жыровіцы. Гэтым мерапрыемствам імкнуліся надаць як найбольш пыхі. Сіноду было далёка не абыякавым уражанне, якое яны зробяць на народ.

Вільню, самы «небяспечны пункт» – рэзідэнцыя каталіцкага біскупа, цэнтр уніяцтва – Іосіф асмеліўся наведаць толькі ў канцы жніўня. Трэцяга і восьмага верасня тут адбыліся ўрачыстасці: спачатку ва «ўз'яданным» Свята-Троіцкім, потым у Свята-Духаўскім манастыры. Яны «затмили великолепием» усе калісьці быўшыя тут духоўныя цырымоніі рымскай і ўніяцкай цэркваў і моцна паўздзейнічалі на людскі розум. Прысутнічала шмат шляхты – яна і развезла паўсюль звесткі.

Гэтыя богаслужэнні, як пісаў І. Чыстовіч, усіх пераканалі, што ўз'яднанне – справа здзейсненая. Яны ж ўвянчалі васьмігадовыя

670 Чистович И. Пятидесятилетие (1839–1889 г.) возсоединения с православною церковию западно-русских униатов. – СПб., 1889. – С. 57.

намаганні па дасягненню мэты, «предначертанной» імператарам. Сінод уступаў на гэтых землях у свае правы… 1 кастрычніка з’явіўся імператарскі ўказ аб усеагульным абнародаванні пастановы сената ад 23 чэрвеня 1839 г. аб уз’яднанні ўніятаў[671].

Гісторыя абнародавання саборнага рашэння нам вядома найперш з падачы саміх «уз’яднаўцаў», а таксама тых даследчыкаў, якія ўсхвалялі ліквідацыю ўніі. Гэта гісторыя – яшчэ адна старонка нашай мінуўшчыны, што пакуль не стала прадметам спецыяльнага навуковага вывучэння.

Як ні намагаліся тагачасныя афіцыйна-дакументальныя матэрыялы апісаць карціну падзей 1839 г. у найбольш выгадным святле, але і яны зафіксавалі глухія водгукі народнага незадавальнення. Пры далучэнні уніятаў, як сведчыць папера з канцылярыі смаленскага, віцебскага і магілёўскага генерал-губернатара ад 16 сакавіка, «заўважаны розныя непарадкі ... і нават, па некаторых месцах, супрацьдзеянне распараджэнням начальства…, вынікам чаго начальства вымушана было выкарыстоўваць ваенную сілу для ўціхамірвання»[672].

Незадаволеныя зменамі ў Дварэцкай царкве (Лепельскі павет), сяляне ў сакавіку прымушалі новапрызначанага папа адпраўляць богаслужэнне па-старому і яму пагражалі. Епіскап Васіль распарадзіўся «буйства і непакорлівасць» дварэцкіх сялян утаймаваць і «навесці належную пакорнасць і павагу да свайго пастыра»[673].

Тады ж шляхціцы Гоутвальд і Іпацэвіч падбухторвалі сялян Сахонскай царквы да хваляванняў, за што іх выслалі ў Волагду[674]. Перашкаджалі ажыццяўленню пастаноў Полацкага сабора паны І. Булгак, С. Дзерпаловіч, Л. Гурко, Пенчкоўскі і Пазняк з Магілёўскай губерні[675]. Быў узяты пад нагляд паліцыі і звольнены з пасады шляхціч Лагоньскі з Залочава (Мсціслаўскі павет), які «колебал» «простолюдинов» у новых абрадах[676]. Абразліва адзывалася

[671] Чистович И. Пятидесятилетие (1839–1889 г.) возсоединения с православною церковию западно-русских униатов. – СПб., 1889. – С. 57; Пятидесятилетие (1839–1889 г.) возсоединения с православною церковию западно-русских униатов: Соборные деяния и торжественные служения в 1839 году. – СПб., 1889. – С. 18, 23.

[672] НГАБ. Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 11116. – Арк. 71–71 адв.

[673] НГАБ. Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 11273. – Арк. 3–3 адв..

[674] НГАБ. Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 11257. – Арк. 38–39.

[675] НГАБ. Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 25537. – Арк. 132.

[676] НГАБ. Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 11254. – Арк. 1 адв.–7.

аб «уз'яднанні» шляхта Віцебскай губерні[677]. Супраціў некаторы час аказвалі базыльянскія кляштары[678].

Каб не даць народу ніякай надзеі на чыю б там ні было дапамогу, урад не дапусціў да яго брэве папы рымскага Грыгорыя XVI ад 22 лістапада 1839 г. з асуджэннем епіскапаў-здраднікаў.

Ліквідацыя ўніяцкай царквы стала нібы дэтанатарам выбуху, які аднак не скалануў дзяржаву, – улады яго папярэдзілі. Калі душылі шляхецкія паўстанні, то з уніяцкім духавенствам і сялянствам расправіцца было лягчэй. Былі нейтралізаваны ўсе актыўныя сілы, што сталі на абарону ўніі.

Расійскае самадзяржаўе «паспяхова вырашыла» ўніяцкае пытанне, пазбавіўшы гэта веравызнанне права на існаванне. У 1839 г. у Беларусі адбылася беспрэцэдэнтная па масавасці аднаактная перамена веры – да 1,5 млн. уніятаў былі пераведзены ў праваслаўе. Рэлігійная канверсія суправаджалася грандыёзнай пераробкай, перабудовай свядомасці і спосабу жыцця пераважнай часткі насельніцтва. …Адна з лёсавызначальных падзей у гісторыі беларускага народа, для імперыі – «исполинское предприятие, столь же важное в политическом, сколько и в религиозном смысле»[679].

Палітычнае значэнне «ўз'яднання» ўніятаў стала відавочным пасля разгрома паўстання 1863 г., калі ўрад змог абаперціся на двухмільённую праваслаўную масу. «Уз'яднанне ўніятаў, – пісаў мураўёўскі апалагет А. Мілавідаў, – падрыхтавала глебу, у якую можна было з поспехам кідаць рускае насенне. Самое паўстанне пры ўніі, несумненна, было б больш інтэнсіўным»[680].

## *Церні для непахісных: пра «ўніяцкіх духоўных, якія па складу думак сваіх не павінны заставацца ў заходніх губернях»*

Царкоўная катастрофа 1839 г. для многіх абярнулася катастрофай асабістай: абарваная кар'ера, зламаны лёс. Сотні перакананых

---

677 НГАБ. Ф. 1297. – Воп. 1. – Спр. 11290. – Арк. 10.

678 Канфесіі на Беларусі (канец XVIII – XX ст.) / В. В. Грыгор'ева, У. М. Завальнюк, У. І. Навіцкі, А. М. Філатава; Навук. рэд. У. І. Навіцкі. – Мн.: ВП «Экаперспектыва», 1998. – С. 20.

679 НБР. – Ф. 690. – Спр. 5. – Арк. 1.

680 Миловидов А. Заслуги графа М. Н. Муравьева для православной церкви в Северо-Западном крае. – Харьков: Тип. Губ. правл., 1900. – С. 49.

ў праваце сваёй веры беларускіх святароў, чый аўтарытэт жывіў апазіцыйныя настроі народа, сурова заплацілі за свой уніяцка-папоўскі патрыятызм, спазнаўшы цкаванне, ганенні, судовы пераслед, «пакуты» ў манастырах і турэмнае зняволенне, бадзянне па свеце, высылку. Паводле данных Е. Клачоўскага, у 1839 – 1841 г. былі зняты з прыходаў 1307 духоўных, 105 аказалася ў турмах, упартых высылалі ў расійскія губерні[681].

У манастырах Украіны і Расіі, між тым, таміліся тыя з уніяцкіх духоўных, хто ўхіліўся ад перамены веры. Заключэнне ў манастыр стала таксама мерай спынення антыўрадавых дэмаршаў. На 23 чэрвеня 1839 г. у Беларускай епархіі налічвалася 48 святароў і 42 манахі, «упорствующие воссоединению»[682].

За адмову даць распіску-абавязацельства аб увядзенні ўсходніх абрадаў і за непрыняцце маскоўскага служэбніка яшчэ ў 1837 г. быў разжалаваны ў дзячкі каралевіцкі святар Якім Давыдовіч. Тады ён «яшчэ з большай дзёрзкасцю» стаў распаўсюджваць «шкодныя меркаванні пра дзеянні начальства». За гэта яго ў сакавіку 1838 г. выслалі ў горад Сычэўка Смаленскай губерні. Але і там ён «у ладзе сваіх думак адносна веравызнання не змяніўся,» – рэгулярна інфарміравалі Сінод з месца высылкі: у студзені 1840 г., у сакавіку 1840 г.… Узмоцненыя і працяглыя перакананні не падзейнічалі – Якім застаўся непахісным. Апазіцыйны святар на Смаленшчыне, якая мяжуе з «уз’яднанай» ужо Беларуссю, – гэта знашлі небяспечным. Таму яго прыбралі далей, у Тамбоўскую губерню[683].

На працягу 1838 – 1839 г. з Беларускай і Літоўскай епархій былі выдалены ўсе «нядобранадзейныя духоўныя асобы, якія маглі служыць зброяй для ўзбуджэння і ў іншых супраціву дабрадзейнай урадавай мэце». Высылкі і дэпартацыі працягваліся і пасля Полацкага сабора. Трэцяга сакавіка 1839 г. з Пецярбурга паступіў новы ўказ: уніяцкіх святароў і манахаў, якія не падпарадкоўваюцца патрабаванню начальства аб перамене веры, выдаліць у вялікарасійскія губерні для размяшчэння ў праваслаўных манастырах.

[681] Kłoczowski J., Mullerowa L., Skarbek J. Zarys dziejów Kościoła katolickiego w Polsce. – Kraków: Znak, 1986. – S. 212.

[682] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 9. – Спр. 25696. – Арк. 1, 6, 7 адв.

[683] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23237. – Арк. 4–4 адв., 12, 47, 51, 56, 73 адв., 78.

У Разань выслалі святароў Аўгустына Далабоўскага, Люцыяна Ваяводскага, Іосіфа Нарбута, «якія супрацьдзейнічалі аднаўленню грэка-ўсходніх абрадаў». Іераманахаў Анаклета Данілевіча і Цярэнція Чаплінскага ўпяклі ў манастыры Арлоўскай епархіі. Пасля многіх нягодаў апынуўся ў Чарнігаўскай епархіі іераманах Ілля Андрушкевіч.

У Літоўскай епархіі «аказаліся асабліва нядобранамеранымі» Ігнат Хруцкі, Іван Мараўскі, Пратас Стульчынскі, Іван і Міхаіл Лоскі, Флор Манцэвіч, Антон Корзун, Іван Абух. Іх памясцілі на перавыхаванне ў Жыровіцкі манастар, які стаў «перавыхаваўчым» домам для бунтароў у расе. Цярністы шлях прывёў Ігната Хруцкага за яго «ўпартасць у далучэнні да праваслаўнай грэка-расійскай царквы» ў Чарнігаўскі Ялецкі манастыр.

Манахаў з Таракані Вікенція Шуміловіча і Веньяміна Абрамовіча за іх «упартасць у далучэнні да праваслаўя, … асаблівы фанатызм да ўніяцтва і наогул нядобранадзейнасць у думках» выслалі ў Мялецкі манастыр Ковельскага павета Валынскай губерні. У Расіі апынуліся манах Вікенці Паўлоўскі з Тараканскага манастыра, а таксама Гервасій Грынцэвіч, Арсеній Вакульскі, Ціт Ільніцкі з Быцені[684].

У манастырах Курскай епархіі таміліся ўжо знаёмыя нам святары Іван Ігнатовіч, Адам Тамкавід, Захарый Маркоўскі, Пій Перабіла, Іван Тачыцкі, іераманах Віктар Басяцкі. Туды ж выслалі «па нядобранадзейнасці» манахаў з Тадуліна Воція Казакевіча і Марцыяна Краеўскага.

Доўгія месяцы і гады жыцця ў выгнанні пацягнуліся для раскіданых па расійскіх і ўкраінскіх манастырах беларускіх уніяцкіх святароў і манахаў-базыльян. Жыццё ў аддаленні ад радзімы, у адрыве ад сям'і, пад пастаянным наглядам, перлюстрацыя перапіскі, бясконцая ідэалагічная апрацоўка.

Епіскапам, у чыё ведамства паступілі выгнаннікі, даручылі штомесяц даваць у Сінод інфармацыю пра іх лад думак і паводзіны. І пайшлі ў Пецярбург з розных месцаў справаздачы.

---

684 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23441. – Арк. 11, 26, 33–34, 36–36 адв., 45, 61, 77, 124, 144.

31 ліпеня 1839 г. з Курска ў Пецярбург прыйшло паведамленне, што Іван Ігнатовіч жыве ў манастыры «ціха і сціпла, у ладзе ж думак – адносна веравызнання – не мяняецца»[685].

«Ёсць надзвычай упартыя і ў абіцелі. Яны і іншым перашкаджаюць нават і думаць пра злучэнне з праваслаўнай царквой,» – гаворыцца ў адной з наступных справаздач. Басяцкі і Ігнатовіч – «абодва яны ўпартыя… Ігнатовічу жонка пераканаўча піша, але ён непахісны па гонару. У іх шасцёра дзяцей малалетніх…»[686].

20 студзеня 1840 г. з Курска паведамлялі: «Іван Ігнатовіч у ладзе думак, адносна свайго веравызнання, дагэтуль застаецца пры памылковым поглядзе»[687]. 16 лютага 1840 г. ён даў настаяцелю вяземскага манастыра пісьмовую «аб'яву»: «…Прысягай абавязаўся маёй веры на іншую да канца жыцця не мяняць, а ўнутрана і вонкава яе спавядаць, то па доўгу маёй клятвы і сумлення на прыналежнасць да грэка-расійскай праваслаўнай веры ніколі рашыцца не магу і не рашуся»[688]. 27 сакавіка: Ігнатовіч «паводле ладу думак свайго веравызнання застаецца непахісным». 7 ліпеня: «застаецца непахісным». 17 снежня 1841 г.: «думак сваіх пра былое грэка-уніяцкае спавяданне не мяняе дагэтуль»[689].

14 снежня 1839 г., з Курска – у Сінод: у ладзе думак Адама Тамкавіда «не заўважана ніякай супраць былога перамены»[690].

21 снежня 1839 г. ад Чарнігаўскага епіскапа: да пераварочвання іераманаха Літоўскай епархіі Іллі Андрушкевіча «ніякай надзеі няма». 11 лютага 1840 г. з Ноўгарад-Северскага манастыра: «надзеі ніякай няма». 18 лютага 1840 г. з Чарнігава: «стаіць усё ў адной упартасці»[691].

Гэтак жа непахіснымі ў сваёй веры засталіся Віктар Басяцкі, высланы ў Курск; Анаклет Данілевіч і святар Нікановіч у Арле, Іван Мараўскі ў Чарнігаве, Сафроній Скальскі ў Тамбове, Сільван Федаровіч у Разані, Ціт Ільніцкі ў Яраслаўлі. Апошні быў перакананы, што ўрад раней ці пазней адвядзе для духоўных, яму па-

---

685 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 227–227 адв.
686 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 254–254 адв.
687 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 10. – Спр. 27441. – Арк. 4–4 адв.
688 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 10. – Спр. 27441. – Арк. 14.
689 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 10. – Спр. 27441. – Арк. 23 адв., 37 адв., 119.
690 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 1 адв.
691 РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 2–2 адв., 9, 85 адв.

добных, манастыр, у якім служба будзе весціся паводле ўніяцкага спавядання[692].

А вось святар Захар Маркоўскі, былы чашніцкі настаяцель і благачынны, згадзіўся кінуць унію і прасіў вярнуць яго на ранейшае месца жыхарства, дзе засталося сямёра малых дзяцей і памерла жонка[693].

Два дзесяцігоддзі пражыў у выгнанні былы ўніяцкі святар Павел Жалязоўскі, настаяцель царквы ў Дзярэчыне (Гродзенскі павет). У 1835 г. ён быў выдалены з прыхода ў Падольскую губерню за «непадпарадкаванне духоўнаму начальству» і адхіленне сваіх прыхаджан да прыняцця праваслаўя. Маніфест Мікалая ІІ ад 26 жніўня 1856 г. даў яму надзею вярнуцца ў родныя мясціны. Але надзея аказалася нездзяйсняльнай. Бо і праз 20 гадоў ён заставаўся небяспечным для ўладаў, якія ўсё яшчэ працягвалі барацьбу з тымі ўніятамі, што схаваліся ад аправаслаўлівання ў рыма-каталіцызме. У канцылярыі літоўскага генерал-губернатара прызналі, што Павел Жалязоўскі, у выпадку прыняцця каталіцтва, «мог бы мець уплыў на спакушэнне праваслаўных у лацінства». Таму ў дазволе вярнуцца яму адмовілі[694]. Станавілася відавочна, што за сваю трывалую антыўз'яднаўчую паставу людзі вымушаны былі разлічвацца ўсім сваім наступным жыццём.

Зведала ганенні шляхта, якая стала ў апазіцыю «ўз'яднанню». «Абвінавачаны па справах уніі», у 1838 г. быў высланы ў Смаленскую губерню памешчык Віцебскай губерні Віктар Ульяноўскі. Туды ж трапіў «за праціўленне ў справах нашай веры» і яго зямляк пан Корсак[695]. У сакавіку 1839 г за супрацьдзеянне «ўладкаванню грэка-уніяцкай царквы» падвергліся рэпрэсіям памешчыкі Мінскай губерні: пана Мірскага выслалі ў Вятку, шляхціч Шышко быў асуджаны ваенным судом[696].

…Супрацьстаяць палітыцы царызму і здрадзе вышэйшага духавенства, якія не грэбавалі сілавымі метадамі ў вырашэнні канфесійнай праблемы, беднае і слабаадукаванае духавенства,

[692] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 3–3 адв. , 8, 25–25 адв., 109, 110.

[693] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446. – Арк. 181–181 адв.

[694] ДГАЛ. – Ф. 378. – Палітычны аддзел. 1857 год. – Спр. 92. – Арк. 1, 4–4 адв.

[695] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23363. – Арк. 28, 37, 40.

[696] РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23515. – Арк. 16.

непісьменнае, не разумеўшае палітычнага аспекта акцыі, забітае прыгонам сялянства, дробная шляхта і гараджане, пазбаўленыя падтрымкі сваёй дзяржавы, ды і самой дзяржавы, не змаглі. Выстаялі толькі самыя мужныя, адукаваныя, прынцыповыя.

Калі ўніяцкія святары былі вывезены або заключаны ў турмы, народ пачаў шукаць апоры ў каталіцкага духавенства. Але і там шчырай дапамогі не знайшоў. Ксяндзы гаварылі: «Ты не наш», бо ім было забаронена абслугоўваць уніятаў.

На духоўных саноўнікаў, якія няўмольна вялі сваю царкву да пагібелі, пасля 12 лютага 1839 г. шчодра пасыпаліся царскія ласкі. Указам Мікалая І у 1838 г. быў узнагароджаны ордэнам св. Уладзіміра і 100 рублямі старшыня Літоўскай грэка-уніяцкай кансісторыі Антоній Тупальскі. Віцэ-старшыня Міхаіл Галубовіч і рэктар семінарыі Гамаліцкі атрымалі ордэны святой Ганны і па 60 рублёў прэміі[697].

На «ўз'яданне» ўніятаў адчаканілі медаль з надпісам «Отторгнутые насилием (1596) воссоединены любовию (1839)». Цынічным лічаць гэты надпіс адны гісторыкі, двухбакова фальшывым называюць другія. Трэція перакананы, што больш адпаведнай сутнасці справы з'яўляецца формула А. Герцэна: «Николай с благочестивым свирепством всекал униат в православие».

Апошняй кропкай на ўніяцкай царкве быў імператарскі ўказ ад 27 лютага 1840 г.: «Не называть впредь бывшего греко-униатского духовенства и народа сим именем, но православным»[698].

Спецыяліст па этнічнай гісторыі Усходняй Еўропы Р. Радзік лічыць, што ў 1839 г. беларусы былі пазбаўлены таго грамадскага слоя, які стварыў найбольшыя шансы на нацыянальную эскалацыю іх беларускасці. У той сітуацыі, калі спаланізаваная шляхта не магла стаць базай беларускага нацыянальнага руху, калі беларусы не мелі ні значнага заможнага мяшчанства, ні сваёй свецкай інтэлігенцыі, ліквідацыя царызмам уніяцкай іерархіі пазбаўляла беларускае грамадства асяродка, які меў найбольшыя шансы на тое, каб – так, як гэта стала ў населенай украінцамі Усходняй Галіцыі, – выклікаць

[697] ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. – Спр. 3527. – Арк. 9.
[698] ЦДГАУ. – Ф. 201. – Воп. 4 б. – Спр. 2091. – Арк. 61.

беларускі нацыятворчы працэс і кіраваць ім на пачатковай фазе яго развіцця[699].

У 30-я – 60-я г. XIX ст. праваслаўны клір беларускага паходжання (некалі ўніяцкі) быў у значнай частцы заменены расійскім, або зрусіфікаваным, пры гэтым строга падпарадкаваны расійскай царкве і царскім уладам. Ён не рэпрэзентаваў беларускіх нацыянальных інтарэсаў, але прадстаўляў – у значнай ступені – расійскія імперскія інтарэсы. Праваслаўнае духавенства не было зацікаўлена ў стварэнні беларускай нацыянальнасці і да яе фарміравання не спрычынілася[700].

---

[699] Radzik R. Rozwój narodowy społeczności polskiej i białoruskiej w okresie zabiorów // Historycy wobec problemów tożsamości narodów. XVIII–XX wiek. – Lublin, 1992. – S. 42–43.

[700] Радзік Р. Прычыны слабасьці нацыятворчага працэсу беларусаў у XIX–XX ст. // Беларускі Гістарычны Агляд. – Т. 2. Сш. 2. – Снежань 1995. – С. 216.

# Заключэнне

Зместам царскай палітыкі ў дачыненні ўніяцкай царквы ў Беларусі ў 1780 – 1839 г. было звужэнне сферы яе ўплыву, потым рэфармаванне ў духу збліжэння з Рускай праваслаўнай царквой і, урэшце, знішчэнне. Рашэннем Полацкага царкоўнага сабора 1839 г. 1,5 мільёна ўніятаў былі пераведзены ў праваслаўе. Ліквідацыя царкоўнай уніі – адна з эпахальных змен у гісторыі беларускага грамадства. Беларусь да таго не ведала такой масавай аднаразавай перамены веры.

Афіцыйная прапаганда і гістарыяграфія імперыі падалі расійскай грамадскасці і міжнароднай супольнасці ліквідацыю ўніі як акт найвышэйшай мудрасці царызма, з энтузіязмам прыняты мясцовым насельніцтвам, як зусім правамернае дзеянне, абумоўленае ўсім папярэднім ходам гістарычнага працэса. Гэта ідэалагема да сённяшняга часу паўтараецца прадстаўнікамі заходнерускага напрамку беларускай гістарычнай навукі.

Пры наяўнасці пэўнай літаратуры XIX – пачатку XXI ст., прысвечанай гісторыі падаўлення ўніяцкай традыцыі ў Беларусі, супраціў дэмантажу ўніяцкай царквы заставаўся малавядомай старонкай нашай гісторыі. Рух супраць дэўнізацыі да гэтага часу не з'яўляўся прадметам спецыяльнага манаграфічнага даследавання, хоць асобныя яго аспекты знайшлі адлюстраванне ў перыёдыцы і навуковай літаратуры.

Комплекс гістарычных крыніц, выяўленых аўтарам у буйнейшых архівасховішчах Беларусі, Расіі, Літвы, Польшчы і Украіны,

падвяргае сумневу ранейшую «ідылічную» канцэпцыю «ўз'яднання» ўніятаў Беларусі. Ён паказвае, што папярэдняй гістарыяграфіяй створана і ў гістарычную свядомасць грамадства прышчэплена дэфармаваная карціна «ўз'яднання». Міхаіл Каяловіч, між іншым, пасля паездкі ў 1880-я г. у заходнія губерні прыйшоў да высновы, што ліквідацыя ўніяцкай царквы была адміністрацыйным мерапрыемствам і праходзіла яна не так лёгка, як яму раней здавалася. Згаданы комплекс новых крыніц адкрывае перспектыву больш адэкватнага бачання рэлігійнай канверсіі беларускіх уніятаў у 1780 – 1839 г.

На знішчэнне ўніяцкай царквы была накіравана ўся сістэма царскай улады. Для пераварочвання непакорлівых уніятаў шырока выкарыстоўваліся паліцыя і войска. Падаўленне ўніяцкай традыцыі пачалося з узброена-уз'яднаўчых паходаў магілёўскага губернатара Чарамісінава (1795, 1797 г.) і завяршылася ўвядзеннем у беларускія гарады і вёскі расійскіх карных атрадаў вясной 1839 г. Дэўнізацыі спадарожнічала русіфікацыя.

Салідарызуемся з тымі даследчыкамі, якія лічаць ліквідацыю ўніяцкай царквы ганебнай старонкай расійскай канфесійнай палітыкі. «Парадокс такой палітыкі, – піша культуролаг І. Трацяк, – што Праваслаўе ўзносілі не шляхам духоўнай дасканаласці, узорамі правамернасці, глыбіні існасці веры і рэлігійных пачуццяў, а шляхам прынукі, гвалту, забароны і канчатковага знішчэння адной з хрысціянскіх канфесій. Гісторыя гэта нечым нагадвае хрышчэнне Ноўгарада» [701].

Уніяцкай царкве былі нанесены тры ўдары: у 1780, 1794 – 1795 і ў 1830-я г. Яны выклікалі мабілізацыю ўніяцкай супольнасцю сіл самазахавання і тры адпаведныя хвалі антыўз'яднаўчага руху. Яго сацыяльную базу складалі духавенства, шляхта, сялянства. Сялян натхняла падтрымка мясцовых паноў, прыходскіх святароў і манахаў. Апагей супраціву прыйшоўся на 1834 – 1838 г.

За амаль два з паловай стагоддзі ўніяцкая вера ўвайшла ў жыццё людзей, адпавядала іх нацыянальна-культурным памкненням і сацыяльнаму статусу. У канцы XVIII – першай палове XIX ст. унія трымалася на аўтарытэце духавенства і народным традыцыяналізме. «Уз'яднанне» парушыла звычайную размераную ход жыцця, узбударажыла людзей, унесла разлад, канфліктнасць у беларускі горад і вёску, абярнулася асабістымі і сацыяльна-грамадскімі драмамі.

[701] Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі. – Гродна: ГрДУ, 2013. – С. 56.

Падаўленне ўніяцкай традыцыі выклікала шокавы стан у беларускім грамадстве. Ліквідацыяй уніі траўміравалі народ, нанеслі яму глыбокую псіхалагічную траўму.

Паводле дадзеных чыноўніка Сінода В. Скрыпіцына, на 15 жніўня 1838 г. не згаджаліся кінуць унію 28 % духавенства Літоўскай епархіі і 75 % духавенства Беларускай епархіі. Усіх уніятаў наогул ён падзяліў на 3 катэгорыі паводле іх стаўлення да рыхтаванага знішчэння ўніі: 1) добранадзейных, якія станоўча ставіліся да перамены веры; 2) паслухмяных і 3) непрыхільных. Апошнія складалі дванаццаць працэнтаў ад усіх уніятаў.

Удакладнім, што згода да адрачэння ад уніі часта выбіваліся несумленнымі спосабамі: угаворамі, падманам, пагрозамі, прымусам, гвалтам. Гэта абарочвалася «отпадениями новоправославных» ва ўнію. Да 90% уніятаў, «уз'яднаных» пры Кацярыне II, у 1796 – 1802 г., калі іх пакінулі ў спакоі, вярнуліся ў сваю веру. Масавыя «отпадения» ішлі ўслед за «частными присоединениями» ў 1833 – 1836 г. Частка ўніятаў, каб пазбегнуць пераводу ў праваслаўе, пераходзіла ў рыма-каталіцызм, кінуць які іх прымушалі судовым парадкам. Л. Лыч мяркуе, што ніколі так хутка колькасць католікаў у Беларусі не расла, як пасля ліквідацыі ўніяцкай царквы[702].

Антыўз'яднаўчы рух быў неразлучным спадарожнікам «уз'яднання». На дэмантаж царквы народ адказаў адданасцю сваім пастырам, абрадам, традыцыям. Урадавыя кампаніі увядзення новых абрадаў, замены ўніяцкіх служэбнікаў, выдалення арганаў, збору падпісак і інш. спарадзілі адпаведныя акцыі пратэсту і формы барацьбы – ад байкота культавых навацый і падачы калектыўных апеляцый на царскае імя да выгнання камісій па пераварочванню, ратавання сваіх сакральных рэліквій і сілавой абароны храмаў.

Антыўз'яднаўчы рух меў больш актыўны і арганізаваны характар на ўсходзе Беларусі. Сяляне вёскі Белая пасылалі ў Полацк хадакоў «прасіць за ўнію». Прыхаджане Традовіцкай царквы праціўіліся перадачы свайго храма ў праваслаўнае ведамства. Вельмі хлапатлівай для духоўных і свецкіх улад аказалася справа з прыняццем маскоўскіх служэбнікаў. «Кніжны» інцыдэнт у вёсцы Сожыцы Сенненскага павета спужаў улады мноствам патэнцыйных паслядоўнікаў. Абураная шляхта Віцебскай губерні падала цару просьбу, каб ён паклаў

[702] Лыч Л. Уніяцкая царква Беларусі: этнакультурны аспект. – 2-е выд. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – С. 83.

канец рэпрэсіям. Спробу каардынацыі руху супраціву прадпрыняў прадвадзіцель полацкага дваранства Беліковіч, уплыў якога распаўсюджваўся да Мінска і Вільні. «Праціўнік дабрадзейных відаў урада», ён пахіснуў гатоўнасць тысяч жыхароў Беларусі кінуць унію. Абсурднасць дэкларацый аб добраахвотнасці і паліцэйскія метады «ўз'яднання» ўніятаў асуджаў нават падпалкоўнік корпуса жандараў Куцынскі.

Чаму супраціў дэўнізацыі быў больш моцным на ўсходзе Беларусі, у раёне традыцыйнага ўплыву праваслаўя, дзе ўнія распаўсюдзілася пазней і дзе яна не мела такіх глыбокіх каранёў, як на захадзе? На гэта пытанне пакуль няма адназначнага пераканаўчага адказу. Верагодна, гэта можна растлумачыць больш высокай доляй шляхты сярод уніяцкага насельніцтва ўсходу Беларусі, чым на захадзе, – саслоўя сацыяльна актыўнага, тады – найбольш апазіцыйнага.

Даследуючы ролю канфесійнай кампаненты ў нацыянальнай ідэнтыфікацыі беларускага народа, І. І. Трацяк выказаў меркаванне, ці не адыграў тут ролю фактар суседства: «Уніяты Беларускай епархіі добра ведалі, што такое «царская вера» і найменш жадалі быць з «маскалямі» ў адной веры. У той жа час больш аддаленыя ад расійскіх межаў літвіны Літоўскай епархіі адчувалі пагрозу з боку Польшчы і праявілі сябе больш індыферэнтнымі да царскай палітыкі, магчыма, несвядома, уяўляючы, што ў дадзенай сітуацыі для іх выбару не было»[703].

З 1838 г. супрацьдзеянне пераўтварэнням у царкве ўзмацнілася, да апошніх дзён уніяцкай царквы яно было моцным і настойлівым. Змяняць кірунак «уніяцкіх розумаў і паварочваць іх на Усход» даводзілася з немавернай цяжкасцю. Кіруючай сілай і ідэолагамі руху супраціву з'яўляліся прадстаўнікі мясцовай свецкай і духоўнай інтэлігенцыі. Найбольш паслядоўнымі змагарамі за ўніяцкую веру былі шараговыя прыходскія святары і асабліва манахі-базыльяне.

На іншадумных і непакорлівых бунтароў у расах абрынуліся рэпрэсіі: паніжэнне і адлучэнне ад пасады, выдаленне з прыхода, эпітымія, зняволенне, пакута ў манастыры, высылка. Народны рух супраціву падаўлялі, калі не дзейнічалі «настаўленні на розум», з дапамогай паліцыі і вайска, фізічным пакараннем, турмой. Лідараў руху нейтралізоўвалі. Не адзін прадстаўнік высакароднага саслоўя паплаціўся сваёй кар'ерай, маёмасцю, радзімай за тое, што стаў на

[703] Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі. – Гродна: ГрДУ, 2013. – С. 57.

